


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА–МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА–ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (1062)

КРАСАВІК

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# ЗМЕСТ

### *ПАЭЗІЯ І ПРОЗА*



### *ГАЛАСЫ СВЕТУ*



### *НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ*



### *КНІГА_LOG*



### *КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*



### *КУЛЬТУРА МОВЫ*



### *СЦЭНА*



### *ПОМНАЕ*



### *КНІГАРНЯ*



Мар'ярн ДУКСА

# НА ПАЎДАРОЗЕ ДА СВЯТЛІЦЫ БОГА

* * *

Ашаламіць нас можа — не здзівіць,
калі парушыць правілы святыя
і на імгненне раптам уявіць,
што над зямлёй нябёсы ўсе пустыя.
Душу адразу роспач устрасе,
яе адчай запоўніць небывалы.
Галактыкі не Боскі цуд усе,
а проста гэта ззяюць мінералы…
Ад думкі той, пастаўленай на кон,
усцешыцца адно вар'ят адпеты:
не Бог, а самі вы найшлі закон,
як рухацца, «дасужыя планеты»,
якая скруха пройдзе па душы,
самота распаўсюдзіцца якая,
калі ўявіць: у зорнай той глушы
ніхто не любіць нас і не чакае.

* * *

О, колькі раз пераступаў…
падчас усіх былых забаў.

---

*__Дукса Мар'ян Мікалаевіч__ нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003), «Птушка вечнасці — душа» (2015) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Працавітае сонца» (1994), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі (2016) і Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

Падчас бяздумнай мітусні
душу не слухаў я ані.
Як часта думаю цяпер:
я пераскокваў той бар’ер,
перад якім, калі ён блізка,
заўсёды пахіліся нізка.
Чамусьці верыў, нібы цуду:
усё развею і забуду.
Не знаў, што будзе цяжкі клопат:
учыніць ноч пакутны допыт…
О, ноч бяссоная, бо ты ж
у чорнай мантыі стаіш…
Суддзя паўночны, не будзі —
мне моташна і без суддзі.

* * *

Напіцца веры з чыстага азерца,
глынуць яе — адразу смага схлыне.
Нялёгка выбрацца з пустыні сэрца,
шлях пакручасты з гэтае пустыні.
Як цяжка гэта — рухацца знямогла.
Вада жывая дзесьці недалёка,
ды вера ў сэрцы ледзь не перасохла.
Але патрэбна з сіламі сабрацца,
хоць надта млосна, а спакой захоўваць.
І пошук веры — гэта наша праца,
якую вельмі радасна выконваць.
Пыл засухі ў дарозе атрасецца,
не стане шлях часінай змарнаванай.
Ідзі — і выйдзеш ты з пустыні сэрца
да запаветнай Праўды абяцанай.

* * *

Прыўзняўся ўверх мужчынскі манастыр
і на скале паспрабаваў абжыцца.
Бо ўнізе грэх — настырны павадыр —
на кожным кроку густа лапушыцца.
Ах, як тут многа сонца на скале
і на душы ніколі не сцюдзёна.
Галоўнае, што хлеб ёсць на стале,
пяюць анёлы ля акна штодзённа.
Ніхто не лічыць шпаркія гады
і з кубачка не п’е, дзе шмат адчаю.
Лагодзіць думкі час. І тут заўжды
малітву ветрык вольны падтрымае.
Згрызоты тут не пасылае лёс,

пакрыўдзіць не стараецца нікога —
непадалёку ад святых нябёс,
на паўдарозе да святліцы Бога.

* * *

І сёння людства плача не ледзь-ледзь
і церпіць боль, забіўшыся ў закутак.
Якое гэта трэба сэрца мець,
каб там змясціць увесь бяздонны смутак.
Якая літасць здольна там зайграць
(што нашы сэрцы з ім у параўнанні!),
каб з гэткаю пакорнасцю ўвабраць
усе зямныя просьбы ў пакаянні.
Шматлікім болем поўніцца людскім,
апекай узвялічанае Панскай.
І тое, што згрувасцілася ў ім,
Ты хочаш асвяціць вялікай ласкай.
Усім спрыяць — жаданне ёсць адно.
Усім спрыяць — і мець любоў людскую…
Павер, святая Панна, што даўно
Тваё на свеце Сэрца трыумфуе.

* * *

Адбыўся зор і ўсіх планет парад.
Аслабла і змарнела цемры сіла.
Каб не было ў нябёсах шмат затрат,
світанне зоркі спешна патушыла.
Адразу птушкі ўспомнілі пра спеў.
Трысцё шапоча, разбудзіўшы рыбу.
І сонца, праляцеўшы паміж дрэў,
як ранні госць, пастукалася ў шыбу.
А там, за ёй, пакуль няма дажджоў,
іскрыцца ад расы рабіны гронка.
Узрадуйся ты моцна: дзень прыйшоў!
Жыцця твайго яшчэ адна старонка.
Пачатак дня малітвай распачні —
сябе з падвойнай сілаю суцешыш.
Спачатку сэрца Богу адчыні.
І толькі потым вокны разнасцежыш.





Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

# СЭРЦА СВАЁ НЕ ПАДМАНЕШ...

*Раман*

*У 2007 годзе выйшаў з друку мой раман «Забранае шчасце». Падзеі ў творы разгортваюцца ў 30-я гады мінулага стагоддзя, на Палессі, ля знакамітага Князь-возера. Людзі тут жылі вякамі са свае працы, здабываючы кавалак хлеба. Былі і заможныя, але чаго гэта ім каштавала! Бацька галоўнага героя рамана — маладога палешука Рыгора Расевіча — стары хутаранец Іван Расевіч і сам шмат працаваў на зямлі, і сына выхоўваў працалюбівым.*

*Для Рыгора Расевіча пачынаюцца першыя жыццёвыя выпрабаванні: закахаўся ў дзяўчыну з беднай сям'і — Верку Арцёмаву, якая адказала яму ўзаемнасцю, але бацька катэгарычна забараніў сыну браць яе замуж. Хлопца хуценька ажанілі на дачцэ хутаранца-багацея, Ядзі, дзяўчыне хоць і добрай, але ж Рыгор яе не любіў. А неўзабаве пачалася масавая калектывізацыя, раскулачванне. Грамадскія катаклізмы прынеслі гора яшчэ адной маладой пары — сястры Рыгора Ганьцы і яе каханаму Ігнату Адамчыку — старэйшаму сыну нябеднага хутаранца Сцяпана Адамчыка, кума Івана Расевіча.*

*І тут адбываецца трагедыя для людзей, якія жывуць у пераломны момант: новыя ўлады вырашаюць раскулачыць Расевічаў, як і многія іншыя хутаранскія сем'і. Хто змірыўся — адправіўся ў Сібір, а хто, як сыны бага-*

---

*__Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч__ нарадзіўся 30 жніўня 1967 года ў вёсцы Вятчын Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1991). Працаваў настаўнікам, дырэктарам Бялёўскай СШ у Жыткавіцкім раёне, галоўным рэдактарам раённай газеты «Новае Палессе» (Жыткавічы), гарадской — «Гомельскія ведамасці» (Гомель). Цяпер — старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі».*

*Аўтар кніг прозы «Споднія яблыкі» (1999), «Глыбокія карані» (2001), «На мяжы» (2003), «Плата за каханне» (2007), «Забранае шчасце» (2007),«Анёлак мой, Анёлак» (2013), «Цяпло маладзіка» (2014) і публіцыстыкі «...Дзе над горадам лунаюць буслы» (2000), «Крокі па роднай зямлі» (2005), «Запрашэнне» (Швейцарыя, 2007). Творы выдаваліся ў Расіі, Украіне, Германіі, Швецыі.*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2007 года ў галіне прозы» за кнігу «Плата за каханне», літаратурных прэмій памяці Мікалая Мельнікава (Расія, 2009), Міжнароднай літаратурнай прэміі Баяна (Расія, 2011), літаратурнай прэміі імя У. І. Нарбута (Украіна, 2014) і іншых прэстыжных літаратурных узнагарод.*

*тых хутаранцаў Лейбаў ці Аскеркаў, не скарыліся ўладам і вырашылі помсціць ім.*

*На вачах Рыгора ў час раскулачвання накладвае на сябе рукі яго жонка, якая толькі што нарадзіла кволую дачку, а ён, паранены міліцыянерамі, аказваецца ў бальніцы. Праўда, хутка ўцякае з-пад варты і вяртаецца ў родныя мясціны. І разумее: ён цяпер тут чужы. Сям'ю вывезлі, хату перавезлі і ў ёй зрабілі сельсавет, а любая Верка, якая чакае ад яго дзіця, знайшла сабе мужа, таго самага Ігната, Рыгоравага сябра. Хлопец адкрывае дзіўную рэч: у сябра і Веркі каханне нарадзілася, так бы мовіць, з бяды. Але як ратаваліся ад раскулачвання Адамчыкі? Яны схітравалі, каб іх не вывезлі ў свет: усё нажытае дабро аддалі ў арцель.*

*Уцекача шукаюць, а ён вымушаны хавацца. Дачакаўшыся нараджэння сына, Рыгор разумее, што яго дзіця будзе гадаваць ягоны сябра як уласнае і, прайшоўшы праз неймаверныя выпрабаванні, Расевіч вырашае здацца. Зразумеўшы, што так як раней жыць цяпер немагчыма, а каб хацеў, то не дадуць старшыня арцелі Гаўрыльчык — «бабнік, п'яніца і гультай», не дасць і старшыня сельсавета Міронччык, якія, магчыма, чалавек і не благі, але сляпы выканаўца загадаў, што паступаюць зверху ды зацыклены на ідэалагічных нормах, не дасць малады міліцыянер Андрэй Коршак, які двойчы ўпусціў яго, хутаранца, не дазволіць нягоднік-начальнік міліцыі Калатовіч, для якога жыццё людзей нічога не варта...*

*Верка, паверыўшы абяцанню старшыні сельсавета Іллі Міронччыка, што яе пляменніка-сірату Васілька (яго маці Зіна, Верчына сястра, трагічна гіне ў пажары, толькі што па-сапраўднаму пакахаўшы і стаўшы законнай жонкай Міронччыка, а бацька — кулак і бандыт Лейба, якога Зіна перад сваёй смерцю, абараняючы сваю годнасць, засекла) пакінуць у яе сям'і, расказвае, дзе хаваецца яе былы каханы. Даведаўшыся пра ўсё, Рыгор Расевіч развітаецца з роднымі мясцінамі, адно просіць свайго сябра Ігната аддана любіць Верку, яе і яго сына ды пакідае малому напамінак пра сябе, бацьку, — золата.*

*У новым рамане «Сэрца сваё не падманеш...» (часопісны варыянт), чытач даведаецца, як склалася далейшае жыццё герояў «Забранага шчасця», а таксама пазнаёміцца з новымі персанажамі. Твор прасторава па-ранейшаму звязаны з турава-жыткавіцкім Палессем і падзейна — са складанымі перадваеннымі гадамі і пачаткам Вялікай Айчыннай вайны.*

***Аўтар***

## Пакланіся дарозе

### Частка першая

### 1

Застаўшыся адна, Верка прыдзірліва агледзела жывот. Знакавая акругласць ужо выдзялялася. Памылкі не было: яна насіла пад сэрцам дзіця. І як не заўважыла раней ніякіх перамен у сабе, не адчула, што зноў стане маці?

Гэта яе збянтэжыла. Нават спалохала. Разгубленая, яна доўга стаяла ля акна. На вуліцы хлюпала вясна, і яе сыравата-вербны сакавіцкі водар прабіваўся ў пакой цераз расколатую шыбку. Вецер, днём хлёсткі і шумлівы, цяпер, калі добра ўцямнелася, то зусім сціхаў, то зноў станавіўся рэзкі.

Жанчына раптам адчула моцны пах гаркавата-едкага дыму. Сюды, на край гарадскога пасёлка, дзе не было больш жылых дамоў, відаць, яго прыгнала аднекуль здалёк. Верка адступіла ад акна і зазірнула ў грубку. Даўно згарэлі бярозавыя дровы, аднак прагрэлася грубка зусім слаба. Падумала, што да раніцы вецер выганіць з пакоя апошняе цяпло, і вырашыла не закладаць юшку, разгарнула качаргой попел, знайшла яшчэ зыркія вугельчыкі і хуценька паклала на іх некалькі паленцаў.

Цяпер, седзячы перад грубкай на ўслончыку, яна назірала, як, награваючыся, шыпелі сыраватыя дровы, выпускаючы бялёсую вільгаць, а потым, калі крыху падсохлі, дружна браліся яркім полымем. Пачула, як у коміне зашумеў вецер, парушаючы анямелую цішыню, якая сёння Верку асабліва прыгнятала.

Пакой быў невялікі: грубка, стол, дзве табурэткі, услончык, лава з вядром пры ўваходзе, самаробны ўмывальнік, ды два рыпучыя, на спружынах, ложкі. Ля сцяны, далей ад грубкі, на адным з іх спала Ганна Аліфяровіч, а яна, Верка, размясцілася бліжэй да дзвярэй.

Суседка па курсах Верцы падабалася: гаваркая, вясёлая і кампанейская. Яны добра паладзілі, нават пасябравалі. І калі б зараз дзяўчына была тут, ёй, Верцы Адамчык, не так было б адзінока. Тая ўмела суцешыць, урэшце, заспяваць бадзёрую песню, і тады гэты слотны вечар, які так марудна пераходзіў у ноч, хутчэй скончыўся б.

Калі Верка прыехала на раённыя курсы трактарыстаў і ўбачыла Ганну, адразу ж успомніла, што зусім нядаўна, яшчэ ў мінулым снежні, сустракала яе. А было гэта так.

Ігнат, Верчын муж, цяпер быў калгасным брыгадзірам. Аднойчы, вярнуўшыся дадому з ранішняга нарада, ён расказаў, як Міколу Чэркаса, іхняга старшыню, у райвыканкаме папрасілі завезці нейкія паперы ў суседні калгас «Сталінец». Адмовіцца той не змог, хаця з-за гэтага трэба было рабіць немалы круг: напярэдадні поўнасцю замяло балотную грэблю, якая звязвала Пуханцы з дарогай на Бечын, што праходзіла непадалёку ад Князь-возера.

У прыазёрную вёску Чэркас дабраўся, калі пачало змяркацца, але пуханцоўскага старшыню ў канторы ўжо не застаў. Аказалася, Прохар Купрацэвіч быў у клубе, дзе мясцовыя камсамольцы рыхтавалі канцэрт. Намёрзлы на марозе, зуб на зуб не трапляў, Чэркас перадаў таму паперы і заспяшаўся дадому. Аднак гаспадар яго не адпусціў: сказаў жонцы, якая загадвала хатай-чытальняй пры клубе, каб напаіла Чэркаса гарачай гарбатай на зёлках, а заадно паставіла на стол выпіць і закусіць. А потым Купрацэвіч угаварыў яго заначаваць: «Паспееш, Мікола, дадому, месца хопіць, хата ў мяне вялікая. А пакуль падзівішся, што тут мае артысты прыдумалі!..»

Менавіта тады, як казаў Ігнат, Чэркасу дужа спадабаліся бойкія, смешныя сцэнкі пра калгаснае жыццё, якія паказвалі ў клубе мясцовыя хлопцы і дзяўчаты. Прызнаўся на нарадзе, што вельмі рагатаў, ледзьве не надарваў жывот. Ад’язджаючы раніцай, Чэркас папрасіў Прохара Купрацэвіча, каб прыслаў сваіх артыстаў і ў «2-ю пяцігодку». Той паабяцаў, і абяцанне сваё стрымаў: якраз перад Новым годам, 30 снежня 1938 года, на некалькіх вазах агітбрыгада з прыазёрнай вёскі дабралася ў Бечын.

Калі пачаўся канцэрт, Верка адразу вылучыла яе, Ганну, сярод астатніх артыстак — высокая, хударлявая, дужа прыгожая дзяўчына з рыжымі густымі валасамі на сцэне адчувала сябе раскавана. Ды як жа хораша яна спявала: голас нібы вясенні ручаёк, тонкі, але напорысты, кранаў за душу. Верка так расчулілася ад яе спеваў, што Ігнату нават прыйшлося суцяшаць жонку. Не

змагла на людзях растлумачыць мужу, чаму ўвесь вечар такая лёгкая на слёзы. А ўсё проста: Верка згадала, як у рэдкія хвіліны шчасця гэтак спявала і яе маці-нябожчыца. І Верцы цяжка было супакоіцца нават тады, калі шквальны рогат захапіў усю прастору клуба: пуханцоўскія дзяўчаты, пераапранутыя ў п'яных мужчын, за гарэлку прадавалі мех калгасных буракоў, а пільны міліцыянер, яго ролю выконвала таксама Ганна, іх арыштаваў...

І цяпер — трэба ж такому здарыцца — лёс звёў Верку і Ганну: вучацца на трактарыстак, два месяцы разам жывуць у гэтым невялікім пакойчыку пры МТС.

Часта пасля вучобы Ганна хадзіла адведаць далёкіх родзічаў. Сёння чамусьці больш звычайнага забавілася. Праўда, Верцы часам здавалася, што Ганна нешта ўтойвае, не дагаворвае, вырашыла: у яе тут з'явіўся кавалер. Але Ганна пра тое — ні-ні. А калі і так, разважала цяпер Верка, назіраючы, як у грубцы ўзгараецца полымя, дык чаму здзіўляцца: заседзелася ў дзеўках. Згадала, як Ганна прызналася надоечы, што па-добраму зайздросціць Верцы, якая ўжо двух дзетак гадуе.

Калі вечарамі заставаліся адны, Верка не аднойчы казала дзяўчыне: «Замуж, Ганначка, табе пара. І куды вочы падзелі тваe пуханцоўскія хлопцы? Ты ж такая ладная: і прыгажуня, і сціплая, і акуратная, і гаспадарлівая, усё пры табе...» Ганна толькі сумна ўсміхалася, нібыта гэта не яе тычылася, а потым у адказ зацягвала частушку пра сваю незамужнюю, а таму шчаслівую і бесклапотную, бо «нябітую» долю. Такіх частушак яна ведала шмат.

Як ніколі Верцы Адамчык хацелася, каб Ганначка прыйшла хутчэй, а яна падзялілася б з ёй сваім незразумелым хваляваннем, каб гэты сыры, нудны позні вечар нарэшце-такі скончыўся, пазбавіў яе адзіноты і жудаснай цішыні, якой вельмі цяпер баялася. І што ж так затрымала дзяўчыну ў горадзе?

На душы ў Веркі было неспакойна, нават трывожна. Яна адышла ад грубкі, зноў доўга стаяла ля акна і няўцямна назірала, як ад парываў ветру гойдаўся адзіны на ўсю вуліцу ліхтар, кідаючы свае мільгатлівыя позіркі на шэрыя драўляныя будынкі машынна-трактарнай станцыі.

Аднапавярховая кантора МТС была збоку, у засені высокіх таполяў, і святло ліхтара сюды не трапляла. Зусім цёмна звычайна было і ля прыбудовы, якая прыляпілася збоку. Яе склалі са звезеных з блізкіх хутароў хат, гаспадароў якіх раскулачылі і саслалі невядома ў які свет. Тут, у прыбудове, ад дарогі, зрабілі вялікі клас, дзе і праходзілі курсы трактарыстаў, ды адгарадзілі месца для вартаўніка. Часова яго перавялі ў гараж, а гэты вузенькі пакой аддалі пад жытло жанчынам-курсанткам. А з адваротнага боку, за глухой сцяной, дзе свой асобны ўваход, — размясціўся сапраўдны інтэрнат з трох прасторных пакояў: там жылі прыезджыя курсанты-мужчыны.

Адразу за раскіданымі будынкамі МТС пачынаўся густы сасновы бор, і ў яго ўваходзіла, а потым хавалася нешырокая лясная дарога. Куды яна вяла, Верка не ведала. Але, разважыла, калі туды ехалі ці кіраваліся пешшу, значыць, недалёка павінна быць нейкая вёска. Так скрозь жывуць людзі. І нават цяпер, нягледзячы на позні час, мінаючы склады і гараж МТС, яны ўсё некуды спяшаліся. Адсюль, збоку, яна не магла разгледзець іх твараў, толькі са спіны бачыла мужчын і маладзіц, якія хутка знікалі ў цёмнай і хмурнай ночы.

Верка так засяродзілася ў сваіх думках, што раптам ад нечаканасці спалохалася: за некалькі крокаў ад акна прамільгнула, як ёй падалося, вельмі знаёмая постаць мужчыны. Ён быў высокі, шыракаплечы, у кароткім чорным кажушку, шэрай шапцы-вушанцы і ў валёнках. Верку здзівіла, што чалавек час ад часу азіраўся, ішоў крадучыся, баючыся, што яго нехта ўбачыць.

Нібы пачуўшы яе думкі, мужчына раптам азірнуўся, паглядзеў у акенца, і, мабыць, заўважыўшы ў ім яе, нечакана спыніўся. Верцы падалося, што ён уважліва разглядае яе.

Верка спалохана адступілася ад акна і як прыліпла да атынкаванай сцяны, сэрца яе трывожна затрапяталася: так, яна недзе бачыла яго! Ёй, здаецца, знаёмы твар. Толькі ж дзе? Хто ён такі? Чаму ў гэты мокры вечар ходзіць тут, на ўскрайку пасёлка пад вокнамі інтэрната? За кім цікуе? За ёй?..

Калі ж праз хвіліну асмелілася і зноў наблізілася да акна, глянула ў яго, дык убачыла, што мужчына адразу ж за складамі машынна-трактарнай станцыі, нібы ад каго ўцякаючы, хутка збочыў, павярнуў у лес. Відавочна, ён быў не стары, бо даволі шпарка рухаўся па вадзяністым снезе.

І раптам Верка ажно спалатнела: постаццю і тварам гэты чалавек нагадаў ёй хутаранца Аскерчыка, што некалі не даваў праходу дзяўчатам на танцах ды штовечар з-за іх біўся з бечынскімі хлопцамі. Дык гэта ж бандыт!

Хаця, можа, і памылілася: шмат часу прайшло, забралі тых бандытаў, што хаваліся ля Князь-возера, арыштавалі і асудзілі, яго — таксама.

Аднак хваляванне не сыходзіла. Верка зноў села перад грубкай, распусціла касу і, каб трохі супакоіцца, пачала расчэсваць грэбнем густыя валасы. Паленцы ярка гарэлі, і ёй успомнілася напаўзабытае...

**2**

Верка думала пра Ігната. Прывыкла да яго ўвагі, цеплыні. І розум падказваў: так, кахала яго. І не каму-небудзь, а толькі яму ўдзячная: іншы б на яго месцы ці заплюшчыў бы вочы на ўсё, што з ёй здарылася, ці прыняў яе такой, як ёсць, да ўсяго грубую? Ды хто б так глядзеў, як родны бацька, яе Ваньку? Сынок вунь як падрос, восьмы гадок ужо.

Праўда, цяпер ад людзей не схаваеш: хлопчык іх мала падобны на Адамчыкаў. І хоць сёй-той здагадваўся (людзі ж нічога не забываюць!), што, мабыць, Расевічава там семя, але ж, на шчасце, Ванька ўзяў многа матчынага: чарнявы, такі ж мілавідны, як і яна, Верка. Відаць таму, дзякаваць богу, нават самыя заядлыя бечынскія пляткаркі не чапалі іх сям'ю. Хоць Верка здагадвалася чаму: паважалі яе Ігната, каторы год працуе брыгадзірам, з людзьмі стараецца жыць па-добраму, да ўсіх ставіцца па-чалавечы, не крыўдзіць нікога.

Жоўтая лямпачка патухла — нанач адключалі ў гарадскім пасёлку святло. У пакоі аднак не стала цёмна: ад грубкі ішло мяккае і цёплае святло, Верка паварочала качаргой паленцы, і яны сталі гарэць яшчэ больш ярка. А на памяць супраць яе волі наплыў даўні Ігнатаў аповед...

Як нарадзіўся першынец, ён, Ігнат, сказаў ёй, што ведае: сына яна нарадзіла не ад яго, а ад Рыгора. І ведае, што Расевіч, якога шукаюць улады, прыходзіў на хутар, каб развітацца з ёй. Ён кахаў яе, і не хацеў ёй няшчасця. А перад тым, як здацца Міронычыку і гарадскому міліцыянеру, Рыгор прасіў яго, Ігната, свайго сябра, толькі аб адным: сына зберагчы, глядзець як свайго і любіць яе, Верку, за іх дваіх. І ён, Ігнат, абяцаў свайму лепшаму сябру, што так і будзе.

Пражылі столькі гадкоў, Ігнат ні разу яе не ўпікнуў за былое. Ён кахаў яе, аддана і шчыра. Верка не магла за гэтае ціхае і новае каханне не аддзячыць Ігнату, вельмі хацела, каб муж быў шчаслівым бацькам. А таму хутка дачакаўся ён і ўласнай дачкі. Немаўлятка, падобнае і на яе, і на Ігната, назвалі Нінкай.

Але цяпер, седзячы перад грубкай у гэтым чужым для яе пакоі, чамусьці засумнявалася: ці ўзрадуецца муж, што зноў носіць пад сэрцам дзіця? Асабліва цяпер, калі ў жыцці ўсё так няпроста, і людзі, і яны ледзь не галадаюць, аддаючы ўсё, што толькі можна дзяржаве, калі між людзьмі няма асаблівага ладу.

Калі б яна раней ведала, што цяжарная, то яшчэ пазаўчора, як сустрэліся, сказала б пра гэта мужу. Ігнат якраз прыязджаў па калгасных справах у райцэнтр. Спачатку ён адведаў у бальніцы старшыню калгаса Міколу Чэркаса, а потым ужо на паўгадзінкі заскочыў да яе, жонкі. Прывёз ёй гасцінцы. Сяго-таго свякруха сабрала нявестцы, атрымаўся велікаваты хатулёк. Ігнат прызнаўся: бацька дужа незадаволены. Бачыш, нявестка падалася вучыцца ў горад, кінула на яго, мужчыну, дзяцей.

Ігнатавы бацькі па-ранейшаму жылі на хутары. Іх малодшыя сыны з’ехалі ў Мазыр, пасля вучобы там уладкаваліся на працу. Таму клопат пра старых Адамчыкаў, так сталася, поўнасцю лажыўся на старэйшага Ігната. Ігнат хацеў, каб бацькі перабраліся да іх з Веркай. Яму, камсамольцу, паўсюль калолі вочы, што бацькі, хоць і лічацца калгаснікамі, але жывуць, нібы аднаасобнікі, на хутары. Толькі бацька нікога не слухаў і пераязджаць у Бечын не збіраўся. Упарты стары трымаўся свайго: «Тут спрадвеку жылі мае бацькі, і я памру ў сваёй хаце!»

Верка, прызнацца, пасля доўгага расстання была рада пабачыць свайго чалавека. Засумавала па сям’і за нудныя зімнія месяцы ў Міткавічах. Таму засыпала Ігната пытаннямі пра Ваньку і Нінку. Больш хвалявалася яна пра дачушку: хваравітая, прастуда да малой чапляецца. Ёй толькі што споўнілася чатыры годзікі. І Верка шчасліва смяялася, разглядаючы яе малюнак на абрыўку старой раённай газеты. Дзеці, адчувала, вельмі сумавалі па ёй, маці. А муж дык, здаецца, з’еў бы вачыма.

Заўважыла, што Ігнат памужнеў, стаў больш прыгожым, упэўненым у сабе. І ён нечакана прызнаўся: «Як жа пахарашэла ты, мая Верка!» Ад такіх яго слоў у яе закружылася галава. У гэтыя хвіліны хацелася ўсё кінуць і вярнуцца ў Бечын. Але ж розум падказваў іншае: трэба-такі перацярпець, курсы трактарыстаў закончацца, хутка іспыты.

Нечакана ёй згадаўся той позні асенні надвячорак, калі Ігнат вярнуўся з праўлення маўклівы і насцярожаны. На яе роспыты неахвотна сказаў: што яго, брыгадзіра, хочуць зрабіць намеснікам старшыні калгаса. Верабей, сакратар парткама сельсавета, намякнуў пра гэта: хто ж як не ты, Адамчык? Думай, добра думай! Ты камсамолец і ўсю сітуацыю ў краіне разумееш! Тады Ігнат адмовіўся наадрэз: маўляў, ёсць у калгасе іншыя вартыя з партыйцаў. А ён будзе і далей сумленна працаваць у брыгадзе, там таксама клопатаў хапае. Ды і сям’я ў яго. Удваіх з жонкай працуюць, дзяцей на каго пакінеш? А тут яшчэ Верку як камсамольскую актывістку пасылаюць на курсы трактарыстаў. Ды ў яго да ўсяго яшчэ абавязкаў і як члену праўлення прыбавілася, бо старшыня Чэркас хварэе на сухоты і каторы тыдзень ляжыць у бальніцы. А ў гаспадарцы работы, асабліва па вясне, шмат. І так ён, Адамчык, са сваімі брыгаднымі клопатамі ледзьве спраўляецца…

Увесь вечар тады Верка і Ігнат перагаварылі, што і як цяпер будзе. Яна раіла яму не спяшацца, але і не адгаворвала, разумела: трэба, каб такое важнае рашэнне, найперш прыняў ён сам. А яна, калі спатрэбіцца, падтрымае. І калі зараз Ігнат сумняваецца, ці быць яму намеснікам, дык няхай лепей адмовіцца. Ды і дома яму сапраўды аднаму будзе вельмі няпроста справіцца з дзецьмі без яе, Веркі. Зразумела, Агапка, свякруха, дапаможа. Галоўнае, каб толькі Нінка

не захварэла зноў — з пачаткам зімы, у снежні, дачка моцна кашляла, у яе доўга не спадала тэмпература, думалі, што запаленне. Ігнат нават прыводзіў фельчарку, але ўсё абышлося.

Тады, як дачцэ палепшала, яны леглі спаць позна. Нягледзячы на тлумны дзень, тая снежаньская ноч сталася для іх абодвух асабліва салодкай…

Вось яна, гэтая ночка, і прынесла ёй гэтакі падаруначак. І што цяпер будзе? Ну скончацца гэтыя курсы трактарыстаў. Але ж хто скажа: як яна вынасіць гэтае дзіця? Нінку, праўда, зусім лёгка нарадзіла, хоць і працавала да апошняга. Невядома ж яшчэ, ці зможа яна з-за гэтай цяжарнасці сесці за руль трактара.

Але, нягледзячы ні на якія хваляванні, нейкае ўнутранае пачуццё ёй падказвала, што ўсё будзе добра: на самым вільчыку лета ў іх з Ігнатам народзіцца здаровае дзіця...

### 3

— Ну, сяброўка, не спіш яшчэ? — у пакой уляцела расчырванелая Ганна. — Там такое творыцца...

— Га, Ганначка? — адхінулася ад грубкі Верка. Яна вельмі здзівілася, улавіўшы, што ад дзяўчыны пахне такім самым, гаркавата-ўстойлівым дымам, які гадзіну таму, было, праз расколатую шыбу ўцадзіўся ў гэты пакойчык.

— Вой-вой... Пажар на суседняй вуліцы. Жудасна як. Так страшна, калі гарыць дом... — Ганна скінула з плеч сваё старое, з шыняля пераніцаванае бясколернае паліто, і павесіла на цвік ля парога, дадала:

— Старшыня райвыканкама згарэў... Увесь горад, мабыць, збегся на пажарышча. Затушылі. Але Мірончыка знайшлі нежывога...

— Як жа гэта? — спалохалася Верка. — А жонку? Жонку выратавалі? Ён жа ажаніўся ў горадзе, ведаю...

— Ды не, адзін, кажуць, апошнім часам жыў, тая верціхвостка кінула яго і з’ехала. Нібыта ў сталіцы сабе маладзейшага знайшла, а не такога кульгавага калеку, як Мірончык. — Ганна прытулілася да грубкі, грэла рукі. — Помню я яго добра. Прыязджаў да нас, неблагі ўвогуле чалавек быў...

— Але, неблагі, — засяроджаная, прамовіла ў адказ Верка і раптам, нечакана для сяброўкі, заплакала. Перад яе вачыма, нібы жывая, паўстала нябожчыца-сястра, успомнілася яе кароткае жыццё з былым старшынёй сельсавета.

— Што ты, Верка, хіба ж паправіш? Не плач, дурніца... — Ганначка, угледзеўшы слёзы на яе твары, абняла сяброўку, спытала:

— Пачакай... Ты ж, мабыць, яго лепш ведала, ён жа ваш, бечынскі? Ой, Верка, як яго вынеслі з хаты, такі жах апанаваў: абгарэў, небарака, не пазнаць...

— Так. З нашых. Бечынскі... — Верцы і без таго было горасна ад цяжкіх успамінаў, а тут яшчэ адзін напамін аб горкім мінулым прынесла Ганна. Але Верка саўладала з сабой, выцерла нечаканыя слёзы і прапанавала:

— Давай будзем піць кампот з дзічак. Я ў грубку паставіла, нацягнулі дзічкі ўжо...

— Ой, добра! Ты, Верка — проста золата! На вуліцы такая слота, пачатак сакавіка, а, ведаеш, зіма не хоча здавацца. Ды вясна адбярэ сваё... — усміхнулася Ганна. Яна накіравалася да парога, дзе на цвіку на сцяне побач з паліто павесіла сваю сумку.

— У мяне тут сухарыкі ёсцека. Цётка пякла дзецям, простыя, на вадзе, але, ведаеш, смачныя. Як бы там ні было, у горадзе ім лепш жывецца — муж у леспрамгасе паёк атрымлівае, муку і грошы. Давай свой кампот... — дзяўчына ўзрадавалася, ёй вельмі хацелася сагрэцца. — Ды лямпу запалі, а то сядзім у цемрадзі...

Верка намацала на стале запалку, і падпаліла газоўку.

Яна наліла з чыгунка ў конаўкі жаўтавата-карычневы духмяны настой, які быў яшчэ цёплы і вельмі смачна пах грушамі, і прынесла да стала, дзе Ганна выкладвала свае гасцінцы.

— Ведаеш, некалі Міронччык быў мужам маёй сястры... — Верка, прысела на край табурэткі, і, зрабіўшы глыток пахучага настою, ціха прамовіла, нібы сабе: — Божа, ён жа знайшоў такую ж смерць, як і яна... Пахавалі яе... Згарэла ў Міронччыкавай хаце, пакуль ён быў у турме.

— Бяда якая, людцы! Чуй, аге ж… А я, здаецца, чула пра гэта, і ў нас, у Пуханцах, пра тое людзі казалі. Толькі як жа так? І за што ж Міронччыка арыштавалі? — здзіўленню сяброўкі не было межаў.

— Міліцыя думала, што ён, старшыня сельсавета, таксама дапамагаў тым праклятым бандытам. Ну ці яшчэ там што, я ж усяго не ведаю… І Васілька, Зінчынага сына, у нас пасля забралі. Як сына кулака. Я думала, памру ад гора, валасы на сабе рвала. І Міронччык мяне падмануў тады. Так, ён мяне хітра ўгаварыў… — Верка ўсхліпнула, слёзы навярнуліся на вочы, згадаўшы, яна, а не хто-небудзь, выдала Міронччыку Рыгора Расевіча, свайго каханага.

— Не плач, родненькая... — Ганна таксама ледзьве не плакала. — Ну, што ты? Супакойся, дзяўчыначка мая…

— Як жа тут супакоішся? Адзіная ў мяне была сястра, старэйшая. Дагэтуль, як згадаю, сэрца баліць. Хутка Міронччык у райцэнтр перабраўся, у вялікае начальства выбіўся. Чуткі пайшлі: тут нейкую саломіну сабе знайшоў, ажаніўся... Ды шчасця, відаць, зноў не прыдбаў. Я ж яго, ведаеш, як ненавідзела? Ой, як я яго ненавідзела! Грэх узяла на душу — пракляла нават! Хаця ж, жыццё працягвалася. Усё забывалася. Сынок у мяне быў, затым дачушка нарадзілася. Трэба было жыць далей. І жыла... — Верка глядзела ў покуць, нібы ўбачыла там нешта важнае і выцірала слёзы, што выплывалі і выплывалі з вачэй.

— Страх які... А здавалася, добры бальшавік, да людзей з павагай. Казалі, што самога Леніна ведаў... — уздыхнула Ганна.

— Ага, кажуць, сустракаўся. І нябожчыца згадвала пра тое. Любіла яна яго, крэпка любіла, і во што з той любові выйшла нялюдскае, — пацвердзіла, крыху супакойваючыся, Верка.

— Ой, што я табе скажу. Толькі пакуль нікому… Чуеш, сяброўка, гэты пажар няпросты. Звесці яго хацелі. І во — такі ж звялі... — ціха прашаптала Ганна.

— Няўжо? — Верку ажно скаланула ад яшчэ адной страшнай навіны.

— Ігар Пятроўскі, важак наш камсамольскі, я табе не гаварыла, саромелася, ну, трохі праводзіць мяне, шапнуў, што не проста падпалілі, а перад гэтым забілі яго. Нехта разлічыўся з Міронччыкам, некаму ён дарогу перайшоў.

— Калі б я не ведала, што Лейба, былы муж сястры загінуў, то гэты мог бы... — уголас падумала Верка. — Аднак такога не можа быць, бо Лейбу апазналі, яго, абпаленага, закапалі за бечынскімі могліцамі — нават крыжа не паставілі.

І нечакана згадала пра мужчыну, якога бачыла са спіны ля МТС гадзіны паўтары таму: ён жа здаўся ёй такім знаёмым. Верка здагадалася, хто яшчэ

мог так ненавідзець Мірончыка. Яна была ў гэтым пераканана: гэта мог быць толькі адзін чалавек — Зміцер Аскерка. Яго бацька прапаў, брат-міліцыянер таксама недзе знік, а апісваў дабро на іх хутары сам Мірончык. Але ж Зміцера арыштавалі і, як казаў Ігнат, далі ці то дзесяць, ці то пятнаццаць гадоў лагераў. А можа, яна памыляецца? Не, гэта, відаць, нехта другі, пераконвала сябе Верка, а потым зноў пагаджалася, што той чалавек — вылюдак Аскерка.

Апоўначы грубка нарэшце выгарала, і абедзве леглі спаць. Ад пачутага Верка доўга не магла заснуць — перад вачыма паўставалі падзеі і вобразы перажытага сем гадоў таму.

Старалася пра ўсё забыць, а тут, бачыш — нейкі начны вандроўнік ды такая некачаная смерць Мірончыка напомнілі ёй пра Рыгора Расевіча, пра яе першае каханне і разварушылі старыя перажыванні. З галавы не выходзіла адно: магло, магло ўсё быць іначай з тым, каго першым прыняла як мужчыну і хто засціў ёй сваім каханнем увесь свет. Ды сілком адарвалі ад яе каханага, назаўсёды разбурыўшы іх шчасце. Не вернеш. Нічога не вернеш. Толькі засталося шкадаванне. Так, яго, Рыгора, ёй дагэтуль было шкада. Ці жывы хоць, ці здаровы? А можа, ужо і няма яго на свеце? Хай бы толькі жыў, а ёй жа ад яго нічога не трэба, толькі б ведаць, што жывы!

Праз хвіліну думала ўжо іначай: дурніца, якая ж табе ўжо розніца? Няма і няма. Ты ж — мужава жонка і не павінна думаць пра тое, нязбыўнае. Успамінаючы Рыгора, яна ж у думках нібы здраджвае сённяшняму яе шчасцю, Ігнату. Няварта былое варушыць! Быццам згарэла, быццам сухавеем прайшло, на ніцыя лозы апала, быццам вясенняй паводкай сплыло ў Князь-возера…

Згадаўшы зноў пра дзіцяя, якое зарадзілася ў ёй, у думках нават накрычала на сябе: «От чаго табе не хапае? Усё ж як у людзей. І дзетак з Ігнатам гадуюць, і жытло ёсць: перавезлі ў Бечын з яе хутара старую бацькаву хату, перарабілі трохі ды прыбудавалі з новага дрэва яшчэ трохсценак, абладзіліся, жывуць. Не надта каб сытна, але жывуць. Дык якога ж ражна табе яшчэ трэба? Чаму тое, згубленае, дагэтуль, як стрэмку носіш у сэрцы? Трымайся, дурніца, мужа! Любая баба пазайздросціць. І ты ж не адкідаеш яго любоў, прыхінаешся да свайго чалавека, як да яго, роднага і блізкага...»

## 4

Была субота. Сакратару парт’ячэйкі калгаса «2-я пяцігодка» Антону Вераб’ю нядужылася. Маланння, жонка, абцірала яго першаком, настоеным на толькі ёй вядомых зёлках, а калі тэмпература на нейкі час спала, паставіла яму банькі.

У гэты час яго і застаў дома Ігнат Адамчык, які вяртаўся дадому пасля нарада і спецыяльна зайшоў да Вераб’ёў.

— Праходзь, Ігнатка... — па-добраму сустрэла Ігната ў сенцах распаўнелая рабаціністая Маланння.

Па ўсім было відаць, гаспадыня толькі што ўправілася па гаспадарцы і рыхтавалася карміць свайго хворага мужа.

— Мо шчэ й не снедаў, галубок? Без Веркі з дзецьмі аднаму, мабыць, цяжка. То мы будзем хутка снедаць.

— Не хвалюйцеся, цётка Маланння, я не галодны, дзякуй. А Сцяпанавіч ці дома? — не чакаў такога цёплага прыёму Вераб’іхі Адамчык, нават разгубіўся.

— Ды на печы. Прыхварэў, ліха нейкае прыхапіла. Во, ратую, небараку.

Яна пусціла Адамчыка ў хату.

— Дык, чуеш, Ігнатка, не слухаецца, стары дурань, усё сварыцца са мной. Ледзьве на печы сёння ўтрымала, каб адляжаўся.

— Цыц, баба! Лішняе балбочаш... — з кухні пачуўся хрыплы мужчынскі голас, і жанчына, хуценька паставіўшы жбанок на стол, знікла ў святліцы.

Вераб'ю ішоў шосты дзясятак. Нарадзіўся ён тут, у Бечыне. У пяць гадоў застаўшыся сіратой, гадаваўся ў далёкай радні ў Грабаўцах. Адтуль яго забралі ў царскае войска, дзе сышоўся з бальшавікамі і пасля рэвалюцыі толькі аднойчы прыязджаў у Бечын. Тады ж упадабаў Маланню, таксама сірату, пасватаўся да яе і павёз у Гомель, дзе ён працаваў звычайным рабочым на буйным заводзе. Аднойчы яго, партыйнага актывіста, выклікалі ў абкам партыі і прапанавалі вярнуцца ў вёску, каб дапамагчы пралетарскаму сялянству будаваць новае жыццё. А тут яшчэ і Маланння часта заводзіла гаворку пра тое, чаму ж ім не вярнуцца ў Бечын, дзе іх карані, і Верабей пагадзіўся змяніць гарадское жыццё, да якога так цяжка прызвычайваўся, на вясковае. Ды і хацелася забыцца на тое страшнае, што здарылася з імі ў Гомелі: Маланння двойчы цяжарыла, аднак першае дзіця нарадзілася мёртвым, другое таксама выцягнулі абцугамі… Пасля таго Маланння ўжо не магла зацяжарыць, урачы заявілі, што быць ім бяздзетнымі. Верабей вярнуўся ў свае родныя мясціны, дзе неўзабаве бечынцы стварылі свой калгас.

Пачуўшы гаворку жонкі і калгаснага брыгадзіра, Верабей злез з печы на ўслончык, пaціху ўсунуў ногі ў валёнкі. Хоць у хаце было напалена, нават душна, накінуў паверх зрэбнай кашулі кажушок, і пайшоў насустрач госцю, падаў яму руку:

— Ну, здароў быў...

Брыгадзір пацiснуў яе, сказаў:

— Антон Сцяпанавіч, кепска вам, бачу. То, можа, я дарэмна турбую. І без вас тое праўленне правядзём, калі хварэеце.

— Праўленне? Якога ражна сёння, у суботу? Чаму так спешна? — здзівіўся і адразу ажывіўся Верабей, нават з твару змяніўся — на ім запульсавалі ледзь заўважныя чырвоныя пражылкі.

— Дык тут такое дзела… Распарадзіўся сам Чэркас. Уранку званіў рахункаводу, каб усіх абвясцілі. Яшчэ зацёмна ў раённую бальніцу паехаў Адам Гаўрыловіч. Прывязе дадому апоўдні старшыню. Нібыта, выпісалі... — паведаміў Ігнат.

— Во як? Выходзіць, на папраўку наш Мікола пайшоў, — узрадавана адказаў сакратар парт'ячэйкі. — А то я, грэшным дзелам, падумаў, што і сеяцца без галавы будзем. Дык кажаш, апоўдні ў канторы?

— Так, Антон Сцяпанавіч. Прыйдзеце? Ці адляжыцеся?

— Прыдумаў… Я ж мушу, павінен быць, абавязкова...

— Ну, то я пайду. Дзеці адны ж у хаце. Па абедзе матку бацька падвязе ў Бечын, і я таксама пабягу на праўленне. — Ігнат устаў, толькі хацеў насунуць на галаву шапку, як гаспадар раптам спыніў яго.

— Вось што, Ігнат. Прабач, што па бацьку не згадваю, бо малады яшчэ. Хаця, ужо маеш права, каб так цябе і я зваў — Ігнат Сцяпанавіч... Дык вось. Даўно, браце, да цябе прыглядаюся. Добры ты хлопец, старанны. Невыпадкова ў брыгадзіры рэкамендаваў. Не падвёў. Хоць напорысты часам, але разумны. Работы ніякай не баішся. Людзі цябе паважаюць. Слухаюць. Бацька твой таксама не гультаяваў жыццё. Праўда, неяк збоку ўсё, асобна ад людзей, і як

быццам з недаверам да савецкай улады. Вось жа які ўпарты, паглядзі ты на Сцяпана: дагэтуль з хутара не хоча нікуды ехаць!

— Ды яно так, занадта ўпёрты мой бацька: памру тут, і не кажы! — з сумам адказаў Адамчык.

— Ну, на ўсё свой прыйдзе час. Усе памром, тады, калі трэба будзе. Але, думаю, ён сам прыме правільнае рашэнне, і перабярэцца-такі ў Бечын. За вёскай, ведаеш жа, ты ж камсамолец, вялікая будучыня. А хутарское ўсё адпадзе.

— Цяпер бацька трохі прыціх, не агрызаецца, як раней. Маці за яго ўзялася. У яго ж адзін аргумент: а што калі сыны вернуцца, дзе прыткнуцца? Думаю, можа, за лета і пераедуць, пасля перавязём хату. Хаця і ў нас усім месца хопіць, хата ў нас з Веркай вялікая. Ад старых нам трэба падмога, дзяцей дапамогуць гадаваць, і мы іх не кінем, разам будзе лепей. Браты, ясна, падаліся ў навуку, сюды наўрад ці вернуцца, а мы заўсёды, так сказаць, падсобім, — церабіў нецярпліва вушанку Ігнат.

— Так, так, хлопча... І Верка твая — хоць сірата, але стрыжань сапраўдны мае. Мужчынскі, скажу, стрыжань. Адвучыцца, першай трактарысткай у нас будзе. І трактар Нікіценка нам абяцаў. Праўда, тут табе асабіста, можа, і не пашанцавала з яе жаданнем: забудзеш пра жонку на ўсю вясну і, лічы, восень. Механізацыя, брат, тэхніка — тут такая рэч…

— Ды я што, я разумею, але ж хіба яе пераробіш, такая яна рашучая...

— Малайчына, не спалохалася новага. Працы не баіцца. Так што сям'я ў цябе добрая, трывалая, карацей, наша савецкая сям'я. І табе, скажу, трэба не стаяць на месцы, не адставаць ад жонкі, так сказаць, — Верабей лагодна ўсміхнуўся, уважліва паглядзеў на Ігната.

— Дык і я ж раблю, як магу. Як усе людзі, — усё больш здзіўляўся Ігнат, не здагадваючыся, куды скіроўвае сакратар парт'ячэйкі.

— Я ж і кажу — стараешся, павагу ў людзей маеш. Таму ў партыйнага кіраўніцтва ёсць думка, так сказаць, каб даверыць табе большую справу…

— Антон Сцяпанавіч, вы зноў пра тое ж, пра што восенню казалі? Не, — заківаў галавой Ігнат, быццам па той справе рашэнне прынята раз і беспаваротна.

— Не гарачыся. Не буду хаваць ад цябе, Ігнат Сцяпанавіч, час, канешне, нялёгкі. Поскудзі сярод людзей яшчэ шмат. І тых, хто нам шкодзіць новую дзяржаву, новае жыццё будаваць. Таму партыя робіць стаўку на правераных людзей. На тых, за кім народ пойдзе, каму давярае. Дык вось. Я ўсё ж не прыняў твае довады і рэкамендаваў цябе днямі на бюро райкама партыі. Ты, як мне бачыцца, гатовы кіраўнік. А нам трэба з рук вон намеснік старшыні калгаса. Чэркасу трэба добры памочнік.

— Дык у мяне ж толькі два класы, які з мяне... — расчырванеўся Ігнат.

— Не перабівай, малойча, старэйшага, а слухай. Падвучышся, у Мазыр, у вобласць паедзеш, у Чэркаса што падгледзіш. Ён хоць і чужы ў Бечыне, але людзі яго прынялі. Толькі вось хворы ён. Не схаваю: кепская тая хвароба.

— Дык падлячылі ж, здэцца, вяртаецца.

— Ну, можа, і мінецца. Але ж справу трэба рабіць. Таму днямі паедзем у раён. Спачатку да нашага Іллі Міронычыка зойдзем, ён цябе добра ведае. Падтрымае. А потым у райкам, да першага сакратара Нікіценкі. Як усё будзе добра, будзем цябе рэкамендаваць і ў партыю.

Не развітваючыся, ён павярнуўся і пайшоў да печы. А Ігнат, успацелы ад такой нечаканай гаворкі з сакратаром парт'ячэйкі, не ведаў, што яму цяпер рабіць. Выскачыўшы з душнай хаты Вераб'я на сонца, а яно, яркае, сакавіц-

кае, аж асляпіла вочы, падумаў: не, усё ж трэба адмаўляцца, што б яму там ні гаварылі. Не трэба брацца за тое, што не яго, не можа ён падвесці людзей. Гэта была яго пазіцыя, і адмаўляцца ад яе не будзе.

Дома, як аказалася, з самага рання гаспадарыла маці. Яна выпаліла ў печы, накарміла блінамі ўнукаў. У напаленай печы нагрэла чыгун вады, і каля прыпечка ў драўлянай балейцы вымыла спачатку ўнука, а потым і маленькую Нінку, і цяпер дзеці пасопвалі на печы. Агапка тым часам не заспакоілася: у цёплай вадзе перамыла ўсю брудную дзіцячую вопратку і сарочкі сына.

Калі Ігнат увайшоў у хату, удыхнуў прыемны пах свежавымытай падлогі, пабачыў развешаную перад прыпечкам чыстую бялізну, ён з удзячнасцю падумаў пра маці. Яна ў яго, нібы святая з іконы. Добрая да Веркі, прыняла яе як дачку, хаця ж ведала, якое гора звяло пад адным дахам гэтую сірату-гаротніцу і яе сына. І Ваньку палюбіла так, як сваё дзіця, роднае, можа, песціла свавольніка нават больш, чым родную ўнучку, маленькую Ніначку.

Сын, канешне, вельмі паважаў маці, але ж даў ёй даўно зразумець: яго сям'я — яго клопат. За падтрымку дзякуй, за клопат бацькоўскі, а ў астатнім, мы, маладыя, неяк самі разбяромся. І ад таго ў бацькоўскім доме, і тут, у хаце, якую Ігнат збудаваў разам з жонкай, не было сварак, сем'і жылі дружна, але кожная сваім розумам. Старыя і праўда ніколі не лезлі са сваім, хаця заўсёды адгукаліся, калі трэба было падтрымаць дзяцей і ўнукаў.

Ігнат разуўся, ціха паклаў валёнкі перад печчу, каб крыху прасохлі. Не хацеў будзіць старую, нацягалася з раніцы і дома, і ў сына нарабілася. Зазірнуўшы на печ, дзе соладка спалі яго дзеці, з застылай усмешкай на твары падаўся ў чыстую палову. Да праўлення было яшчэ гадзіны дзве, каб адпачыць трохі самаму. Хаця заплюшчыць вочы так і не ўдалося: з галавы не выходзіла сказанае Вераб'ём.

Цяпер Ігнат ужо вагаўся, не ведаючы, ці правільна зробіць, калі адмовіцца. А людзі ж, мабыць, усё ж спадзяюцца на яго, брыгадзіра лепшай брыгады? Ці мае права ён настойваць на сваім? Ці справяцца ў такі адказны час яны з Веркай з сямейнымі справамі, калі ён стане намеснікам старшыні? Гэта ж такі клопат. Ды і ў жонкі будзе нямала клопату, калі сядзе за трактар.

## 5

Напрадвесні, калі зіма пачала адступаць, мала ў каго з бечынцаў на стале, акрамя поснай бульбы, кіслай капусты, зрэдку цыбуліны з бураком, быў крышанчык сала ды гладыш кісляку. Яшчэ не ўсе вяскоўцы маглі прыдбаць жыўнасць у свой хлеў: з-за безграшоўя цяжка было купіць нават цялушку. З калгаса нічога не атрымлівалі, мала чые дзеці ведалі смак малака, амаль у кожнай хаце была нішчымніца. Людзі чакалі вясны, калі пойдзе першае зяленіва: за шчасце будзе маладая крапіва, а потым шчаўе ды бацвінне.

У такую для большасці калгаснікаў гарачую пару на здзіўленне ціха праходзілі калгасныя сходы: на іх, не бачачы палёгкі, людзі больш адмоўчваліся, чым што гаварылі, нібыта стаіліся ў сабе. Таму таксама была прычына, ведалі, асабліва крыклівыя за непрадуманае слова пацярпелі ўжо: зніклі з вёскі Тарас, Мірон, Хведар, Ілля, і нават звестак пра іх ніякіх няма, нібыта і не было такіх людзей у Бечыне і навакольных вёсках.

Хаця людзі і маўчалі на тых сходах, але шмат каго брала за душу, вярэдзіла: чаму ж так выйшла? Ці такога яны чакалі ад народнай улады? Чаму плён іхняй калектыўнай працы большай часткай адыходзіць дзяржаве, а не ім,

што працуюць, не пакладаючы рук, ад цямна да цямна? Якая карысць з тых змен, калі іх дзеці дагэтуль галадаюць? Ці змянілася хоць што да лепшага ў іх жыцці, калі, напрыклад, тое ж Князь-возера раптам перайначылі ў Чырвонае і гэта чамусьці назвалі найвялікшай заваёвай новага жыцця? Каму ж ад таго, каб хто сказаў, была палёгка?

Адказу на гэтыя пытанні ў паляшуцкіх хатах не маглі знайсці, яго проста не было. І цяпер усё часцей і часцей бечынцы згадвалі працалюбівага хутаранца Расевіча і яго сям'ю. Жылі ж тыя людзі побач, гадавалі, як і ўсе, дзяцей, ураблялі сваю зямельку, рвалі жылы, каб зрабіць сваё ж жыццё больш заможным, прыклад іншым, як жыць і працаваць, паказвалі, нікому не шкодзілі, а што атрымалі? Тое ж, што і некалькі дзясяткаў іншых сем'яў хутаранцаў, якіх новая ўлада таксама палічыла за ворагаў, ды выслала са сваіх родных мясцін у далёкую чужую зямлю, якую між сабою палешукі ахрысцілі дзіўным словам Сібер. Гэтай Сіберы, куды вывозілі хутаранцаў, якія не ўступалі ў калгас, і тых калгаснікаў, што абураліся новым жыццём, баяліся ўсе.

А ім жа, былым хутаранцам-гаспадарам, яшчэ нядаўна многія зайздросцілі: у іх ёсць свой хлеб і да хлеба. Ды, аказалася, што і пазайздросціць раптам не стала каму: усе роўныя, усе бядуюць. А абяцанае ўладай усеагульнае шчаслівае жыццё пакуль не наступала, хоць па-ранейшаму партыйныя агітатары на сходах пераконвалі калгаснікаў у гэтым. Паслухаць агітатараў, дык нібыта і сонца сёння ўжо вышэй, чым учора… Толькі словы словамі, а ява явай: жылі людзі кепска без сваёй зямлі, без сваёй гаспадаркі, без працы на ёй.

**6**

Праўленне калгаса «2-я пяцігодка» павінна было пачацца апоўдні, але пачалося са спазненнем больш чым на гадзіну, калі людзі не на жарт зашумелі, што, маўляў, так і да вечара давядзецца прасядзець тут у бесталковіцы, да канторы пад'ехаў воз. А неўзабаве на парозе з'явіўся старшыня Мікола Чэркас, прывітаўся:

— Добры дзень, таварышы. Прабачце, у райвыканкаме затрымалі, ды да Бечына, канешне, няблізкі свет...

Невысокі, каржакаваты, ён расшпіліў кажушок, паправіў на жываце яшчэ армейскі кіцель, які так і не змяніў за некалькі гадоў працы ў «2-й пяцігодцы», потым павітаўся за руку з усімі мужчынамі, і, пракашляўшыся ў насоўку, заняў сваё месца за сталом. Побач селі старшыня сельсавета Іван Салавейчык і сакратар парт'ячэйкі Антон Верабей.

— І вам здароўечка, Мікола Хведаравіч! Добра, што дадому вас урачы пусцілі... — зашумелі жанчыны, усміхаючыся свайму кіраўніку.

Верабей сядзеў у расшпіленым кажушку, не распранаўся, бо па целе дагэтуль бегалі дрыжыкі-мурашкі, хоць і адчуваў ён сябе крыху лепей, прастуда адступала, але прытуліўся да цёплай грубкі, леваруч ад стала і акна, у якое кідала смелыя позіркі задзірыстае, амаль вясенняе сонца.

Сакратара парт'ячэйкі не на жарт спалохаў выгляд Чэркаса: высахлы, пажаўцелы твар, запалыя вочы, раней васільковыя, цяпер яны падаліся яму бясколернымі, і рукі халодныя, як лёд. Падумаў: блага табе, Мікола, не далі-такі рады хваробе ўрачы. Аднак тут жа перавёў думкі на іншае: нешта ж важнае мае сказаць старшыня, калі так, з дарогі, адразу на праўленне.

— Таварышы актыў! Члены праўлення, прысутныя члены партыі, сельвыканкама! — Чэркас стараўся не выдаваць сваёй хваравітасці, але адчувалася, як цяжка яму было гаварыць. — Не збіраўся турбаваць вас сёння, бо праўленне мы рашылі правесці пазней, каб падрабязна пагутарыць пра арганізацыю сяўбы. Аднак непрадбачаныя, нават жудасныя фактары прымусілі ўсіх вас сабраць сёння...

— А што ж такое страшнае ў нас адбылося, Хведаравіч? — пачуліся галасы з задніх радоў. — Не дай бог, вайна...

— Сплюньце, дурныя. Гэта ж такое ляпнуць! — зашыпелі наперадзе.

— Цішэй, таварышы, і праўда, паслухаем давайце… — сказаў свае слова і старшыня сельвыканкама Іван Салавейчык.

Чэркас, адчувалася, падбіраў словы, каб сказаць нешта важнае, але ў яго не атрымлівалася, іх чамусьці не хапала. І ён зноў закашляўся ў хусцінку, калі адняў яе ад рота, ад Вераб’я не схавалася, што там засталіся кроплі крыві. І ён усё зразумеў: Чэркасу заставалася мала, яго, мабыць, адпусцілі дадому паміраць. «Эх, як адчуваў, недарэмна пачаў размову з Адамчыкам. І ці ўжо не сёння прыйшоў час паставіць пытанне аб намесніку?»

— Таварышы, партыйную сям’ю раёна і Палескай вобласці напаткала вялікая страта... — Чэркас зноў закашляўся, але ненадоўга. — Сярод сапраўдных партыйцаў, верных справе Леніна—Сталіна, няма больш самага адданага яго члена, нашага земляка, таварыша Іллі Сідаравіча Мірончыка...

— А божачкі! Як няма? Ён жа надоечы заязджаў у Бечын, жывы-здаровы... — спалохана войкнула чырванашчокая Прося Асіпенка.

— Як жа гэта так, людцы мае?.. — пляснула рукамі ад здзіўлення і Тэкля Мірановіч.

Усе ж маўчалі, ашаломленыя такой навіной.

— Так, таварышы, няма нашага былога старшыні сельсавета. Пяць апошніх гадоў таварыш Мірончык верай і праўдай служыў раёну на пасадзе старшыні райвыканкама. Але ўчора нашы ворагі перапынілі яго жыццё, — нібы выціскаў з сябе хворы старшыня калгаса. — Ілля Мірончык загінуў у няроўнай барацьбе з нашым класавым ворагам.

— Кажы прама, Мікола, не хадзі вакол, свае мы, — настояў Верабей, дакрануўшыся да халоднай рукі Чэркаса і тут жа, як апёкся, адняў яе.

— Нейкія злыдні ўчора падпалілі дом, у якім жыў старшыня райвыканкама. Ён згарэў, памёр страшнай, жудаснай смерцю. Следства ўстанавіла: перад пажарам яго забілі.

— А як жа гэта? — завойкалі жанкі.

— Куды ж міліцыя глядзела?

— Цішэй, цішэй, праўленне ўсё ж... Вы бачыце, як таварышу Чэркасу цяжка, паслухаем яго, не перабівайце, — зноў не вытрымаў старшыня сельсавета. Салавейчык, дачакаўшыся цішыні, уважліва пагдядзеў на Чэркаса і спытаўся:

— Дык, можа, затрымалі ўжо вылюдкаў?

— Скажу прама: падазрэнне адразу пала на высланых бечынскіх кулакоў, якіх, як вы ведаеце, асудзілі і вывезлі з рэспублікі. Толькі тыя, па звестках міліцыі, уцяклі з Котласа і недзе стаіліся. Сярод іх, магчыма, быў і вядомы вам Зміцер Аскерка...

Старшыня калгаса зноў перавёў дыханне, наліў і выпіў паўшклянкі вады, і пасля прадоўжыў.

— Як вы ведаеце, Ілля Міронэчык займаў прынцыповую і бескампрамісную пазіцыю да ворагаў народа. Не выключана, што менавіта гэтыя вылюдкі, якіх нехта прыгрэў у нашым прыгранічным раёне, альбо нейкім чынам яны пераходзяць нашу дзяржаўную мяжу з буржуазнай Польшчы, нелегальна, так сказаць, тут падрываюць наш савецкі ўклад жыцця, і зноў, напаскудзіўшы, туды ўцякаюць...

— Бандзюкі зноў з'явіліся, людцы! Ніяк зладу няма з гадзюкамі. Пажылі трохі ціха, а глядзі ж ты, вяртаюцца, шкодзяць, — зноў азвалася спалоханая Прося Асіпенка.

— Іллю як шкода... — зашумела праўленне.

— Але, добры быў чалавек. Мала такіх. Няшчасны... — заплакала Тэкля Міранóвіч. — І такая смерць. Божачкі, яго ж маладзіца, тваёй Веркі, Ігнат, сястра, Зінка, таксама ж згарэла. Тыя ж падлюкі, ясна, звялі кабету. А смерць, атрымліваецца, адна на дваіх выйшла. Як ні круці — адна. Вось, які лёс... — цяжка ўздыхнула Тэкля Міранóвіч і ці то са страхам, ці то са спачуваннем у вачах паглядзела на Ігната Адамчыка.

Той сядзеў з краю, амаль ля парога, апусціўшы галаву. Страшная, нялюдская смерць Іллі яго ашаламіла.

— Дык вось, таварышы, што вам скажу. Давайце добрым словам успомнім нашага старшыню райвыканкама. Прашу ўсіх устаць, хвіліна маўчання, так сказаць... — нарэшце ўставіў свае слова ў агульны гармідар Чэркас.

Напружаная цішыня павісла ў памяшканні, людзі застылі ў скрусе, хаця кожны думаў пра сваё.

— Сядайце, таварышы... На пасяджэнні райкама партыі і райвыканкама прынята рашэнне пахаваць таварыша Міронэчыка на яго радзіме, у вёсцы Бечын. У нас, значыць. Таму заўтра, апоўдні, кіраўніцтва вобласці і раёна, прадстаўнікі працоўных калектываў і ўстаноў Мыткавіцкага раёна развітаюцца з нашым паплечнікам на бечынскіх могілках. — Чэркас усё ж перасіліў кашаль, і цяпер гаварыў роўна, без надрыву. — На нас ускладзена поўная адказнасць за падрыхтоўку і арганізацыю пахавання таварыша Міронэчыка. Праўленню калгаса, сельвыканкаму і парт'ячэйцы даручана зрабіць усё, каб годна правесці сапраўднага камуніста. Ну і ў калгасным клубе, як водзіцца, памянуць, так сказаць, па журботнай традыцыі, вернага бальшавіка-ленінца і сумленнага чалавека.

Нечаканая смерць Міронэчыка, які столькі гадоў жыў і працаваў разам з землякамі, сённяшнім вечарам з'яднала калгаснікаў. Хаця, калі кепская навіна распаўзлася надвячоркам па вёсках сельсавета, у некаторых хатах ёй нават абрадаваліся — не кожнаму пры жыцці ўсё ж дагадзіў нябожчык.

**7**

Могілкі ў Бечыне раней былі наводшыбе. А цяпер, калі з хутароў у вёску масава перасялілі людзей, адразу за імі за некалькі гадоў выраслі цэлыя вуліцы, якія кіраваліся ў розныя бакі, так што могілкі апынуліся якраз у цэнтры вёскі. Насупраць, цераз шлях, размяшчаўся калгасны свіран, а крыху далей, за прылескам, увосень збудавалі прасторную канюшню.

У нядзелю з самага ранку па наказе з сельсавета тут, ля могілак, ужо таўкліся людзі. То былі і бечынцы, і былыя хутаранцы, якіх ссялілі ў невялікую новую вёску, што з'явілася адсюль у пяці кіламетрах — Бечынскую Рудню, былі і з Хвойнішчаў, і нават з далёкіх Грабаўцаў.

Людзі прыбывалі на санях і на калёсах, здароўкаліся яшчэ з маладжавым, але агрузлым і патаўсцелым старшынёй сельсавета Іванам Салавейчыкам. Ён тут сёння распараджаўся, кіраваў, каб ля спешна абгароджанага новымі жэрдкамі ўвахода на могілкі, быў парадак. Галоўнае, ніякага гужавога транспарту, і каб сані і калёсы вяскоўцы ставілі леваруч ад могілак, а тут, ля ўвахода — барані божа! — павінна быць пуста. Як вырашылі ўчора на праўленні, тут стануць машыны, што прыедуць з райцэнтра і вобласці, а таксама месца для гужавога транспарту — з іншых калгасаў і сельсаветаў раёна. Гасцям, як гаворыцца, усё лепшае.

Як толькі развіднелася, калгасныя цесляры ўжо абладжвалі цэнтральны ўваход на могілкі: навесілі новыя вароты і веснічкі. Штакетніку на большае, ды і цвікоў, як на тое, не аказалася. Калгасная кузня даўно не працавала, бо стары каваль быў слабы і не мог зімой працаваць з-за хваробы, а замяніць яго не было каму. Таму вырашылі: адсюль, ад уезда ў вёску, толькі памяняць старыя, згніўшыя жэрдкі на свежыя.

Актывістаў-камсамольцаў Салавейчык выправіў высекчы густое кустоўе на пляцы, што краем прымыкаў да самай дарогі. Там пакуль не было магіл. Тут, ля шляху, амаль скраю могілак, некалі пахавалі маці старшыні райвыканкама. Побач з яе асеўшай магілай, якую падправілі, падсыпаўшы жоўтага пяску, і было вырашана падрыхтаваць апошняе прыстанішча для яе сына.

Праўда, каб пляц быў больш шырокі, на тры пралёты прыгарадзілі яшчэ жэрдак, тым самым пашырылі ў правы бок самі могілкі, папярэдне зрэзаўшы маладыя бярозы і алешыны, ды вычысціўшы ўвесь хмызняк.

Салавейчык задаволена пахаджваў уздоўж новай агароджы і пахвальваў у думках Ігната Адамчыка. Яму ж, старшыні сельсавета, лічы, нічога тут і рабіць асабліва не прыйшлося. Ігнат ні свет ні зара падняў сваіх брыгадных, і яны аднавілі агароджу з цэнтральнай часткі могілак. А другая брыгада расчышчала на вольнай пляцоўцы мокры снег і капала яму. З жоўтага, яшчэ прамерзлага пяску акуратна насыпалі на паўметра ў вышыню і метры на два ў даўжыню прадаўгаваты бурт, на які спецыяльна прывезлі дзве акуратна абгабляваныя шырокія дошкі-дваццаткі. Сюды якраз і меркавалася паставіць труну з целам. А збоку, між двух дубкоў, якія раслі амаль побач, каля магілы Міrandчыкавай маці, мужчыны нацягнулі дрот: тут павінны размясціць прывезеныя з горада гірлянды і вянкі. Чэркас загадзя папярэдзіў, што іх будзе шмат, у райцэнтры, дзе з самай раніцы арганізуюць развітанне, іх загрузяць у асобную машыну, бо не ўсе жадаючыя змогуць паехаць на пахаванне ў Бечын.

Зрабіўшы асноўную работу, мужыкі з недалёкага адсюль бору прывезлі лапкі ельніку, густа выслалі расчышчаную пляцоўку. Іх спатрэбілася нямала, вазы чатыры, каб прыхаваць крыху размокшыя лапікі чорнай вадзяністай зямлі, разбітай людскімі нагамі і набрынялы ад падталай вады снег.

Калі напачатку а дзясятай гадзіны сюды дапяўся сакратар парт’ячэйкі Антон Верабей, які асабіста арганізоўваў жалобны стол у клубе, заспакоены Салавейчык паведаміў:

— Ну, як маглі, Сцяпанавіч. Здаецца, пасняваем. Тэлефануйце ў райкам. Хай выязджаюць...

**8**

Такога пахавання ні бечынцы, ні жыхары навакольных вёсак яшчэ не бачылі. Члены праўлення калгаса загадзя расставілі людзей у некалькі радоў уздоўж новых пралётаў з жэрдак, яшчэ добрая сотня засталася стаяць звонку могілак, таму што на расчышчанай пляцоўцы ўсе не памясціліся. Салавейчык

позна зразумеў сваю памылку, трэба было б яшчэ на пралёт-другі пашырыць могілкі, і цяпер хваляваўся, што атрымае з-за гэтага наганяй ад першага сакратара райкама партыі. А Нікіценка і так яго чамусьці не заўважаў. Салавейчык адчуваў жудасны, быццам жывёльны страх перад былым старшым следчым раённай міліцыі, які вельмі хутка прасунуўся па кар'ернай лесвіцы, паспеў пакруціцца нават у Мазыры сакратаром абкама партыі, а год таму вярнуўся ў раён, туды, дзе і пачынаў.

Але браў да сэрца сельсаветчык дарэмна. Нікіценка, які раней астатніх дабраўся ў Бечын, агледзеў усё і быў задаволены. Магчыма, упершыню пахваліў Салавейчыка, актыў і праўленне калгаса. Людзі акружылі першага сакратара, толькі і паспелі перакінуцца словамі пра будучую сяўбу, як якраз апоўдні, насупраць расчыненых варотцаў могілак натруджана спыніліся тры грузавыя аўтамабілі. К гэтаму часу ўздоўж могілак ужо месца вольнага не было ад вазоў і калёс, на якіх прыехалі невядомыя бечынцам людзі.

Вяскоўцы дзіваваліся, як аднекуль ззаду, з накрытых шэрым брызентам машын, выскачылі сталыя мужчыны і зусім маладыя хлопцы. Іх было чалавек дзесяць, у руках яны неслі музычныя інструменты, якія зіхацелі, аж сляпілі на яркім сакавіцкім сонцы. Яны хуценька выстраіліся напярэдадні прыехаўшых аўтамабіляў, якраз насупраць расчыненых новых варотцаў. Затым з'явіліся людзі ў ваеннай форме і са зброяй у руках: з абодвух бакоў акружылі расчышчаны шырокі праход на могліцы.

Сярод бечынцаў пайшла пагалоска: гэта ж пагранічнікі, з Міткавіч. Раён іх прымежны, зусім побач — тэрыторыя Польшчы. Праўда, тут, у гэтым глухім куце, да дзяржаўнай мяжы з палякамі было далекавата, і многія вяскоўцы бачылі савецкіх пагранічнікаў упершыню.

Тым часам двое спрытных маладых пагранічнікаў апусцілі борт палутаркі і жвава заскочылі на прыцэп. Там стаяла закрытая дамавіна, абабітая ярка-чырвонай тканінай. Пагранічнікі акуратна паднялі яе і, зрабіўшы два крокі, перадалі на рукі чацвярым міліцыянерам, якія стаялі на зямлі. Акуратна трымаючы труну, тыя ціха панеслі яе да могілак. Калі двое пагранічнікаў апынуліся на зямлі, у іх руках усе заўважылі металічны надмагільны знак. Яго зверху ўпрыгожвала вялікая чырвоная зорка, а ў шырокім квадратным шкельцы, уманціраваным у рамку фота, з якога нібыта ўсміхаўся сваім землякам Ілля Мірончык.

І ў тое ж імгненне, спалохаўшы многіх, грымнуў пахавальны марш. Нечакана загаласілі жанчыны. У вёсцы ўсчалі страшэнны брэх сабакі. І з векавых дубоў, якіх на старых могілках было шмат, спалохана ўзвіліся ўвысь чорныя вароны.

Калі дамавіна стала на сваё месца на жоўты пясочак, паўсотні вянкоў і гірлянд укруг свежавыкапанай магілы акружылі яе, а паперадзе, побач з магілай маці нябожчыка, аціхла ганаровая варта, жалобны мітынг адкрыў першы сакратар райкама партыі.

— Дарагія таварышы! Мы аддаём роднай зямлі нашага паплечніка, сапраўднага бальшавіка, вопытнага арганізатара калгаснага руху, выдатнага гаспадарніка, старшыню райвыканкама Іллю Свірыдавіча Мірончыка, — хвалюючыся, спачатку ціха, а потым роўным, цвёрдым голасам прамовіў успацелы Андрэй Нікіценка. — Гэта быў незвычайны чалавек, які вельмі добра разумеў сваё месца і час, імкнуўся ўсё зрабіць дзеля таго, каб наша жыццё станавілася лепшым і смела крочыла наперад. Наш раён за апошнія гады, калі Ілля Свірыдавіч Мірончык працаваў кіраўніком райвыканкама, дасягнуў небывалых да гэтага вышынь. Я не буду пералічваць лічбы ўраджаяў, але яны

выраслі непараўнальна з мінулымі гадамі. Гэта так. І жыць стала лепш, як сказаў таварыш Сталін, жыць стала весялей. Нябожчык быў смелым, адданым прадстаўніком нашай партыі, разумеў простых людзей і ўсё імкнуўся рабіць па справядлівасці.

Але, дарагія таварышы, мы не змаглі зберагчы нашага паплечніка. Класавыя ворагі прыклалі шмат намаганняў, каб адабраць жыццё ў вернага сына нашай партыі, падабралі момант і забілі Іллю Свірыдавіча. Толькі ж іх крывая дарожка нядоўга будзе віцца! Мы ведаем, хто гэта зрабіў! Следства пакуль ідзе, але мы клянёмся, што вінаватыя адкажуць за яго смерць у поўнай меры. Спі спакойна, наш баявы таварыш. Ведай: пачатая табой справа будзе прадоўжана, а тваё імя застанецца назаўсёды ў нашых сэрцах...

Кабеты ўвесь час плакалі, перашэптваючыся, шкадуючы, якую жудасную смерць сустрэў нябожчык. Ля зачыненай дамавіны пра Міронычыка сказаў слова і загадчык сельгасаддзела абкама партыі Іваноўскі, а потым ад імя землякоў выступілі па чарзе Верабей і Салавейчык. Чэркаса на пахаванні не было: яму зноў стала кепска, на кватэры страціў прытомнасць, і ледзь жывога старшыню калгаса па распараджэнні Нікіценкі зноў павезлі ў раённую бальніцу.

Калі тройчы прагрымелі ў неба выстралы, зямля прыняла дамавіну з абпаленым целам гаротніка, у жалобнай скрусе на бечынскіх могілках сцяўся яшчэ адзін даволі малады чалавек, які вельмі добра ведаў загінуўшага. Так сталася, ён апошнім часам нават пасябраваў з ім. Толькі ж ніхто не ведаў, што звязвала перспектыўнага следчага, старшага лейтэнанта міліцыі Коршака і былога старшыню Бечынскага сельсавета, якому потым вобласць даверыла ўзначаліць цэлы раён.

Андрэю Коршаку было сапраўды шкада свайго старэйшага калегу, які, нягледзячы на ўсе яго юнацкія пралікі, па-добраму клапаціўся пра зусім чужога яму хлопца. Ён добра памятаў, як той у свой час не выдаў яго ненавіснаму начальніку міліцыі, калі з перабітым пераноссем, упусціўшы кулака Рыгора Расевіча, поўзаў у гурбе снегу, заходзячыся ад болю, на падворку ягонай цёткі Арлухі ў Грабаўцах. І тут як ні круці, Міронычык меў поўнае права здаць яго злыдню Калатовічу: менавіта ён, сяржант Коршак, апраставалосіўся, дазволіў збегчы ворагу народа, а той, з-за свайго калецтва, нічога ж зрабіць не мог! Коршак і зараз быў перакананы: усё тады залежала ад яго, міліцыянера, а ён вярнуўся да кульгавага Міронычыка з пабітым носам. Якая ганьба яму!

Праўда, ён не ведаў, не здагадваўся нават, што будучы старшыня райвыканкама ўвогуле тады не хацеў ніякай пагалоскі, бо баяўся за лёс сына сваёй загінуўшай жонкі Зіны, за малога Васілька, які ўсё роўна потым згубіўся на бязмежных прасторах краіны. Не ведаў і таго, што Міронычык, калі стаў кіраваць раёнам, акуратна, каб не нашкодзіць сабе, шукаў хлопчыка, якога раней усынавіў, а потым вымушаны быў адмовіцца ад гэтага ўсынаўлення. Толькі ўсё было дарэмна — слядоў Васілька не знаходзіў. Не ведаў Коршак і яшчэ аднаго: чаму менавіта Ілля Міронычык рэкамендаваў яго ў партыю, дапамог яму і ягонай маладой жонцы атрымаць пакой у інтэрнаце. А таксама — чаму хадайнічаў, каб яго накіравалі на вучобу, а пасля паставілі следчым якраз у той час, калі Калатовіч, звёўшы ў раёне не адну сотню сумленных людзей, нечакана перабраўся на высокую міліцэйскую пасаду ў сталіцу.

Вось чаму следчаму балюча сёння было развітвацца з тым, хто ў любой сітуацыі заставаўся, як яму здавалася, найперш, чалавекам. Як праўда і тое, што Коршак у такі няпросты для краіны час імкнуўся быць падобным да свайго старэйшага таварыша.

**9**

— Канешне, Ігнат Сцяпанавіч, мы доўга прыглядаліся да цябе, так сказаць, вывучалі... — першы сакратар райкама партыі Андрэй Нікіценка, седзячы за сваім рабочым сталом, з цікавасцю разглядаў крыху сарамлівага трыццацігадовага мужчыну.

Былы следчы Нікіценка быў моцным псіхолагам, таму адчуў: у час здавалася б шчырай размовы Адамчык думае аб нечым сваім, нібы і не здагадваецца, дзеля чаго яго сюды запрасілі. «Што ж цябе так гняце, хлопча?»

Ён адагнаў гэтыя думкі, усміхнуўся, падумаў: што ж, не памыляецца Верабей, гэты хлопец — не дурань, з галавой на плячах.

— Я тут, браце, пазаўчора быў у МТС. Мабыць, ведаеш, што вобласць рэкамендавала вучыць трактарнай справе і жанчын. Дык падзівіўся: аказваецца і твая жонка, Вера Адамчык, таксама на гэтых курсах. І «Сталінца-60», лічы, ужо на лапаткі паклала. Лепшы курсант, сказалі мне... — Нікіценка падобраму ўсміхнуўся.

— Ага, Верка мая такая... гарачая. Нават не здагадваўся, што так тэхніку палюбіць, — адгукнуўся Ігнат.

— Адвучыцца хутка. Дык, думаю, заслужыла сваім стараннем: перададзім «2-й пяцігодцы», вашаму калгасу, як аднаму з самых аддаленых у раёне, новую мадыфікацыю трактара, 65-ю. Нам адзін такі, дарэчы, выдзелілі, — паведаміў Нікіценка.

— Нечакана, канешне. Але, мабыць, яна заслужыла. Ды і калгасу, што там казаць, трэба трактар. З МТС да нас дабіраліся пазней астатніх, пакуль усім дапамогуць, дык мы і самі абраблялі сяк-так зямлю, а нам жа раней трэба. Неяк не клеілася ў нас з імі, — шчыра прызнаўся Адамчык. І дадаў: — А што да жонкі, вось што кепска: цяпер дома яе не пабачыш. А ў нас жа дзеткі. Двое. Ім маці патрэбна.

— Нічога, справіцеся, дзела маладое. На ўсё знойдзеце час. Пакуль яна вучыцца, бацькі, ведаю, табе памагаюць. Хаця ж колькі гаварыў і Салавейчыку, і Вераб'ю, каб думалі галавой. Як мацяркам, што працуюць, рукі развязаць: дзіцячыя яслі ў Бечыне трэба адкрыць. У вас усё для гэтага ёсць. Выгода ж якая! Тады жанкі не будуць пра дзяцей перажываць на працы — пад доглядам малых пакінуць. І, думаю, гэтую справу табе, браце, трэба будзе таксама браць у свае рукі.

— Як гэта, мне? Я ж брыгадзір толькі... — здзівіўся Ігнат.

— Ну, пачнём з таго, што з заўтрашняга дня ты будзеш намеснікам старшыні калгаса, — Нікіценка глядзеў яму прама ў вочы, вывучаў: не спалохаецца?

— Але ж... — замяў у руках шапку-вушанку Ігнат ад хвалявання.

— Вось так, браце. Райкам партыі рэкамендуе цябе, як актыўнага камсамольца, які паказаў ужо сваю работу, уменне ладзіць з людзьмі, неблагія вынікі па тваёй брыгадзе, у мяне тут і лічбы прыведзены, ды і маладосць — таксама твой козыр, што немалаважна. Быць табе намеснікам... — Нікіценка падышоў да Ігната і моцна папляскаў яго па плячы.

— Пачакайце, але ж я... У мяне і адукацыі мала, і ўвогуле, я ж беспартыйны, у нас, што тут казаць, лепшыя, дастойныя бальшавікі ёсць, — узрушана прамовіў Адамчык і ўстаў, пакінуўшы шапку на стуле. — Гэта ж, Андрэй Мікалаевіч, не брыгадай кіраваць, а фактычна ўсім калгасам, бо, як разумею, Чэркас доўга будзе хварэць.

— Ты сядзі, сядзі, — зноў дакрануўся да яго пляча Нікіценка, сеў насупраць. — Пра Міколу, вось што табе, браце, скажу. Мы хацелі яго цяпер вызваліць. Ведаеш, яго адвезлі да бацькоў у Хвойнішчы.

— Во ж як? А я збіраўся да яго сёння ў бальніцу, — разгубіўся Ігнат.

— Урачы бяссільныя. Позна. Стары бальшавік, прайшоў усю грамадзянскую. Ёсць у нас, так сказаць, маральныя прынцыпы. Не можам яго вось так узяць і сказаць: сыходзь. Усё жыццё, здароўе чалавек аддаў народу. І калгас ваш пасля п'яніцы Гаўрыльчыка, хаця пра нябожчыка нельга казаць кепска, падняў з каленяў, ва ўсякім выпадку, стараўся дзеля людзей.

— Гэта так. Наш старшыня — справядлівы і чэсны, і каб не гэта хвароба... — пагадзіўся Ігнат.

— Таму нейкі час ты будзеш і за яго, і за сябе. Адсееце́ся, тут і жонка твая добры памочнік, пасля накіруем цябе на курсы старшынёўскія, а то і ў Мазыр ці ў Мінск пашлём. Падкуём, значыць, тэарэтычна. Ну, а там, як пакажаш сябе, кандыдатам у партыйныя рады міласці просім. — Нікіценка гаварыў нягучна, добразычліва, і Ігнат адчуў, што гэты чалавек спадзяецца на яго, верыць, што робіць правільна.

— Андрэй Мікалаевіч, а калі падвяду, калі не спраўлюся? — не супакойваўся Адамчык, яго лоб нават узмакрэў.

— А не маеш права так нават думаць! Што, думаеш, мяне вучылі кіраваць? А як жа? Ведаеш добра: звычайным следчым быў. Пасля партыйная работа. Нічога страшнага. Толькі час, тваё жаданне нешта змяніць да лепшага і старанная, да ўпартасці, праца, уменне слухаць людзей — вось аснова ўсіх навук. А ты ж з цягавітага, гаспадарскага роду, наколькі ведаю. Нябожчык Міронччык цябе таксама вельмі паважаў. Мы з ім неяк гутарылі. Ды і рэкамендацыю на цябе пакінуў у партыю. І брат твой Мікола ўжо настаўнічае, а Хведар, кажуць, у органы міліцыі збіраецца таксама — добрыя ж вы хлопцы, савецкія.

— Вы і пра іх усё ведаеце? — здзівіўся Ігнат.

— Я павінен ведаць аб усім, што робіцца ў раёне. І больш таго, пра моладзь, якая нас заменіць, нашу справу. Гэта мой партыйны абавязак. Таму, не хвалюйся, і да заўтра, Ігнат Сцяпанавіч, — Нікіценка моцна паціснуў яму руку.

## 10

У вучэбным класе МТС ішлі падагульняючыя заняткі, калі Ігнат выклікаў Верку. За два тыдні, што яны не бачыліся, столькі здарылася падзей, што Ігнату хацелася як мага хутчэй расказаць ёй пра іх. Але калі яна без кажушка выскачыла ў доўгі, халодны калідор — толькі ў канцы яго была грубка, якая не магла абагрэць усю плошчу, ён, замест таго, каб пацалаваць жонку, сказаў, напаўсур'ёзна, напаўжартам:

— Вы што, Верка Адамчык, захварэць уздумалі? Марш па кажух!

— Вось ты які, ну, чакай! — жонка, знарочыста неадабральна бліснуўшы вачыма, знікла ў вучэбным класе, а праз хвіліну выпырхнула адтуль, на хаду завязваючы квяцістую хустку. Тую самую, якую мінулай восенню ён купіў ёй на раённым кірмашы.

— Ну, цяпер, іншая справа, — Ігнат абняў Верку і моцна пацалаваў.

— Мядзведзь бечынскі, як дзеці? — толькі і паспела прашаптаць яна, і нібыта крыху пакрыўджана адступілася ад мужа. — Аж дыханне збіў...

— А што — дзеці? Растуць, як ім і трэба. Я ж цябе так кахаю, родная, — Ігнат шчасліва ўсміхнуўся і з такім жа імпэтам зноў абняў жонку і пацалаваў.

— Задушыш, паразіт, не адну, дваіх... задушыш... — Верка адвяла моцныя рукі, і, шчасліва ўсміхаючыся, зірнула ў яго пасвятлелыя вочы.

Той на хвіліну застыў на месцы, потым амаль закрычаў:

— Ты... Няўжо? Няўжо, Верка, гэта праўда? У нас будзе сын?

— Ды праўда ўжо, жывот вунь хутка не схаваеш, — усміхнулася яна, паказаўшы мужу, што таксама вельмі радая.

— Я самы шчаслівы сёння чалавек, Верка! Вось ты якая! Дзякуй табе за такі падарунак. Лепшага мне і не трэба. А калі... калі дзіця народзіцца?

— Аге ж, не помніш. Не помніш тую ноч, калі Нінцы лепей стала, забыўся? Як усё будзе добра, то ў канцы лета. Так што не хвалюйся, брыгадзір, трактарыстка Адамчык вясной будзе працаваць, як трэба!

— Ну, паспрабуй толькі кепска! Ды і брыгадзір я — апошні дзень...

— Што здарылася? Як гэта — апошні дзень? — разгубілася Верка, насцярожылася, пільна паглядзела на мужа.

— Ды ты не пра тое падумала, дурненькая. Я ж толькі што з райкама партыі... — пачаў Ігнат, і ўбачыў, што Верка ўжо не на жарт спалохалася, нават абаперлася аб падаконнік. — Там, як кажуць, на іншую пасаду сасваталі.

— Заўтра вечарам у арцелі сход. Нікіценка будзе прапаноўваць мяне намеснікам старшыні калгаса. Чэркас жа, ведаеш.

— Няўжо ты згадзіўся, Ігнатка? — яшчэ больш спалохалася жонка. — Гэта ж якая адказнасць, га? Брыгада — пяцьдзясят чалавек, а тут — уся арцель. А ці справішся, Ігнат? А як цяпер дзеці? Я ж на гэты трактар узаб’юся, дык з рання да ночы, і ты ў калгасе. Бедныя нашы дзеці.

— Нічога, справімся, — ціха, але цвёрда прамовіў Ігнат. — Дый я ж толькі намеснік, а Чэркас, можа, паправіцца, і мне будзе лягчэй. Ён жа вопытны, яму вучыцца, як мне, не трэба...

Верка цяпер сама абняла мужа, прашаптала яму на вуха:

— Памажы табе Бог!

— Верка, ты ж камсамолка! Кінь...

— Ніхто мне не даказаў, што Бога няма. І ён нікому не шкодзіць, дурненькі ты мой… — засмяялася яна шчыра і радасна.

— Добра, але больш не згадвай, — Ігнат пяшчотна пацалаваў жонку, сумна сказаў. — Але ж і гэта не ўсе навіны...

— Ведаю: Міронбчыка забілі, у вёсцы пахавалі... Страшная смерць. Такая ж, як і маёй сястрычкі. Зінка яго забрала. Сніла яе надоечы, ведаеш… За тое, што Васілька не збярог. Божа, дзе ж ты цяпер, хлопчык мой дарагі?.. — яна раптам заплакала, паклала галаву на плячо мужа.

А мужчына не ведаў, што і сказаць. Унутры ўсё сціснулася: згарэў Ілля, як і яго жонка Зіна — абое нялюдскую смерць прынялі. І ўспомніліся словы загадчыцы фермы Тэклі Мірановіч, якія ён тады, на праўленні, узрушаны смерцю Міронбчыка, яго забойствам, нібы і не пачуў. А Тэкля таксама ж нагадала пра Зінку, і пра смерці іх з Іллёй аднолькавыя, нібыта гэта знак нейкі.

Доўга не ведаў, што сказаць, але раптам успомніў:

— Што ж ты, даражэнькая, не хвалішся, што дадому прыедзеш на «Сталінцы-65»!

— Ды няпраўда гэта, прыдумляеш! Хто табе сказаў такое? — Верка не магла даць веры пачутаму.

— Кажу, значыць, ведаю. А сказаў той, хто ведае, — Ігнат прыціснуў яе да сябе і моцна-моцна пацалаваў.

— Як я цябе люблю, — прашаптала яна ў адказ.

## Вясна трывог

### Частка другая

### 1

Зацяжную, снежную і ветраную зіму каторы тыдзень змываў надакучлівы і журботны дождж. Вечарам, звычайна, ён рабіў перапынак, і мокрая зямля патроху шэрхла, пакрывалася хрусткай ледзяной скарынкай, а бліжэй да ночы ўжо браўся сапраўдны мароз. Голае жытнёвае поле, якое ледзьве трывала гэтыя перамены надвор'я, удзень чакала цяпла, каб напоўніцца жыццёвай сілай, ды дарэмна — сонца на небе было, але слаба грэла.

Скончыўся сакавік, але час ад часу Палессе засыпала дробным сыпучым бісерам снегу, які праз дзень-другі раставаў пад такім жа сыпкім дажджом. Зіма галалёдзіла і нібыта здзекавалася з палешкоў, якія як ніколі чакалі ратавальніцу-вясну: з першым зялёным калівам цыбулі-зімкі, шчаўя можна акрыяць, дацягнуць да лета.

За першы тыдзень красавіка не толькі нізкія, забалочаныя мясціны, сенажаці, але і высокія лясныя прагаліны, палі і паплавы пакрыліся рудой вадою, якой не было куды сысці. І нават Князь-возера, якое без згоды людзей улады перайменавалі ў Чырвонае і якое палешукі па-ранейшаму звалі як заўсёды, выйшла з берагоў, запоўніўшы сырым і пенным багаццем некалькі вёрст вакол.

Начныя красавіцкія ярасна-калючыя замаразкі затрымлівалі тут, у палескай нізіне, завейніцу, якой даўно пара была сысці, саступіць месца цяплу. І хоць гэта крыху заспакойвала бечынцаў, ім вельмі надакучыў працяглы, сцюдзёністы, бесперапынны дождж, які штодня заліваў разоры, прагалы, нізіны,ператварыўшы Палессе ў суцэльнае мора. Было такое ўражанне, быццам нехта пракляў гэтую зямлю: такой макрэчы і ў Бечыне, і ў вёсках, што былі вакол Князь-возера, не памяталі нават старажылы.

Па вясне ў палешукоў быў яшчэ адзін клопат: не захварэць. Вада ў калодзежах, асабліва ў нізкіх месцах, псавалася вельмі хутка, станавілася жоўтай, ад яе патыхала балотам. Цяпер надоўга адпачывалі без працы калодзежныя жураўлі: вада ў студнях была ўпоравень з паверхняй зямлі і яе проста набіралі вядром.

Калодзежная вада была вялікім клопатам і вясковай фельчаркі — прыезджай незамужняй жанчыны, Ганны Фядоравай, якая абыходзіла кожны двор, аглядала студні і строга забараняла вяскоўцам піць сырую ваду. Ды не толькі людзям, а нават і жывёле.

Не ведала фельчарка, што да вялікай вады тут прызвычаіліся даўно, і без яе парад у кожнай бечынскай хаце гаспадыні ў вялізных чыгунах кіпяцілі ваду, дабаўлялі туды сухія дзічкі ці зёлкі, а потым давалі яе піць.

У такую красавіцкую пару, пакуль не распусціліся дрэвы, палешукоў таксама ратавалі кляновік і бярозавік: у кожнай гаспадарцы яго стараліся нарых-

таваць не меней, як дзесяціпудовую бочку, каб можна было піць усё лета. Сок захоўвалі звычайна ў істопках, пілі яго пастаянна, бо лічылася, што нічога лепш як ён не наталяе смагу, асабліва калі добра прыпраўлены дзічкамі.

Так, па сутнасці, паўтаралася кожную вясну, а калі паводка сыходзіла, спадаў узровень вады і ў калодзежах. Тады мужчыны вычэрпвалі яе, вычышчалі калодзежнае дно, калі трэба было, падкопвалі глыбей, і зноў у кожнай студні вада станавілася чыстай, празрыстай, як шкло.

**2**

Калі надвячоркам крыху распагодзілася, Сцяпан Адамчык прыехаў на калёсах забраць дадому жонку, а старая Агапка з абеду бавілася з унукамі, ён не пазнаў сына: зусім асунуўся хлопец, пачарнеў ад клопатаў.

Арцель, ці як цяпер сталі называць яе — калгас «2-я пяцігодка», безнадзейна не выконваў паказчыкі вывазу на палі арганічных угнаенняў, а раён кожны дзень патрабаваў новыя рапарты і лічбы, якіх у Бечыне ніяк не маглі выканаць. Зверху ж націскалі: нягледзячы на дажджы выводзіць на працу людзей. Начальства папракала маладога намесніка старшыні калгаса, які фактычна выконваў яго абавязкі, што ён не можа ў складаных умовах арганізаваць працу так, як трэба, а гэта, лічы, сабатаж дзяржаўнай справы.

Ігнат Адамчык моўчкі зносіў усе папрокі, і ў халодную непагадзь, шкадуючы членаў арцелі і коней, адмяняў работы.

— Кінь, хлопча, дурное думаць. Вось пабачыш, яшчэ трохі — і будзе спякота, — казаў яму бацька. — Памятаю, даўно было такое ж ліха, мо пры цары яшчэ. Вады — процьма, нават у хаты ўвайшла. Цяпер жа куды менш. Не ўгледзіш, сынку, як знікне яна, сыдзе ў зямлю, быццам яе і не было. І пасеемся ў час. Скажу і так: няблага для нашага пясочку, калі шмат вады, багаты год будзе. На шчасце тваё. Не хвалюйся так, сыне...

— А за Воўчым Логам, як думаеш, тата, што будзе з жытам?

— Быў заўчора. Не вымакла пакуль. Калі супыніцца непагадзь, нічога кепскага не здарыцца.

Сказаўшы гэта, стары Адамчык раптам цяжка ўздыхнуў і перавёў гаворку на іншае.

— А Верка калі дахаты прыедзе?

— На тым тыдні, мабыць.

— Пасыльнага за ёй пашлеш? Ці як — на ентым агрыгаце прыедзе?

— Сама павінна на трактары прыехаць... — усміхнуўся Ігнат, успомніўшы пра жонку.

— Вось жа, бач, дажыўся стары Адамчык: нявестка, якая павінна дзяцей нараджаць, гаспадарку весці, за мужам... — стары пачаў бурчаць, але сын перабіў яго.

— Перагаворана ўжо. Усё мяняецца, зразумей. Вось ты супраць арцелі ўвесь час, галота, кажаш, працаваць не хоча. А, глядзі, так, цяжка, але ж выжываем, не горш за іншых у раёне. Нават лепей, чым у Пуханцах, Хвойнішчах тых жа жывём. Сяго-таго ў плечы штурхаем — так, але ж робяць людзі. І на працадзень нямнога, а ўсё ж больш за суседзяў атрымліваем. Капейчына ў калгасе невялікая, але ёсць. Ну, цяжка, канешне, але ж па справядлівасці. А цяпер, калі такая тэхніка ў нашых руках, то, вядома ж, лягчэй будзе. Абяцаюць і электрычнасць хутка нам правесці. Можа, і да восені будзе. Ці ж гэта кепска, скажы?

— Ну, мо і так, твая праўда. Але ж, баюся, каб зноў з голаду не пухлі, як узімку трыццаць чацвёртага. Помніш, як людзі з Украіны да нас прыходзілі? Жанчыну мы як накармілі, так і засталася на лаўцы мёртвай сядзець... — не здаваўся бацька.

— Тата, годзе ўжо тое ўспамінаць. Мінулася ж. Во, зіму амаль перажылі, і жывёла грамадская не галадала, хапіла кармоў, а вясна на парозе, ды і 39-ы год ужо, а ты — што пяць гадоў назад было... Галоўнае, адсеяцца цяпер як след. Ды каб з ураджаем добрым быць...

— Галоўнае, сынок, жыць па-людску, есці каб было што тваім дзецям. Каб не мы з маці, то… А ў калгасе многія твае арцельцы, асабліва шматдзетныя, не надта разгавеюцца, ці табе не ведаць, нават бульбіне лішняй рады.

— Мы іх падтрымаем, абавязкова падтрымаем, на тое ж і калектыўная гаспадарка ў нас. Праўленне падтрымае.

— Глядзі, сын, на цябе многія спадзяюцца. Але... — нібы хацеў аб нечым папярэдзіць бацька, уважліва зазірнуў Ігнату ў вочы: — Ёсцека і тыя, што не з дабром глядзяць... Нікуды не падзеліся, чуеш, сыне, злыдні. Нікуды. Стаіліся, чакаюць. Думаюць, мо што вернецца, вайной хто пойдзе...

— Пра што ты, тата? — здзівіўся сын.

— Забыў ужо? Вунь Мірончыка толькі ж пахавалі. Якая ўлада ў яго была! Раённая, але і яго прыбралі…

— Ну, і што?

— Кумекай, галава: ты цяпер таксама ўлада. Пажар, смерць Іллі — не проста так, а Зміцера Аксерчыка, не іначай, работа. Ці іншых, такіх... Іх вельмі моцна пакрыўдзілі. Тут яны недзе, бандзюкі, на прыкорме ў кагосьці. Калі ўцяклі з Расіі, з Сіберы, няма ў іх іншай дарогі, як вакол Бечына кругляць. Кажуць, у Польшчу збягаюць, калі тут нашкодзяць. Веры таму не бяры: тут яны недзе. Нешта яны чуюць. Каб і праўда якой вайны не было. І табе, кажу, не трэба сляпым быць, да людзей прыглядацца ды прыкмячаць сёе-тое… — стары Адамчык прамовіў апошнія словы зусім ціха, каб не пачула жонка.

Хударлявая Агапка тым часам няспешна падышла да калёс, лоўка ўселася ззаду на мяккае сена, якое раней падрыхтаваў муж. І, паглядзеўшы на мужчын, сказала крыху ўтомлена:

— Едзем мо, Сцяпанка. Дома яшчэ не палена. А ты, сыне, ідзі да дзяцей. Нінка дужа без маткі нудзіцца...

Старыя паехалі, а Ігнат яшчэ доўга стаяў на падворку і глядзеў ім услед. Словы бацькі яго ўзрушылі: бандыты недзе побач, і ён гэта ведае.

Вось і не вер старому хутаранцу, згадваў-такі яго добрым словам сын ужо раніцай. Якраз заружовілася неба, вецер разагнаў па ім бухматыя хмары, і адразу залаціста-чырвонае сонца рашуча абрушыла сваё запозненае цяпло на зямлю. Наваколле ўвачавідкі прагравалася, глеба парыла, хутка выдаляючы з сябе лішнюю вільгаць. Прыйшло ратаванне ад залевы, вясна нібы абвалілася на зямлю, і гэта дужа ўзрадавала бечынцаў.

Яны, як мурашы, шчыравалі з рання і да змяркання на канюшні і ферме, вывозячы адтуль на палеткі гной.

У гэтую запозненую вясну вяскоўцы, як ніколі, спяшаліся: зямля ўвачавідкі падсыхала, глядзіш, неўзабаве трэба будзе сеяць.

У адзін з такіх дзён Верка прыгнала ў Бечын трактар. Калгаснікі якраз былі на палетку за вёскай, на якім збіраліся пасеяць проса, як пачулі дзіўны шум-трэск з боку Бечынскай Рудні. Спачатку ён быў ледзьве ўлоўны, а потым

усё нарастаў і нарастаў. І першая — што гэта такое, здагадалася Аўдзейчыкава Нюрка.

— Бабы, то ж, мабыць, трактарыстачка наша едзе, — сказала яна, і, абапершыся на вілы, якімі раскідвала гной, прыслухалася.

Сяброўка Веркі даўно была замужам за Аўдзейчыкам. Яшчэ некалькі гадоў таму хто мог бы сказаць, што п'яніца і абібок Мікола Аўдзейчык у яе руках стане чалавекам?! Ён цяпер працаваў конюхам, шкадаваў сваю Нюрку, і яны разам гадавалі траіх дзетак.

Рудавалосы, а ад працы і сённяшняга залішняга цяпла чырванашчокі, ён, Нюрчын муж, якраз прывёз з канюшні гной, скідаў яго ў кучкі, а жанчыны ішлі следам і раскідалі па баках.

— Дальбог, яна едзе, не хлушу, людцы! — Нюрка адставіла вілы ўбок. — Верка, а хто ж! Цяпер, бабы, зажывём!

Як толькі трактар выехаў з лесу, Верка ўбачыла людзей, якія стаялі на полі і глядзелі туды, адкуль яна ехала. Наблізілася, скіравала на поле, да іх, сваіх землякоў, якіх даўно не бачыла. А калі пад'ехала, спыніла свой новенькі «Сталінец-65», якога ў раёне яшчэ не было ў нікога...

Здаецца, не паспела яна павітацца з тымі, хто быў тут, а ўжо на палетак збегліся і старыя, і малыя. Хто вохкаў, хто божкаў, хто баяўся. Асабліва дзіўна паводзілі сябе дзве старыя кабеты Грыпіна і Матруна, якія ўслед за дзятвой прыдыбалі з вёскі. Яны баяліся нават наблізіцца да трактара, называлі яго нячыстай сілай, чым вельмі смяшылі трактарыстку. А яна абдымалася з жанкамі, цікавілася ўсім, што адбывалася тут, без яе, за такую доўгую зіму.

Некаторыя з бояззю і недаверам абыходзілі стальную машыну, баяліся дакрануцца да яе, дзівіліся, адкуль бярэцца сіла, каб араць зямлю. А калі Верка запусціла рухавік, каб паказаць новы трактар у працы, на вачах ва ўсіх адрэгулявала стальны плуг, і, пусціўшы шлейф дыму, рызыкнула прайсці першую баразну, вяскоўцы ўцякалі з поля хто куды. Не баяліся толькі дзеці. А трактар ішоў наперад, пакідаючы пасля сябе акуратную свежую баразну.

— Ета нейкае дзіва... — вохкаў Аўдзейчык, які бег разам з дзецьмі за трактарам і пытаў: — Верка, чаму так няспраўядліва? Мая кабыла Лысуха прорву сена з'ядае, а твой конь не просіць і есці.

— Так, Мікола, трактар сена нават і нюхаць не хоча, — шчасліва смяялася Верка, першая арцельная трактарыстка.

Калі яна зрабіла круг, вярнулася назад, да дарогі, заглушыла трактар, то ўбачыла, як людзі craналі рукамі ўзараную зямлю, і здзіўляліся: «Гэтага не можа быць! Туды і сюды Адамчыкава як вецер абярнулася, а які кавалак зямлі ўзарала!»

Але ж Верчыны думкі зараз былі пра іншае. Яна ўглядалася, калі ж на полі з'явіцца новае калгаснае начальства. Толькі ж ні яго, ні нават партыйнага кіраўніка Вераб'я, ні старшыні сельсавета Салавейчыка чамусьці не было, хоць ведалі, што яна сёння павінна прыехаць: ніхто не мог сказаць, куды яны падзеліся.

Каля трактарысткі круцілася Нюрка, яна шчабятала і шчабятала ёй пра сваё, жаночае. Ды ад Нюркі не схавалася, што схаваць жанчынам цяжка, і тут жа шапнула Верцы на вуха:

— Бачу, падабрэла ты, сяброўка, на гарадскіх харчах. Ці тут нешта іншае, прызнавайся!

— Ага, ад цябе схаваеш, дужа ж пільная аднак! — чамусьці пачырванела, і тым пацвердзіла здагадкі Аўдзейчыкавай Нюркі Верка. — Ігната бачыла? Не ведаеш, як мае там?

— Ды ўсё добра, не хвалюйся. Агапка ж, ажно зайздрошчу табе, святая свякруха, дзеці за ёй, як у Бога за пазухай! Нінку бачыла — падрасла, вялікая зусім. На цябе падобная, усе кропелькі пабрала, Ігнатаву пароду ты зноў пераборала, — адказала весела сяброўка.

— А твае як? Мікола не крыўдзіць? — пацікавілася Верка, угледзеўшы, як задаволена паглядае на сваю маладзіцу Аўдзейчык.

— Ой, цяпер ён зусім не той чалавек, якім быў, перамяніўся. Дзяцей любіць, робіць вунь, як вол. Цьфу-цьфу, каб не сурочыць. Усё добра, Верка. А твой жа герой, ужо ж калгасам кіруе. Ведаеш жа. Ох, і няпроста яму, схуднеў, скура ды косці, аж шкада мужыка. Усё гэтая непагадзь праклятая. Ліло нібы з вядра. Але вось наладзілася, здаецца. Ды адкорміш яго ты хутка — як жа гэта яму без жонкі было. Цяжка... — спагадала Ігнату жончына сяброўка. І раптам паведаміла тое, аб чым шапталіся праўленцы, а яна выпадкова падслухала ранкам:

— Казалі, нібыта, што яму трошкі перапала з раёна, а яшчэ, як на ліха тое, нейкая камісія днямі прыедзе. Упаўнаважаныя па сяўбе. Але што ён, небарака, мог зрабіць у такую макрэчу? Неба абвалілася, лічы... Ды разбяруцца, не бяры, сяброўка, хоць ты да галавы, там не дурні — мы ж працуем. Ужо авёс пасеялі ўвесь, учора закончылі. А цяпер яшчэ хутчэй пойдзе справа — свая трактарыстка ў нас, да мая, як усё добра будзе, адсеемся.

Пачутае ўсхвалявала Верку. Згадала: сон кепскі сёння сніла, нібыта Ігната ўсю ноч шукала і не знаходзіла, а потым з першымі пеўнямі знайшла, усяго ў крыві, аслабелага. І пашкадавала: ох, не ў час ты, Ігнатка, даў згоду на такую работу, ці не лепей было б, як раней, брыгадзірам, а то і проста, як людзі, працаваць.

А бечынцы не бачылі перамен у яе настроі, радаваліся гэтаму дню, як вялікаму святу. Многія ў той дзень зразумелі: іх жыццё, нарэшце, будзе паляпшацца. І толькі адну Верку чамусьці ні на хвіліну не пакідала нейкае трывожнае прадчуванне, хацелася неадкладна пабачыць і абняць мужа. Развітаўшыся з Нюркай і людзьмі, яна завяла трактар і накіравалася ў вёску.

Верка спяшалася хутчэй пабачыць мужа. Яна спачувала яму, перажывала за яго нечаканае старшынёўства. Ёй хутчэй хацелася ўбачыць дзяцей, Ваню і Нінку, яна з горада прывезла гасцінцы: новая пуханцоўская сяброўка Ганна Аліфяровіч купіла яе дзеткам у скупой гандляркі на пасялковым рынку па салодкім пеўніку, а маці — Ваню штонікі, а Нінцы сукеначку.

### 3

А тым часам у калгаснай канторы вялося следства.

...Яшчэ надосвітку, калі Ігнат Адамчык падпаліў у печы, на парозе яго хаты з'явіўся брыгадзір шостай брыгады Іван Асіпенка. Яму было амаль шэсцьдзясят гадоў, але выглядаў ён значна маладзейшым: падцягнуты, заўсёды ўпэўнены ў сабе, вопытны, з ім Ігнат часам раіўся як са старэйшым таварышам і брыгадзірам. Цяпер перад Адамчыкам стаяў зусім разгублены чалавек, надта ўзрушаны, і, як падалося, вельмі спалоханы, які нават не павітаўся, увайшоўшы ў хату.

Уважліва паглядзеўшы на Асіпенку, Ігнат зразумеў, што здарылася нешта надзвычайнае.

— Сцяпанавіч, бяда. Не даглядзеў я... Забяруць мяне, не міну турмы... — вымавіў Асіпенка.

— Што, канец свету?

— Так, Ігнатка, канец, праўда, канец... Склад брыгадны, лічы, пусты амаль. Многа проса скралі, — брыгадзір быў у роспачы. — Столькі часу было ціха, а тут… не, нашы людзі, нашы людзі не маглі.

— Ну?!.

Асіпенка надта хваляваўся, але пачаў.

— У нас жа, ты ведаеш, у складзе, што за старым садам, проса засталося. Дзве тоны дзвесце пятнаццаць кіло. Ды жыта паўтоны на ўліку засталося. На насенне ж берaглі. Вартаўнік мой, дзед Алесь Макарэвіч, у тры ночы прыбягае, белы, нібы смерць: «Іванка, зладзеі ад балотца, з боку возера прыйшлі, падкапаліся пад склад...» А там, ты ж ведаеш, Ігнат, падлога высокая спецыяльна так зроблена, больш чым на паўметра ад зямлі, ну, каб вясной не замачыла насенне. Дык туды злодзеі ўлезлі, адтуліны ў падлозе прасвідравалі і такім чынам паціху проса незаўважна кралі. Набяруць мех, і з канцамі...

— Але, вартаўнічок... А вы што, у склад даўно заходзілі? Чэркас жа вам яшчэ ў тым месяцы казаў: берагчы, як зрэнку вока, няўжо не заўважылі, што проса меней становіцца.

— Не, не бачыў. Зайду, здаецца, так усё і было. Дык гэта... Пад ранак дзед пачуў нейкі шорах у складзе. Абышоў знадворку, нікога няма. Замкі на месцы. Ціха. Тады схітраваў Макарэвіч: нібы сам сабе буркнуў, але так, каб, калі ёсць хто, пачуў, што яму трэба схадзіць дахаты, бярозавіку глытнуць. І нібыта пайшоў, пакашліваючы ад склада. Але сцішыўся за вуглом, чакаў, што будзе...

— Ну, спаймаў-такі? — нецярпліва дапытваўся Адамчык.

— Чакай... Ужо трохі пасвятлела. Раптам бачыць: нехта ідзе сюды ад саду. Падышоў, агледзеўся. Потым адкінуў голле каля самага склада, укленчыўся, выцягвае з ямы адзін мех, а потым другі. А ў складзе зноў чуваць шорах, затым хрыплаваты голас: «Усё ціха?» Той, што знадворку быў — Алесь разгледзеў яго, худы, высокі, з барадой, — адказаў: «Ціха. Вылазь, Змітро. Пайшоў стары дадому...» Сказаў, падаў руку і дапамог вылезці свайму Змітраку. Калі яны сталі прыкідваць яму голлем, там жа, ведаеш, былы панскі сад, і нядаўна абрэзвалі галіны ды так і пакінулі, ды ўскінулі на плечы мяхі, дзед Алесь, абышоўшы склад з другога боку, наставіў на іх сваю дубальтоўку ды як гаркнуў: «Рукі ўверх! Страляць буду!»

«Я табе, падла старая, падніму!» Не паспеў дзед азірнуцца, як барадаты, нечым, хутчэй за ўсё абрэзам, стукнуў яго па галаве. Макарэвіч як стаяў ля сцяны, так і абвяў. Тыя кінуліся ўцякаць.

— Хоць жывы дзед? — спалохаўся не на жарт Ігнат.

— Жывы. Кажа, галава толькі баліць. Дубальтоўку злодзеі забралі. Ачомаўся сяк-так, да мяне прыцёгся... Пайшлі разам у склад. А там — варонкі добрыя ўжо ва ўсім складзе, многа ж нелюдзі проса скралі. Хто ж гэта толькі такі? Забіць мала... — ледзь не плакаў брыгадзір, чакаючы спагады ад Адамчыка.

А той доўга маўчаў. Нарэшце, прамовіў:

— Пабудзьце, дзядзька, у мяне ў хаце. Печ гарыць, дзеці адны. У кантору збегаю, у міліцыю трэба паведаміць. З гэтым крадзяжом, думаю, не ўсё так проста. Вярнуся, пойдзеце дадому. Як прыедзе міліцыя, з камісіяй пераважце ўсё проса. Акт складзіце, колькі скрадзена. Пра астатняе пасля пагаворым.

Цяпер, калі следчы, а гэта быў знаёмы Ігнату Андрэй Коршак, дапытваў па чарзе то Асіпенку, то старога Макарэвіча і пісаў пратакол, Ігнат думаў, што лоўка ўдумалі злачынцы: па проса хадзілі не раз і не два. Адтуліны ў падлозе свідравалі ў розных месцах, зерне паціху ссыпалася праз іх адразу ў мех. Набраўшы колькі хацелі, затыкалі знізу калком ці анучкай адтуліны. І брыгадзір, хоць і правяраў склад, нічога не мог заўважыць, што таго зерня становіцца меней.

І вось перад ім акт, які склала камісія — проса не хапае роўна 412 кілаграмаў. Адамчык разумеў, што дабром гэта не скончыцца і для яго як намесніка старшыні. Горш за ўсё, калі Коршак дасць справе ход, а ён, зразумела, не мае права ўтаіць праўду, ды і не пойдзе на гэта, і абодвух, брыгадзіра Асіпенку і старога вартаўніка Макарэвіча, асудзяць.

Зараз у Ігнаце змагаліся два чалавекі, якія супрацьпастаўлялі сябе адзін аднаму. Адзін, проста Ігнат Адамчык, такі як і ўсе, звычайны бечынец. Другі — толькі што выбраны намеснік старшыні і часова выконваючы абавязкі старшыні калгаса «2-я пяцігодка». Першы апраўдваў, як мог, сваіх землякоў: якая ж тут іхняя віна? Хто ведаў, што злодзеі прыдумаюць такі хітры спосаб крадзяжу проса, калгаснай маёмасці? Другі спрачаўся з першым: а сеяць як, таварыш намеснік? Дзе ўзяць гэтыя 412 кілаграмаў проса? Гэта ж лепшае насенне. Як засеяць патрэбную плошчу тым, што засталося? Усё на сяўбе запланавана раёнам. Хто дазволіць не выканаць план?

І так усё ідзе няладна з самага першага дня, як ён стаў намеснікам старшыні. Запозненая, мокрая вясна, а цяпер яшчэ і гэтая бяда. Хай бы тая камісія, калі на тое, яго вызваліла ад гэтага намесніцтва: не спраўляецца ж ён, кожны скажа! Не атрымліваецца ў яго кіраваць. Вось і гэты крадзеж, нібы спецыяльна ўсё зроблена, каб яго аддалі пад суд, так хітра спланавана. А вынік адзін: прагледзеў брыгадзір, прагледзеў і ён, Ігнат Адамчык — хто там будзе асабліва разбірацца, што ён ніколі і не быў на тым складзе, бо гэта далёкая шостая брыгада? Спытаюць, а як жа: чаму ж за гэтыя колькі тыдняў, як кіруеш калгасам, не дапяўся туды? Значыць, вінаваты! Ат, ён адкажа за ўсё: галоўнае зараз, каб не пацярпелі людзі…

## 4

— Дык, кажаце, барадаты высокі мужык, укленчыў перад ямкай, называў імя таго, хто быў у складзе? Вы добра чулі? — Коршак уважліва ўглядаўся Макарэвічу ў твар.

— Так, Змітром ці Зміцерам яго назваў. Не прыдумаў, вось табе хрэст, сынку... — рукі ў старога дзеда Алеся трэсліся, а лоб узмакрэў.

— А раней вы нічога не западозрылі, калі аглядалі склад, тэрыторыю вакол яго? Чаму не заўважылі, што тут з’явілася галлё, і пад ім нехта зрабіў падкоп?

Следчы, адчувалася, стаміўся весці гэты нудны допыт, але ў яго не было выйсця: яму, зразумела, трэба ведаць усё да дробязей, ад іх, як падказвае яго пакуль хоць і невялікая следчая практыка, залежыць многае, калі не ўсё. Хаця карціна здарэння Коршаку збольшага была яснай: сам бачыў той падкоп, добра замаскіраваны і закіданы галлём: не заўважыш ніколі.

— Ды яшчэ мінулай зімой сад абрэзвалі. Голля было шмат. А сюды, бліжэй да склада, звезлі, каб трохі прасохла, а потым думалі ўсё перавезці да лаг-

чыны і там спаліць. Ды забыліся, мабыць, іншая работа з'явілася, — даводзіў стары, амаль тымі ж словамі, што да гэтага і брыгадзір Іван Асіпенка.

— Так, дзед... — запісаў яго апошнія словы ў пратаколе Коршак, і працягнуў старому паперку. — Тут вось, распішыся.

— Дык я гэто, сынку, няграматны, — спалохаўся вартаўнік.

— Ну, крыжык пастаў, калі не ўмееш. Трэба так... уласнаручна, — следчы тыцнуў пальцам у паперу, дзе Макарэвіч павінен быў распісацца.

Як толькі дрыготкімі рукамі дзед, нарэшце, паставіў крыжык, Коршак цяжка ўздыхнуў і схаваў паперкі ў скураны паношаны цёмна-карычневы планшэт, які заўсёды вазіў з сабою. Гэты планшэт надаваў яму выгляд начальніка, адказнага чалавека.

Следчы падумаў з хвіліну, а потым суха прамовіў:

— Пакуль так. Можаце з брыгадзірам вяртацца дадому.

— Дзякуй, дзеткі. Хай вам Бог здароўечка прыбаўляе, — узрадаваўся дзед, і, усхапіўшыся, падаўся да дзвярэй.

— І табе, стары, не хварэць, — праводзячы вачыма старога, сумна прамовіў Коршак. — Хаця ж, наўрад ці выжывеш ты, дзед, у турме.

Гэтыя яго словы, зачыніўшы за сабою дзверы, стары ўжо не пачуў. А Ігнат ажно падскочыў з табурэткі, чым спалохаў Коршака.

— Вы што? Збіраецеся іх арыштаваць? — сказаў Ігнат. — Я хоць тут новы кіраўнік, але, думаю, гэта няправільна.

— Вось як, таварыш Адамчык? Кажаце, няправільна?! — Коршак здзівіўся такой нечаканай заяве намесніка старшыні, свайго амаль равесніка. — Вы — партыйны?

— Пакуль не... Але ў камсамоле даўно. Але ж да чаго гэта? — здзівіўся Ігнат.

— Не ўсё, бачу, разумееце, што на самай справе адбываецца... Ды раней за кілаграм збожжа — да сценкі. А тут такая безадказнасць — 412 кілаграмаў скрадзена. Гэта ж падрыў калгаснага будаўніцтва. За гэта можа быць і вышэйшая мера. Наш народ яшчэ ўволю не наеўся, і арцельныя вашы таксама многія галадаюць. Больш чым пераканаdebug: з-за ўласнай нядбайнасці, злоснага невыканання ўскладзеных на іх абавязкаў, Асіпенка і Макарэвіч пасобнічалі злодзеям. Ды не проста злодзеям, а класавым ворагам нашага народа, якіх цяпер не каму-небудзь, а міліцыі трэба лавіць. Вобыскі будзем рабіць ва ўсіх хатах, на хутарах, хаця яны не дурні, схрон, відаць, маюць някепскі. Думаю, праз дзень-другі брыгадзіра і вартаўніка забяром.

Следчага пераканаць было цяжка. Але Ігнат быў катэгарычна не згодны з ім, заступаўся за сваіх арцельных.

— Пачакайце, але ж хіба яны... скралі? Яны сведкі. Не больш таго. Ды не паверу, што нехта з нашых, калгаснікаў, краў тое проса. А калі гэта тыя бандзюкі, што з Котласа ўцяклі? Я ж чуў усё... Казаў вартаўнік: Змітро, дык Зміцер, Аскерка. Ці вам пра гэтага гада не вядома? У нас тут пагалоска ідзе, што і Міронча гэты гад з сябрукамі звёў.

## 5

Адамчык не знаходзіў сабе месца, узрушаны хадзіў па пакоі. Ён лічыў несправядлівым, калі асудзяць вартаўніка і брыгадзіра — так, вінаватыя, але ж не настолькі, каб іх забіраць у турму.

— А калі знайсці спосаб, каб яны не пацярпелі... занадта? У Асіпенкі шасцёра дзяцей. Старэйшы таксама ў калгасе працуе, бацьку хоць сёння можа

замяніць як брыгадзір, толькі нядаўна ажаніўся, дзіця будзе, а малодшаму ўсяго дзесяць гадоў. А стары Макарэвіч, што з яго возьмеш, ён жа ў турме, сапраўды памрэ, — казаў Ігнат Коршаку.

— Што сказаць, Ігнат... Можна проста, без фармальнасцяў? На ты. Мы ж амаль пагодкі, — прагаварыў следчы. — Не я тут вырашаю. Зразумей. Нада мной ёсць каму прымаць такія рашэнні. Толькі шчыра, па-чалавечы, скажу табе: мне іх таксама шкада. Але ўпэўнены: усё будзе расцэнена як шкодніцтва. І нічога іх, павер, не выратуе.

— Нават, калі ўся арцель падпішацца, самому Сталіну ліст адправім? — ужо ціха сказаў Адамчык, дапытліва гледзячы ў вочы Коршаку.

— Ну, як табе сказаць... Можа, якая карысць ад гэтага і будзе, хаця... Вялікая страта, урон, яшчэ раз кажу, а яны, як ні круці, не даглядзелі. У трыццаць сёмым — не за 25 пудоў, за пуд, за кіло жыта, за тры каласкі да сценкі ставілі, што мне табе казаць, ведаеш. Глядзі, каб і па табе яшчэ не прайшліся. Могуць зняць, а могуць і пасадзіць.

— Ды я за пасаду і не трымаюся надта. А пасадзіць за што? Я ж і месяца не пакіраваў, і на табе — нарабіўся. То залівала ўсё — неба як абвалілася — нікуды не ўзлезці, са спазненнем работу распачалі, то… Словам, гвалт такі паднялі ў раёне, што нібыта іду супраць палітыкі партыі. А ты ўлезь на поле, якое яно ў нас. Балота! Добра, што ўсё ж хоць і не хутка, падсушыла, сышла вада. Ды што там? Усё адно! Днямі ўпаўнаважаныя будуць, камісія. Мо і вызваляць. То няхай бы ўжо хутчэй. Тады ў брыгаду назад, калі не туды. Хаця, як будзе, так і будзе.— Ігнат вярнуўся за свой рабочы стол, дастаў папяросу і нервова закурыў. Пасля яшчэ раз пакратаў ненавісны акт аб недастачы. — Неяк жа будзе?

— Цябе, усё ж, думаю, пакуль не зачэпяць, — Коршаку напорысты намеснік старшыні яўна падабаўся. Ён падсунуў табурэт да стала, за якім стаяў Адамчык і разгублена перачытваў дакумент, і нечакана падтрымаў, чым вельмі здзівіў Ігната. — Нікіценка цябе, чуў, хваліць. Тэмпы ж падраслі, іншых даганяеш. Хто ж не ведае, што Бечын на прыбалатках стаіць, у нізіне? Тут заўсёды вада. Нікуды не дзенешся. Так што не бойся, таварыш, спі спакойна.

Коршак усміхнуўся, сустрэўшыся са здзіўленым позіркам Ігната.

— План пасеваў, канешне, не паменшаць. З просам трэба неяк, браце, выкручвацца. З раёна цяпер не дадуць, — у голасе Коршака гучала спачуванне.

— Ды вось, каб на яго ліха, кручу ў руках гэты акт, калі раскінуць на арцельных, то па кілаграме з хвосцікам на сям'ю выходзіць, — быццам не столькі Коршаку, колькі сабе прамовіў Ігнат. — А на працадні восенню давалі не больш як пуд на работніка. Думаю, людзі зразумеюць, калі іх прасіць, можа, і збяром насенне. А калі зрабіць гэтак, слухай... Стары і Асіпенка напішуць заявы, што яны здаюць у калгас страчанае па іх віне. Гэта выратуе іх?

— Малайчына, вось што скажу. Любіш ты людзей, — следчы крыху падумаў, а потым сказаў: — Думаю, гэта дапаможа. Але ад суда іх наўрад адвядзеш. Хаця ўсё можа быць. І будзе паслабленне. Гавары з людзьмі. Хто ведае, як потым усё павернецца?

Нечакана з вуліцы пачуўся шум матора трактара. Ігнат кінуўся да акна. Туды ж падышоў і следчы.

— Ну, во. Празяваў! Мая Верка прыехала, — прамовіў Ігнат.

— Ого! Я і не ведаў, што твая жонка — трактарыстка, — усміхнуся Коршак. І раптам замаўчаў, нешта ўспамінаў. — Чакай, дык я ж памятаю яе. Гэта

ж у вас, у трыццаць другім, здаецца, забралі пасынка Іллі Мірончака, дзіця сястры тваёй жонкі? Гэта сястра згарэла, разам з тым бандытам Лейбам?

— Прапала дзіця. Верка каторы год не можа супакоіцца, ніяк не даруе Іллі, што ён слова, якое даў, не стрымаў.

Гэта здарылася нібыта ўчора, хоць прайшло ўжо шмат гадоў. І Коршак узгадаў усё. Ніколі яму не забыць збалелыя вочы Ігнатавай жонкі, якая, бяссільная і хворая, аддавала следчаму Лазоўскаму самае дарогое, што засталося ў яе ад сястры-нябожчыцы — яе сына. Не забыць, як горка плакала ў закутку старая жанчына і не хавалі слёз нават мужчыны — стары і малады Адамчыкі.

На ўсё жыццё ён запомніў тую віхурна-заснежаную дарогу з Бечына ў раён, калі побач з ім сутаргава ў плачы заходзілася дзіця, не разумеючы, навошта і куды вязуць яго ў возе гэтыя чужыя людзі… Балела ад гэтага плачу ў Коршака сэрца, бо ён, міліцыянер, нічым не мог яму дапамагчы. Коршак выдатна разумеў, што Калатовіч, начальнік міліцыі, не стрымаў слова, якое даў Мірончыку, сказаўшы, што дзіця ягонай жонкі-нябожчыцы Зіны застанецца з цёткай. Але што з таго разумення?!.

Прыехаўшы ў міткавіцкую міліцыю, два канвойныя адразу павялі Рыгора Расевіча на допыт, а следчы Лазоўскі загадаў Коршаку, каб той да асобага распараджэння пабыў у калідоры з сынам раскулачанага кулака і бандыта.

Тут, у будынку міліцыі, хлопчык спуджана паглядаў на людзей у міліцэйскай форме, і толькі цяпер крыху супакоіўся. І вось з’явіўся Калатовіч, выйшаў да іх у калідор са свайго кабінета.

— Гэта сын бандыта Лейбы? — прамовіў ён, паглядаючы на дзіця. Збялелы Калатовічаў твар палохаў і малога, і Коршака, а яркая, нібы кроў, падобная на курынае яйка пляма на шыі, якая, нібы адкрытая рана, і, здавалася, вось-вось пырсне яму, радавому міліцыянеру Коршаку, чорнаю крывёю ў твар, ажно прымусіла Коршака затрэсціся. — Далажыце, як прайшло ў Адамчыкаў?

— Мірна. Праўда, не без слёз. Яны спадзяюцца, што дзіця ім вернуць, хіба яно за такога бацьку павінна пацярпець? І Мірончык… — хвалюючыся, сцішаным голасам паведаміў Коршак, які баяўся начальніка міліцыі, як агню.

— Гэта не ваш з Мірончыкам клопат. Малога пакіньце ў дзяржурнага, за ім хутка прыйдуць. Дзякую за паспяховае выкананне задання! — сказаў Калатовіч, вочы якога бліснулі злосцю, а ў той самы час вусны ўсміхнуліся.

— Служу працоўнаму народу!

Коршак успомніў злыдня-Калатовіча, Расевіча і Мірончыкавага пасынка, і яму стала не па сабе — даўні ўспамін зусім зблытаў яго думкі. І, хоць разумеў, што гэта не па-бальшавіцку, ён усё ж па-чалавечы шкадаваў Мірончыка і сястру яго жонкі-нябожчыцы, Верку Адамчыкаву. Але ж ён і сам мог застацца на службе тады, калі толькі выканае загад: злавіўшы хлопца з Бярэзнага і прывезці дзіця кулака…

— Ігнат, павер, не ён, Ілля Сідаравіч, прымаў тое рашэнне. Ад яго гэта не залежала. Гэта Калатовіч, на яго сумленні. Хай не думае пра Мірончыка кепска, скажы так жонцы. Ілля сапраўдны бальшавік быў. А ў вас свае дзеці ёсць?

— Двое. Сыну сем, дачцэ чатыры, — сказаў Адамчык і пільна глядзеў на вуліцу, чакаючы, калі трактар наблізіцца да канторы, каб пайсці сустрэць сваю Верку.

Ён не здагадваўся, пра што думаў у гэты час следчы. А Коршак ад сваіх нечаканых успамінаў нават пачырванеў. Ён думаў якраз пра хлопца, уцекача, Рыгора Расевіча, які двойчы, так сталася, змог збегчы ад яго. Апошні раз

Андрэй Коршак згараў ад сораму: так абхітрыў яго Расевіч, хаця гэтага ніхто не бачыў...

Калі яны з Мірончыкам прыйшлі ў Грабаўцы і зайшлі ў хату цёткі Рыгора Расевіча, яшчэ з парога агледзеўшы яе, зразумелі, што тут нікога чужога няма. У хаце без перагародак басанож на халоднай падлозе ў палатнянай сарочцы перад імі стаяла разгубленая, яшчэ маладая, але вельмі худая жанчына, у яе вачах застыў страх. На прыпечку зырка гарэла лучына, а з печы, на іх, чужых, спалохана ўтаропіліся паўсонныя пяцёра дзецей.

— Цётка, прызнавайся, дзе хаваеш Расевіча? Пляменнікам жа даводзіцца… — Коршак з парога вырашыў адразу «ўзяць быка за рогі».

Толькі тая і вокам не павяла, але пачала хвалявацца, калі Мірончык заўважыў, што насечанай лучыны ля коміна было многа нарыхтавана.

Коршака вельмі ўзрушыла, калі жанчына нечакана загаласіла, а за ёю на печы, спалохаўшыся яе завыванняў, зарумзалі дзеці, і ўжо асабліва ўразіла, калі раптам каля маці з'явіўся хлопчык гадоў дзесяці і што было сілы са злосцю закрычаў на дарослых:

— Няма ў нас нікога і не было ніколі, як татка памёр! Ідзіце адсюль, пакіньце мамку і нас, дзядзькі!..

Арлуха, так, здаецца, звалі тую жанчыну, далёкую радню Расевічаў, як пачала нечакана галасіць, так нечакана і супакоілася, прыхіліўшы, відаць, старэйшага сына да сябе, ціха сказала: «Ціхенька, сыночак, дзядзькі і так бачаць, што ў нас нікога нямашака. Супакойся, дурненькі!..»

Чужым у гэтай беднай хацінцы нічога не заставалася, як пайсці прэч. Толькі Коршак у той момант не мог зразумець, чаму Мірончык ажно кіпеў ад злосці на яго. На вуліцы, дзе іх чакала суровая цемра, Мірончык шэптам загадаў Коршаку:

— У абход! За хату давай — баба не так сабе галасіла. Істопка! Расевіч, думаю, там!.. Я нараблю шуму ў дрывотні, калі што — ён пабяжыць за хату. Там жа ты яго, хлопча, бяры, ты ж — з вінтоўкай.

Коршак, нарэшце, скеміў, што задумаў кульгавы старшыня сельсавета, у думках пагадзіўся з ім, мо і сапраўды яго знаёмец-крыўдзіцель тут хаваецца. Аднак так сталася, што злосці на Расевіча, амаль равесніка, не было, у глыбіні душы юны Коршак і ворагам яго не лічыў: мог жа той яго забіць, калі намерыўся ўцячы з-пад варты, але — не забіў. Ды і калі раскулачвалі Расевіч ніякага ж супраціўлення не аказваў, не забіў нікога і няма за ім іншай віны, большай за тую, што ўцёк. Вось бацька яго — то праўда, страляў у міліцыянера, ну а ён — які ж вораг? Але ж быў загад. І Коршак павінен яго выканаць.

І цяпер, каб спаймаць Расевіча, ён, стомлены і намерзлы, вымушаны гібець на сіверным ветры, прабірацца праз намеценую гурбу снегу. І раптам, як толькі Коршак узлез на коўзкую ніжнюю жэрдку, сутыкнуўся з ім, Рыгорам Расевічам, тварам у твар і адразу ж адчуў моцны ўдар кулаком у плячо, не ўтрымаўся, і з крыкам «Стой, бандзюк, стой!..» спінай кульнуўся ў снег, выпусціўшы з рук вінтоўку: яе прыклад балюча ўдарыў па пераносіцы.

Коршак не сцярпеў, застагнаў ад вострага болю, які праця́ў не толькі твар, а, здаецца, усё цела, і адразу ж з носа хлынула ліпкая кроў.

Мацюкнуўшыся, праклінаючы ненавісную зіму, а таксама, што яму чарговы раз не шанцуе, ён хутка ўсхапіўся на ногі, намацаў у снезе вінтоўку і ўсляпую двойчы стрэліў у бок лесу. Позна! Расевіча і след прастыў.

Праз хвіліну, калі вылез з агародчыка, здагадаўся, што Мірончык моцна злаваўся на яго, і разумеў, што ў таго на тое права: няма яму, Коршаку, апраў-

дання, выпусціў, лічы, на вачах злачынцу. У роспачы толькі змог выціснуць з сябе, выціраючы снегам кроў, выдаючы жадаемае за праўду:

— Во, паслізнууся, калі пералазіў плот, ды — носам. Чорт, падалося, што нехта нібыта шыбануў да лесу. Але то, відаць, сабака ці воўк. Дарэмна патроны патраціў толькі…

Так, нібы гэта было ўчора: гарэла агнём перабітая пераносіца, і так страшэнна балела, што Коршак, здавалася, ад сораму не мог трываць гэты боль. У тое ж імгненне зразумеў: калі Міронччык раскажа Калатовічу, як усё было на самай справе, яго, Коршака, у міліцыі не пакінуць, лёс яго будзе не зайздросны — гэта ў самым лепшым выпадку. Калі ж не затрымаюць сына кулака, дык будзе яшчэ горш. Значна горш.

І толькі нябожчык Міронччык, той немалады і кульгавы чалавек, ведаў пра тое, як было.

Памятаў Коршак і тую шчаслівую для іх абодвух ноч у бечынскім сельсавеце, калі Расевіч здаўся. Сам прыйшоў. А потым, аднойчы ў турме, хутаранец адкрыў Коршаку, свайму крыўдзіцелю, таямніцу: яму, Расевічу, не страшна нават памерці. Ён моцна кахаў адну бедную дзяўчыну, але яго бацька вырашыў па-свойму: ажаніў на багатай ды нялюбай Ядзі Скрыпачовай. Нягледзячы на тое, што няшчасны той шлюб быў, Бог даў ім працяг на зямлі: дачушку. Калі ж на хутар прыйшлі чужыя людзі, каб раскулачыць Расевічаў, Рыгор намерыўся пайсці супраць бацькі, змяніць сваё жыццё, і сышоў прама з сенажаці, дзе начаваў, на далёкі хутар да каханай. Ад яе і пачуў, што дома ў Расевічаў — бяда: поўны двор міліцыі і сельсаветчыкаў, дабро апісваюць, у яго Ядзі ад спалоху роды пачаліся, а яго, як бандыта, шукаюць.

Рыгор не хаваў ад Коршака: не ведаў тады, што яму рабіць, але хацеў аднаго — хутчэй быць дома, са сваімі. Прыбег да хутара, узабраўся на сасну, дзе яшчэ малым часам хаваўся ад бацькавай папругі, і сачыў за несправядлівасцю, якая чынілася на іх двары. Бачыў, як Ілля Міронччык з Салавейчыкам забівалі дошкамі адрыну і пуню — яны тут былі цяпер гаспадарамі, як каля парога спалохана стаялі дзеці, як плакала сястра Ганька, якую некалі кахаў Ігнат Адамчык, як галасіла ў хаце маці, выйшаўшы з яе з абразом і невялікім хатулькам, як пасля за адрынай жонка Ядзя накінула пятлю на шыю…

Седзячы на сасне, ён што было сілы закрычаў, каб Ядзя не рабіла самагубства, і гэтым самым выкрыў сябе: у яго стрэліў адразу ж малады Емяльянчык, міліцыянер з Бечына, а пасля Коршак ахоўваў яго…

Так, Расевіч верыў, што выжыла і недзе ў Сібіры расце іхняя, яго і нялюбай жонкі, дачка: Ядзя ж па сваёй волі пайшла з жыцця, не пажадаўшы з’язджаць у чужы свет. А тут, у Бечыне, казаў тады Рыгор, застанецца ў яго сын. Ды толькі Расевіч не адкрыўся, хто маці дзіцяці, толькі сказаў, што маці сына — яго сапраўднае каханне, яго шчасце, якому не далі разгарэцца.

Цяпер, стоячы побач з Ігнатам Адамчыкам, супаставіўшы факты, Андрэй Коршак зразумеў для сябе многае…

## 6

У той жа дзень надвячоркам Ігнат Адамчык сабраў у клубе сход. Спачатку ён расказаў калгаснікам пра бягучыя задачы, пастаўленыя перад імі партыяй і дзяржавай, і як яны ў «2-й пяцігодцы» будуць завяршаць сёлетнюю няпростую і запозненую сяўбу. Пра камісію, якую абяцалі прыслаць з раёна, ён пра-

маўчаў. Пасля расказаў аб тым, што бяда ў шостай брыгадзе: укралі проса і тым самым нанеслі ўбытак арцелі.

На сходзе вінавата выглядалі Іван Асіпенка і стары Макарэвіч. Ігнат зараней папрасіў іх, каб узялі слова і распавялі калгаснікам, як усё здарылася. Тыя так і зрабілі, а потым павініліся, прызналі сваю віну, што не дагледзелі. І папрасіліся: хто колькі можа, дапамагчы сабраць 25 пудоў проса, каб вярнуць гаспадарцы, бо калі не адсеюцца на запланаваных плошчах, будзе вельмі кепска і ім, і калгасу.

Рашэння аднак сход не прымаў ніякага. Толькі Ігнат Адамчык і Іван Верабей сказалі людзям: няхай кожны зробіць так, як лічыць. Па сумленні. А каб абараніць сваіх землякоў, напісалі некалькі пісьмаў, іх падпісалі ўсе калгаснікі. На тым і скончылася. А назаўтра кладаўшчыца Ніна Пракопчык забегла ў кантору ў добрым настроі: прыняла ад бечынцаў 412 кілаграм проса, пры чым радня брыгадзіра і вартаўніка сабрала больш за 2 пуды. Так што можна сеяць...

Пра гэта Адамчык неадкладна далажыў Нікіценку і ў міліцыю: насенне на месцы, пакрылі недастачу. Людзі дапамагалі Асіпенку і Мікарэвічу, з дому прынеслі, лічы, апошняе. Аднак хутка бечынцы даведаліся, што дарэмна стараліся: надвячоркам абодвух арыштавалі і павезлі ў раён.

## 7

Стомленая за дзень Нюрка, вяртаючыся з поля, прыдумала, чым вечарам накорміць сваіх траіх дзяцей. Раніцай яна напякла бліноў, а ў абед яны пахлябалі пустую куццю, якую паставіла на дзень у печ. Ясна, умалолі той гаршчочак і не аблізнуліся нават.

У жанчыны моцна балелі натруджаныя рукі, і ў яе зусім не было сілы, а тут яшчэ клопат: што прыгатаваць, каб накарміць вечарам вялікую сям'ю? Ранкам яна адправіла свайго Аўдзейчыка здаць на склад апошняе проса, і ў куфары, дзе захоўвала, як і нябожчыца-маці, увесь свой скарб, цяпер і мышы няма чым пажывіцца. Дзякаваць богу, бульба ўрадзіла на агародзе каля хаты, гэта і было адзіным ратаваннем.

Калі яна прыйшла дахаты, заўважыла на стале збанок з кіслым малаком. Спытала ў дзяцей, адкуль ён тут з'явіўся. Аказалася, Верка пастаралася: яшчэ раніцай прынёс яе Ванька. Дзеці цэлы дзень паглядалі на збанок, але не дакрануліся, чакалі маці.

Удзячная сяброўцы, Нюрка прыдумала-такі: кінула ў печ некалькі паленцаў, а потым у прысаку напякла бульбы ў мундзірах. Смачны яе пах казытаў у носе малым дзецям. Але яны сядзелі ціха і мірна за сталом — слухалі старэйшага брата.

Андрэйку, першынцу Аўдзейчыкаў, споўнілася восем гадоў, ён хадзіў у бечынскую школу і ўжо навучыўся чытаць па складах. Ён сядзеў за сталом і нягучна чытаў раённую газету «Прымежны комунар».

Нюрка была занята сваім клопатам, але калі сын прачытаў загаловак кароткай заметкі, што была ўнізе першай старонкі: «Хітры крадзеж у арцелі «2-я пяцігодка» схамянулася, папрасіла сына чытаць гучней.

«...Хітрыя злодзеі, якія дагэтуль не злоўлены, з-за недастатковага кантролю з боку кіраўніцтва калгаса і злачыннай нябдайнасці асобных арцельных, а дакладна брыгадзіра А. і вартаўніка М., якія арыштаваны і змешчаны ў турму, зрабілі падкоп пад складское памяшканне, дзе захоў-

валася насеннае проса, і на працягу доўгага перыяду выкрадалі яго. Калі крадзеж быў выяўлены, высветлілася, што злодзеі такім хітрым спосабам вынеслі больш чым 25 пудоў проса, чым нанеслі значны ўрон і так небагатай арцелі. Грамадскасць патрабуе суровага пакарання вінаватых у крадзяжы. Хаця ж асобна прыцягнуць да адказнасці варта выконваючага абавязкі старшыні калгаса, нядаўна яшчэ брыгадзіра А., які хацеў розным спосабам выгарадзіць злачынцаў і раней патураў ім. Такія людзі не могуць кіраваць савецкімі людзьмі ў сучасны момант, іх дзеянні таксама трэба разглядаць як злачынныя...»

— Божа ж мой, што ж гэта такое пішуць? Гэта каб такое пра Ігната... — спалохалася не на жарт Нюрка. — А хто ж, сынок, такую няпраўду напісаў?

— Тут мама неяк дзіўна напісана...

— Ну?

— Тут пісана так — «Наш».

— Вош гэта пузатая, а не нейкі наш. Яўна благі чалавек тое пісаў. Толькі б ведаць, хто напаскудзіў гэтак? — уголас прамовіла раззлаваная жанчына.

— Мама, а хто такія гэтыя А., М. і зноў А.? — пацікавіўся хлопчык. — Яны што, усе кепскія?

— Не, сынок, гэта добрыя людзі. А вось гэты «Наш» — нягоднік. Але гэта, сынок, дарослая справа. Давайце лепш вячэраць...

— Ура, картоплі ў мандзілях! З кісляком, мамка! — заскакалі на лаве пяцігадовая Волька і трохгадовы Ілля.

Жанчына прынесла ў місцы з істопкі пяць невялікіх кіслых агуркоў, перамяшала лыжкай у жбанку вяршкі з кіслым малаком і наліла кожнаму па няпоўнай конаўцы, каб хапіла ўсім патроху. Дзеці галоднымі вачыма пазіралі на яго, але не дакрануліся, бо ведалі: пачынаць есці трэба, калі мама скажа. Яна дастала з печы бульбу, перад Андрэйкам паклала чатыры, а перад меншанькімі па тры. І цяпер дазволіла есці.

— Толькі, дзеткі, не спяшайцеся...

Нюрка шчаслівa назірала, як дзеці смакавалі бульбу, запіваючы кісляком, і думала, што бульбы хопіць да новага ўраджаю, а вось круп і мукі не засталося. Успомніла пра сход, які быў надоечы. Адамчык сказаў прама: «Цяжка ўсім, асабліва сем'ям, у якіх дзеці. Але арцель ім дапаможа. Не ўсім адразу, а паціху, пры патрэбе: прыходзьце, пішыце заяву, праўленне па кожнай сям'і будзе прымаць асобнае рашэнне. Не крыўдуйце, калі канторскія прыйдуць у хату, каб пераканацца, што ўсё закончылася. На складах ёсць трохі і жыта, трохі грэчкі, і пшаніца ды бульба ў буртах яшчэ нечапаная. Выжывем...»

«Во гэта чалавек, — думала Нюрка. — Не тое што нябожчык Гаўрыльчык, былы старшыня арцелі ніколі не дапапамог, толькі адна гаворка была ў яго: а скуль я табе вазьму? Усе ж недаядаюць! Не бачыш, колькі галодных з Украіны прыходзіць? Цяжкі час...»

І зноў успомніла пра заметку ў газеце, пашкадавала Верку: «Цяжка ёй, гаруе маладзіца, а цяпер і за Ігната хвалявацца трэба? Каб з ім чаго кепскага не зрабілі. А Верцы ж зараз спакой трэба, дзіця пад сэрцам носіць!»

Накарміўшы дзяцей, Нюра адправіла іх спаць. Сама ж чакала Міколу, які сёння чамусьці вельмі доўга парадкаваўся на канюшні. З усмешкай і радасцю падумала: хто б сказаў, што з такога п'янтоса будзе такі добры чалавек і бацька? Клопату ў мужа, ведала, нямала, асабліва вясной, і яна шкадавала яго.

## 8

У прасторнай канюшні, якую пабудавалі пазамінулай восенню, па рашэнні праўлення аратыя і возчыкі пакідалі нанач калёсы і вупраж, плугі і бароны. За ўсю гэтую маёмасць адказвалі двое: сам Мікола Аўдзейчык і яго нядаўні памочнік Андрон Супчык.

Мікола з дзяцінства вадзіўся з Андронам, раслі яны побач, двор у двор, суседзі, і гадаваліся як браты-пагодкі. Толькі адно, за што не ўзлюбілі іх вяскоўцы — рана распазналі атрутны смак самагонкі. П’яныя дурнелі, да кожнага, каго выпадкова сустракалі на вуліцы, прыдзіраліся. А калі хто скажа слова супраць, таго бязбожна збівалі.

Хлопцаў яднала і тое, што яны рана засталіся адны ў сваіх хатах. Ці не ў адзін год некалькі зім таму згасла ад незразумелай хваробы Міколава маці. Ён рос бязбацькавічам, як кажуць, без роду і племені. Казалі людзі: нагуляла Хрысцінка хлопчыка. Сын яе ні ў чым не папракаў, і з маткай быў добры. Дужа перажываў, калі яна хварэла, плакаў на яе пахаванні.

Андрона, наадварот, гадаваў састарэлы бацька, маці хлопца памерла зусім маладой. Некалі па суседстве старэйшы Супчык сватаўся да Хрысцінкі, але яна яго не прыняла. Праз год пасля таго, як памерла суседка, ён восенню накіраваўся ў лес. Захацелася старому позніх грыбкоў — зялёнак і плюсаў тады было процьма. Пайшоў ды так і не вярнуўся дадому. Жывым мужчыну больш ніхто не бачыў. Старога франтавіка, які ваяваў яшчэ, казалі, у імперыялістычную і які вярнуўся з яе цяжка паранены ў галаву, шукалі ўсе, хто мог. Знайшлі праз тыдзень. Ніцма на затравелым полі ляжаў ён недалёка ад былога хутара Расевічаў, а побач стаяла поўная скрыня зеленавата-шэрых грыбоў... Нябожчыка пахавалі. А яго сын Андрон на пахаванні так перабраў, што ледзьве не пайшоў услед за бацькам. Адхаялі неяк. Клопат пра яго цяпер узяла на сябе Нюрка. Людзі не толькі не разумелі, чаму сіраціна пайшла замуж за такога п’янтоса Міколу Аўдзейчыка, дык яшчэ дапамагае Андрону. Праўда, праз нейкі час дзівіліся гэтаму шлюбу: жанчына свайго чалавека хутка прыбрала да рук, і той неспадзявана для ўсіх зусім кінуў піць. Ды неяк і сябра свайго прыструніў.

Аднак, аказалася, часова. Андрон не змог пазбавіцца заганы, піў, канешне, не так, як раней, але не цураўся гэтага атрутнага зелля, калі выпадала, ніколі не адмаўляўся зарабіць у людзей пляшку самагонкі. Ён так і не ажаніўся, халасцякаваў, жыў у бацькавай хаце. Аўдзейчык усё ж шкадаваў суседа-сябрука. Ён дамовіўся з Чэркасам і прыстроіў мінулым летам Андрона сваім памочнікам на канюшні: «Каб на вачах быў, пры дзеле, а то прападзе!..» Ад той пары строга кантраляваў, каб Супчык чаго благога не выкінуў і зноў не запіў. Андрон доўга трымаўся. Рабіў, як трэба. Так было да сённяшняга дня. Пасля абеду, калі калгаснікі з канюшні выкідвалі гной, вазілі яго на Дзікае Поле, ён раптоўна знік апоўдні.

Вечарам Мікола адзін прымаў коней і вупраж, карміў і паіў. Ён злаваўся на сябра, які так знянацку сышоў і ўсю работу зваліў на яго, нават сена і саломы не наклаў нанач у яслі.

Калі Мікола справіўся з ўсёй работай сам, ужо прыцемкам нарэшце ў канюшні з’явіўся Андрон. Ён быў моцна п’яны і ледзьве стаяў на нагах.

Міколу, справядлівага па натуры, ажно затрэсла ад злосці. Ён не стрымаўся, схапіў Андрона за каўнер і павалок з канюшні. Андрон супраціўляўся, размахваў рукамі, і тады Аўдзейчык моцна ўдарыў яго. Праўда, сілы не разлічыў, кулак слізгануў з пляча па сківіцы Супчыку, той не ўтрымаўся на нагах і расцягнуўся пасярод канюшні.

— Ты гэта што, паскуда? Ды я ж табе, гад ты вашывы... — Андрон застагнаў ад рэзкага болю. Не маючы сілы падняцца, ён праклінаў Аўдзейчыка. — Каб ты здох, поскудзь. За што так, гад, га... Няма ў цябе Хрыста, няма, няма. Можа, гора ў чалавека, а ты — біцца...

— У цябе адно гора — сплюнуўшы ўбок, злосна прамовіў Мікола. І ўсё ж дапамог таму падняцца на ногі, працягнуў руку. — Каб нагі тваёй сёння тут не было, чуеш! Папярэджваў — зап'еш, не паказвайся на вочы. Не люблю, уразумеў!

Андрон хістаўся, учапіўся за драбіну, і па-ранейшаму злосна сыпаў нядобрымі словамі:

— Паганы ты чалавек, ой, паганы. А я думаў — брата маю... Дзе ж падзеўся мой брат, той Мікола? Той самы Міколка... Ветрам здзьмула, як падмянілі. Але Андрон такі здзек над сабой не даруе... Ні ў жысцьі Андрон Супчык — папомніш яшчэ, з табой, паскуда, разбярэцца. Хутка за ўсё разбярэцца... Ёсць каму цяпер за яго добрае слова сказаць. Будуць тутака перамены, тады мая возьме. Пабачыш хутка, як кіла, завішчыш... — хістаючыся, Андрон зачапіўся за вупраж, і зноў упаў, ды няўдала, моцна падвярнуўшы нагу.

Аўдзейчык не звяртаў на п'янага ўвагі, супакоіўся. Нетаропка зачыніў за сабой станок, дзе стаяў яго любімчык, жарэбчык Матыль, знадворку паставіў вілы, а потым накіраваўся да Супчыка. Зноў дапамог таму ўстаць і вывеў з канюшні.

— Ідзі, праспіся! Палохае тут яшчэ. Палоханы ўжо, — на развітанне сказаў ён Супчыку, і пайшоў зачыняць канюшню на замок.

Андрон не здаваўся, закрычаў злосна яму ўслед:

— Ты думаеш, бацькаўшчына тут твая? Прапісаўся тут, у канюшні, навечна? Прахам усе пойдзе, знай, дымам... На цябе таксама ёсць управа, і на жончынай сяброўкі мужа, каб ты знаў. На ўсіх цяперака ёсцека ўправа!

— Што ты вярзеш, дурань? Ідзі, праспіся, п'янчуга... — Мікола не слухаў пустабрэха, зачыніў дзверы ў канюшню і навесіў замок.

— А сам п'яны не быў? Кароткая ў цябе памяць, Міколка! Жончына спадніца засціла табе ўсё… Папомніш, Андрон на вецер словы не кідае... Хутка папомніш...

Дома Нюрка адразу зразумела, што Мікола не ў гуморы. Прыгатавала мужу памыцца і села побач вячэраць. Як ні хацеў, а перад жонкай Аўдзейчык быў бязвольны (з гэтым ён згодны з Андронам), расказаў пра п'янага дурня: грзіўся нават паскардзіцца Адамчыку.

Жонка не здзівілася, толькі адказала:

— Папярэджвала: не трэба табе такі памочнік, і Ігнат тады цябе адгаворваў, быў супраць.

— Праспіцца, я яму заўтра, на цвярозую галаву, усё выкажу. Пабачыш, прасіцца будзе. Гэта гарэлка гразіла, не Андрон. Ён неблагі, ты ж ведаеш.

— Чуеш, Мікола... — Нюрка раптам згадала пра заметку ў газеце. — Раёнка пра тое, што ўкралі проса раззваніла на ўсю акругу.

Мікола перастаў есці, уважліва паглядзеў на жонку.

— І што?

— Як быццам хто Ігнату помсціць... Нейкі, знаеш, «Наш» аб'явіўся. Так падпісана гэта заметка. Думаю, каму Верчын мужык мог дарогу перайсці, і не знайду ладу?

— А што піша?

— Што Адамчык патурае варожым элементам, і сам такі ж, маўляў, трэба прыгледзецца да такога кіраўніка. Могуць за гэта зняць Ігната. А ён нявінны. Вунь як за справу ўзяўся. Ой, не ведаю, што і будзе…

— Тут, ведаеш, Нюра, не ўсё проста. І Андрон — чуе мая душа, ведае нешта. Дапібог, ведае...

З гэтымі цяжкімі думкамі Аўдзейчыкі леглі спаць.

**9**

Над зямлёй стаяла бясхмарная ноч. Бечынцы клаліся спаць, ведаючы, што заўтра будзе не менш цяжкі дзень, чым папярэдні. Такая яна, вясна-працаўніца, забірала ў людзей усю сілу, але і аднаўляла яе хутка, за кароткі перадых, за некалькі гадзін, бо ўсе ведалі: трэба рабіць.

Гэтае — «трэба» — у крыві палешукоў было спрадвеку.

Трэба было нараджацца на свет божы… Абавязкова трэба было хрысціць дзіця (цяпер улады не дазваляюць, але можна ў царкве дамовіцца і ў тайне пахрысціць, займець добрых куму і кума). Трэба навучыць дзіця ўсяму, што ўмееш сам, і вучыць трэба пачынаць, калі яно яшчэ ляжыць у начоўках, а не ўпоперак палацяў. Трэба выдаць замуж ці ўдала ажаніць, каб жылі дзеці ў багацці і ў шчасці. Трэба ўнукаў дачакацца, дапамагчы дачцэ з зяцем ці сыну з нявесткай падгадаваць іх. Трэба ў добрай бяседзе разам з людзьмі ўмець радавацца шчаслівай хвіліне. Трэба, урэшце, памерці ў час, пажадана, каб не мучыцца, каб адразу. І галоўнае тут, каб людзі, праводзячы цябе на той свет, абавязкова сказалі: «Цяжка працаваў, з мазаля свайго ўсё меў, з людзьмі ў ладзе жыў і род свой прадоўжыў, нікому ў бядзе не адмовіў дапамагчы, дык і даў яму Бог лёгка памерці! Які ж быў шчаслівы чалавек!»

З гэтым — «трэба» — жылі стагоддзямі на Палессі ўсе добрыя людзі і не прымалі іншае долі, іншага шчасця, чым праца. Нелюбілі гультаёў, абібокаў, пустабрэхаў — за такіх дачок замуж не аддавалі: няхай лепш у дзеўках застанецца!

Змяняліся часы, абставіны, а памяркоўныя палешукі жылі сваім, толькі ім зразумелым, жыццём, і ведалі, што гэтае жыццё ў іх багатае: калі працаваць — то да знямогі, калі спяваць — дык да хрыпаты, калі танцаваць — дык дакуль ногі трымаюць, калі вяселле правіць — то каб далёка было чуваць… І абавязкова, каб кожны сусед вясельную чарку, таксама працай тваёю дабытую, падняў за здароўе маладой сям'і, а калі хрэсьбіны зладзіць — то трэба прывеціць і старога, і малога. А калі кахаць — то так ціха, салодка, як апошні раз...

...Верка стомленая, напрацаваўшыся днём на трактары, спала на мужавым плячы. Ігнат пацалаваў яе, сонную, у скроню, стараўся і сам здацца, заснуць. Толькі сон ніяк не прыходзіў. Ён думаў пра тое, што будзе з ім і ёй далей. Усё ў іх жыцці няпроста, як і няпроста ў жыцці вяскоўцаў, людзей, з якімі непарыўна звязаны яго лёс, і Верчын лёс.

Узрушаны, праз акно ён глядзеў на светлае неба, дзе гаспадарыў дугападобны месяц. Яго жоўтае святло лілося ў хату, і ад гэтага таксама спаць не хацелася. Але ён такі прымусіў, загадаў сабе — трэба, бо заўтра «варон будзеш лічыць». І праваліўся ў сон гадзіны на дзве. Яму сніўся незразумелы сон: нібы страшным агнём гарэла неба.

Ён расплюшчыў вочы, у душы з'явілася прадчуванне немінучай бяды, і зразумеў, што гэтай ноччу больш не засне…

## 10

Верка па-ранейшаму соладка спала, паклаўшы галаву яму на плячо. Каб не пабудзіць яе, ён павольна падсунуў пад галаву ёй сваю падушку, і жонка нават не паварушылася. Ціха за грубкай пасопвалі дзеці. Ігнат чуў іх спакойнае, роўнае дыханне. Каб сярод ночы нікога не разбудзіць, ён на дыбачках выйшаў у пярэднюю, прыкрыў за сабой дзверы.

З печы дагэтуль яшчэ ішоў цёплы дух. Ігнат навобмацак знайшоў штаны, гімнасцёрку і картовы пінжак, якія звечара развесіла прасушыцца жонка, хуценька апрануўся, абуў керзавыя боты, глынуў з карца гатаванай вады, настоенай на грушах-дзічках, і выйшаў з хаты.

Ноч была светлая, цёплая, але адчувалася вільгаць, якая ўсё яшчэ выпарвалася з зямлі.

Ігнат стаяў на ганку і ніяк не мог надыхацца свежым паветрам, такім, здавалася, густым, па-сапраўднаму вясеннім, якое крыху п’яніла галаву. Стаяў і думаў, што праз дзень-два выкінуць свой буйны цвет грушы і яблыні. Колькі працы будзе пчолкам!.. І як хораша будзе людзям…

Стаяў доўга, думаючы: каб толькі замаразкі не вярнуліся. Не, не павінна, не паказвае на тое. І зноў падумаў: а ці не вярнуцца ў хату, проста паляжаць каля Веркі, можа, яшчэ і засне, ну не ісці ж зараз, у тры гадзіны ночы, у кантору…

З іншага боку, здаецца, уздрамнуў, і гэтага хапіла, адчуваў сябе бадзёрым. А ў канторы накапілася процьма таго, што павінен быў зрабіць яшчэ заўчора. Звечара ў думках паспеў спланаваць, як расставіць людзей, куды каго накіраваць. Трэба было найперш праверыць дзённыя справаздачы брыгадзіраў, каб з самага ранку абавязкова далажыць у раён. Адтуль тэлефанавалі штораніцы, часам звязваўся з ім і сам Нікіценка. Не хваліў, але і не папракаў. Цяпер Ігнат і сам крыху супакоіўся: за тыдзень арцель выраўнялася па ўздыме зябліва, унясенні ўгнаенняў, па сяўбе, як сказаў Нікіценка, дык нават выбілася ў перадавікі, засталіся нейкія лапікі. Ігнат паспрабаваў пагаварыць з ім пра арыштаваных бечынскіх калгаснікаў, але Нікіценка як адрэзаў: «Разбяруцца. Не лезь, куды цябе не просяць!» Гэтыя словы сакратара райкама партыі здзівілі. Ігнат яшчэ хацеў спытаць, але пасаромеўся: калі, нарэшце, прыедзе тая страшная камісія, якую баяцца нават старыя бальшавікі? Ды так і не знайшоў слоў, не рашыўся, адчуўшы, што Нікіценка быў не ў гуморы. Вырашыў: калі не едзе, то не так усё ў іх і кепска.

За гэтымі ўспамінамі-развагамі Ігнат не заўважыў, як прайшоў вялікі адмежак шляху да цэнтра вёскі. Калі ж мінуў невялікі і заўсёды мокры прыбалатак, які сваім гнілым хвастом дзяліў вёску на дзве часткі, і выбіўся на пагорак, леваруч, амаль побач з хатамі, у ясным святле месяца ўбачыў калгасныя будынкі.

Гады два таму тут пабудавалі прасторныя памяшканні новай калгаснай фермы. Гэта была заслуга Чэркаса, які выбіў будаўнічы лес, дошкі і гонту. За цвікамі і скобамі справа не стала — ёсць свая кузня. І лічы за зіму брыгадныя цесляры вывелі пад дах цёплыя два кароўнікі і цялятнік. Цяслярылі там і Ігнат з бацькам. Праўда, стары нечакана захварэў, падхапіў прастуду і праваляўся на хутары больш за месяц. Агапка ды Ігнат дужа перажывалі за Сцяпана, думалі, што памрэ. Фельчара ў вёсцы яшчэ не было, ды і ехаць у раённую бальніцу стары не схацеў, хаця слухаўся жонку, спраўна лячыўся. І дзякуючы ёй, розным адварам з зёлак, у якіх яна разбіралася як ніхто ў Бечыне, націранням і банькам, стары падняўся на ногі.

Раптам Ігнатавы думкі перабіў заядлы брэх сабакі ля фермы. А потым адтуль пачуўся і голас вартаўніка Хведара Аксёнчыка.

— Змоўч, воўчае мяса! — крычаў ён. — Расхадзіўся тут. Пайшлі лепш на наш новы фронт!..

Сабака змоўк, відаць, паслухаўся свайго кармільца.

А Ігната Хведаравы словы вельмі рассмяшылі: бач, новы фронт. Менавіта ён, Ігнат, загадаў, каб Аксёнчык разам са сваім напарнікам Іллёй Макарэвічам вартавалі не толькі ферму, але і новую канюшню. Тады Аксёнчык доўга незадаволена бурчаў, прыдумаў да нечаканай «начной прыбаўкі» да сваіх бяссонных абавязкаў такі выраз — «новы фронт». Цяпер многія арцельныя нядаўна пабудаваную канюшню так і называлі: «Хведараў новы фронт».

Зразумеўшы, куды збіраецца вартаўнік, Ігнат супакоіўся: значыць, усё ціха і трубавацца яму няма чаго. Пайшоў далей і зноў згадаў пра арыштаваных Івана Асіпенку і Алеся Макарэвіча: чым ён ім зараз можа дапамагчы? Нікіценка яго просьбы нібы не чуе зусім. Ігнат разумеў, што Коршак тады сказаў яму праўду: забяруць і асудзяць. Хоць людзі насенне сабралі замест украдзенага, хоць і ў раён, і ажно ў Маскву паслалі просьбы не караць Асіпенку і Макарэвіча, усе арцельцы падпісаліся, усё адно атрымлівалася, што яны, бечынцы, не маюць права мець сваёй думкі.

Ігнат ніяк не мог зразумець, як можна лічыць Асіпенку і Макарэвіча ворагамі? Гэта няправільна. Гэта памылка. Таму вырашыў, падабаецца гэта каму ці не, а трэба яшчэ раз раніцай сур'ёзна пагаварыць з Нікіценкам: прасіць, каб заступіўся за іх…

За пагоркам, метраў за дзвесце адсюль, крыху правей, адразу за агародамі калгаснікаў і бліжэй да цэнтральнай часткі раскіданай вёскі, пры святле месяца ён ужо бачыў канюшню. Ігнат хутка набліжаўся да яе, спадзеючыся менавіта тут пераняць Хведара Аксёнчыка, пагутарыць з ім. І сапраўды, падалося, вартаўнік абыходзіў канюшню, і знаёмая Ігнату постаць схавалася за вуглом новай прамавугольнай будыніны.

Ігнат прыспешыў крок, і, скарачаючы шлях, пайшоў па вытаптанай сцяжынцы ўздоўж неглыбокага, але сёлета паўнаводнага раўчука, і хутка дабраўся да тыльнай агароджы выгульнага двара канюшні. І толькі пералез праз свежаабчасаныя сасновыя жэрдкі, ад якіх яшчэ вельмі моцна пахла смалой, як знянацку з другога боку, з уваходу ў канюшню, пачуліся незнаёмыя галасы. Гэта яго насцярожыла, прымусіла не спяшацца: там нешта было не так.

Ён паціху наблізіўся да сцяны канюшні і прыціх. Аднак нічога больш не пачуў. Тады вырашыў незаўважна падысці яшчэ бліжэй. Калі ж дабраўся да вуглавога выступу, зноў сцішыўся і прыслухаўся.

Там, ля дзвярэй канюшні, валтузіліся людзі. Нарэшце, пачулася, як басавіта-незадаволены хрыпаты мужчынскі голас запатрабаваў:

— Я сказаў табе, паскуда, палі!

— Дык мне ж труба будзе, Зміцер! Не буду. — голас гэты Ігнату быў знаёмы.

— Не жартую, ведаеш жа, стрэлю! — прыгразіў незнаёмы голас. — Што падказаў з просам, за тое маладзец. Але ты мне павінен, пра даўжок памятаеш? Падпальвай, кажу, сволач п'яная. Ці не спецыяльна, Свірыд, ён так сёння набраўся? Зноў хоча быць чысценькім? Мо думаў, без яго гэтым бальшавіцкім гадам вясёлае свята ўчынім? Папомняць 1 мая 1939-га мае землячкі...

Ігнат зразумеў: ля дзвярэй канюшні толькі трое. Замыслілі кепскае. І адзін з іх — не хто іншы, як Андрон Супчык. Дакараў сябе: «Во, гад, я ж

быў супраць, каб гэты прапойца памагаў тут Аўдзейчыку! Во варажына!» Але трэба было зразумець, што там адбываецца на самай справе, і ён выглянуў з-за вугла.

У двух месцах каля канюшні злыдні наклалі салому — яе Аўдзейчык і брыгадныя склалі ў стагі метраў за трыста адсюль, каля рослых тапаляў. Двое — з іх Ігнат адразу пазнаў Андрона, які стараўся саўладаць з запалкай, а другі, Адамчыку падалося, не, не падалося, быў Зміцер Аскерка, вінтоўкай падсоўваў пад дзверы канюшні салому. Быў яшчэ і трэці: высокі, барадаты мужчына, твару яго Ігнат не бачыў, ён нёс абярэмак саломы. Ігнат адхіліўся, яму падалося, што Аскерка паглядзеў сюды, і ў гэты момант за вугал канюшні данёсся едкі пах дыму.

Ігнат быў у роспачы. Ён не ведаў, што будзе рабіць у наступную хвіліну, але разумеў, што голымі рукамі з трыма, а двое з іх былі ўзброеныя, аднаму яму не справіцца. Бегчы, будзіць людзей? Але будзе ўжо, палічыў, позна: пакуль дабяжыць да першай хаты, пакуль пабудзіць каго — канюшню ахопіць полымя, не ўратуеш ні коней, ні будынак…

Раптам ён заўважыў утаптаную ў зямлю тоўстую частаколіну. Мільганула думка: усё ж у руках нешта будзе. Толькі частаколіна не паддалася яму, была добра ўтаптана капытамі жывёл. Нарэшце ўсё ж вырваў яе з зямлі, і ў тое ж імгненне з адваротнага боку канюшні пачуўся залівісты брэх сабакі і грозны голас вартаўніка:

— Вы што гэта тут уздумалі. А ну, рукі ўверх!.. Страляць буду!

Ігнат абрадаваўся: цяпер ён не адзін. Вырашыў напалохаць і дэзарыентаваць тых, хто быў пад канюшняй. Крыкнуў, каб пачулі і злыдні, і Аксёнчык:

— Дзядзька Хведар, мы тут, нас многа, страляйце, калі што, акружаем гадаў... Калі што, напавал б'ём! Аскерка, здавайся — табе дарогі іншай няма, чуеш! Адкуль прыйшоў — туды і пойдзеш! А ты, Андрон, тушы салому, калі хочаш жыць!.. Выконваць!

Там, ля дзвярэй канюшні, пачуўшы пагрозу, на нейкі час застылі ў здранцвенні. Першы ачомаўся, хоць і п'яны, Супчык, і кінуўся рашуча адкідаць кучы саломы, якая пачала ўзгарацца. Толькі яму не далі гэта зрабіць — Аскерчык пырнуў яго фінкай у жывот, і Андрон, адыходзячы, ціха апусціўся на зямлю.

Азірнуўшыся, напалоханы Аскерчык заўважыў Ігната Адамчыка, які бег да яго. Мабыць, яму са страху падалося, што ў таго ў руках вінтоўка. А з другога боку нечакана бабахнула дубальтоўка вартаўніка, і Аскерка, схапіўшыся за руку, відаць, драбіна зачапіла яго, пабег уцякаць. За таполі, кінуўшы салому, сіганула і той, другі зламыснік. Услед за ім гнаўся раз'юшаны сабака. Яшчэ праз імгненне зноў пачуўся стрэл — Ігнат заўважыў, як грузны вартаўнік рушыў за злачынцамі, і, зразумеўшы, што злыдняў не дагоніш, кінуўся да канюшні, схіліўся над Андронам. Той ляжаў нерухома насупраць дзвярэй у канюшню і не дыхаў. Ратаваць Супчыка было позна. Затое ў двух месцах разгаралася полымя: вось-вось яно ахопіць ужо высахлае сасновае дрэва, і тады нічога не паправіш.

Частаколіна ўсё ж спатрэбілася Адамчыку — ёй адкідваў ёю далей ад будынка салому, што ўвачавідкі разгаралася і разгаралася. Ігнат, хоць абпальваў рукі, але ж не дапусціў, каб яно перайшло вышэй, да страхі, і, нарэшце, збіў яго.

Затым кінуўся да другога падпалу, што быў з левага боку канюшні, там агонь таксама хутка разгараўся, і ўжо яго языкі сягалі вышэй за чалавечы рост.

— Ігнат, у карыце вада... Там вядро ёсць. Заліць трэба, каб не ўзгарэлася. Во, поскудзі, што ўздумалі... — Адамчык пачуў словы вартаўніка, убачыўшы, як той спяшаецца да калодзежнага жураўля.

Чамусьці падумаў: добра што Мікола Аўдзейчык, калі паіў коней, забыўся нанач схаваць вядро ў канюшню. Хведар цяпер дапаможа яму затушыць агонь, каб не разгарэўся зноў, як нечакана аднекуль збоку грымнуў стрэл.

Перад вачыма Ігната ўсё захісталася, і ён, як падкошаны, паваліўся на зямлю...

## 11

Схуднелыя і абыякавыя да свайго лёсу брыгадзір Іван Асіпенка і вартаўнік Алесь Макарэвіч сядзелі ў закутку, на лаве падсудных. Побач з імі, абапершыся на сцяну, стаяў малады бязвусы міліцыянерчык. Арыштаваныя зрэдку падымалі вочы то на землякоў, то на сцэну, дзе за шырокім сталом, накрытым чырвонай тканінай, сядзеў немалады каржакаваты суддзя. Гэта быў хваравіты, з жоўтымі круглякамі-вачыма, мужчына. Ён адразу запатрабаваў, каб у зале было ціха, і ўважліва слухаў пракурора, потым следчага Коршака, затым крыху пісклявым голасам распытваў глухаватага старога вартаўніка: як і што было.

Суд ішоў ужо другую гадзіну. Паказальнае разбіральніцтва па просьбе кіраўніцтва раёна ладзілася ў Бечыне ўпершыню. У клубе было душна і млосна. Прычына таму — неверагодная чэрвеньская спёка, што з самага ранку падала на зямлю, ад яе не ратаваў нават і лёгкі ветрык і кароткачасовыя дажджы. А тут сабралася амаль уся арцель, людзі біткам набіліся ў памяшканне. Месцаў на вузкіх лавах усім не хапіла. Каб рассадзіць прыбыўшых членаў шостай брыгады, якія прыйшлі ўсе да аднаго нават з сем’ямі, старшыня сельсавета Салавейчык арганізаваў камсамольцаў, і тыя прынеслі з сельсавета дадатковыя лавы. Іх неяк уціснулі ўперад, па баках, але і гэтага не хапіла. Ды людзі не крыўдавалі, сцішана стаялі каля адчыненых насцеж дзвярэй.

Тым часам суддзя падрабязна дапытваў Асіпенку. Брыгадзір, які, здавалася, за гэтыя месяцы пастарэў, асунуўся, абыякава і коратка адказваў на яго пытанні, яны яму, адчувалася, надакучылі. Асіпенка за гэты час ні разу не глянуў у залу, баючыся сустрэцца вачыма са сваёй хударлявай Грыпінай, якая сядзела ў другім радзе і ціха плакала, глытаючы даўкія камякі. Побач з ёй быў разгублены старэйшы сын Асіпенкі Мікола і яго цяжарная маладзічка Маруся.

Непадалёк ад сям’і арыштаванага брыгадзіра, з другога краю, сядзелі, узрушаныя, трое Адамчыкаў: Сцяпан, Агапка і іх нявестка. Побач з загарэлай Веркай, якая ўжо не хавала сваёй цяжарнасці, сцішыліся Нюрка і яе пануры Мікола Аўдзейчык.

— Дык вы прызнаеце сваю віну, таварыш Асіпенка? — вочы-круглякі суддзі глядзелі праз вузкія акуляры на арыштаванага з нейкай нервовай заклапочанасцю. Усім сваім выглядам гэты чужы чалавек нават і не імкнуўся схаваць, што яму ўжо надакучыла млець у гэтым душным і потным клубе, у якім яго прымусілі чыніць суд з-за скаргаў гэтых людзей, якіх ён так да канца і не мог зразумець. Ён нават мову іхнюю, выхадзец з Урала, якога лёс закінуў на Палессе, не мог разабраць, і яму так хацелася зараз схавацца куды-небудзь у цянёк, пабавіць час каля рэчкі ці каля возера.

Брыгадзір адказаў не адразу. Нарэшце, падумаўшы, цвёрда прамовіў:

— Сваю віну не прызнаю. Я не мог здагадацца, што нехта падкапаецца пад склад і будзе такім хітрым спосабам красці наша арцельнае дабро...

— Вы хочаце сказаць, што добра выконвалі абавязкі брыгадзіра, кантралявалі работу вартаўніка, таксама падсуднага Макарэвіча? — суддзя ажно заёрзаў на табурэтцы, нібы яму хто іголак туды панатыкаў.

— Людзі — сведкі, — ціха сказаў Іван, краем вока акінуўшы залу, і затым гэтак жа цвёрда дадаў. — Калякціў знае лепш за мяне, як працаваў, што рабіў. Я стараўся. Нікому зла не чыніў. Во яны, людзі — хай скажуць.

— Ды што там казаць: адна з лепшых шостая, яго брыгада, — выгукнуў, не вытрымаўшы, Мікола Аўдзейчык. — Не вінаватыя яны...

— Аге ж, людцы, ці ж правільна судом браць невінаватых, — прамовіла і Надзя Салавейчык, жонка старшыні сельсавета. На яе ў гэты момант злосна зыркнуў сам Салавейчык, і яна адразу аціхла, апусціла вочы.

— Тых злыдняў лепш лавіце, а яны чэсныя.

— Ну, рассмяшылі народ! Дзед Алесь — вораг народа.

— Не па закону, не тых судзіце.

— І проса, намі сабранае, каб іх не судзілі, даўно колосіцца, а іх усё роўна судзяць. Ці ж справядліва? Гэта так па савецкім законе?

Шум і гвалт распачаўся ў клубе. Як бы нешта прарвала ў людской свядомасці: незадаволенасць загарэлася ў іхніх вачах з-за таго, што маўчалі дагэтуль, дапусцілі, што такое тут адбываецца сёння. Ды такога зусім не павінна быць, і тых, каго трымаюць пад арыштам, народ жа ведае: добрыя і паважаныя, працавітыя людзі.

Суддзя ажно ўскочыў, яго твар пакрыўся буйнымі кроплямі поту, ён пачаў стукаць алоўкам па графіне, але калгаснікі не сціхалі. Іх таксама стараліся супакоіць сакратар парткама Верабей і старшыня сельсавета Салавейчык, ды дарэмна. Але ж як пачаўся гвалт, так і завяршыўся, калі людзі, што стаялі ля парога, расступіліся, і ўсе ўбачылі там першага сакратара райкама партыі Нікіценку, і таго, каго не спадзяваліся сёння сустрэць — маладога Адамчыка.

Яны прабіраліся праз жывую сцяну да сцэны, а жанкі ўзрадавана ківалі галовамі, не зводзячы вачэй з Ігната, перагаворваліся:

— Ігнатка, наш саколік, ой добра ж, што паправіўся...

— Гэта ж, старшыня наш тута. Не дасць у крыўду сваіх...

— Бледны, бледны зусім глядзі, наш Адамчык...

— Нічога, Верка ў яго што трэба баба, дагледзіць, паправіцца хутка дома...

З надзеяй на прыйшоўшых глядзелі арыштаваныя. Адамчык і Нікіценка па чарзе прывіталіся з людзьмі, і сакратар райкама перадаў нейкія паперы пракурору. Той толькі прабег па іх вачыма, устаў і сказаў:

— У справе паявіліся новыя абставіны. Прашу суд аб’явіць перапынак.

Незадаволены суддзя вымушаны быў пагадзіцца, хутка пакінуў сцэну, а за ім следам падаліся пракурор і следчы.

Ігнат адразу прывітаўся за руку з падсуднымі, і ў вачах тых загарэўся агеньчык надзеі, што ўсё будзе па справядлівасці.

А Адамчык ужо шукаў вачыма ў зале сваіх. Заўважыў: яго Верка і маці плакалі ад шчасця, убачыўшы сына і мужа, расчуліўся і стары бацька. Ігнат усміхнуўся і падміргнуў сваім родным, маўляў, усё са мной добра.

Нікіценка тым часам скарыстаў момант і звярнуўся да вяскоўцаў.

— Дарагія таварышы, члены арцелі, а правільней цяпер трэба казаць, калгаса «2-я пяцігодка»! Канешне, кепска, што мы ў такіх абставінах сустра-

каемся зноў, але ж так здарылася. Хто мяне не памятае, нагадаю: Андрэй Мікалаевіч Нікіценка, першы сакратар райкама партыі. Я, і гэта праўда, раней часта бываў у вас, толькі ад сёлетняй зімы неяк вось не выпала.

— Ведаем вас, а як жа, таварыш Нікіценка, — падаў голас з першага раду адзін са старэйшых жыхароў Бечына, яму ўжо на дзявяты дзясятак павярнула, былы хутаранец Паўлюк Буякевіч.

— Добра, што ведаеце. Дык вось што я вам, людзі добрыя, скажу. Сёлетняя вясна, канешне, вам падкінула клопату. Канешне, усім вам было нялёгка, асабліва выконваючаму абавязкі старшыні калгаса Ігнату Сцяпанавіву Адамчыку. Шчыра скажу, я асабіста перажываў, ці зможа гэты малады яшчэ чалавек вытрымаць, арганізаваць людзей, ды разам з імі адолець гэтую стыхію, граматна спрацаваць і адсеяцца. Думаў — збяжыць! Але ж ён змог, і вы разам з ім справіліся з непагаддзю, нават у перадавікі выйшлі. Праўда, тут яшчэ гэты крадзеж, які ўчынілі ворагі нашай улады і якія хацелі забіць Ігната Сцяпанавіча… Шмат што сапсавалі ў вашым калектыўным жыцці. Але нічога, усё ў вас наладзіцца.

Нікіценка падміргнуў Ігнату, які сядзеў на краі лавы, там дзе пад аховай знаходзіліся падсудныя, і ўважліва слухаў партыйнага кіраўніка.

— А вось пра гэтых людзей, якіх сёння тут судзяць, хачу сказаць наступнае. Права вырашаць — вінаватыя яны ці не — дадзена не мне з вамі, а толькі суду. Я ж магу выказаць сваю думку як бальшавік. Тое, што вы падтрымалі, паверылі свайму кіраўніку, праявілі сапраўдны калектывізм, сабралі проса і не сарвалі сяўбу, гаворыць пра многае. Так, таварышы бечынцы, вас нельга не паважаць, бо вы сёння — калектыў людзей, які хоча, можа, умее і будзе, я ўпэўнены ў гэтым, працаваць у новых сацыялістычных умовах, і паказваеце ўсяму народу, што мы ідзём правільным шляхам. Агульнымі намаганнямі абавязкова яшчэ зробіце ўсё дзеля таго, каб і «2-я пяцігодка», і наш раён, а з ім і рэспубліка, Савецкі Саюз паспяхова ішлі да агульнай светлай мэты: новага грамадства роўнасці і справядлівасці...

Людзі сталі пляскаць Нікіценку, ён толькі на гэта ўсміхнуўся, і рукой паказаў, што яшчэ не закончыў.

— Але, таварышы, ёсць яшчэ варожыя элементы і іх хаўруснікі, якія нам перашкаджаюць. Ужо даказана: да смерці таварыша Міронычыка, і да падпалу канюшні вашага калгаса, і да ранення таварыша Адамчыка мае адносіны банда на чале з недачалавекам, сапраўдным зверам Зміцерам Аскеркам. Адкуль такія, як ён, бяруцца? Ды вырас ён тут, на вашай зямлі, і вырасціла яго не ваўчыца, а, зразумела, маці. Але ў сям'і, відавочна, не без вырадка. Міліцыя пакуль не напала на іх след, думаем, часова бандыты скрыліся на тэрыторыі іншых раёнаў. Але іх дарога кароткая: Аскерка аб'яўлены ў вышук на тэрыторыі не толькі БССР, але і ўсёй нашай вялікай краіны. А ад вас, калгаснікаў, патрабуецца адно: быць пільнымі, берагчы калгасную маёмасць як зрэнку вока. І паведамляць, куды трэба, калі часам будуць нейкія праявы гэтых бандытаў.

І вось яшчэ адно: нядаўна пайшоў з жыцця таварыш Чэркас, вопытны бальшавік і гаспадарнік. Памяць пра яго застанецца ў нашых сэрцах. Але ж жыццё працягваецца, і «2-й пяцігодцы» патрэбны новы кіраўнік. Райкам партыі і райвыканкам рэкамендуе вам выбраць старшынёй праўлення чалавека, які на справе даказаў вернасць нашым савецкім ідэалам, паказаў сябе як здольны арганізатар. Я кажу пра прысутнага тут Ігната Адамчыка. Урачы падлячылі яго, тыдзень адпачне дома, і на працу, таварыш Адамчык. Будзем лічыць, што сёння ў вас адначасова і выбарны сход, тым больш што і праўлен-

не, і ўсё мясцовае начальства тут у поўным складзе. Думаю, можам прагаласаваць, калі не будзе іншых прапаноў.

— Не, не будзе. Мы за Ігната Адамчыка! — выкрыкнуў з глыбіні клуба нехта з мужчын.

— Тады прашу прагаласаваць, — Нікіценка застаўся задаволены, пабачыўшы, што калгаснікі ўсе да аднаго паднялі рукі.

— Што ж, Ігнат Сцяпанавіч, нялёгкі ў вас лёс, давер людзей трэба будзе апраўдваць кожны дзень. Поспеху табе! — Першы сакратар моцна паціснуў выбранаму старшыні калгаса руку. А Ігнат Адамчык выглядаў разгубленым.

... Суд, які працягнуўся пасля выступлення Нікіценкі і выбрання новага старшыні калгаса, доўжыўся яшчэ з паўгадзіны. А пасля ўспацелы суддзя стаў агучваць прыгавор.

— ...Прызнаць віноўнымі ў стварэнні ўмоў для крадзяжу калгаснай маёмасці брыгадзіра шостай брыгады калгаса «2-я пяцігодка» Івана Асіпенку і вартаўніка брыгады Аляксандра Спірыдовіча. Аднак, улічыўшы добрыя характарыстыкі вышэйназваных членаў калгаса, адсутнасць ранейшых праавых парушэнняў і старанную працу да часовага пазбаўлення волі ў сувязі са справай аб крадзяжы калгаснай маёмасці, а таксама аднагалоснае хадайніцтва ўсіх членаў калгаса і яго праўлення, мясцовых партыйных і савецкіх органаў, улічыўшы, што ў поўным памеры гаспадарцы пакрыты страты, апрыходавана ад калгаснікаў на карысць калгаса 412 кілаграмаў проса, на што маецца адпаведная даведка за подпісам намесніка старшыні калгаса Ігната Адамчыка і рахункавода Васіля Касабуцкага, суд вырашыў: вызваліць Івана Асіпенку і Аляксандра Макарэвіча ад судовай адказнасці і з-пад варты ў зале суда...

Развітваючыся, Андрэй Коршак усміхнуўся старшыні калгаса:

— Не ведаю, якім чынам, але тваім мужыкам выпала жыць: скарга да самога, — ён вачыма паказаў на партрэт Сталіна, што вісеў у самым цэнтры сцэны, — неяк дайшла. У Мазыры не ўяўляеш які перапалох з-за гэтага вашага пісьма Сталіну, іначай па дзясятцы было б тваім.

Збялелы Ігнат Адамчык быў узрушаны пачутым.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***





**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ**

# ДА ВЫСЯЎ МІЖЗОРНЫХ!..

## ЗАЛЕССЕ

Пахкім і хмельным водарам бэзу
Поўніцца далеч вакол.
Дзесьці азваўся гук паланэза,
З возера — спеў баркарол.

Звон ручайковай сіняй істужкі
Сцелецца ў шатах дубоў.
Камень. І надпіс: «Cieniom Kościuszki».
Пошчак паўстанцкіх падкоў.

Вокны палаца. Гук клавесіна.
Мо гаспадар завітаў
Зноўку дахаты вольнай часінай,
Выстачыў час паміж спраў?

Гэта — сустрэча, не развітанне...
Мякка гучыць перабор.
Зараз у нотах цалкам паўстане
Тут паланэз ля-мінор.

Музыка плача, просіць у скрусе
Волі і роўнасці ўсім.

---

***Жаўняровіч Пятро (Пётр Пятровіч)*** *нарадзіўся 2 студзеня 1959 года ў вёсцы Азярэц Вілейскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1990). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ.*

*Паэт, перакладчык, даследчык тэорыі і практыкі рэдагавання. Аўтар манаграфіі «Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча» (2011), «Даведніка па літаратурнай праўцы» (2017), дапаможнікаў па рэдагаванні. Пераклаў на беларускую мову раман «Браты Карамазавы» Фёдара Дастаеўскага, вершы Аляксея Талстога, на рускую — раманы, аповесці і вершы Уладзіміра Караткевіча.*

Жыць у прыгоннай цёмнай задусе
Нельга, нясцерпна зусім.

Пальцы кранаюць костачкі клавіш,
Чуцен заключны акорд.
Гонар — радзіму ў музыцы славіць
Гонар — пачуць: «Au rapport!»[1]

Хай давядзецца край свой пакінуць...
Мужны музыка-змагар
Гнуць не хацеў перад моцнымі спіну,
Праўду казаў проста ў твар.

Вечна гучыць матыў непаўторны,
Бурыць паўсюдна ману,
Горда ляціць да высяў міжзорных,
Душы ён будзіць ад сну.

## БАЛАДА ПРОМНЯ СВЯТЛА

***Сержуку Зелянко***

Першы промень святла абудзіў напаўсонныя шаты,
Падарыў дыяменты ўсім кроплям празрыстай расы
І рассыпаў па астрах ён жмені пярэстых агатаў,
Запаліў на вяргінях рубіны чароўнай красы.

Скіраваўся на стаў, слізгануў там па роўнядзі гладкай,
Раскатурхаў знянацку ў чароце прыснулых стракоз,
Даў нырца ў глыбіню, але вылецеў шпарка над кладкай,
Бо там карп люстраны адштурхнуў гэты промень наўскос.

Аглядаючы поплаў, аздобіў смарагдамі лотаць,
Ля гасцінца шыпшыне пакінуў зіхоткі бурштын,
Каля зжатых палёў разагнаўся імкліва ў палёце,
Падарыў ён валошкам апошні свой аквамарын.

Гэта хуткасць святла галаву затуманіла промню.
Раптам позірк глыбокі спыніў яго лёт:
з абраза
На паклонным крыжы Усявышні як быццам напомніў
Усе словы, якія ў нябёсах з надзеяй казаў.
Прызадумаўся промень, ці ў тым жа галоўная мэта —

[1] «Шыхтуйся!» (*фр.*).

Раздаваць хараство толькі знешнім праявам,
калі
Душ людскіх грамада гэтым Боскім святлом не сагрэта,
І блукае ў пацёмках па розных куточках зямлі.

У імгненне адно перадаў ён да сонца сігналы,
І мільярды сабратаў прыйшлі на падмогу,
затым
Пачалі завіхацца — рабіць Боскі свет дасканалым,
Зіхатлівым, вясёлкавым, чуйным, жывым, залатым.

І, нарэшце, сабраўшыся ў гурт на бадзёрым світанку,
У ахвяру прынеслі ўсім душам сваю светлыню,
Аддалі ім і сонца, і неба, і зыркасць заранкі...
Але промні далей працягнулі з душою гульню.

Кожны з іх разумеў: святланоснасць яе не павінна
Зацьмяняць прыгажосць і аздобу без важкіх прычын.
І сыпнулі ў душу дыяменты, агаты, рубіны,
І смарагды, бурштын, і апошні свой аквамарын.

## НЕ ДАЙ

Высокі Божа
даў чаргаванне
таго, што можа
змяняцца ў стане:
дажджу і сонца,
зімы і лета,
тугі бясконцай
і ўсмешкі дзетак,
рахманай думкі
і злых намераў,
паставаў стрункіх
і непамерных,
асенняй барвы
ў смузе-тумане
і весніх фарбаў
па ўсім кургане,
вады крынічнай
і лёду тоўшчы,
палян сунічных
і нетраў воўчых...
Не дай балотнай
іржы нязменнай,
нуды халоднай,
душы каменнай...

## БЕЛЫ ЗАЯЦ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

***дзе белы заяц з Караткевічам***
***вараць белае піва***
***белае белае белае***
***як белы свет***

Віктар ШНІП

з Караткевічам белы заяц
у чорных абрысах белага аркуша
п’юць белае белае піва
хіба з дадаткам белай паганкі
і не дайшлі да белай гарачкі
бо піва было янтарнае
нябачнае праз чорны кацялок
ды й заяц шэры ў шэрую восень
перад белай белай зімой
і белым полымем завеі
не нашай а той чукоцкай
як і белыя ночы Ларысы Геніюш
усё ж заяц стане белы белы
а ўвесну зноў пашарэўшы
дачакаецца белай белай чаромхі
на зямлі пад белымі крыламі
белымі белымі белымі
на якой жыве Бог

## ЗАПОЗНА

Светлы дзень вясновы,
Толькі ўсё нанова
Нельга нам пачаць пасля зімы,
Снежнай і марознай.
Надта ўжо запозна
Свет вярнуць, які стваралі мы.

Лёгкі цень усмешкі,
Што лунаў над сцежкай,
Вецер знёс на крылах у палі,
А слядоў адбіткі,
Словы на візітках
Віхры ўсіх мяцеліц замялі.

Голас твой у парку,
Воклічы ў час сваркі
Дождж з лістотай разам зрынуў ніц.

Бляск вачэй праменны
І настрою змены
Зніклі шпарка ў светлыні зарніц.

Лета залатое
З водарным настоем
Нас яднала жарсцевым цяплом.
Восень павуціннем,
Сумам шматгадзінным
На размовы сеяла апломб.

Сцюжа-завіруха
Безнадзейнай скрухай
Свет збурыла, што стваралі мы.
...Светлы дзень вясновы,
Толькі ўсё нанова
Нельга нам пачаць пасля зімы.





Наталія КАСЦЮЧЭНКА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## Бабіна лета

Трыццаць год прайшло з той восені, з таго бабінага лета, калі ў глухой палескай вёсачцы недзе паміж Дняпром і Прыпяццю павольна і шчасліва вялі свае гаспадаркі людзі. Чаму шчасліва? Таму што магчымасць быць дома, на сваёй зямлі, там, дзе нарадзіўся і дзе з веку ў век жылі твае дзяды і прадзеды — і ёсць шчасце. Нават, калі ты гэтага і не ўсведамляеш. Толькі страціўшы, разумееш, чым валодаў...

Вольгу ў родную вёску прывезла дачка. У такое ж бабіна лета, што і калісьці, у такі ж цёплы вераснёўскі дзень. Ёй надта ж захацелася падыхаць родным паветрам. Адчуваць стала сябе не вельмі добра. Падумала: а калі больш не атрымаецца ўбачыць тое, што так часта апошнім часам сніцца. Таму, можа, і сніцца? Быццам хтосьці папярэджвае: едзь, Воля, едзь. Бо ці давядзецца яшчэ? Нядужая ты стала. Кожны раз пытаешся ў сябе: ці перазімую? А раптам гэта восень, як і тая для тваёй вёсачкі трыццаць гадоў назад, стане апошняй? Таму і папрасіла дачку: звазі. Пасадзіла тая яе ў сваю маленькую легкавушку і павезла.

І вось Вольга тут, на радзіме… Дзе няма ніводнага чалавека. Дзе пазарасталі быльнягом, крапівой, дзядоўнікам і іншым пустазеллем двары, асунуліся хаты, а калі якія і трымаліся на яшчэ слабых сценах, то ў іх хаваліся ад непагадзі ваўкі і лісы. Над адзічэлымі прасторамі панавала бясконцая тужлівая цішы-

---

*__Касцючэнка Наталія Мікалаеўна__ нарадзілася 5 кастрычніка 1963 года ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1987). Працавала інжынерам-азеляняльнікам у Мінскзелянбудзе, дырэктарам прадпрыемства па фітадызайне і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам вытворчага прадпрыемства «Квецень».*

*З 2005 года працавала рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман», вядучым рэдактарам аддзела кнігавыдання РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг прозы «Таямніцы пачуццяў» (2004), «Сугучнасць» (2004), «Добро и зло — две половинки любви» (2005), «Верба над омутом» (2011), «Водгукі маўчання» (2012).*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2011 года» за кнігу прозы «Верба над омутом».*

ня. Непралазныя зараснікі лазняку і травы схавалі сцяжыны і дарогі. Не зарасла пакуль галоўная, што ўздоўж былых двароў, і то таму, што ішла па глыбокім пяску. Толькі вербы, адзінокія і высокія, нагадвалі пра мінулае жыццё вёскі. Але самая магутная і старая вярба, што некалі збірала пад шацёр сваіх галін на вячоркі аднавяскоўцаў, не вытрымала, зламалася і паваліласся, жахліва і сумна працягваючы цяпер да неба няроўныя вострыя абломкі ствала. Не верылася, што пад гэтай вярбой насупраць двара старой Кацярыны трыццаць гадоў назад дыхала жыццё. Села Вольга разам з дачкой на ствол зламанага дрэва і пачала ўспамінаць вераснёўскія дні 1985 года, бабіна лета сярод шчаслівых людзей, якія жылі тут, за дваццаць восем кіламетраў ад Чарнобыля, і, не прадчуваючы бяды, не ведалі, што гэта восень на роднай зямлі для іх — апошняя…

* * *

Хата пакасілася і рассохлася ад часу. Удушліва рыпела масніцамі на сагнутую пад цяжарам гадоў гаспадыню, на гасцей-аднавяскоўцаў, якія заходзілі сюды прабавіць хвіліну. І нават асцярожным катам падтаквала лёгкімі ўздыхамі трухлявых дошак. Вецер перабіраў салому са страхі, працягла стагнаў у коміне, то закалыхваў, то хваляваў рассохлае дрэва сваёй нягучнай музыкай.

Ужо тыдзень, як гасціла Вольга ў старой цёткі. Шаравала ў хаце падлогу, мыла бялізну, секла дровы і паліла печ. А ўвечары, крычучы ў вуха старой, чытала газеты.

— Іван, уставай чухацца, — раніцой будзіла Вольгу старая. І, смеючыся, тлумачыла: — Быў калісь у пані работнік. Як світанак займецца, яна будзіць: «Уставай, Іван, пара скаціну даглядаць». А Іван пакуль вочы прадзярэ, спіну пачухае ды штаны нацягне — дык і дзень на дварэ. Вось пані і пачала паднімаць работніка раней за сонца — чухацца. І ты на таго Івана падобная…

— Хто ў лесе, хто ў полі — ідзецьда мяне сне-е-едаць, — праз які час клікала да стала цётка.

Акрамя Вольгі збягаліся на кліч тры пярэстыя каты, зазіралі старой у вочы, церліся аб яе латаныя, з растрапанымі заднікамі буркі. Старая спяшалася ў сенцы, налівала ў бляшанкі з-пад кансерваў малака і тлумачыла:

— У хаце не кармлю. Бо панастаўляюць пад ложкамі «нерукатворных помнікаў» — ладу не дабяру!

Спаласнула над вядром рукі і паставіла міску з супам перад пляменніцай.

— Матрона, ты саліла? — прыгаворвала яна. І сама ж адказвала:

— Саліла.

— Дык і я ж пасаліў, — зноў казала сабе.

Твар старой маршчыніўся ва ўсмешцы. Яна камячыла амаль бяззубым ротам мякіш хлеба і расказвала:

— Калісь людзі жылі вялікімі сем’ямі. І ўнукі, і праўнукі, і дзяды, і дзеці — усе пад адной страхой. Было каму і старасць чужую дагледзець, і ў каго мудрасці павучыцца. Раз паставіла матка на стол міску з баршчом. Сын паспытаў, скрывіўся ды і пытае:

— Хто сёння боршч варыў?

А матка:

— Жонка твая.

Крахтануў сын, зачэрпнуў другую лыжку, патрымаў у роце і гаворыць:

— Пасаліўшы, можна есці.

Вось як калісь было.

— Кажуць людзі, свята сёння, — унесла неяк у хату пахі сена і малака суседка.

— Другая Прачыстая, Манечка, — кінула недаабіраную бульбу старая. — Як прыйдзе другая Прачыстая, то возьме камароў нячыстая. Казалі, што калі на другую Прачыстую сонца, то восень будзе цёплая, без дажджу.

— А на дварэ, галубка, сапраўднае бабіна лета. І ветру, мабыць, зусім няма, — заўважыла суседка. — Нават пчолы лятаюць.

Умасціўшыся на ўслоне побач з Воляй, якая лушчыла фасолю, яна працягвала:

— Некалі ў нашай вёсцы ў гэты дзень было Прастольнае свята, бацюшка нам яго назначыў. Ты, Воля, хоць і была тады малая, а і то павінна помніць, як у кожнай хаце рыхтаваліся да яго. Прыбіралі, гатавалі пачастункі. Прыходзіла багата гасцей, нават здалёк. Не трэба было і запрашаць. І ўсе даставалі са сваіх скрынь святочнае адзенне.

— А табе маленькай, Волечка, — успомніла старая, — я пашыла з таго кавалачка сіняга аксаміту, што застаўся ад тваёй нябожчыцы мамы, спаднічку на шлейках. Ці помніш? Яшчэ я табе і наказала, што адзець яе дазволю толькі на Прачысту, калі прыйдуць госці. А ты так радавалася, не магла дачакацца таго дня. І ўсё пыталася: «Ну калі ўжо будзе тая сіненечкая Прачыста?»

Вольга смяялася, стараючыся ўспомніць.

— Мыць сёння нельга, — нібы праспявала старая, — шыць таксама. Грэх, кажуць. Хіба дзеўку маю звадзіць у грыбы?

— Ох, таечка, ногі баляць. Нікуды нягодная стала, — запрычытала суседка і раптам падзялілася навіной: — Чула, у Галубоўцы дзвюх баб вытрусілі?

— Як вытрусілі? — зноў пакінула бульбу старая.

— А вось так. За самагоншчыц узяліся. У адной апарат, у другой брагу адабралі.

— Ну і добра. Правільна Гарбачоў робіць. Зглуміцца народ, як будзе піць.

Уладкаваўшы бульбу, старая падышла да паліцы:

— Пастой, Маня, зараз дам табе трохі свайго лякарства ад ног. Тут у мяне настойка з бярозавых пупышак, — яна дастала з паліцы бутэльку цёмнага колеру. — А то яшчэ паспрабуй такое: вазьмі лыжку масла, растапі ды змяшай з травой бадзягі. Як у цябе няма, дык я табе дам. Паўцірай нанач, дзе баліць, і ўхутай. Яно будзе гарэць, ды ты пацярпі ўжо. Затое потым дзён колькі не будзеш знаць гора. Хто сам сябе сцеражэ, таго і Бог беражэ.

Вольга ведала, што яе цётка лечыць ці не ўсю вёску. Збірае розныя зёлкі, потым раздае. Нават Вользе пасылала ў горад. Тыя яе лекі і сапраўды дапамагалі.

Вольга і старая выйшлі за вёску. Стаяў верасень. Да высахлага балота туліўся бялявы туман. Ільснілася сівізной яшчэ неабляцелае лісце вербалозу.

Жанчыны скіравалі ў бок былой фермы, ад якой засталіся шурпатыя трухлявыя сцены. Абапал дарогі чарнела ўзараная пад азіміну зямля.

— Вось тут адно забалоцце, а тут другое было, — успамінала цётка. — А на месцах тых святлейшых плямін — астравы. Якія ж на іх дубы раслі! Такія красівенныя дубы, якіх ужо нідзе не пабачыш… А там, за канторышчам, — явары.

На паляне, дзе кудлацілася адквітнелай коўдрай зямля, стары Іван пасвіў кароў. У паношанай кепцы і выгаралай, незразумелага колеру кашулі, ён сядзеў збоч дарогі і курыў самакрутку.

— Куды, бабкі, сабраліся? — хрыпла прабасіў дзед.

— На Сіліну гару. У грыбы.

Пазнаўшы ў старой гаспадыню, чорная з белымі плямамі па баках карова аддзялілася ад чарады і пацягнулася да знаёмай васільковай спадніцы.

— А чаго цябе?! Пайшла ў статак, Лыска! — схапіла дубчык цётка. — Бач, якая!

Праз нейкі час жанчыны падышлі да лесу. Зараснікі сасны і дуба ўзвышаліся над спусцістым схілам Сілінай гары, якая быццам гарбом навалілася на раўніну. Да гары падступаў арэшнік. Фіялетавай коўдрай адцвітаў на палянах верас. Сціпла лашчыла зямлю бабіна лета.

Але нішто не радавала старую.

— Не той лес ужо. І птушкі не пяюць. А некалі як выйдзеш на Сіліну гару — і дразда пачуеш, і чаркаса, і берасцяначку, — яна ўздыхнула, паглядзела на прысадзістыя дубкі. — Як прыехалі калісь лес карчаваць, дык ніхто карчаваццеляў тых на кватэры не пускаў!

— От, злыдні, — спынілася каля абсечанай сасны цётка. Вакол камля ляжала галлё. — Гэтаму Валодзю Астапенкаву камбікорму не хапае! Шышкі ў саўгасе на камбікорм абменьвае! Дзеля тых шышак столькі галля пасячы! Лепшых хвоек не стане! Хіба ж то сосны? — паказала яна за дарогу, дзе зеляненелі густа пасаджаныя дрэўцы.

Але прыгравала сонца. Поўніліся кошыкі. Цяплелі вочы жанчын.

— Ідзі, Воля, сюды. Пабач: а верас усё цвіце… І так жа ж красівенна цвіце! Такім драбненечкім фіялетавым цветам…

А потым Вольга з цёткай былі на вячорках. Сядзелі насупраць Кацярынінага двара на доўгай лаўцы, дзе ўжо каторы год збіраліся па вечарах стомленыя за дзень аднавяскоўцы. Першая прыходзіла туды, ледзьве тупаючы і абапіраючыся на кій, поўная, важкая Кацярына. Сонца за лес — і бялее яе хустка пад вярбой. Празвалі тую пядзю зямлі «Кацярыніным клубам».

— Чаму не адчыняеш завядзенне, Кацярына? — жартавалі вяскоўцы, калі пуставала лаўка. Але здаралася такое не часта. Амаль кожны вечар збіраліся старыя пад вярбу. Дванаццаць баб і два дзяды было ўсяго іх.

Чысценькая і маўклівая, усаджвалася на калоду Коміха. Калі быў жывы яе стары Ком, «загадваў» клубам ён. Белавусы, сівы, майстра на ўсялякія выдумкі, заклікаў аднавяскоўцаў да сябе ў хату. Не стала Кома — перамясціўся клуб пад вярбу.

Даспадобы былі такія вячоркі Вользе. Як прыедзе ў адпачынак з горада, дык і сядзіць усе вечары з бабамі на калодках, слухае няроўную, трохі дзікаватую, але чамусьці патрэбную ёй з дзяцінства гамонку…

— Мая донька бачыла, як у хворага рака выкачалі. Яна санітаркай у бальніцы робіць.

— А які ж ён, той рак?

— Як клубок нітак.

— Калі б таго рака выкочвалі, дык людзі б не ўміралі! — муцілі цішыню хрыплаватыя, не падобныя адзін да аднаго галасы.

Прыціскаючы да грудзей бярэмя галля, выходзіла пад вярбу Карпенчыха. Клала на старое вогнішча сушняк, чыркала запалкамі.

— Раскладу агню — учыню вам, бабы, курышча. Хоць камароў паадганяю.

Потым садзілася на злямчаную траву, абпінала спадніцай босыя ногі і падкідвала тэму для размовы:

— Мужчыны злуюць, што гарэлкі нестае. Мой, было, скруціўся сп’яну. А зараз нічога, на чалавека падобны.

Бабы ажылі. Старую балячку зачапіла Карпенчыха.

— А забыла, як яго ля магазіна лазінай лупцавала? — з'яхіднічала Кацярына.

— Ды помню. Было, дадому не давяду. Хоць на плечы мужыка ўскідвай. За душу мяне і ўзяло. Дай, думаю, лазінай адлужу, можа, зло зганю. Скварчыха тады на ўсю вёску смяялася. Ты ж штаны яму раіла спусціць, а то не баліць…

Змрок спакваля апускаўся на зямлю, на балоты, на кудлатае кустоўе вербалозу.

— Чуй, Вольга, які з тваёй цёткай выпадак быў, — не сунімаліся старыя. — Раскажы ёй, Наталка, пра Івана.

— Ды быў, — згадзілася старая. — Прыходзіць раз да мяне надвячоркам Апанасаў Іван. «Пазыч, — кажа, — баба Наташа, якую траячку да палучкі». А сам стаіць, пахістваецца і ледзь языком варочае. Не дала. Ідзі выспіся, кажу, Іванька, а ўранцы прыходзь. Я ўжо і спаць легла, як стукае ў хату суседка.

— Ох, — кажа, — Наталка, з таго свету голас чуваць. Памажы, вые, Божачка, дадому дабрацца!

— То, можа, Іван, у калюжы моліцца, — смяюся я.

А Галя аж заходзіцца.

— Не, — кажа, — з таго свету, яй-бо!

Я — за парог. Чую, і праўда, хтось — «ратуйце», гукае.

— Іван, то ты? — пытаюся.

— Я.

— А дзе ты?

— У калодзезі.

Калодзезь з плотам, трасцу яму ў бок, пераблытаў.

Збегала я па драбіны. Крука над калодзезем намацала ды давай да яго драбіны чапляць. А Галя ўсё раіла:

— Не драбіны яму, а дручком па галаве!

— А далей што? — рагатала Вольга.

— Ды нічога. Выцягнулі. Чорт яго не ўзяў! Здаровы. Толькі потым ваду давялося вычэрпваць.

…Сядзела Вольга, цяпер ужо сама старая, на ствале зламанай вярбы побач з дачкой і ўспамінала тое далёкае бабіна лета, якое тады, прылашчыўшы восеньскую прыроду, спуджанай птушкай адляцела на поўдзень. Як тут, у забытай усім светам вёсачцы, адзінока і натужліва парыпваў калодзежны журавель: «рррып-рррып», ды тупалі сабе ўлюбёныя ў ціхую старонку людзі.

## Штурка

Штурку — жвавае круглабокае шчанё — Ганна прывезла пад вечар. Радавалася, што паспела купіць апошняе. Здаецца, толькі сёння з'явілася «рэкламка» з аб'явай, аж — бач ты! — за дзень усіх адзінаццаць аўчаранят паразбіралі.

У кватэры, якая з таго часу, як памерла маці, зрабілася няўтульнай, пачала жыць гэтая маленькая істота — чуллівая, пяшчотная, цёплая. Шчанё тыцкалася вогкім носам у Ганніны ногі, няўклюдна клыпала за ёю з аднаго пакоя ў другі і зацята скавытала, калі гаспадыня пакідала яго аднаго.

Замуж Ганна не выйшла, і, мусіць, яшчэ і па гэтай прычыне кожны дзень жыцця здаваўся ёй доўгім і бясколерным. І ўжо рэдка калі адчувала яна раптоўную радасць, якая, праўда, гэтак жа раптоўна і знікала, надоўга пакідаючы пасля сябе нездавальненне і смутак. Больш не з'яўлялася, як раней, у былыя гады, тая маладая надзея, што хутка спаткае яе нешта сапраўднае, лепшае, і з кожным годам усё больш авалодвала Ганнай роўнае, поўнае нуды пачуццё расчараванага жыццём чалавека.

І вось — Штурка. Дагэтуль Ганна нават не ўяўляла, што магчыма, каб гарэзлівае, жвавае сабачанё магло так шмат перайначыць у настроі, зрабіцца блізкім, патрэбным.

Цяпер Ганна нібы на крылах ляцела-спяшалася пасля працы дадому. Ненадоўга заходзіла ў краму, каб набыць сёе-тое з прадуктаў ды купіць для Штуркі лепшанькі кавалак ялавічыны.

— І-ы, о-о, увых! — адгукаўся шалёны, узрадаваны Штуркаў віскат, калі Ганна адмыкала дзверы.

Ад бурнай, нястрыманай пяшчоты шчаняці яна адчувала сябе шчаслівай. Узрадавана лашчыла, ціскала шчанё, зазірала яму ў вочы:

— Штурачка ты мой! Дзіцятка маё маленькае!

Штурка матляў хвастом, нібы ваўчок, круціўся каля ног і раз-пораз, адштурхнуўшыся ад падлогі, узлазіў Ганне на калені.

— І-ы, о-о, увых!

Кожны вечар цяпер Ганна хадзіла са Штуркам да возера. Невялікае і не вельмі чыстае, яно знаходзілася за новабудоўляй у кіламетрах трох ад дома. Няўклюднае, яшчэ віславухае аўчараня то блыталася пад нагамі, то радасна бегла наперадзе.

Каля возера Ганна здымала з сябе кофту і, падаслаўшы яе на траву, садзілася. Штурка круціўся паблізу, асцярожна спускаўся да вады і, намачыўшы морду і лапы, ліхаманкава вяртаўся да Ганны. Шчанё скакала і незадаволена чмыхала. Потым выцягвалася каля ног гаспадыні і толькі зрэдку, калі з'яўляўся паблізу хто-небудзь з прахожых, падхоплівалася на пярэднія лапы і гаўкала.

— Колькі яму? — пыталіся іншы раз у Ганны.

— Трэці месяц.

— Добрае шчанё. Такое малое — і ўжо абараняе.

Каля возера заўсёды было ціха. Нават тыя ж гукі здаваліся цішынёй. Ганна адчувала, як яе душа непрыкметна ўваходзіла ў таямніцы жыцця, уваходзіла пяшчотна і павольна, з чыстымі думкамі і пачуццямі, і ў гэтым была радасць.

— Штурка, Штурачка мой маленькі, дзякуй табе, дзякуй…

Праходзілі тыдні. Вось пачалі ўжо смешна тапырыцца ў Штуркі вушы. Сам жа ён выцягнуўся, зрабіўся яшчэ больш жвавым і няўрымслівым.

Цяпер Ганна выгульвала Штурку на павадку. І кожны раз ледзь не падала з ног, калі збягала па прыступках, бо ўжо не сама ўтрымлівала каля сябе Штурку, а той цягнуў яе за сабой. У такія моманты Ганна ўяўляла, як недарэчна яна выглядае збоку, і сарамліва азіралася — ці не бачыў хто.

— Развялі сабак! — папікалі іншы раз Ганну.

— Жыцця не стала! Дзецям нават пагуляць няма дзе!

— Яшчэ б цялят у кватэрах пазаводзілі!

І раптам, як нейкі ўнутраны бунт, узнікла ў Ганны думка: «Навошта ўсё гэта мне?» Але сама думка заставалася няскончанай і нават зусім не сфарміра-

ванай і спакваля, пакуль Ганна адыходзіла далей ад дома, ад шумнага і шматлюднага двара, знікала зусім.

Дарога, па якой яны штодзённа хадзілі да возера, хмызняк абапал яе, зжаўцелая восеньская трава — усё гэта цяпер стала для яе звыклым і блізкім. Цішыня і прыгажосць наваколля хутка авалодалі яе пачуццямі і цераз глыбіню істоты праганялі дрэнны настрой. Тут Ганна адшпільвала ад ашыйніка павадок, каб сабака, які адразу рабіўся ўзбуджаным і задаволеным, меў магчымасць гуляць вольна.

У пачатку кастрычніка распачалася ў Штуркі лінька. Штодня хадзіла Ганна па пакоях з анучай і, злуючыся на сабаку, утрапёна шаравала падлогу.

«Дурніца я, дурніца! — у роспачы думала яна. — Вось дык выбрала долю! Каб маладая жанчына — і прысвяціла сябе сабаку!»

Мыючы падлогу, Ганна ўсё болей раз’юшвалася:

— Як жа гэта атрымліваецца? Не паспееш пакарміць — ужо трэба выгульваць. Пасля працы нікуды не завітаць — спяшаешся дадому. І зноў жа, навошта мне гэтая ануча, якая ажно калмаціцца ад поўсці?!

Ганна апусціла анучу ў вядро, прапаласкала ў бруднай вадзе і зноў узялася за падлогу.

— А адзенне, адзенне якое! — не пераставала злаваць яна. — Паліто — у поўсці. Таксама спадніцы, сукенкі! Жах…

Неўзабаве Штурка, які дагэтуль гуляў з гумавым мячыкам, падскочыў да Ганны, хітравата крутануў галавой і ўхапіўся за край анучы.

— Адыдзі-і! — не вытрымала Ганна. Раптам ёю апанавала моцная безразважлівая лютасць. Яна выхапіла з сабачай зяпы анучу і запляскала Штурку па мордзе.

Той ад нечаканасці завіскатаў, падскочыў і кінуўся да дзвярэй. Ганна рушыла за ім і не пераставала пляскаць анучай.

— Адыдзі! Адыдзі! — яна ўжо не разумела таго, што гаварыла.

Штурка прыціскаўся да дзвярэй, ашчэрваў ад болю пашчу і засяроджана, нават не моргаючы, глядзеў гаспадыні ў вочы.

Ганна ведала, што рабіла нешта жахлівае, жорсткае, наперакор розуму. Але не магла пераадолець раз’юшанасці. І толькі праз нейкі час раптам, нібы ад імгненнага штуршка, яна адчула ў душы спакой. Ганна знясілена апусцілася на падлогу і ўткнулася мокрым ад слёз тварам у морду сабакі.

— Штурачка, даруй мне… А-а-а… Родненькі, даруй.

Штурка адразу ўзрушыўся, радасна завіляў хвастом, лізнуў гаспадыню ў твар. Ганна выпрасталася, паглядзела на яго і неўзабаве здзівілася: адкуль у гэтага ўжо немалога, дужага, ікластага сабакі столькі цярплівасці і пакорлівасці? Чаму ён не зрабіў у адказ балюча ёй, Ганне? Чаму не абараніў сябе? Яна зазірнула ў чулыя, адданыя вочы Штуркі і амаль шэптам спытала:

— Што за прырода ў цябе, сабака?

І Штурка зноў лізнуў Ганну.

Ішлі дні. Штурка ні аб чым не думаў і не ведаў, а толькі па-свойму, пасабачы, заўзята і нязменна, магчыма, больш за ўсё на свеце, любіў гаспадыню. Ганна ж вырашыла пазбавіцца ад сабакі. Штодня тачылі яе мулкія, неадчэпныя думкі.

Цяпер яна была вельмі добрая да Штуркі. Падоўгу сядзела разам з сабакам на падлозе, лашчыла яго, заглядвала ў вочы. І тады Штурка, знемагаючы ад пяшчоты, станавіўся незвычайна пушыстым, вушы ў яго распускаліся, хвост спыняўся, і Ганна нават адчувала, як часта і моцна калацілася сабачае

сэрца. Ён быў шчаслівы. Бо аб ім, як і заўсёды, нават яшчэ болей, клапацілася гаспадыня. Тая з такой чуллівасцю, так неабыякава паглядала на яго, што яму не было ніякай справы да таго, якія непрымірымыя, супярэчлівыя пачуцці ўзнікалі ў гэты час у чалавечай душы.

…У той дзень выпаў снег, неглыбокі і мокры. Першы снег у Штурчыным жыцці. Па небе паўзлі хмары, якія, здавалася, таілі ў сабе трывогу.

Ганна стаяла са Штуркам у дамоўленым месцы і чакала. Штурка то пакорліва сядзеў каля яе ног, то нецярпліва ўскокваў, нямоцна нацягваў павадок і, не разумеючы, чаго хоча гаспадыня, заглядваў ёй у твар. Ганніна трывога перадалася сабаку.

Той, каго чакала Ганна, урэшце прыйшоў. Ён павітаўся з ёю, пасядзеў на кукішках каля Штуркі, пацёпаў сабаку па вушах і ўзяў у Ганны павадок.

— Значыць, дамовіліся. Сабаку наведваць не трэба. Каб не нерваваць. А ў нядзелю яго забярэ мой сябра — сабакавод. Ён тым больш гэтых сустрэч не захоча.

Ганна ішла да тралейбуснага прыпынку і чула, як ірваўся за ёю, жудасна віскатаў Штурка. Яна больш не адчувала ў сабе нядаўняй упэўненасці, у душы з'явілася брыдкая і балючая каламуць.

Няпэўная пара — восень. То ішоў дождж, альбо ўзнімаўся вецер і пачынаў ганяць хмары. То неба рабілася ясным і глыбокім, нібыта летам.

Ганна не магла пазбавіцца ад пачуцця трывогі. То яна хвалявалася, што вельмі распесціла сабаку і цяпер яму будзе блага. То перажывала, што, магчыма, Штурку не змогуць наведваць у абедзенны час, і тады без прывычкі ці здолее паўгадовае шчанё стрымліваць свае сабачыя патрэбны. І шмат іншых падсвядомых, непадуладных разуменню хваляванняў таілася ў Ганнінай душы.

А ў суботу ўвечары раптоўна здагадалася пра тое, што ёй усё рупіла неяк падсвядома, знаходзілася недзе ў глыбіні істоты і не афармлялася ў думках, а цяпер неяк узнікла і выявілася ўжо як моцнае, упэўненае разуменне: «Гэта ж не проста сказаў ён, што патрымае да нядзелі Штурку… Які там сябра — сабакавод!» Толькі зараз Ганна ўспомніла, што менавіта па нядзелях працуе сабачы базар. Неўзабаве ёю апанаваў жах, што Штурку хутчэй за ўсё прададуць, і калі не атрымаецца за добрыя грошы, то нават каму-небудзь на шапку. Цяпер Ганна была ўпэўнена, што яе абдурылі.

Ранкам, калі неба яшчэ не пачынала брацца святлом, Ганна ўжо была на базары. Там-сям з'яўляліся людзі. Прыносілі на продаж птушак, катоў. Прыводзілі сабак. Але Штуркі нідзе не было.

Каб не замерзнуць, Ганна шпацыравала то ў адзін канец базару, то ў другі. Хутка раставаў утаптаны людзьмі снег. Пад нагамі ўтваралася вогкая хлюпкая гразь.

Ганна з нейкай унутранай прагнасцю глядзела па баках.

Каля агароджы на кукішках сядзеў хлопец, а побач з ім — невялікае таўсталапае аўчараня. Вочы ў хлопца былі сумныя. «Нялёгка, відаць, яму зараз», — падумала Ганна.

У другім кутку базару, паміж агароджай і цаглянай сцяной нейкай будыніны, размясцілася з вялізным кашом бабуля. Калі Ганна падышла бліжэй, то ўбачыла на дне каша маленькіх падслепаватых шчанюкоў. Яны няўклюдна варушыліся, прыціскаліся адно да аднаго сваімі круглабокімі цельцамі, грэліся.

— Купі, дачушка, нядорага вазьму. Купі.

Недалёка ад брамы папрымошчваліся, па ўсім было відаць, вясковыя мужчына і жанчына. Каля іх ног на зрэбнай анучы ляжала невялікая, з парэпаным вухам лайка, а паміж яе лапамі варушыліся, спрабавалі падсунуцца бліжэй да цёплага матчынага жывата пярэстыя з дрыжачымі хвосцікамі сысункі. Лайка раз-пораз пачухвалася, адштурхоўваючы іх ад сябе, альбо, ашчэрыўшыся, утрапёна пакусвала поўсць. Дзіўныя былі вочы ў гэтай лайкі — спакойныя і пакорлівыя.

Ганна падумала, што сабакі нечым падобныя на сваіх гаспадароў. А наогул яны розныя. Ёсць сярод іх амаль ачалавечаныя, ёсць разумныя і дурныя, паслухмяныя і гарэзлівыя. Але ўсе яны аднолькавыя ў адным — у безразважлівай, апантанай любві да чалавека. Нават гэтая карослівая, блыхастая лайка, якая хутчэй за ўсё жыве пад ганкам альбо ў будцы, даверылася і не перашкаджала яму.

Ужо добра развіднелася. На базар прыйшло шмат людзей. Але Штурку ніхто не прыводзіў. Ганна стамілася, змерзла і пачала нервавацца. Яна злавала на сябе за тое, што так бяссэнсоўна змарнавала час. Ёй нават зрабілася абыякава, прывядуць на продаж Штурку альбо не.

Цяпер Ганну раздражнялі людзі, якія мітусіліся вакол яе. Непрыемна было бачыць жанчыну, каля ног якой сядзеў вялізны калматы сенбернар. Ганна даведалася, што сенбернар быў ужо дарослы і гаспадыня аддавала яго бясплатна. Вочы ў жанчыны былі заплаканыя, прыпухлыя. Ганна звярнула ўвагу на яе моднае паліто, на якім таксама, як нядаўна і ў яе самой, валахацілася сабачая поўсць.

Раздражняў Ганну і цыбаты, у стракатай куртцы хлопец. Зіркаючы вачыма па баках, ён сноўдаўся сярод людзей і прапаноўваў маленькае віславухае шчанё, што вытыркоўвала чорную мордачку і дзве танюткія лапкі з-пад курткі.

Некалькі дзяўчынак папрымошчваліся каля брамы і гандлявалі калматымі ангорскімі кацянятамі. На золку Ганна бачыла, як ім аддавалі кацянят бясплатна, так кажучы, «у добрыя рукі», а зараз яны нахабна расхвальвалі народзістасць і прапаноўвалі кацянят за грошы.

Пакрыху Ганна спакайнела і разам са спакоем усё больш адчувала голад. Яна ўжо не жадала ўбачыць на базары Штурку. Зразумела, што памылілася і дарэмна гэтак нядобра думала пра чалавека. Ды і наогул, што б яна рабіла з сабакам? Не забіраць жа зноў дадому?

З палёгкай Ганна пайшла з базару, дзе нават паветра трымала ў сабе даўкія, кіславата-моташлівыя пахі жывёлін. Яна нібыта нешта скінула з душы, выслабанілася ад супярэчлівага наслання пачуццяў. За апошні час упершыню, не ўсвядоміўшы яшчэ, добра гэта ці не, яна адчула сябе свабоднай.

Неўзабаве на трамвайным прыпынку Ганна заўважыла невысокага, у гадах мужчыну і побач з ім аўчарку, якая была вельмі падобная на Штурку. Толькі гэтая была старэйшая і з медалямі на ашыйніку. Вакол тоўпіліся цікаўныя хлапчукі, і мужчына добразычліва ўсміхаўся ім. Ганна зацікавілася і падышла бліжэй.

— Вы сабаку на базары купілі? — пыталіся ў мужчыны хлапчукі.

— Хм… Мы з Альмай побач ужо шмат гадоў.

Аўчарка разумнымі вачыма паглядзела на гаспадара і ледзь бачна вільнула хвастом.

— А за што ў яе медалі? — дапытваўся чырванашчокі хлапчук.

— За прыгажосць.

— А за прыгажосць хіба даюць?

— Сабакам даюць.

У вачах хлапчукоў з’явілася захапленне. Было відаць, што яны па-свойму, па-дзіцячы зайздросцілі гаспадару аўчаркі.

У трамвай Ганна ўвайшла ўслед за мужчынам з сабакам і, каб іх бачыць, прымасцілася паблізу. Яна ўсхвалявана пазглядала то на аўчарку, то на яе гаспадара. Заўважыла, што некаторыя з пасажыраў спалохана адыходзілі ад іх далей, іншыя нездаволена кідалі позіркі ў іх бок. Былі і тыя, якія пазглядалі з цікавасцю, па-добраму. І тады Ганне рабілася радасна.

Раптам яна зразумела, што ёй неабыякавыя і гэтая аўчарка, і гаспадар. У адносінах паміж чалавекам і сабакам адчувалася нешта высакароднае, шчырае.

На патрэбным прыпынку Ганна не сышла.

— Калі ласка, прабачце, — нечакана звярнуўся да яе гаспадар аўчаркі. — Але мне здалося, што ў вас нешта здарылася. Вы так сумна паглядалі ў наш бок.

Ганна зазірнула яму ў твар і ўбачыла яго добразычлівы і ўважлівы позірк.

— У мяне таксама быў сабака, — ціха сказала Ганна.

— З ім што-небудзь здарылася?

— Я яго аддала.

Мужчына перасмыкнуў вуснамі, апусціў вочы і здагадліва запытаў:

— І што цяпер, баліць?

Ганна не адказала.

— Мне здаецца, што я ведаю, якія прычыны прымусілі вас гэта зрабіць, — сумна, зусім без дакору сказаў ён. — Яны амаль ва ўсіх аднолькавыя. Гэта — і лішнія клопаты, і ганьбаванні з боку іншых людзей. Я не памыліўся?

Ганна пагадзілася з ім.

— Не маю жадання ў чым-небудзь вас папікаць, — нібы апраўдваўся ён, — але пра свае адносіны да сабак, калі вам цікава, раскажу. Магчыма, гэта будзе на карысць вам.

Мужчына прапанаваў Ганне прагуляцца пешшу, і на наступным прыпынку яны выйшлі.

Спачатку пакрочылі па тратуары, потым па бруку, пераходзілі цераз скрыжаванні, і побач з імі, не адстаючы і не забягаючы наперад, ішла незнаёмая Ганне Альма.

— Калісьці, — расказваў мужчына, — я быў тады хлапчуком, у пасёлку, дзе жыў, памёр настаўнік. Быў у яго сабака, невялікі калматы спаніэль. Разам са сваякамі, знаёмымі і намі, вучнямі, ішоў у жалобнай працэсіі, прысутнічаў пры пахаванні нябожчыка, бачыў, як кідалі на труну прыгаршчы зямлі. Потым усе пайшлі. А сабака застаўся. Больш за год пражыў ён на магіле гаспадара. Знаходзіліся людзі, якія падкормлівалі яго, спрабавалі забраць да сябе, але ён так і не пакінуў дарагога чалавека, нават калі ад яго застаўся толькі ўзгорачак. Там, на магіле, і памёр.

Мужчына ўздыхнуў і проста паглядзеў Ганне ў вочы.

— З таго часу я неабыякавы да сабак, — зноў загаварыў ён. — А між іншым, сабака патрэбны чалавеку яшчэ дзеля таго, каб будзіць у ім схаваныя душэўныя якасці, пяшчотныя і добрыя, важныя, як паветра і хлеб. Гэтыя якасці закладзены ад нараджэння ў кожным чалавеку. Але яны могуць так і не выявіцца ніколі… — мужчына ўздыхнуў. — А што датычыцца ганьбавання з боку іншых людзей, — падумаўшы, дадаў ён, — то мы з Альмай на гэта не зважаем. Розныя ёсць людзі. Ды яны і павінны быць рознымі…

Халоднай няўтульнасцю сустрэла Ганну кватэра. Неяк нязвыкла, па-новаму балела душа.

За акном цямнела. Увесь дзень яна не ела. Наліла ў чайнік вады, паставіла на пліту. Адчыніла хлебніцу — там быў толькі цвілы батон. Ганна дастала з халадзільніка шклянку з варэннем, якое пераклала ў вазачку.

— Што яшчэ? — яна перасмыкнула плячыма. У доме нічога не знаходзілася з ежы, а калі і былі ў шафцы крупы, а ў скрыні — бульба, Ганне ўсё роўна не хацелася гатаваць. Яна сядзела, знясілена абапёршыся аб стол, і чакала, калі закіпіць у чайніку вада.

— Божачка, чаму так брыдка на душы? — прастагнала яна.

Чайнік хутка зачмыхаў парай. Але Ганна ўсё яшчэ не знаходзіла сілы ўстаць, каб зняць яго з агню. Яна ўтулілася тварам у далоні і зайшлася ад плачу. Але раптам замерла — яе нібы хто штурхануў. Ускочыла, перакрыла на пліце агонь. Потым падышла да акна. Пастаяла, гледзячы ў сцямнелае неба, і нечакана яе ўразіла думка, ад якой на хвіліну нават здранцвела — дзе ж ён? Ганна зразумела, што заўтра знойдзе і забярэ Штурку, нават заплаціць новаму гаспадару за клопаты. Яна з палёгкай уздыхнула, усміхнулася.

— Дурніца, чаго я столькі вагалася? Навошта мучылася? Усё ж так проста.

Неўзабаве Ганна адчула лёгкасць.

— А са Штуркам не будзе цяжка, — разважала цяпер яна. — Абмяжую яму тэрыторыю, прывучу да парадку. Ды і сама стану больш сабранай. А калі здарыцца такое, што мы са Штуркам каму-небудзь не спадабаемся, то і няхай сабе. — Ганна ўздыхнула. — Добры чалавек дакараць не стане.

Павячэраўшы, Ганна прыняла душ, потым загарнулася ў коўдру і расслаблена пацягнулася. Вакол было ўтульна і прыбрана. Падлога блішчэла. Нават прыемна было скінуць на імгненне тапачак і крануць яе босай нагой — такая яна была чыстая, гладкая.

І раптам зноў узніклі сумненні: ці правільна яна наконт Штуркі вырашыла? Можа, лепей пакінуць усё, як ёсць? Якую толькі блытаніну не здольны навесці пачуцці!

— Не, трэба яшчэ падумаць, — нібыта працверазілася Ганна. — Пераначую, а раніцай будзе відна…

Уначы Ганне снілася, што ішлі яны са Штуркам па вуліцы. А на іх глядзелі людзі. Па-рознаму глядзелі… Адны — дакорліва, другія — па-добраму. Людзі неаднолькавыя… Яны і не павінны быць аднолькавымі.





Юрый БАЕНА

# МОЙ ТВАР ЗАПІСАНЫ КІРЫЛІЦАЙ

* * *

Над скрыжаваннямі айчынных дарог
зялёнай душы ключом
адчыняю нябёсы паэзіі.
У веснавую рань з сінявы нябёс
струменіцца шчодра сонечны дождж.
Пад белымі крыламі хмар
нараджаюцца першыя несмяротнікі-вершы.
Словы найпрыгажэйшай мовы —
ціхія, як сон, гулкія, як царкоўны звон.
Натхнёны малітвай-сяўбой
вуліцай зямной і нябеснай
уваходжу ў чароўны палон…

Ноччу зарапад.
Маланкі крэсляць далягляд.
Гляджу на нябачнае, чую нячутае.
Жыву ў імперыі хараства,
у манастыры святла —
на восьмым кантыненце свету.

---

*__Баена Юрый__ нарадзіўся 24 сакавіка 1957 года ў вёсцы Мокрае Бельскай гміны (Польшча). Выпускнік Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім (1976). Скончыў Люблінскі ўніверсітэт імя М. Кюры-Складоўскай (1980). Настаўнік геаграфіі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.*

*Старшыня Бельскага аддзялення Саюза польскіх настаўнікаў. Радны Гарадской рады Бельска-Падляшскага (1990—2010) і Рады павета Бельск-Падляшскі (2010—2014). Дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства, намеснік старшыні галоўнага праўлення (2005—2013). Сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа».*

*Аўтар зборнікаў вершаў «Лісты блакітных успамінаў» (1991), «Вечар над светам» (1998), «Крык дзікай ружы» (2003), «Пад нашым небам» (2007), «Бераг надзеі» (2009), «Шкатулка святла» (2013), «Вочы зялёнай душы» (2016).*

* * *

Кожная рана —
мая перамога,
паказальнік дарог,
паратунак ад злога…

Кожны шнар —
радок верша…

Мой твар запісаны кірыліцай.

## ІДЗЁМ ПА ШЧАСЦЕ

Даўным-даўно, спакон веку
ідзём па шчасце.

Дарогамі і бездарожжам
ідзём ажывіць мары.

Упаўшы, узнімаемся,
каб не згаснуць.

Схіленыя над калыскай,
будучыню чакаем.

Наш сцяг — надзея,
што ў памяці трывае.

Яна на белым палатне
з бяссмерця вышытая…

* * *

У сонечнай краіне
перасыпаю сонечны пясок —
з бяскраю ў бяскрай,
з нябыту ў нябыт,
з бяссмерця ў несмяротнасць.

Вочы, ногі і рукі
прывыклі ўжо да пяску.
Залаты дыван
мне хтосьці кладзе
на душу…

У спякоту пустыня
камянямі грукоча,

халоднай ноччу
зубамі скрыгоча…

Каб сніліся сны,
іду на скалісты абрыў.
Там стаю,
стаю і гляджу,
як за сёмым даляглядам
скрозь сінеюць
мае васількі.

* * *

Калі збіраюся пісаць,
старанна і доўга
вастру аловак.
Графітнае вастрыё —
пік дасканаласці
і прыгажосці.
Веліч-гара.
Злева і справа —
бездань, імгла.
Неба, унізе зямля.
Сінь і бель,
зеляніна і чарната.
Вока ў вока,
твар у твар
стаім без руху —
я і скала.
Цішыня
ўва мне
і ў камені…

Ля мяжы
нябыту і жыцця,
цемры і святла
малюся Табе,
Магутнае Слова.

## ВЯРБА

Кволае дрэва
тутэйшых краявідаў.
Прыдарожная
падляшская Ніка.
На скрыжаваннях —
маці смутку і развітанняў.

Гаротніца,
на яе целе
раны, апёкі, шнары.
На галаве
цярновы вянец.
Калі трэба,
між цемрай і святлом,
між смерцю і жыццём,
праз найглыбейшы снег
і праз агонь ідзе.
Шчырая, спагадлівая,
працягвае рукі
прыгнечаным і знявечаным.
У зялёнай сукенцы
на крылах вясны
надзею нясе —
хлеб душы.
Вястунка доўгалецця
Сонца і зямлі.
Пальма беларуская,
польская,
славянская.
Вечна жывая
святая вярба…
У вербную нядзелю
з намі яна
сустракае Хрыста!





Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

*Лірычныя мініяцюры*

Летнія дні ў маленькай, адзінокай пушчанскай вёсачцы часам падбадзёрваюць маторныя косы, што трашчаць з гудлівым надрываннем, падвываючы, аддаючыся гулкім рэхам у блізкім лясным амшары. А двары, куды не даходзіць дачная каса, зарастаюць глумнай травой, якая падцягваецца пад самыя вокны, нібы хоча зазірнуць: а што там робіцца за імі. А нічога там і не робіцца, пануе скрозь падслепаваты морак, спіць на старых зляжалых падушках цішыня. Такія хаты страшнавата і адчыняць. Ніхто нідзе ўжо і не клепле тых кос, нават тутэйшыя буслы не клякочуць, не дражняцца, як некалі, з тымі ж малаткамі на бабках. А тая самая старая, самая страшная з касой, якой нас палохалі яшчэ з дзяцінства, якой і імя называць страшнавата, травы не косіць. Але як бязлітасна косіць люд, не разбіраючыся, дзе стары, дзе малады. Ужо і няма каму адпяваць тых, апошніх. Але шаша за вёскаю жывая. Не змаўкае і днём і ноччу. Ніткаю яе і звязаны вёска з горадам, памяць з памяццю і чалавек з чалавекам…

* * *

Паэзія — гэта загадка і самападман. Многія проста пайшлі не тым шляхам, заблудзіліся на яе сцяжынах і своечасова не павярнулі назад. Вось і ходзяць цяпер адным і тым жа кругам. У гэтым і ёсць іх няшчасце. Правільным, шчаслівым шляхам ідуць толькі адзінкі. Хай бы і хадзілі сабе тыя адзінкі. Дык і астатнім жа хочацца…

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурных прэмій імя Аркадзя Куляшова (1989) і прэміі «Залаты Купідон» (2011).*

* * *

Усяму ў жыцці людзі шукаюць сваю цану. Няўжо гэта прыроджана-гандлярскае, што жыве ў кожным чалавеку? І нават тое, што не мае цаны, чалавеку ўсё ж не церпіцца ацаніць. А цэны растуць. І бяднеем мы.

* * *

У памяці, як і ў старым камп'ютары, што доўга не чысцілі,назбіралася і шмат лішняга, страшнаватага, нават пошленькага. Дзе той кошык, куды б можна было ўсё гэта скінуць і забыцца пра яго? А то цяжкавата мне сёння прымервацца да ўсяго новага, глядзець і бачыць, як хутка прыжываецца яно на старой глебе нашага недаверу.

* * *

Чалавек здольны на ўсё: і на самае найлепшае, і на самае найгоршае. І тое, і другое ў сваім жыцці бачыў я на свае вочы. Быў я сведкам, як з пустэльні, дзе растуць толькі нейкія калючкі, людзі тварылі сапраўдны райскі сад, дзе раслі (могуць пацвердзіць гэта нават сны майго дзяцінства) сапраўды райскія дрэвы, спявалі самыя сапраўдныя райскія птушкі, а там, дзе ніколі не было і глытка вады, «стралялі» ў неба сапраўды райскія фантаны. Але быў я сведкам і таго, як былыя сады пераўтваралі ў пустэльню. Звычайна на такое здольныя людзі, якім не даспадобы нешта чужое, але ж тут было сваё, створанае іх папярэднікамі. Самаварварства гэта ці што? Разбураць заўсёды лягчэй, чым ствараць. Гэта даўно ўсім вядома.

* * *

У вокны воўчым вокам глядзіць цёмная, дажджлівая, з гудлівым парывістым ветрам, ну зусім чужая ноч. Мне хочацца зазірнуць у акно з таго, цёмнага боку. Але не атрымліваецца, ды і ў двор глядзець боязна. Мы застаёмся па два розныя бакі — я і цемра. А паміж намі акно. Ды яшчэ мая сённяшняя адзінота. У жыцці ўсё мае свае два бакі. І нельга на жыццё глядзець аднабакова. Гэта варта памятаць чалавеку творчаму.

* * *

Прывёз у вёску электрычны плуг. Цяпер ледзь не ўсё ў жыцці прывязана да таго самага «электра». Пачаў сам з сабой жартаваць — электраплуг, электрадруг, электраградус, электраграм і… раптам асекся. Выскачыла з памяці — электрычны чалавек. Так у нас некалі празвалі славутага земляка Наркевіча-Ёдку. Але я прывёз сапраўдны электраплуг. Гэта — нейкі цяжкаваты металічны стаўбун, да якога праз доўгую лінку (лябёдку) мацуецца плуг. І во, я хаджу ўжо за тым плугам, цягнучы яго на тую даўжыню баразны, якую дазваляе мне мой гарод. А жонка мая націскае толькі на кнопку і слухае маю каманду. Майго жалезнага «коніка» трэба ўвесь час перацягваць управа на шырыню новай баразны. А ён цяжэзны, каб на яго халера. Прыйшоў на дапамогу Лявон, мой вясковы сусед, ён і на кнопкі націскае, і агрэгат мой перацягвае заадно. Пайшла работа…

А гэтым часам на суседнім вясковым гародзе, які праз дрэвы і плот нават мала праглядваецца, трое хлопцаў садзяць бульбу канём. Усё часцей і часцей

спыняюцца і дзівяцца, нічога не разумеючы. Як гэта так — каня няма, а плуг арэ, і нехта ходзіць за ім, трымаючы яго ручкі? Бачу: гуртам ідуць да мяне, каб паглядзець, што гэта за цуд такі творыцца на іх вачах.

Я, пакуль яны ідуць, хаваю доўгі провад, накрываю яго нейкімі куфайкамі, маскірую сам агрэгат. Падыходзяць да плуга. Шукаюць, дзе гэта я схаваў каня. Кажу, што адпусціў яго на пашу. Урэшце ідуць да маёй сховы.

— Лявон! Пакажы ім нашага каня, — кажу я. Той скідвае на зямлю ўсю маскіроўку. Доўга абмацваюць дэталі, прыглядаюцца да роўнай баразны. Прыдумваем на хаду і загадку: «Без каня, а арэ, як конь. Што гэта? Казікаў электраплуг». Пасмяяліся, а бачу, што нейкі зайздрослівы агеньчык у вачах хлопцаў гарыць. Не буду я цяпер кланяцца ім у ногі, прасіць таго самага каня, які належыць тутэйшай ферме. А нядаўна яшчэ як кланяўся. Адзін і кажа:

— Дык вы ж так не выкруціцеся са сваім апаратам у гародзе, як я са сваім канём. Будзеце мяне прасіць…

— Можа, і не выкручуся, — кажу я, — але затое я выкручуся з сітуацыі, не буду садзіць пад лапату бульбу і хадзіць за вамі па пятах з бутэлькай.

Што ж, час прыдумвае і задае нам свае загадкі. Трэба быць гатовым іх тут жа разгадваць.

* * *

Прымаўку «Добра сабаку і муха», якую часта паўтараў тутэйшы пан, ягоны эканом падрэдагаваў па-свойму таленавіта. Загучала яна так: «Добра і пану муха». А што тут скажаш, калі пан любіў, апрануўшы свой турэцкі халат, узяць у рукі гумовую бітку і паляваць з ёю на дакучлівых мух. Падсцеражэш дзе-небудзь на сцяне, падкрадзешся, ды і ляпнеш такую хітравата-спрытную, размажаш яе — і тады вунь якое задавальненне на душы!.. Нібыта ты зайца якога ўлажыў у лесе…

* * *

Гэта як нейкае шчасце, калі ў старасці табе нечакана прысніцца далёкае дзяцінства. З усімі яго даўнімі дэталямі, фарбамі, рэчамі, нават з людскімі тварамі ды і з вопраткай даўняй. Як жа яно потым цёпла перагукваецца ў тваім успаміне. Як шкада, што сны нашы нельга фатаграфаваць, пераздымаць на нейкую плёнку. Можа, з часам чалавецтва дадумаецца і да гэтага.

Пра дзяцінства лепш за ўсё пісаць у старасці. Тут будзе хай і менш падрабязна, але больш настальгічна-праўдзіва. Можа, знікне нават і тое сарамлівае, што не давала табе спакою ў гады тваёй маладосці. У мінулае сваё ўсё ж трэба вяртацца, хай вяртанне гэта і страшнае для цябе самога.

* * *

Дрэва ў хаце тваёй, якое пазірала на цябе некалі толькі радкамі моху паміж бёрнамі, цяпер глядзіць яшчэ вачыма трэшчын і шчылін. Кажуць, што дрэва, якое трэскаецца ў сценах, ніколі не гніе. Кажуць, напэўна, тыя, хто жадае яму найдаўжэйшага веку.

* * *

Што такое беларускае «дык»? Пра гэта я памятаю яшчэ са свайго лемантара. Вось ён па памяці той жарт:

— Чаго крычыш?
— Мядзведзя злавіў.
— Дык вядзі яго сюды!..
— Дык не ідзе…
— Дык сам ідзі!..
— Дык не пускае!..

Мала таго што смешна, дык яшчэ з таго роднага «дык» можа і вырасці, што хочаш. Нават — характар.

* * *

Бярозы растуць хутка, як і даўгі чалавека перад прыродай. Можа, і век такі кароткі ў іх па гэтай самай прычыне. Тыя, што мы садзілі вясной 1961 года нашым выпускным класам у Дзераўной пры дарозе за школай, выраслі ўжо да дабраватага абхвату ў камлі і не пазнаюць мяне, калі зрэдку праязджаю каля іх, часам спыняючы машыну. Каб жа ведаць ці памятаць, якая з іх мая. Кожны садзіў тады пры самай дарозе па маладзенькай бярозцы, кожны і сам тады быў маладзенькі і наіўны і не думаў, што так хутка праімчыцца час, і мы ў ім станемся старымі.

Не пазнаем мы сваіх бяроз, не пазнаюць яны і нас. Ужо знікла нават старая местачковая звычка даваць кожнаму сустрэчнаму «Дзень добры», хай ён і зусім чужы чалавек. Мала хто вітаецца, заходзячы ў краму. Не кожны, і зайшоўшы ў касцёл, перажагнаецца. Не той час… Мабыць, многа я хачу ад гэтага часу… Старым стаўся, прыдзірлівым…

* * *

Чым больш жывеш, тым больш і траціш, тым больш дабаўляецца і суму па незваротным. Не, я не маю на ўвазе грошы. Яны і прыдуманы для таго, каб іх траціць. Я маю на ўвазе тое, што паступова знікае з нашых вачэй, а значыць, і з нашай явы. А гэта: і стары крыж пры дарозе, і восець пры амшары, і сама дарога, па якой я некалі хадзіў у навуку. Гэта і твары людзей, якіх даўно няма на гэтым свеце. Чым больш памяці, тым больш і суму. Пакуль я жыву, гэта ўсё яшчэ са мной. А ў тых, маладых, што сядзяць сёння са мной на вясковай лавачцы, гэтага ўсяго няма. Яно ім і не патрэбна. Як гэта ўсё ж сумна, калі кожнаму толькі сваё.

Стары крыж зламаў трактарам і завалок у лес былы стаўбцоўскі райкамавец, а яшчэ загадаў, каб не ўздумалі ставіць новы. Шкада, што самога яго няма ўжо даўно на гэтым свеце. Не ведаю, куды ён там трапіў — ці ў рай ці ў пекла, ці быў для яго Страшны суд, ці не. Калі б ён сёння жыў, гэта, відаць, быў бы самы набожны чалавек у пушчы. Такіх я бачыў.

Восець згарэла разам з лёнам, які ў ёй сушылі. Засталіся ад яе толькі нейкія камяні ды жалязякі. Пасля гэтага і лён не захацелі вырошчваць у бедным нашым калгасе. Яно і правільна: калі восець не захацела, дык навошта і калгасу гэта трэба?

А дарога, пра якую я ўсё збіраюся расказаць, яшчэ не зусім зарасла травой забыцця. Даўжыня яе не дзесяць кіламетраў, як заўважыў стары матацыклетны спідометр. Даўжыня яе — гэта ўсё маё жыццё. Пешшу яшчэ па ёй можна прабіцца да той самай Дзераўной. Некалі яна ўзнагародзіла самай вялікай сустрэчай. На ёй мы ўпершыню спаткаліся з Паэзіяй. З ёй мы пакуль што і не развяліся. Неяк мучымся разам. Я не супраць, хай дарога застаец-

ца толькі маёй. У маладзейшых ёсць іншыя, больш сучасныя дарогі. А мне хопіць і маёй.

Ніколі не павінны знікаць з памяці і твары людзей, якіх ты ведаў. Трэба часцей напружваць памяць, вяртаць для сябе і іншых абрысы нашага мінулага. Памяць перадаецца толькі праз памяць. А ўсё іншае ў руках сучаснасці.

* * *

Ранішні гараскоп па некалькі тэлеканалах адразу. З «прарочымі» прадказаннямі на дзень бягучы. Хлусня неверагодная, часта бездапаможна несфармуляваная, непрычэсаная пад сінтаксіс. На адным канале наабяцаюць такога, хоць ты ідзі і напіся ад радасці, на другім так напалохаюць, хоць ідзі ды ўтапіся ад гора. Бывае, часам і спраўджваецца штосьці. Ах, які ты даверлівы і наіўны, чалавеча. Заўтра табе яшчэ не такое прыдумаюць і наабяцаюць. Па іншых ужо каналах. Набярыся цярпення і чакай…

## Паходка

Ён ужо стары і зусім не звяртае ўвагі на сваю паходку. Ну якая можа быць у старога паходка, калі ледзьве цягаеш ногі і ўжо, не сёння, дык заўтра, трэба звяртацца па дапамогу да кульбы?! Позна ўжо. Не, часамі ён, чакаючы недзе на прыпынку марудлівы аўтобус, кіне яшчэ вокам на ножкі якой-небудзь маладухі, ды ўздыхне, прыцмокне: «Ах, як ідзе, іці тваю!.. Як усё роўна піша па чыстым аркушы адразу дзвюма самапіскамі. За адну паходку аддаў бы жыццё, калі б хто яго згадзіўся ўзяць. Ды і хлопцы вунь як зграбна чэшуць. А сам ты?» І ён пачынае прыгадваць, які ён быў сам. Калі праўду сказаць, не таптун жа быў клышаногі. Але яшчэ ў школе адзін яго бліжэйшы аднагодак пасмяяўся: «Ходзіш ты, як маятнік, сюды-туды кавыляючыся». Тады ён нават не знайшоўся, што адказаць яму. Хоць пакрыўдзіўся. Хіба ж самому відаць, як ты ходзіш? Ён і не думаў ніколі пра гэта. Ніколі сам не прыглядваўся, як хто ходзіць. А во, бачыш, знайшоўся разумнік ды пагледзеў.

Ходзячы за дзесяць кіламетраў у школу, яму было дзе адпрацоўваць сваю паходку. Але хіба будзеш ты, ідучы лясной выбоістай дарогай, ісці і думаць, як і дзе паставіць сваю нагу. Ды яшчэ нейкая торба з кнігамі ды сшыткамі ціснe плячук. Ты ж, урэшце, ідзеш, а не танцуеш. Але заўвага аднагодка закранула яго за жывое і доўга не давала спакою. Потым ён ездзіў у школу на ровары, дзе пра ніякую паходку ніхто і не думае, а толькі круціць педалі. Зімой хадзіў у старых бацькавых ялавых ботах і думкі пра нейкую там паходку зусім выкінуў з галавы.

Мала выправіла ягоную паходку і армія, дзе хадзіць даводзілася толькі ў страі і даволі часта стрявым крокам. Пэўна, маятнікавая паходка была ў яго прыроджанай. У арміі ён прыдбаў сабе даволі сучасны касцюм і са службы вяртаўся не толькі ў добрым настроі, але і ў добрым касцюме. А вось на туфлі грошай у салдата не знайшлося. Абуваць давялося старыя, яшчэ даармейскія чаравікі, якія ён купіў некалі за сем рублёў і якія на ўсялякі выпадак кінуў у валізку, калі аднойчы вяртаўся з вайсковага кароткага водпуску. Туфлі за сем рублёў мелі такую ж танную падэшву і невысокія абцасы. Правы абцас быў дашчэнту счасаны наўскос, нібыта яго, як тую бульбіну, церлі на тарцы. Модны тады, пад званочкі раскроены клёш, зусім не хаваў той счасаны абцас, а пры хадзе і надта выдаваў сябе і, як кажуць, псаваў «выглёнд» кавалера. Такім

яго і ўбачыла будучая жонка тым летнім днём, калі ён пераходзіў праспект бліз плошчы Перамогі, кіруючыся ў парк Горкага. Сустрэліся яны выпадкова, хоць і пазнаёміліся яшчэ да яго службы ў арміі, калі ён быў студэнтам. З тае сустрэчы ўсё і пачалося. Хітрая дзяўчына нічога не сказала тады пра яго зношаны абцас, хоць заўважыла яго здалёку. Пакідала ўсё, відаць, на потым, калі смела ўжо можна будзе гаварыць не толькі пра яго абавязкі, але і ўсе заганы ці недахопы.

У хуткім часе яны рыхтаваліся да вяселля. Знайшлі нейкія грошы, купілі яму новы ў клетачку касцюм і балгарскія бліскучыя туфлі. Тады, абуваючы абноўку, ён нават пашкадаваў сябе самога: «Як гэта я, лапаць такі, хадзіў у людзі ў тых старых шлэпалах? Смяяліся людзі, напэўна? Але беднасць — не загана». І шпурнуў ён тыя неданоскі ў карзіну са смеццем. Але ж і яна хітрая, нічога яму не сказала тады пра тыя туфлі-неданоскі. Скажа яна пра тое крыху пазней, калі пажывуць яны разам з паўгода, і яна выкіне ў тую ж самую карзіну ягоны стары гаманец. Зусім не злосна, але даволі ўладна, скажа пры гэтым: «А навошта ён табе? Грошы ўсе, да капейкі, будзеш аддаваць мне!» А ў каго каса, у таго і гаманец. Маладому сямейніку пачалі выдзяляць на полудзень традыцыйны гарадскі мужчынскі рубель. І ўся незалежнасць яго на гэтым скончылася. Тады і наогул людзі не ведалі гэтага слова — «незалежнасць». Якім бы незалежным ні быў чалавек, ён заўсёды залежыць ад часу і абставін, і сваёй жонкі. Так і тут было.

Жыццё пайшло сваёй чаргой. Іскра да іскры, пачалі ў ім успыхваць нязначныя сваркі, здарацца непаразуменні. І неяк яна яго папракнула. І чым? Ды той жа паходкай і тым самым стаптаным абцасам. І тады ён прыгадаў ёй новы вясельны касцюм, штаны ад якога, прасуючы, яна прапаліла. Добра яшчэ што высакавата, пры самым поясе. Той самы дэфект, які ўдружыла яму маладая, ён мусіў хаваць пад зашпіленым на ўсе гузікі пінжаком. Няёмка, як скаваны, пачуваў сябе ён на тым вяселлі. Мучыўся, абліваўся потам, а расшпіліцца нельга. Было лета, гарачыня не спадала і вечарам, мужчыны парасправаліся да кашуль, а ён парыўся ў зашпіленым пінжаку. Адразу ж пасля вяселля штаны давялося выкінуць, у іх ужо і ў грыбы было хадзіць небяспечна — тканіна прыгарэла і пачала распаўзацца.

З той першай іскры неўзабаве разгарэлася вялікае полымя іх нязгоды. А жыццё наша — не паходка, яго паправіць часам проста немагчыма. А паходка, што — як ідзецца, так і ідзеш. Толькі б ногі хадзілі, а чаравікі нейкія знойдуцца, хай сабе і са счасаным наўскасок абцасам. Толькі б само жыццё не пайшло наўскасок. А яно якраз і пайшло гэтым самым непрадказальным шляхам. Ды так імкліва, нібыта яшчэ хтосьці ззаду і папіхаў яго сваім дужым плячом. Чаму ж, былі і плечы, хапала плячэй. І сяброўскіх, і зусім чужых. І чалавек, які яшчэ добра не абжыўся ў сваім, звітым ім самім гняздзе, мусіў высяляцца з яго. У птушак, магчыма, такога не здараецца, а ў людзей вунь як часта бывае.

… Зараз ён стаяў на халодным восеньскім прыпынку, яго аўтобус чамусьці спазняўся, і за некалькі тых хвілін адразу ўсё гэта і прыгадалася, і пранеслася ў памяці, нібыта азірнуўся назад і ўсё сам пабачыў. «Назад лепш не азірацца!» — так яго вучылі некалі ў вёсцы. Так і стараўся ён рабіць усё сваё жыццё. Ішоў, не азіраючыся, але і не надта прыглядаючыся, куды ідзе. А тут нібы азірнуўся. Але ж чаго азірацца, калі яшчэ не ўсё пройдзена? Будзе яшчэ час і азірнуцца.

* * *

Ранішні дождж прагнаў з двара ў хату. Сяджу ды гляджу праз акно, па якім сякуць касыя краплістыя пугі, на шызавата-задумлівы амшар, на ярказялёную, толькі яшчэ на вытырку траву, на яшчэ ўсё шэрыя з адзнакай самотнасці галіны яблынь, і самому робіцца неяк няўтульна і маркотліва. Душы на самай справе прагнецца нечага весялейшага, ну, калі не сонца, дык хоць бы якога гарэзліва-хлапечага ўспаміну. Але дзе ты дашукаешся таго ўспаміну? Дзённікаў я ў маладыя гады не вёў. А ў памяці пад гэты дождж такая куламеса. Уключыў тэлевізар, радыё… Усюды — самота. Але вось яно і вясёлае. Як усё роўна выпрасіў у Бога. Пастукаўся ў дзверы Лявон, мой вясковы памагатар. Прыцягнуў на плячы стары бабулін калаўрот (ведае, што збіраю ўсё старое). Калаўрот яшчэ ў добрым стане, нават са шпулькай. Давялося накрываць стол. Узялі па чарцы, і я наладзіў яму этнаграфічны экзамен. Хлапчына ў ім зусім бездапаможны. Не яго часу прылада. А ў мяне пачалося сапраўднае прадзіва ўспамінаў. Вось табе і гарэзнае, хлапечае!

...У пасляваеннай пушчанскай хаце на ўсе шэсць калаўротаў прадуць дзяўчаты, спяваюць песні. А я, малы, на печы, прытвараюся, што сплю, а сам цікую, як Адась Маньку за шафаю галубіць. Малога перахітрыць цяжка. Гэтак чаркай ды прыпамінам мы з Лявонам і прагналі той дождж, а заадно і самоту.

* * *

Уяўляць тое, чаго ты ніколі ў сваім жыцці не бачыў на свае вочы, не кратаў сваімі рукамі, а толькі чуў з чыйгосьці пераказу, заўсёды цяжка. Бо кожны бачыць усё гэта толькі моцай свайго ўяўлення. Урэшце, многае тут залежыць ад таленту самога расказчыка і ад здольнасці ўспрымання таго, хто слухае.

* * *

У старым вучнёўскім блакноце знайшоў і нейкі запіс пра тое, як яйкі ад нашай шэрай курыцы трапляюць на суседскую скавараду. Сам і асачыў, што курыца нясецца ў густой траве чужога дварышча, за хлеўчыкам. Памятаю, што нікому пра тое не сказаў, баяўся суседскай сваркі. А курыцу прагнаў ды яшчэ пакінуў у блакноціку гэты запіс. Але і сёння падумалася: ну што ты зробіш з курыцай, якая не хоча несціся дома? У яе свая курыная канстытуцыя. Ды і чужое гняздо заўсёды цяплейшае. Гэта не толькі з меркаваннняў зязюлі.

## Калодзеж

У спрадвечную малітву селяніна, якая прамаўляецца хіба што яго думкамі, без голасу, я дадаў бы абавязкова і гэтыя словы: «Не перасыхай, мой калодзеж!» І не таму, што кланяемся і схіляем перад ім сваю галаву шмат разоў на дзень, а таму, што ён жывіць зямной і боскай моцай наша жыццё. Нездарма ж казалі, без вады і ні туды і ні сюды. Як і без хлеба, як і без солі.

«Шануйма студнякопаў!» — сказалася само па сабе яшчэ раней. Толькі яны здольныя адшукаць тую самую жылу, з якой струменіць калодзежная крыніца. Нейкім жа сваім, Богам дадзеным чуццём, могуць яны пранікнуць у глыбіню, і адказаць на пытанне, ёсць яна ці яе няма. Калі няма, дык навошта і капаць. Ці ж лёгкая гэта справа.

Памятаю, праз дарогу ад нашага дома, дзе з сялянскіх гумнаў склалі вялізную канюшню, пачалі капаць калодзеж. Трэба ж было жывёлу не толькі карміць, але і паіць. Капалі ўсляпую. Колькі цэментавых кругоў-цэмбравін дарэмна загналі ў зямлю, колькі зямлі вывернулі наверх, а да вады так і не дакапаліся. Плюнулі на гэтую справу і пачалі капаць у іншым месцы, дзе сёння месціцца воданапорная вежа. Кругі тыя вяскоўцы неўзабаве павыцягвалі з зямлі і пусцілі на свае калодзежы, бо ў некатарых яшчэ ўсё трымаліся на божым слове старыя драўляныя зрубы. Не прападаць жа дабру.

Мой сённяшні калодзеж капалі не пры мне. Служыў я тады ў войску. Быў самы пачатак шасцідзясятых, таго, мінулага стагоддзя. Пра ўсё распавядала мне потым мама. Жылу наш студнякоп унюхаў адразу. Пашанцавала нам, што хата стаіць у самым падножжы гары, а там, ніжэй, — аселіца, б’юць крыніцы. Пакінулі яны і нам сваю жылу. А студнякопам быў нехта Тарасевіч з Тонава.

— Капае ды сам сабе спявае нешта, — кажа мама, — а тут, на версе, чуваць усё. Людзі ідуць — слухаюць яго песні.

— А што спяваў хоць? — пытаюся ў маці.

— А я ўжо не помню, нешта там спяваў. Можа, «Кацюшу» якую.

Капаў ён сваёй невялікай рыдлёўкай, а зямлю высыпаў у вялізнае жалезнае вядро, а ўжо мужчыны калаўротам выцягвалі яго наверх. Гэтак уніз ён апускаўся і сам, у тым жа вядры. А спяваў чаму — зразумела. Па натуры быў чалавекам вясёлым, гаваркім. А ў зямлі, як пагаворыш з чалавекам, які там, на версе? Дык ён гамонку падмяняў песняй. Спяваў, капаючы. А тут песня раптам прыпынілася. Стала ціха.

— І чуць бяды не нарабілася, — кажа мама. Абваліўся, рухнуў раптам верхні слой зямлі. Ледзьве не засыпала чалавека. Перапалохалася я…

Але ўсё тады, дзякаваць богу, абышлося. Адзін з верхніх слаёў быў мылкаваты, на яго студнякоп не звярнуў увагі. А калі пачала паказвацца вада, ён і рухнуў на галаву чалавека. Бацька, што яшчэ з адным мужчынам круціў той калаўрот, гукнуў на дапамогу суседзяў. Тыя прыбеглі на крык, студнякопа выбавілі з-пад зямлі. Вось тады пачалі апускаць кругі і страхавацца імі. Тонаўскі студнякоп потым прызнаўся, што ён паспадзяваўся на малую глыбіню, і вырашыў капаць так, без тых кругоў. Бо з імі ж важданіны столькі. А глыбіня была і сапраўды малая: каб дастаць да вады, спатрэбілася ўсяго сем кругоў.

Песню сваю Тарасевіч даспяваў. Мінула ўжо больш як паўвека, а мы і сёння з вадою. Не перасыхае калодзеж. Бывае спякотлівым летам, калі ўсё навокал смягне, я так дакучаю яму вёдрамі, на ўсю моц круцячы электрычную помпу, а ён толькі робіцца паўнейшым і нават больш халодным. Крынічная сіла!

Да калодзежа, які сёння, як і мой дом, апынуўся бліз шумнай дарогі, часам заходзяць зусім незнаёмыя мне людзі, просяць напіцца. Я выношу ім свой гліняны кубак, а яны смакуюць і хваляць дзіўную прахалоду, пушчанскую ваду, якая ў спёку і надта халодная, а ўзімку цяплейшая. Некаму не прамінаю і пахваліцца: «Вада наша яшчэ спявае». Спявае голасам студнякопа Тарасевіча. А яшчэ я перакананы, што кожная вада мае свой смак. Смак сваёй вады я ведаю добра і ніколі не пераблытаю яго з усялякім іншым. Але смак вады словамі не перакажаш. Гэткіх слоў нават няма ў маёй малітве калодзежу.

* * *

Перачытваючы сёння наш фальклор, заўсёды карціць усклікнуць: «Які ж мы багаты і таленавіты народ!» А прачытаўшы іншага самаўлюбёнага паэта, на жаль, і сказаць няма чаго. Цяжка сказаць нешта пра таго, хто сам нічога не сказаў табе.

* * *

Кажуць: еш цвілы хлеб, і ты не будзеш баяцца грому. У дзяцінстве я шмат еў таго цвілога хлеба, але і сёння баюся маланкі і грому. Баюся навальніц. Страшнавата напаткаць навальніцу ў лесе, далёка ад дому. А якраз учора яна і захапіла мяне знянацку ў самай гушчы лесу. Хуценька пачаў прабівацца да шашы. А навакол такія гонкія ствалы і сосен, і бяроз, і нават асін. Пад імі не схаваешся, яны самі, як тыя грамаадводы, прыцягваюць да сябе маланкі. Расхрыстаны, мокры ды спалоханы, я ледзьве выбраўся на шашу і пад пярэхрыст ліўневых бізуноў і маланак, пад паветраломныя перакаты перуна пабег у бок вёскі.

«Хай будзе, што будзе!» — толькі адно і круцілася ў спалоханай галаве. Адразу пачалі згадвацца і твары тых, каго я ведаў і каго скасіла маланка. Якой жа доўгай здалася тая зусім кароткая дарога! А хмара неўзабаве прабегла, чорныя махры яе згледзеў ужо недзе за Рубяжэвічамі, бліжэй да Мінска. Вочы мае расплюшчыліся толькі дома, у сваім двары. Я скінуў з сябе ўсё мокрае і цяжкое апрананне, выліў ваду з гумовікаў і ціха пабрыў у хату. Нацягнуў на плечы нешта цёплае, кульнуў адну, а потым другую чарку і толькі тады спытаўся ў сябе: «Няўжо гэта быў сон?» Калі сон, дык занадта страшны. Увесь посуд, які стаяў у двары, быў запоўнены вадой, цякло цераз верх. Ліўнем, які часам пераходзіў у град, паклала долу бульбоўнік. Тут я нечакана і ўспомніў пра той цвілы хлеб… І еў жа нямала яго, а боязь даўнюю так і не прагнаў…

* * *

Пасля доўгага расстання адразу і недарэчнае пытанне:

— Ну, як там, усе жывыя?

Як быццам чакаем чыйгосьці адыходу. Як я не люблю гэтых «якаў»! Можна ж пачаць і з іншага, больш прыемнага. А так выходзіць, што чалавек чакае, што нехта мусіць адысці з гэтага жыцця. Хіба варта такога чакаць? Але ж пытанні нашы вырываюцца з вуснаў самі па сабе. Асабліва, калі доўга не бачыш кагосьці. Дык трэба часцей бачыцца і сустракацца. І гэта ўжо гучыць нават нейкім тостам.

* * *

Не самае сумнае тое, што ў цябе няма чым сустрэць госця. Самае сумнае бывае тады, калі ў цябе ёсць чым сустрэць і ёсць дзе, і ёсць жаданне, але няма каго сустракаць.

* * *

Лета выдалася багатым на грыбы, ягады і гасцей, а яшчэ — на непрыемнасці. Госці ад'ехалі, грыбы і ягады адышлі, а непрыемнасці засталіся. Цяпер, восеньскім дажджлівым днём, сяджу ў хаце і думаю, як змагацца з імі. Змагарнай сілы ў мяне малавата. Хоць яе ў маіх непрыемнасцях надта і не патрабуецца. Патрэбны грошы. Бо зламалася каса, зламалася піла, зламалася да ўсяго і машына. Сяджу вось і думаю, чаму гэта ломіцца ўсё толькі ў мяне аднаго. І тут жа сам сябе супакойваю, добра падумаўшы. Ды не, ломіцца нешта і ў астатніх. Каб не было нашых непрыемнасцей, не было б у іншых сваіх прыемнасцей.

Адрамантуюць маю касу, потым — маю пілу, потым — маю машыну, і прыемна пабагацее чыясьці кішэня. Будзе прыемна і мне. Так што прыязджайце да мяне, дарагія госці, сейцеся, грыбы і ягады, а са сваімі непрыемнасцямі я разбяруся як-небудзь сам.

* * *

І сварыліся, і мірыліся, па некалькі дзён маўчалі як вады ў рот набраўшы, не размаўлялі адно з адным. Потым адпускала, беглі з распасцёртымі рукамі, кідаліся адно аднаму ў абдымкі, каяліся, жылі. А ў старасці яна як быццам памякчэла, а ён стаўся і надта нясцерпным, нібыта яго падмянілі. І бурчэў, і крычаў, і злаваўся. Нават у прочкі падацца збіраўся. Але аднойчы, калі яна пінцэтам выцягнула ў яго з надта далікатнага месца кляшча, яго зноў нібы падмянілі: памякчэў, палагаднеў, пацішэў, хоць ты яго да раны прыкладвай. Усе вакол баяцца, клянуць таго кляшча, а яму хоць дзякуй скажы. Прымірыў такі. Нейкі там клешч…

* * *

Завітаў жнівень. Забраў касу і даў у рукі серп. А яшчэ папярэдзіў, каб чалавек быў пільным, бо ад жнівеньскага неба можна ўсяго чакаць. Добра, калі жнівеньскае неба памяркоўнае. Як сам селянін, і сонца не пашкадуе, і дажджом часамі паплача. Толькі гультай спіць летам, калі адна работа даганяе другую, не дае чалавеку расслабіцца. Некалі казалі, у жніўні і верабей варыць піва. У жніўні ўжо добра бачна, што будзе ляжаць у тваім засеку і ў кубельцы потым у снежні.

* * *

Кожнаму месяцу ў сялянскім календары можна было б прысватаць і свой мастацкі вобраз, і сваю прыладу працы. Студзеню я даў бы ў рукі сякеру і не забіраў яе да самага сакавіка. Няхай сячэ дровы. Сакавіку ды красавіку прысватаў бы птушынае крыло ці шпакоўню. Травень, пэўна, згадзіўся б на расквітнелы сад. Чэрвеню я накляпаў бы касу, а ліпеню даў бы бочачку мёду. Жнівень мне заўсёды ўяўляўся снапом, добра перацiснутым залацістым перавяслам. А пры ім — востра назублены серп. А што ж тады мы аддамо снежню? Трэба падумаць. Відаць, добра стасаваўся б гаршчок з куццёй на сенным седале пры покуці. Можа, нават той жа цэп, або мяшалка…

* * *

На сённяшніх айчынных пашах мне так не хапае звычайных авечак. Даўно і неяк раптоўна зваліся яны ў нашых хлявах. А шкада, усе дзядоўскія і бацькоўскія кажухі мы даўно данасілі. А з чаго будзем шыць новыя, з якога каракулю будзем кроіць генеральскія каўняры і папахі? А з чаго будзем смажыць шашлыкі? Тут дык выхад знойдзем.

Шашлыкі мы навучыліся смажыць толькі нядаўна. Сапраўднага смаку іх яшчэ ўсё не ведаем, а таму на шампурах нашых нядрэнна смакуецца і курацiна, і свініна, і гавяда. А дублёнкі сабе прывязём з-за мяжы.

Памятаю, калі пайшла мода на тыя ж дублёнкі і кажухі, Моталь наш не паспяваў адбівацца ад заказаў. Балгарскіх дублёнак цяжка было дакупіцца і

на золата. Рэдка каму шанцавала вырвацца за тыя самыя межы роднай краіны. А каму ўдавалася, шчасліўчыкі тыя на працягу ўсёй сваёй камандзіроўкі перабіваліся сухім хлебам ды беларускай скваркай, затое вярталіся дамоў у дублёнках. Тады напісалася такое:

Я глядзеў на кажух —
Толькі лыпаў вачыма:
Хоць кажух і не наш,
Але наша аўчына.

Як многа і сёння ў нянаскім нашага, а ў нашым — нянаскага! Тут і каламбурам усё не ўраўнаважыш.

* * *

Мабыць, не ўсё, але большасць таго, што расце вакол нас, калі трэба, дык і лечыць. Так думаюць людзі і шчыра вераць у гэта. Часта лячыцца ідуць да дуба. Прыхінешся спінай да яго грубаватай ручаістай кары, пастаіш хвілін дзесяць, і энергіі ў тваім целе адразу пабольшае. Нават пачуеш нейкую незвычайную лёгкасць у целе. Доўга я не верыў у гэта, а калі пастарэў крыху, пачаў часцей хварэць, пайшоў прасіць дужасці ў дуба. Балазе па дарзе на маю рудзенскую дачу расце нямала ёмкастволых волатаў. Можа, і не здарава самім ім у прычыгуначнай паласе, аднак растуць. Зажадалася чалавеку, дык і растуць. Ці раз прыхіляўся я да магутных ствалоў і, як дзівак, стаяў, заплюшчыўшы вочы, ці ўзняўшы іх да неба. Пару разоў і няёмка было: стаю, задумаюся, а нехта насустрач з электрычкі ідзе і зразумець не можа, з кім гэта я ў хованкі гуляю. І дзяцей як быццам нідзе побач няма. Гляне, як на нейкага дурня, — і сорамна стане. Не яму, а мне. А аднойчы напужаў нейкую жанчыну, уцякала, думала, што бандыт нейкі з вялікай дарогі. Магла б і міліцыю выклікаць. А мне тым не менш здавалася, што дуб мне дапамог. Нават забыўся, што і калі балела.

А нядаўна ў друку вычытаў, што ў целе дуба і на самай справе вучоныя выявілі незвычайны прамянёвы пучок, невядома якога паходжання. Пульсуе ён у ствале пастаянна. А частата яго ваганняў адпавядае рытму дыхання чалавека і колькасці ўдараў сэрца ў хвіліну. Во гэтыя вучоныя! І я чамусьці ім веру. І, відаць, меў я рацыю, калі не даваў маёй вясковай суседцы пілаваць стары кражысты дуб пры хаце. Ці не дзякуючы таму дубу раслі ў хаце такія крамяныя, спрытныя і дужыя дзяўчаткі. Гэта ж дуб даваў ім сваёй моцы.

* * *

Апанеласць. Хай, калі вы не супраць, будзе і такое слова і патлумачу, што яно для мяне значыць. Гэта — калі і ўласную жонку бачаць у ролі служанкі: здымі боты, падай піва, прынясі газету, калі пану захочацца. А то і спявай, і скачы для пана, і шмат яшчэ чаго панскага…

## Той і гэты

Той уважліва чытаў аб'явы, слухаў радыё, выведваў, калі гэта будзе якая вечарына. Тады браў сваю старую сумку з фотаапаратам і ўліваўся ў тутэйшую сябрыну ў якасці карэспандэнта. Мерапрыемства канчалася — і тады ён

першым бег за неафіцыйны стол і наліваў сабе не чарку, а добрую шклянку. Усё б гэта яму сыходзіла, калі б, бедалага, не падахвочваўся на прамаўленне тостаў. А так адразу і выдаваў сябе, і часта з застолля выганялі яго з трэскам. А іншы раз, калі ўдавалася стрымаць сябе, вяртаўся дамоў, у сваё халасцяцкае логава, з пляшкай і закускай у той самай сумцы, ды яшчэ з пачкам візітовак.

А гэты надта любіў пакрасавацца, мільгануць дзе-небудзь на экране, дык снаваў за людзьмі з камерай, дзе можна і дзе няможна. А як жа так: знаёмых у навінах паказваюць, сёй-той нават інтэрв'ю дае, а яго няма. А ён жа, можа, лепш за іншых глядзіцца на тым экране. Ён і касцюм з плячэй зняць апране, і словы патрэбныя вывучыць на памяць. Неяк мерапрыемства зацягнулася на дні чатыры, дык хадзіў, бедалага, дзень у дзень, абедаць забываўся, і ўсё ля камер, ля апаратараў аціраўся. І вось улавіў-такі сваё шчасце. Гляджу, пры самым падаконні, ашчаперыўшы дзвюма рукамі агурок мікрафона, бае сваё, завучанае, ледзьве не спявае. А калі адгаварыў, такім шчаслівым сонцам засвяціўся яго кругленькі твар…

Назаўтра цэлы дзень з жонкай сядзелі пры экране. А сюжэцік так і не паказалі. Відаць, жартаўнік-аператар здымаў з зачыненым аб'ектывам.

* * *

Ніколі не скажа хата, колькі слабых і дужых, лагодных і шалёных з моцным парывамі вятроў абдымалі, грэлі і студзілі яе сцены, якія дажджы абмывалі яе дах. Ніколі не скажа вам печ у хаце, колькі і якіх дроў згарэла ў ёй і пайшло дымам у неба, каб тут жа растварыцца ў ім. Хто будзе займацца такімі дзіўнымі падлікамі? Хіба толькі сам паэт. Бо ніякі гаспадар гэтым займацца не будзе. Яму трэба пілаваць, секчы і калоць тыя дровы, каб у хаце было цёпла. Пакуль я жыву ў вёсцы, у душы маёй больш ад гаспадара, чым ад паэта. Інакш бы я там, у пушчы, даўно замёрз і памёр ад голаду. Уся мая паэзія засталася недзе там, у дзяцінстве, і апускаючыся час ад часу туды, як у нейкі забыты калодзеж са скарбамі, я нешта вычэрпваю і паэтычнае. Нейкая амаль шахцёрская праца.

Але вярнуся да хаты, бо з яе і пачынаў. Зусім не холаду і адзіноты баюся я ў роднай хаце. Баюся, што некалі хата станецца пустой і нікому непатрэбнай. Чым больш думаю пра гэта, тым больш і баюся.

## Хутар Грань

Каб трапіць на хутар Грань, трэба было мінуць яшчэ адзін хутар, які меў назву Груд. Хто толькі і насыпаў гэты зялёны, сапраўды маёнткавы груд, абсадзіў яго такімі роўным прысадавымі ліпамі? Некалі па адзін і другі бок дарогі жылі два гаспадары, а потым гэту мясціну аблюбавалі мінскія дачнікі. Старыя хаціны яны перабудавалі на сучасны лад, а з сажалкі ўнізе зрабілі люстраватае азерца, дзе яшчэ можна злавіць карася, не большага за дзіцячы палец ды пасядзець на беразе пры агні і добрай сябрыне. У сажалкі і назва засталася Галавачова. Гэткае прозвішча мелі два браты Галавачы, што папалам дзялілі тут яшчэ не старую хату справа. Злева жыў чалавек з іншым прозвішчам, крыху дзіўным — Шчубрэт.

У маім успаміне застаўся яшчэ падбіты нямецкі танк, што стаяў з абарваным гусенічным тракам пры самай дарозе ў прысадах. Мяне, малога, памятаю, бацька падсаджваў яшчэ на браню, каб я паглядзеў, што там, зверху, робіцца.

Не так мне запомніўся мёд, якім частавалі на хутары Зуеўскага, нашага сваяка, як той танк. Калі і як ён знік з маёй памяці, не ведаю, а ў старэйшых у свой час не запытаўся.

За Грудам пачыналася суцэльная пяшчуга, і добрая вярста дарогі, ажно да самай першай граньскай хаты патанала ў пяску. Летам, у спякотлівыя дні, у жоўтым сыпучым пяску тапіліся нават коні з калёсамі, потым буксавалі машыны, матацыклы, буксаваў неаднойчы я сам, ціснучыся коламі бліжэй да лесу, каб хоць крыху ўхапіцца за нешта цвёрдае. А на скутары сваім, ужо нядаўна, я колькі разоў, чапляючыся за самы край лесу, спаўзаў усё ж у той пясок і колькі разоў падаў у яго, а потым і лаяў сам сябе, што папёрся туды, куды мяне ніхто не прасіў. А цягне мяне нейкім магнэзам на той хутар. Сам то я ведаю, якім.

Грань… Назву хутчэй за ўсё ўзялі ад граніцы, нейкай мяжы. Калісьці гэта было ўзмежжа вялікага лесу. Яно такім і засталося сёння.

Зааруць трактарамі
Хутар дзедаўскі Грань, —

так напісалася некалі. А неўзабаве ўсё так і адбылося. Сёння, калі ўжо на хутары не засталося ніводнай хаты, ніколі не паверыш, што тут калісьці жылі людзі. Шырокая святлістая далеч у зялёнай акаймоўцы лесу размывае пагляд, прытамляе вочы. Трактарам і астатняй калгаснай тэхніцы тут вольна, плывуць, нібыта ў вялікім моры, а за імі цягнуцца цэлыя шлейфы пылу. Летась тут усё было засеяна жытам. Пры лесе яшчэ засталіся зімаваць, скручаныя ў кацёлкі, сцірты саломы. Ля іх часта пасвяцца дзікі і казулі. Яшчэ не зусім адзічэлыя сады лычуюць не толькі дзікі, а і бязлітасна латашаць, ломячы галіны, заезджыя грыбнікі. Часта яны тут, на самым пачатку хутара, пакідаюць свае машыны і адпраўляюцца ў лес пешкі. Там ніжэй, у лагчыне, дзе некалі была смалярня, хутарская дарога пераходзіць у суцэльныя лужы. У дажджлівыя дні тыя лужы, відаць, не адужаў бы і танк. Колькі разоў на свае вочы бачыў, як буксавалі ў гразі тут вялікія трактары. Пры самай дарозе ляжаць яшчэ нейкія жэрдкі ды палены, якімі падважвалі загразлыя восі.

Мой магнэз — а гэта мае ўспаміны — працуе. Прабіраюся праз драцяністае густатраўе, каб патрапіць у Юзікаў двор, дзе жыў мой дзядзька Зуеўскі. Не, хутар ягоны стаяў па левы бок дарогі бліз лесу. А сюды ён перасяліўся пасля смерці жонкі, калі сышоўся з тутэйшай удавой. Свае апошнія дні дзядзька дажываў у Вялікіх Навіках пры дачцэ. Верка, другая жонка дзядзькі, паходзіла з Украіны, была дужа гаспадарлівай жанчынай, ва ўсім вельмі ашчаднай і, як заўважыў я, надта раўнавала свайго новага абранніка і да жанчын, і да чаркі. А дзядзька і тут, і там быў не промах. Ён любіў жанчын, і яны яго любілі таксама. Недзе паблізу дзядзькавай сядзібы стаяла хата былой трактарысткі Галі. Я памятаю той пасляваенны год, калі яна на сваім калёсным трактары завітала ў наш бедны калгас, які насіў тады імя Панамарэнкі. Хто той Панамарэнка, мы, малыя, не ведалі, як не ведалі і таго, што наш калгас быў ці не самым апошнім у былым Івянецкім раёне па ўсіх паказчыках. Яшчэ не бачылі ў нашай гаспадарцы ніводнай машыны, а вось трактар паявіўся ўжо. І дзіўна было і старым, і малым, што кіруе ім жанчына. За трактарам Галі, як тыя гракі, мы бегалі малечымі чародамі. Калёсны трактар быў увесь з жалеза. Вялізныя заднія колы пакідалі пасля сябе надта прыгожы шашачны малюнак следу. Трактар часта псаваўся, доўгімі днямі і начамі стаяў беспрытульна ў полі, і мы, нікога не баючыся, высмоктвалі праз кранік адстойніка з яго бака апошнія кроплі саляркі. Яна ішла на квачы, якімі мы асвятлялі цёмнымі піліпаўскімі раніцамі лясную дарогу да школы. Не ведаю, як яшчэ не згарэў той трактар,

бо аднойчы мы падпалілі ў ім нейкі шланг з саляркай, а потым, спалохаўшыся, доўга яго тушылі пяском. Галя пра гэта не ведала. Недзе паблізу таго месца, дзе я калісьці разглядаў танк, цяпер стаяў нікому непатрэбны трактар. Калгасныя коні, каб разумелі, відаць, абсмяялі таго жалезнага пабраціма, бо дапамогі ад яго яны так і не дачакаліся.

Кавалераў у пасляваенных вёсках не хапала, было крыху дзецюкоў-парасткаў, што за вайну здорава адсталі ад вучобы, і мы, зялёныя пачаткоўцы, цішком падсмейваліся, калі яны не маглі рашыць просценькую задачку. Смяяліся ў асноўным у рукаво, каб не заўважылі бальшуны, бо тыя ўмелі рукі распускаць. Свярбелі яны ў іх. Да дзяўчат бальшуны падступаліся не надта смела, хоць Галя, як казалі, не давала спакою іх маладым сэрцам. На трактарыстку паклаў вока дзядзька. Адкуль я гэта ведаю? Ды проста ў вёсцы нічога не схаваеш. Нехта недзе прыпільнаваў, падцікаваў, шапнуў на вуха другому, і пайшла гуляць па вуліцы цётка-плётка. У пушчы шмат месца, прасторы, ёсць дзе схавацца, а вось ад плёткі схавацца цяжка. Пачала першая жонка пільнаваць дзядзьку і, казалі, аднойчы высачыла. Дык дзеркача хапіла і мужу яе, і тае Галі. Але пакінем нашу трактарыстку ў спакоі, бо і сам я, распавядальнік, адчуваю, як незаўважна для сябе пераймаю нейкія пляткарскія манеры. Тым больш, што ў Галі неўзабаве знайшоўся жаніх. Ды не абы-які! Зацікавіўся ёю кіроўца з Мінска Ромак. Сватам тут ужо быў мой бацька. Ромак слыў добрым сябрам бацькі. Ён часта наязджаў на сваім новым «газоне» ў нашу вёску, начаваў у нас. Ромак быў ужо ў добрым мужчынскім узросце. Сямейнае жыццё яго ў Мінску неяк разладзілася не па яго, а па віне жонкі, і ён шукаў сабе пару. А трактарыстка і шафёр чым не пара! Так Галя неўзабаве і з'ехала ў сталіцу. А разам з ёй зніклі і ўсе плёткі.

Жонка дзядзькава захварэла неспадзявана і захварэла цяжка. Ніякай рады дактары даць ужо не маглі, і яе забрала неўзабаве зямля, а хутчэй за ўсё — неба. Бо жанчына была чыстай душы чалавекам. Так наш дзядзька апынуўся ў прымах. Гэта я так кажу. А калі б я сказаў тое дзядзьку і назваў яго прымакам, то не ведаю, што ён са мной зрабіў бы. Сам сябе дзядзька лічыў адзіна гаспадаром, хоць жыў і ў чужой хаце. А свая стаяла пад бокам. Усе свае гаспадарскія справы дзядзька рабіў толькі на сваёй сядзібе. А ў яго там і пчолы, і сталярка ўся, і начынне ўсялякае. Толькі стрэльбу трымаў пры сабе, там, дзе еў і спаў. Дзядзька быў лесніком і бальшыню часу свайго траціў на лес. Але выкройваў яго і на гаспадарку. Мне не раз даводзілася адчыняць дзверы ў старую дзядзькаву хату. Ён ніколі не адпускаў госця, не пасадзіўшы за стол. А ўжо за сталом тым хапала ўсяго: і вяндлінкі, і сала, і мёду align="left"розната ўгону, а яшчэ ўсяго смачнага, што расло ў гародзе, мелася і добрай моцы жытнёўка. Дзядзька не ў прыклад свайму старэйшаму брату меў душу шырокую, як і абдымкі. Быў ён высокі, танклявы, хоць і крэпкай касці мужчына, лысаваты, але з цёплым румянцам на шчоках.

Здарылася ў мяне адна прыгода ў дзядзькавай хаце. Павёз я неяк у грыбы сваю гарадскую сваячку, грыбоў набралі цэлы жыгулёўскі багажнік, а вяртаючыся, зазірнулі ў дзядзькаў двор. Ён адразу пачаў накрываць стол.

Неўзабаве ў хаце смачна запахла дымком вяндлінкі. Мёду аднаго дзядзька паставіў ажно тры міскі. Тут і ліповы, і верасовы, і ранні з лясных кветак. Спрабуй, які хочаш. Еш — хоць распеража́ся. І налягла наша гарадская госця на мёд. А мы сабе чарку падымаем, закусваем і не бачым гэтага. А мёд, калі больш за дзве сталовыя лыжкі — гэта ўжо не лякарства, а атрута. Ужо дома, у нашай хаце, жанчыне зрабілася дрэнна. Ратавалі мы яе ўсю ноч, можна сказаць, усёй вёскай, фельдшарку Люду з Вялікіх Навікоў прывезлі. Толькі пад

раніцу жанчыне стала лепш. Для мяне гэта было добрай навукай. Потым мы самі трымалі пчол, дабравата накручвалі мёду. Але заўсёды, калі надараліся госці, мёдам я частаваў іх вельмі асцярожна.

У Мінску жыў дзядзькаў сын, і калі ён наязджаў у пушчу, а ездзіў даволі часта, дык спыняўся толькі ў роднай хаце. У тую, прымацкую бацькаву, і нагой не ступаў. Мачахі сын прызнаваць не хацеў. Ды ў тае быў і свой сын, які жыў у Койданаве. Бацька з сынам гадзінамі бавілі час за адным сталом, падымаючы чарку, а мачаха пра тое нават не ведала. Аднойчы яна распавядала мне:

— Гэта ж ноччу залезлі ў Юзікаву хату нейкія зладзеі. Усю гарэлку папілі, параскідалі ўсё ў хаце, але, здаецца, так нічога не ўзялі. Сала, можа, хіба толькі…

Я нічога не сказаў на гэта, але здагадка ў мяне была, хто сядзеў за тым сталом. Свае, хутчэй за ўсё, бацька і сын.

Мой скутар адпачываў у вішняку старога дварышча Лойкі. Яшчэ летась тут стаяла старая хата. А цяпер хацішча палохала сваёй пустэльнасцю, абломкамі цэглы, бітымі шклінамі, кастрыцай ды нейкім старым даўнім абуткам, закарэлымі анучамі. У перадапошні год нехта выразаў у хаце маторнай пілой цэлае паўсцяны. Гэтак выцягвалі з яе зладзеі старую антыкварную мэблю. А я хораша згадваў, як гадоў паўсотні, можа, таму сядзеў тут за сталом з гаспадаровымі дочкамі, ды нейкай вясёлай кампаніяй. Ужо і не памятаю, у якім кутку стаяў той стол. Хто пакваліўся на мэблю? Можа, грыбнік які выглядзеў усё, вынюхаў ды і наехаў ноччу. А хто тут яго пачуе, акрамя дзіка ці зайца? І не было каму шукаць тое, украдзенае. Бо няма, напэўна, ужо нашчадкаў жыхароў таго дома. Там, дзе я схаваў скутар, стаіць, прыгорбленая, як схаваная ў слівовую гушчэрню, адзінокая шпакоўня-прыбіральня. Дзверы ў яе расчыненыя, у ромбік верхняга акенца заляцела і прысела, пасвістваючы, самотная сінічка. Ціхімі вачыма паглядае, на мяне, чужога, пахіствае сваім шчымлівым хвосцейкам. У садзе выспяваюць ядраністыя зялёныя антоны, штрыфелі, ёсць нават пару яблынь-беланалівак. А старая высокая груша, ужо сям-там дабравата падсохла, галавастыя плады трымае толькі зверху, знізу яе, трасучы і абіваючы, чым толькі можна, ушчэнт абламалі і пакалечылі. У садзе вельмі многа травы, ценю і гнілога ападу. Добра палычавалі садовую зямлю і тутэйшыя дзікі. Па ўсім садзе густа разросся высокі маліннік і, прабіраючыся праз яго, абдзіраючы рукі і твар, я незнарок трапіў у нейкую яміну (ці не дзічыная работа?) і грымнуўся вобзем, добра, што не аб які патарчак. А іх тут многа. Праз сад і маліннік прабіраўся я да дзядзькавай сядзібы, якая была тут побач, адгароджаная плотам. Ад плота яшчэ засталося нейкае зялёнае, малавыразнае галлё.

Дзядзькава, другая, сядзіба ўражвала яшчэ большай пустэльнасцю. Застаўся толькі вугал нейкага паўсцена, хутчэй за ўсё хлява. У вялізнай, густа ўсеянай сліваю яміне (здагадваюся, што гэта быў склеп), ляжала, прымацаваная да нейкай струхлелай жардзінкі, старая шпакоўніца. Але нідзе не было шпакоў. Дзесьці на гэтым вось месцы, дзе я зараз стаю, было тупка, зялёна шчацініўся муражок, тут я разварочваўся на сваіх «Жыгулях», калі часам падвозіў дзядзьку. Я часта прыязджаў па яго летам, калі трэба было падглядзець пчолы. Пасля смерці бацькі засталіся ў нашай гаспадарцы яшчэ тры вуллі, тры сям'і працавітых пчол, якія прасілі добрай пчалярскай увагі. Гэтай увагі пазычаў я ў дзядзькі.

На дзікім густатраўі, якім зацягнула двор, зусім не чулася пчаліных зыкаў, а можа, я добра і не ўслухоўваўся. Там, дзе стаяў плот, цяпер густым плотам буяла крапіва, зялёнымі слановымі вушамі звісала лісце лапухоў, густа зеляніўся чыстацел, плёў свае дзіўныя вушкі дзікі гарох. Хапала месца тут і

высокаму з ружовымі кветкамі асоту. Гэтак шмат усяго тут расло, што лёгка было заблудзіцца даверліваму воку. Было толькі шкада, што гэтага ўсяго не косіць каса, не есць сялянская скаціна. І ўсё тут навокал цяпер само па сабе, толькі сабе і належыць. Было тут усё, што неабходна чалавеку для жыцця. Не хапала толькі самога чалавека. Не хапала яшчэ вады. Яна засталася хіба толькі ў лужынах. Вада — вось што патрэбна ў першаю чаргу чалавеку. А яна тут некалі была, і чалавек, калі б прыспела такая патрэба, мог бы зноў лёгка яе адшукаць. Але чалавек зараз тут не жыве, а ўсяму астатняму хопіць і дажджу, хай сабе і рэдкага, і тае ж расы. Я прыглядаюся да лесу, у самы правы куток поля, дзе некалі раскашаваў хутар роднага дзядзькавага брата Адвардка. Слыў той у пушчы гаспадаром заможным, трымаў цэлы хлеў свіней, меў некалькі кароў, каня, цэлы двор гусей, курэй і індыкоў. Быў, казалі, не толькі чалавекам ашчадным, але і куркуляватым. Родавы сялянскі корань Адвардка быў і надта моцна ўрослы ў тутэйшую зямлю. Здавалася, ніякія сілы, ніякія буры не змогуць вырваць гэты моцны і непаддаткі корань. Але час здольны на ўсё, ён вырваў ужо не надта моцнае і тут, ды так, што і следу ніякага не пакінуў. З часам цяжка, амаль немагчыма дамаўляцца.

За Адвардкавым хутарам добра радзілі чарніцы. Летам увесь ніз не надта густога хвойнага лесу аж чарнеў ад багацця ягад. Іх насілі адсюль вёдрамі. У чарніцы мы хадзілі з маці пешшу, а гэта ад нашай хаты добрых пяць вёрст. Хадзілі на ўвесь дзень, а надвечар забіраць нас прыязджаў на кані бацька. Пакуль ён ехаў, мы паспявалі ўжо і пагасцяваць у багатай хаце. Сваякі ж нейкія. Аднаго разу, збіраючы ягады, я ледзьве не наступіў на гадзюку. Ляжала яна, закруціўшыся ў некалькі крэпавых абаранкаў ля самай маёй нагі, якую я толькі што збіраўся пераставіць. І тут я закрычыў такім немым голасам, што рэха пакацілася па ўсёй пушчы, напалохалася мама. Вечарам яна павяла мяне да вясковай бабулі Татарыцкай качаць пярэпалахі, бо перапалохаўся я не на жарты.

Старую граньскую дарогу я памятаю, магчыма, лепш за іншыя. Некалі я хадзіў па ёй у школу-дзесяцігодку, у тую самую Дзераўную, да якой ад нашай хаты цэлых дзесяць кіламетраў. За тры леты запомніў на ёй кожную ямінку, кожную выбоіну, ведаў, як расце кожнае дрэва, любы кусцік. Тут, ля Грані, дарога была абсаджана высокімі бярозавымі прысадамі. Але не ўся, толькі на самым пачатку, дзе стаялі першыя тры хаты. Старыя, у некалькі абхватаў бярозы, якія паваліў некалі ўраган, ляжаць цяпер і буцвеюць ля самай дарогі, а некалькі мацнейшых яшчэ трымаюцца, заглядаюцца на неба ды спрачаюцца з ветрам. У густых іх кронах зялёнымі каснікамі заплялася амяла. Дарога засталася ў памяці маёй такой, як і была калісьці. Іншай я і не хачу яе ўяўляць, хоць яна даўно іншая. Вось тут, справа, на самай сярэдзіне яе, некалі стаяў высокі крыж. Уверсе, пад бляшаным німбам, высвечвалася невялічкае драўлянае распяцце. Некалі, вяртаючыся са школы, яшчэ не даходзячы да смалярні, я напаткаў нечакана навальніцу. Хмара, чорная і неабдымная, рухалася даволі хутка. Самой смалярні ўжо не было, яе нядаўна знеслі. Застаўся толькі густа прасмолены ды ўпоены тарпатынай чорны дол, ад якога ўцякалі ў лес усе тутэйшыя камары і мухі. Хмару з усіх бакоў пачалі зашываць неонавыя ніткі маланак, зачасцілі перуновыя раскаты, аддаючыся моцным і вострым рэхам у ствалах. Я перапалохаўся — ратунку нідзе не было. І тут убачыў непадалёку старэнькую хатку бабулі Носіхі. Ніколі не быў тут, нават баяўся заходзіць у двор. Мяне палохалі, што ў хатцы жыве нейкая вядзьмарка. Але ў страху вочы вялікія, і яны мне паказалі на бабуліну страху. Я з усіх ног кінуўся да хаты і, перамагаючы страх, пагрукаў у дзверы. Бабуля, што адчыніла іх, была зусім не страшнай, а наадварот, вельмі прыветлівай і, як у нас кажуць, гжэчнай.

Яна сядзела пры стале, засланым нейкім шэрым абрусам. У шклянцы, насыпанай жытам, гарэла высокая грамнічная свечка, воск яе цёмнымі слёзкамі сцякаў на сценкі шклянкі. Пры свечцы ляжала адгорнутая на нейкай старонцы невялічкая кантычка. Маланка раз за разам вогненнымі зігзагамі крэсліла шыбы маленькіх вокнаў, перуновыя гарматы гэтак скаланалі маленькую хату, што мне здавалася, у ёй падскокваем і мы з бабуляй. А яна ўвесь час прыўставала і жагналася, паглядаючы то на абразы, то на свечку. Мы сядзелі з ёй на нешырокім зэдліку, які займаў у хатцы амаль паўсцяны. Сядзелі абое моўчкі. Калі навальніца пачала сціхаць, бабуля загаварыла і пачала распытваць, чый жа я гэта буду, як вучуся. Бацькоў маіх яна добра ведала, нават нешта добрае, ухвальнае казала пра іх. І тут жа адчыніла нейкую шафку, пачала вымаць з яе хлеб, нейкую пасудзіну і пачаставала мяне смачным варэннем. Я доўга адмаўляўся, але бабуля ўгаварыла пакаштаваць яе лясных прысмакаў.

Хату бабулі пакідаў я зусім у вясёлым настроі. Дамоў вяртаўся добра прамоклым, бо навальніца хоць і сціхла, а дождж яшчэ ўсё не мог супакоіцца, цурболіў да самага вечара. Дарогу дамоў было не пазнаць. Па яе каляінах цяклі жоўтыя ручаі, у лагчынах стаялі вялікія, акаймаваныя зялёнай пенай, лужыны. Маланка трапіла ў высокі крыж ля дарогі. Вялізная цёмная трэшчына прайшлася ад самага верху да нізу, не зачапіўшы распяцця.

Калі я потым расказваў сябрам пра свае навальнічныя прыгоды, яны падсмейваліся: быў у гасцях у самой ведзьмы. А я пасмейваўся з іх, бо пераканаўся, што ў маленькай лясной хаце жыве самая добрая ў пушчы бабуля. Прабягуць гады, і аднойчы, калі бабулі ўжо не будзе на гэтым свеце, я паеду да яе блізкіх, каб купіць тую хатку сабе на дачу. Але хтосьці мяне апярэдзіць, і я знайду сабе хату ў суседняй Гуменаўшчыне, а дзядзька возьме на сябе клопат будаўніка. Разам з маім бацькам яны сабяруць зруб, выведуць яго пад дах. А потым у хаце з'явяцца вокны, дзверы, столь і падлога. У старым куточку Траецкага прадмесця ў Мінску мне пашанцуе адшукаць рэшткі нейкага старога кафлянага стаяка, дзядзька складзе з іх адмысловую печку. Нідзе ў гаспадарчых магазінах не знайшлося дзверцаў да яе. На ўсё гаспадарчае ў тыя гады быў дэфіцыт. Запаслівы дзядзька мяне выручыў. «Недзе ў мяне гэта дабро валяецца», — сказаў ён спагадліва мне. Сам трэсціся ў далёкую дарогу не пажадаў, а мяне адправіў аднаго, на ноч гледзячы. Перад дарогай доўга тлумачыў, дзе трэба шукаць тыя дзверцы. Разам з дзядзькавай Веркай, якая ўвесь час буркліва згадвала пра яго непаседлівасць і казала, што яму ўжо на старасці трэба нарэшце ўгаманіцца, а не ездзіць на заробкі ў Мінск, мы доўга шукалі тыя дзверцы. І знайшлі выпадкова іх пад нейкімі старымі дошкамі. На развітанне бурклівая Верка яшчэ паспела паскардзіцца мне, што ў іх вунь свая печ патрэскалася, просіць рамонту, а ён, дзядзька, усё ніяк не збярэцца яе паправіць. «Даў бог Мікіту на валакіту, дык трэба валачыцца», — казала яна. А я ўсё тое моўчкі глытаў ды думаў, як бы гэта мне хутчэй уцячы з тымі дзверцамі. Пераначаваў дома, а назаўтра, яшчэ не развіднела, а я ўжо спяшаўся на сваю Лысую гару, што схавалася недзе пад Заслаўем.

Пакуль я выцягваў з вішнячку свой скутар, сонца пачынала ўжо хіліцца на вечар. А ўспаміны так ускружылі мне галаву, што я нават забыўся, чаго сюды прыехаў. І праўда, чаго я сюды прывалокся? Каб толькі паўспамінаць? Вось зараз яшчэ нешта цёпленькае выплыве з памяці. Не, не трэба адпускаць мяне аднаго на гэты стары хутар. Хутаранскае ў маёй душы больш трывалае, чым вясковае. Я ж чую, як яно мне баліць. Таму і ўцякаю сюды, дзе яшчэ не астылі мае даўнія сляды, дзе яшчэ не ўсё заараў плуг забыцця. Уцякаю, каб лячыць гэты боль.

* * *

Мама мая ніколі не лятала самалётамі. Мабыць, адзін толькі раз у жыцці праехала цягніком «да Піцера», дзе жыве і сёння яе малодшы сын. Там не згаджалася ехаць у метро. Калі гаворка тычылася самалётаў, казала: «Гэта ж, пэўна, так страшна». Аднойчы я ўсё ж паспрабаваў угаварыць яе на нейкі рэйс у той ж Піцер, але яна так катэгрычна замахала рукамі:

— Не-не, сынок, ні ў якім разе! Дай яшчэ мне пажыць трохі. — А потым, памаўчаўшы, працягвала: — Чаму ж, у неба я хачу, думаю пра гэта. Але пасля смерці ўжо.

Па зямлі яна, дзякуй богу, адхадзіла больш як дзевяноста гадоў. Як ёй ходзіцца цяпер там, на небе? Пра гэта, на жаль, ні я і ніхто не ведае.

* * *

У гады маёй маладосці дзяўчына, якая, здаецца, кахала мяне, называла ласкава — «каменьчык мой». Не Камейша, а каменьчык. А мне ўсё хацелася быць не каменьчыкам, а нейкім каменем. Не помнікам, вядома. Хацелася нейкай важкасці. У памяці круціліся і радкі П. Панчанкі:

Хлапчанё ўляцеў, нібы каменьчык,
Пушчаны з рагаткі у акно.

Мабыць, і я быў тым самым каменьчыкам, што ўляцеў у гэта жыццё надта неяк апантана. Кажуць, што камені не растуць, але мае землякі сцвярджаюць адваротнае. Збіраюць яны, збіраюць, пакаленне за пакаленнем, тыя камені ў полі, а сабраць усе не могуць. Памагаў гэта рабіць і вялікі зямляк Якуб Колас. Не дапамагло. Растуць, значыць. Вунь і ў нутры чалавечым нават растуць, чаму б ім не расці ў полі! Але як хацелася б застацца на чыёйсьці далоні толькі нейкім светлым каменьчыкам, якому не сняцца глыбы цяжкіх помнікаў славы. Маленькі каменьчык можна пакласці ў кішэню, за шкло, а будзе ён ляжаць на магіле тваёй — ніколі не раздавіць «шкілет твой грэшны». Не трэба і дарагіх, тых самых, з бляскам вока нябеснага, якія каштуюць столькі, колькі нам не снілася і не прысніцца.

А можа, камені і не растуць, а толькі ўсё вакол нас паступова камянее. Каменнымі робяцца нашы сэрцы, слёзы, думкі, словы. Бачыў я ў Арменіі, у славутым яе Матэнадаране, акамянелыя кнігі. Іх можна патрымаць у руках, але ніколі ўжо не разгорнеш, не прачытаеш. Сумна быць помнікам самому сабе. А можа, гэтак і трэба, каб цябе помнілі нашчадкі? О, як мы хочам памяці і як баімся яе! Бо і з’явіліся мы на гэты свет, яго баючыся.

На пачатку было слова, кажа Біблія. І першае слова ў кожнага з нас было «Мама». Гэта слова без цяжкасці вымаўляюць нават нямыя. Камень таксама нямы. Але і самае апошняе слова даюць сказаць толькі яму.

* * *

Пакуль жыве чалавек, яму ёсць над чым падумаць. Вось і думаю я, над чым гэта сёння мне падумаць. Калі ёсць над чым. Мой каламбур гэтага не падкажа.

* * *

Вясёлая і гаваркая жанчына, калі мы з ёй разгаварыліся пра помнікі, якія часта бываюць і не падобнымі на сваіх герояў і часта стаяць не на тым месцы, падвесяліла мяне сваім успамінам:

— У Мінску я некалі закадрыла аднаго грузіна. Ён прызначыў мне спатканне на плошчы Калініна, насупраць помніка «ўсесаюзнаму старасту». А я спазняюся. Закруцілася недзе. Калі прыбегла, бачу, стаіць маўкліва ды раз за разам паглядае на гадзіннік. А ўбачыў мяне, засвяціўся ўвесь і кажа:

— Усе ідуць і пытаюцца, хто з вас тут помнік — ты ці ён? І паказваюць на Калініна. Бо стаім на плошчы толькі мы ўдвух…

* * *

«Сто гадоў, сто гадоў», — спяваецца сёння ў вядомай песні.

Да сотні рэдка хто дажывае. А некалі век чалавечы быў яшчэ карацейшым. Нават самы старэйшы наш вясковы крапак Антось Кулікоўскі пражыў толькі дзвяноста з нейкім там гакам. Было, што прыпісвалі сабе гадоў па зразумелай усім прычыне. Але колькі хто мае іх, вяскоўцы добра ведалі і без касцельнай метрычнай кнігі. Таму часта падсмейваліся з тых, хто не па сваім узросце ці надта стары, ці непраўдападобна малады. Але стары вясельны напеў павярнуў мае думкі вось у якім напрамку.

Чалавецтва зараз жыве ў 2017 годзе. А калі адкруціць гадзіннік часу роўна на сто гадоў назад, дык апынемся мы з вамі ў віры тых самых рэвалюцыйных падзей, якія перавярнулі дагары нагамі жыццё такой магутнай і вялікай краіны і адразу ўскалыхнулі ўвесь свет. І славілі мы, паэты, заліваючыся, той «вялікі Кастрычнік», спявалі хвалу правадыру рэвалюцыі. Спачатку яму, якому «подобных не было и нет» (М. Палятаеў), потым яго пераемніку, які быў яшчэ мудрэйшым правадыром. Але я зусім не пра іх. Пад тыя «сто гадоў» згадаў я некалькі дарагіх для мяне імён, якія, магчыма, і мала сёння згадваюць у нашай айчыннай хаце. А я ведаў іх асабіста. Сёння ім споўнілася б тых самых сто гадоў. Пры жыцці іх называлі «равеснікамі рэвалюцыі», і яны за гэта не крыўдзіліся, бо гэта было нават пашанотна. Вось тыя імёны: Пімен Панчанка, Янка Брыль, Міхась Калачынскі і Мікалай Ворвулеў. Чаму «і», скажу потым. А цяпер пра кожнага з іх і крыху пра сябе. Ну, і не толькі. Нешта, вядома, скажацца і пра час, у якім жылі.

## Пімен Панчанка

Пімена Емяльянавіча я ўпершыню пабачыў у далёкім ужо 1962 годзе, калі быў студэнтам БДУ. Тады нас, маладзенькіх, бальшынёй гэта былі філфакаўцы, хто ўпершыню надрукаваўся ў «Маладосці», сабралі ў яе рэдакцыі ў былым будынку ЦК камсамола, у тым самым доме, які стаіць і сёння, за танкам на пастаменце. Я не памятаю ўжо, хто там тады выступаў, але слухалі мы ўважліва толькі яго, любімага паэта ўсіх студэнтаў. Усе мы маглі працытаваць па памяці знакаміты паэтаў верш, які пачынаўся так:

На планеце ўсё у нас бывае,
Слухай ды за прэсаю сачы.
У студэнтаў жонак адбіваюць
Тлустыя вучоныя сычы.

Пімен Панчанка раіў нам, маладым, быць больш уважлівымі да фальклору, там, дзе можна, запісваць усё з народнай творчасці. І сам працытаваў адзін народны досціп, які я памятаю і сёння:

Эх, я і кума!
Я і іх кума,
Я і тых кума.
Я не проста кума,
А я з тэхнікума.

У 1964 годзе я служыў у арміі і аднойчы поштай атрымаў бандэроль. У ёй быў часопіс «Маладосць» з вялікай падборкай маіх вершаў. Гэтак падтрымаў мяне Пімен Панчанка. Канечне ж, авансам. Вядомы паэт не проста надрукаваў мае, яшчэ кволыя вершы, але падараваў мне добрыя паэтычныя крылы. Я і сёння яму за гэта шчыра ўдзячны.

Некалькі разоў я запісваў яго ў студыі на Беларускім радыё, калі сам працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач. Быў ён заўсёды ў вясёлым настроі, любіў і згадваць нешта вясёлае з жыцця сваіх калег і сяброў. Анатоль Вялюгін расказваў мне, як доўга не мог паэт прыдумаць назву сваёй невялічкай кнізе паэзіі. Яны тады разам адпачывалі ў Каралішчавічах. Назву падказала сама сойка, якая часта з'яўлялася пад вокнамі былога паляўнічага доміка. Прыгожая, але крыклівая птушка.

— Слухай, Пімен, гэта назва твая крычыць! — пастукаў раніцой яму ў сценку Анатоль Сцяпанавіч. Адразу пазванілі ў выдавецтва, паведамілі рэдактару, і кніга пайшла ў друк з назвай «Крык сойкі». «Что в Пимене тебе моем», — перафразаваўшы Пушкіна, пытаўся ў беларуса жартаўлівы Міхаіл Святлоў. Гэта ўжо з ваенных прыгадак. Я нядаўна перачытаў дзённікі паэта. Уразіла мяне іх горкая праўда. Уразіла і тое, што вядомы паэт усё жыццё збіраўся ўзяцца за прозу. Была б гэта, як можна здагадацца, проза ваенная. Але не напісаў ні аднаго празаічнага радка. Ды хапіла пра той час і яго мужнай паэзіі. Чаго варты адзін толькі «Герой». Як слушна сказаў ягоны сябра Мікола Аўрамчык, яго паэзія «вылучалася дзёрзкім праўдалюбствам». Ён слыў тонкім лірыкам, а ў тых душы безабаронныя.

Ведаю, як цяжка яму было надрукаваць многія смелыя вершы. Пры мне, калі я працаваў у часопісе «Полымя», здымаліся і тут жа адваёўваліся, сёння вядомыя вершы паэта. Шчырым, спагадлівым, ціхім запомніўся мне Пімен Емяльянавіч.

## Янка Брыль

Ён быў нават і блізкім маім земляком, таксама занямонец, але ўжо з другога берага Нёмана. Некалі ягоны лепшы сябра Уладзімір Калеснік падзяліў нас, усіх занямонцаў, на палевікоў і лесавікоў, дык я нібыта трапляю пад катэгорыю палявую, але ж лесу хапае і тут, і там. Яго Загор'е я часта бачыў толькі праз акно машыны, едучы ў Карэлічы. Кідалася ў вочы кожнаму тая звычайная вёсачка, бо тулілася за горкай, пры самай дарозе. Пэўна, таму і назву такую атрымала. Пазней ужо шанцавала заязджаць і ў самую вёску. У Астраўской бібліятэцы, якой загадвала мая цётка Ванда, некалі я са смакам прачытаў аповесць «У Забалоцці днее». Некалькі разоў перачытваў радкі, дзе маляваўся паўразбураны, недабудаваны касцёл у Налібоках. Паўставалі, як жывыя, у вачах тыя самыя дубчыкі бяроз, што пачыналі расці на цаглянай сцяне. А я толькі нядаўна іх бачыў, калі з бацькам вярталіся з пушчанскага сенакосу на ўрочышчы Дрывезная. А потым перачытаў і ўсё землякова, што толькі было ў бібліятэцы. А калі працаваў у Валожынскай раённай газеце «Працоўная слава», дык напісаў пра нашага славутага земляка цэлы артыкул.

Цікава б было яго зараз перачытаць, бо не помню ўжо, што тады ў запале пісаў. Працаваў у нашай друкарні наборшчык па прозвішчы Паляніца, які разам з Іванам Антонавічам ваенным часам шчыраваў у лясной партызанскай газеце «Сцяг свабоды». Малады Брыль быў яе рэдактарам. Многа вельмі ўхвальнага нарасказваў мне былы партызанскі наборшчык, а я ўсё гэта з яго слоў выклаў на паперу. Не ведаю, ці чытаў тую пахвалу сам пісьменнік. Творы ягоныя, праўда, я там не згадваў. Які з мяне тады быў крытык!

Сялянская нясмеласць не дазваляла мне неяк бліжэй пазнаёміцца з земляком. Адзін раз ён нават мне заўважыў:

— Што гэта вы, Казік, нібы баіцеся мяне, нібыта шарахаецеся.

Гэтак спатыкнуліся мы не ў надта зручным месцы, каля прыбіральні Дома літаратара. Не памятаю, як я патлумачыў сваё тое шараханне. А быў я проста дабравата прывяселены чаркай, дык не хацелася трапляць на цвярозыя вочы класіка. Думаю, ён гэта зразумеў. Ды і што тут урэшце такога дрэннага? «І мы, маладыя, — казаў ён неяк, — не лепшыя, а можа, нават горшыя за вас былі». З гадамі гэта мая нясмеласць у адносінах да старэйшага земляка нібыта прайшла. Мы часта сустракаліся на адных і тых жа вечарынах, дзялілі разам нейкія дарогі. У дарозе з Іванам Антонавічам было не сумна. Нават самая далёкая пралятала хутка, і хацелася, каб яна доўжылася. Бо несамотны класік аздабляў яе не толькі дасціпнымі жартамі, нейкімі вясёлымі прыгадкамі, а яшчэ песнямі. Народных песень ён ведаў багата і спяваў іх так, што заслухаешся. І голас меў не абы-які. Цярпець не мог бяздарнасці і прабіўнога нахабства, якое ў апошнія гады пачало нахлынам прарывацца праз усе шлюзы прыстойнасці.

Пры мне ў аўтобусе асадзіў нейкага маскоўскага выскачку, які даймаў усіх сваімі непрыстойнамі вершаваннямі ці згадкамі. Расказваў той, памятаю, пра свае прыгоды ў мангольскім стэпе, калі яму ад перабору кумысу раптам «прыперла», а выйсця не было ніякага… Смяяліся ўжо не з прыгод, а з самога расказчыка.

Як і ўсе мы, а, можа, нават больш за нас любіў ён дарогі. Вось і прызнанне пра гэта: «Вельмі люблю перасоўвацца па планеце — хадзіць па лугавых сцежках, па палявых лясных дарогах, плаваць па рэках, азёрах, па моры, лятаць над гарамі, над хмарамі, над граніцамі дзяржаў. Спачатку, у маленстве, хапала адлегласцей невялікіх — пабегчы, скажам, у другую ці ў трэцюю вёску з наказам ад мамы да цёткі або — якая раскоша! — удзельнічаць у школьнай экскурсіі. Пасля прыйшла сталасць, салдацкае і партызанскае, дзённае і начное вывучэнне геаграфіі. Потым — пісьменніцкія падарожжы ў бліжэйшыя і далёкія братнія рэспублікі, краіны свету…»

На нейкай сустрэчы ў музеі Коласа, ужо ў самай весялейшай яе частцы, дзе прысутнічалі, здаецца, усе мы сённяшнія «стаўпецкія» (так ён нас увесь час называў), загарэліся яго прапановай праехацца па тых мясцінах, дзе мы нарадзіліся і дзе ён калісьці партызаніў. Паездка не здзейснілася. Хоць, як потым я даведаўся, яна адбылася, але без нас, а сваёй невялічкай баявой спулкай. Думаю, што гэта і правільна. Мы, маладзейшыя, ды такою дружнаю сям’ёю, маглі ператварыць яе ў нейкі «увеселительный балаган».

Яшчэ пры яго жыцці я пачаў пісаць і свае лірычныя мініяцюры, уражанняў і запісаў у мяне назбіралася багата. Не ведаю, як успрыняў ён, які аддаў гэтаму кароткаму жанру даволі свайго часу, мяне ў якасці «мініяцюршчыка». Ніколі гаворкі пра гэта не было. Ведаю толькі, што і ён, і Вялюгін уважліва чыталі часопіс «Маладосць», дзе мы працавалі разам з Генрыхам Далідовічам. Пасля кожнага нумара былі тэлефонныя званкі з добрым разборам усяго таго, што мы друкавалі. Памятаю пасля вялікай падборкі ў адным з нумароў

вершаў Рычарда Недаводзіна, Іван Антонавіч пазваніў нават з нейкім добрым узрушэннем. «Дзе вы знайшлі гэтага хлопца?» — пытаўся класік. Дэбют Р. Недаводзіна сапраўды быў амаль ашаламляльным. Хоць у паэзіі наш зямляк (мы вучыліся ўсе ўтрох, — і я, і Генрых, і ён — у Дзераўнянскай школе) навічком не быў. Ён пісаў на рускай мове, жыў у Маскве, меў нават сваю кнігу паэзіі. Але на роднай мове ягонае слова загучала непрадказальна свежа і чароўна. Шкада, што жыццё паэта абарвалася так нечакана і недарэчна.

Працуючы і ў «Маладосці», а потым і ў «Вожыку», я памятаў, што на самым пачатку ў гэтых выданнях працаваў і ён, Янка Брыль. Часам, седзячы за рэдакцыйным сталом, я перачытваў старыя блакноты, дзе былі занатаваны выступленні на пасяджэннях рэдкалегіі. Было адчуванне, што і сам ты прысутны на тых пасяджэннях, чуеш тыя самыя заўвагі, што гучаць з вуснаў старэйшага земляка, які на той час быў яшчэ ў добра маладым узросце. З’яўлялася нават жаданне самому вярнуцца ў той час, бо там, здаецца, было больш увагі і павагі да яе вялікасці роднай літаратуры.

Я бяру ў рукі, здаецца, яго перадапошнюю кнігу «З людзьмі і сам-насам» і які ўжо раз перачытваю яе. Немітуслівa паглыбляюся ў паглыбленае. І адразу згадваю нешта сваё, але праз ягонае.

## Міхась Калачынскі

Яшчэ ў дашкольныя гады я часта паўтараў па памяці верш Міхася Калачынскага пра трусікаў. Не ведаючы самога аўтара, верш гэты ведалі ўсё дашкаляты Беларусі:

Ах, якія трусікі —
Проста прыгажосць.
Чорненькія вусікі,
Беленькая поўсць.

Чытаю, а ў вачах паўстаюць тыя самыя сумнавокія, вушастыя і палахлівыя істоты, якіх мы так любілі ў сваім дзяцінстве. Калі гэты верш чатырнаццацігадовага юнака трапіў у рукі Уладзіславы Францаўны, жонкі Янкі Купалы, тая была ў захапленні, тут жа прачытала яго Івану Дамінікавічу. Верш у 1932 годзе быў надрукаваны ў часопісе «Іскры Ільіча». А потым трапіў у «Чытанку». Пра ўсё гэта паэт расказваў мне напрыканцы 1976 года, калі я рыхтаваў для радыё перадачу да яго шасцідзесяцігоддзя. У пачатку наступнага года (М. Калачынскі нарадзіўся 12 студзеня 1917-га) перадача павінна была пайсці ў эфір.

Да гэтага мы ўжо былі добра знаёмыя. Міхась Іванавіч нават збіраўся ўзяць мяне на працу ў часопіс «Беларусь», дзе ён доўгі час быў галоўным рэдактарам, але, як жартаваў ён сам, «цёмныя сілы перашкодзілі». «Цёмныя сілы» — не хто іншы, як зайздроснікі, якія самі шукалі цяплейшае месца ў часопісе. Я аднойчы ўжо і «Лісток кадраў» запоўніў, але пакуль загараў на кактэбельскім пляжы, месца маё занялі. Але гэта так, да слова. Яшчэ невядома, як бы там працавалася. Казалі мне, што рэдактарам мой старэйшы сябра быў прыдзірлівым. Калі супрацоўнік прыносіў яму чысценькі, без адзінае праўкі тэкст, яго адразу збівала з панталыку пытанне «А дзе рэдактарская праца? Нябачна яе. Вазьмі і яшчэ папрацуй!» Хітрыя супрацоўнікі знайшлі свой выхад: закрэслівалі ў тэксце нейкія радкі, чарніла не шкадавалі, а зверху пісалі тое ж самае. Тэкст адразу ж ухваляўся. Дык я і суцяшаў сябе: лепш мы з Міхасём Іванавічам застанёмся добрымі сябрамі. Будзем ездзіць да мяне ў пушчу ў грыбы, падымаць сяды-

тады чарку… У паэта была свая машына, свае колы. Гэтыя колы я часта бачыў на кватэры М. Калачынскага па вуліцы Купалы. Зімой яны ляжалі ў доўгім калідоры, за іх можна было зачапіцца і нагамі. Гаспадыні, жонцы паэта, тое не вельмі падабалася. А госцю якая да гэтага справа? Мы звычайна сядзелі ў рабочым пакоі паэта, які быў за тым калідорам, направа, выходзіў акном у двор. І нам там было ўтульна. У кутку пакоя на нейкім прыстолку стаяў бюст паэта работы Заіра Азгура. Часта, жартуючы, чаркаваліся і з ім. Дасюль у вушах маіх грыміць, з трэскам нясецца стары ліфт, на якім я падымаўся і апускаўся даволі часта — побач была кватэра Анатоля Вялюгіна, з якім мне пашанцавала не толькі сябраваць, але і разам працаваць у часопісе «Полымя».

Любіў паэт свежае, яшчэ не зацяганае частым ужыткам слова. Нідзе прынцыпова не ўжываў слова «зязюля», бо падабалася сваё, толькі ягонае «кукуха». Гаварыў крыху ў нос, але ад гэтага гаворка яго не губляла сваёй душэўнай мяккасці. Яго голас добра імітаваў Іван Курбека, але дадаваў у сваю імітацыю ўласнага гумару. Апранаўся паэт таксама па-свойму элегантна. І калі калегі ганяліся за моднымі дублёнкамі, ён пашыў сабе шыкоўны паўфутэрак з цялячых шкурак. У Мінску такіх я больш не бачыў.

У 1971 годзе Міхась Калачынскі ў складзе беларускай дэлегацыі браў удзел у рабоце XXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Кожны з паэтаў, хто з той жа нагоды трапляў у Амерыку, вяртаўся адтуль з вялізнай падборкай антыкапіталістычных вершаў, а некаторыя разганяліся на цэлыя зборнікі. Міхась Калачынскі не толькі не напісаў ніводнага вершаванага гнеўнага радка пра сваю заакіянскую дарогу, а наадварот, усяляк расхвальваў тое, што там пабачыў. Мы цэлы тыдзень выступалі з паэтам у Астравецкім раёне, куды яго запрасіла мясцовае начальства, і я наслухаўся ад паэта тых амерыканскіх уражанняў. Мала таго, гаспадарлівы па натуры чалавек, Міхась Іванавіч вярнуўся з-за мяжы і з насеннем замежных агуркоў. Зярняткамі насення ён дзяліўся і з падпісчыкамі свайго часопіса. Таму-сяму гэта не падабалася. Здаецца, паэта нават далікатна «предупредили».

У Астравец мы паехалі перад самым Новым годам. Паэт прызнаўся мне па дарозе, што едзе туды ён, як дамоў. У яго там засталося шмат знаёмых. Бо адразу пасля вайны ён удзельнічаў у стварэнні тутэйшых калгасаў. Вайна адцягнула на добрую пяцігодку калектывізацыю на тамтэйшых заходніх землях. У калектывах раёна прымалі нас вельмі цёпла. На дзень чакалі па тры, а то і чатыры выступы ў калгасах, школах, на нейкіх прадпрыемствах. У кожным выездзе суправаджала райкамаўскае начальства. Тыдзень, які нам быў адведзены на сустрэчы, прабег як адзін дзень. Перад самым ад’ездам запрасілі нас на сустрэчу настаўнікі. Пасля афіцыйнага выступу, чакала багатая неафіцыйная частка. Стол, як кажуць, трашчаў ад закусі і пітва. Былі танцы і песні, а мы ўжо адчувалі сябе ў дарозе. Чакалі, паглядаючы на гадзіннікі, таго самага моманту, калі падыдзе наш цягнік. Чыгуначны прыпынак быў побач. А настаўнікі не жадалі нас адпускаць, настойліва ўгаворвалі паначаваць. Мы ж спяшаліся — да Новага года заставаўся толькі адзін дзень. Калі я, маладзейшы, лёгка паддаваўся на ўгаворы, не дужа супраціўляючыся, дык старэйшы па-франтавому цвёрда стаяў на сваім. А таму спяшаліся. Тую самую «аглаблёвую» пілі раз за разам. А потым з музыкай праводзілі нас да самага вагона. Куток гэта быў лясны, і ў знак асаблівай павагі кожнаму з нас прынеслі ў вагон па навагодняй ёлцы. А вось дакументаў на тое, што ёлка не скрадзеная ў лесе, а падораная, не далі. Ніхто ў спешцы пра тое нават не падумаў. А ў Мінску, калі мы толькі сышлі з цягніка, нас тут жа сустрэлі хлопцы з чырвонымі павязкамі на рукаве: «Пакажыце дазвол на ёлкі!» Я падрыхтаваўся ўжо да горшага, хоць у галаве маёй гуло яшчэ тое лепшае, што не адпускала

нас у застоллі. І тады ўсю сваю дыпламатыю пусціў у наступ Міхась Іванавіч. Дыпламатыі было недастаткова. Тады ён выцягнуў з кішэні сваё пасведчанне галоўнага рэдактара. Хлопцы крыху памякчэлі. А тут мы яшчэ паабяцалі свае кнігі з аўтографамі. Мы разышліся нават цёпла. Пісьменнікаў тады паважалі... А перад хлопцамі стаяў не проста пісьменнік, а яшчэ былы франтавік, удзельнік дзвюх войнаў. Падабаўся мне некалі фотаздымак часу савецка-фінскай вайны, дзе малады афіцэр М. Калачынскі стаіць сярод лесу і снежнай зімы з нейкай цяжкай думай на твары. Крыху раней ад тых фінскіх падзей напісаліся яго шчымлівыя радкі «Вернасці»:

Расставаліся.
Салдацкая дарога
У працяг далёкі паплыла.
Ты ў паход мне не дарыла многа —
З ніткаю іголку падала.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аддала.
Успыхнула вясёлкай
І без слёз сказала на хаду:
— За табой, як нітка за іголкай,
Я па свеце да канца прайду.

У сваіх выступленнях я часта прыводжу гэтыя радкі, стараючыся расварушыць і тых, у каго падобнай вернасці, пра якую кажа паэт, недастаткова.

Ужо даўно няма сярод нас гэтага таленавітага і сумленнага чалавека. Пайшлі з жыцця яго равеснікі. Гэта было незвычайнае пакаленне. Сапраўднай чалавечай дабрыні, узаемапавазе і ўзаемаразуменню можна было вучыцца толькі ў іх. Я шчаслівы, што жыў сярод іх і нават сябраваў з імі, нягледзячы на свае маладыя гады. Узрост у іхнім часе ў разлік не браўся.

## Мікалай Ворвулеў

Дык вось нарэшце тое самае «і», пра якое я заікнуўся напачатку гэтых згадак. Мікалай Ворвулеў…

Я ведаю і памятаю гэтага чалавека толькі па яго голасе. Ён светла гучаў для мяне са скрынкі бацькавага радыёпрыёмніка «Родина». Як ён святочна запаўняў хату цёплым і родным мілагуччам! Густы барытон спяваў нам пра родны Нёман, нагадваў пра нядаўнюю страшную вайну. З паэтам Анатолем Астрэйкам, чые словы гучалі ў той песні кампазітара Н. Сакалоўскага, я пазней пазнаёмлюся. А вось самога спевака пабачыць так і не давядзецца. Ён памрэ рана, не дажыве нават да свайго пяцідзесяцігоддзя. Пра Мікалая Ворвулева мне шмат расказваў калісьці Аляксей Слесарэнка, які добра ведаў спевака, неаднойчы разам з ім браў удзел у выязных канцэртах па рэспубліцы. Шмат цёплых слоў пра спевака пачулася потым ад яго пляменніка, знакамітага музыкі, былога дырэктара Тэатра музкамедыі Беларусі Сяргея Косціна. Які, на вялікі жаль, таксама нядаўна пайшоў з жыцця.

Мікалай Дзмітрыевіч Ворвулеў нарадзіўся на варонежскай зямлі ў горадзе Паўлаўску. А спяваць пачаў у чырвонаармейскай самадзейнасці. Голас яго адразу быў заўважаны. У 1939 годзе ён ужо саліст Ансамбля песні і танца БВА. Адначасова вучыцца ў Беларускай кансерваторыі. Талент М. Ворвулева ўспыхнуў ярка і шматаабяцаюча. У спевака мелася ўсё, каб падабацца публіцы: рэдкай прыгажосці голас, дужа абаяльнае вонкавае аблічча, а яшчэ

акцёрская інтуіцыя. У 1946 годзе партыяй Эскамільё ён дэбютуе на сцэне Дзяржаўнага тэтра оперы і балета БССР. Дэбют яго проста ашаламляльны. Рады і беларускія кампазітары. Артыст стварае запамінальныя вобраз Дзяніса Давыдава ў оперы А. Багатырова «Надзея Дурава», Апанаса ў «Дзяўчыне з Палесся» Я. Цікоцкага, Кастуся Каліноўскага ў аднайменнай оперы Д. Лукаса. За дзесяцігоддзе працы ў тэатры ён дасягае, здавалася б, немагчымага. Яму падуладныя лепшыя партыі класічнага рэпертуру: Дэмана («Дэман» Рубінштэйна), Князя Ігара («Князь Ігар» А. Барадзіна), Анегіна, Раберта, Томскага ў творах П. Чайкоўскага, Аманасара і Жэрмона ў «Аідзе» і «Травіяце» Дж. Вэрдзі... У 1956 годзе спеваку прысвойваюць званне «Народнага артыста СССР». Не было роўных яму і як канцэртнаму спеваку. З якой цеплынёй і праніклівасцю выконваў Ворвулеў беларускія і ўкраінскія народныя песні! Гастраляваў спявак не толькі па Беларусі, але і за мяжой. Пабываў ён у ГДР, ПНР, СФРЮ, Вялікабрытаніі.

Але слава — паненка даволі капрызная. Там, дзе ёсць яна, заўсёды з'яўляюцца не толькі прыхільнікі, але і зайздроснікі, незычліўцы. Так атрымалася і ў яго. Ні з таго ні з сяго пачынаюць разладжвацца стасункі і з нейкімі начальнікамі. А душа ў спевака дужа далікатная. Яна не толькі эмацыянальная і ўражлівая, але і ранімая. Урэшце ў 1957 годзе Мікалай Ворвулеў пакідае Беларусь і едзе ў Кіеў. Там — землякі. Там яго зразумеюць. Цяпер ён саліст Украінскага тэатра оперы і балета імя Шаўчэнкі. Але няма ўжо той славы, якая была ў яго ў Беларусі. Урэшце спявак разумее, што пераезд — зусім не яго выратаванне. Як згадваў Аляксей Слесарэнка, дужа перажываў спявак, быў незадаволены сваім расстаннем з Мінскам. Нават падумваў пра тое, каб зноў вярнуцца на беларускую сцэну. Заўчасная смерць перакрэсліла ўсе яго планы.

Летнім вечарам мінулага года я сядзеў за вясковым сталом у бацькоўскай хаце. У вёсцы панавала цішыня, парушалі яе хіба што птушыныя спевы, да вокнаў нясмела падступаўся змрок, але я яшчэ ўсё не запальваў святла. Па радыё перадавалі канцэрт Мікалая Ворвулева. Старыя запісы ўскалыхнулі душу, і я нават не ўслухоўваўся ў словы вядучага, мой слых прагавіта лавіў знаёмыя гукі «Нёмана», «Зубраня». Цёплы знаёмы барытон вяртаў мяне ў вёсны майго дзяцінства, да блізкіх і дарагіх мне людзей, побач з якімі я пачынаў сваё жыццё. Быў гэта жнівеньскі дзень. Пэўна, у такі самы дзень 29 жніўня 1967 года ён развітаўся з жыццём. Равеснік рэвалюцыі, ён і памёр у яе гадавіну. І я не бачу ў гэтым ніякага сімвалічнага знаку. Але чамусьці ў мяне, хто ні разу не бачыў спевака жывым, ёсць нейкае свядомае адчуванне, што я ведаў яго, што ў некай далёкай вясне мы з ім сустракаліся.

…Сто гадоў… Дык многа гэта ці мала? Для жыцця чалавечага, магчыма, і многа. А вось для памяці чалавечай нават малавата.

* * *

Вялікі горад нават сумнае робіць звыклым. Чарга на развітанне з нябожчыкам у рытуальным пакоі бальніцы. Не паспяваюць зачыніць адну труну, тут жа нясуць і адчыняюць іншую. А побач стаіць грузавічок, даверху набіты пустымі трунамі. Страшнавата ўсё гэта. Хіба можна такое не тое, што пабачыць, а нават уявіць недзе ў вёсцы? Але навошта ўяўляць, калі ўсё гэта сумна дэманструе горад. Д'ябал-горад здольны на ўсялякае… Некалі, на самым пачатку жыцця, калі я вечарам разам з бацькам і ягоным гарадскім сябрам, кіроўцам машыны, пад'язджаў да Мінска, мяне здзівіла мноства гарадскіх агнёў. Здавалася, што перакулілася зорнае неба, і ўсе яго зоры апынуліся на

зямлі. Цяпер раптам здалося, што гэтыя агні паступова пачынаюць згасаць. Адзін за адным… Нібыта іх хаваюць у тых вялікіх і прыгожых трунах. Як шмат блізкіх табе агнёў згасла апошнім часам!..

* * *

Так дакараў, нават караў сябе за ўчарашні дзень, за тое глупства і легкадумства, на якое здольны яшчэ я, стары чалавек. Сорамна чалавеку бывае толькі за дзень пражыты. За дзень заўтрашні сораму ніколі не будзе, бо ён яшчэ не пражыты.

* * *

— Ведаеце што такое эсэ? — пытаецца выступоўца ў малых слухачоў.

— Ведаем, — адказвае самы смялейшы. — Гэта твор, які і спераду, і ззаду чытаецца аднолькава.

І мае рацыю хлапчына. Сапраўды, і адтуль — эсэ, і адсюль — эсэ. Калі нават і не цягне на гэты жанр.

* * *

Яшчэ не Талстой, але на галаве ўжо даўно мае сваю ясную паляну. Ну а ў ёй самой, галаве, і думкі, і намеры ўсе яшчэ такія далёкія ад яснасці.

* * *

Занадта высокія, ды і крыху ніжэйшыя ад іх начальнікі любяць, калі іх не проста слухаюць, а яшчэ і запісваюць за імі. Бо яны, як правіла, гавораць толькі самае мудрае. Я аднойчы падцікаваў аднаго такога запісоўца. А ён у сваім блакноціку маляваў нейкую голую красуню. Можна слухаць і чужое, але запісваць толькі сваё.

* * *

Нельга любіць сваё мінулае толькі за тое, што ты ў ім быў зусім маладым і нават прыгожым.

* * *

Хтосьці з вялікіх перад смерцю прызнаваўся, што за ўсё сваё вялікае жыццё быў шчаслівы толькі некалькі хвілін. Але хіба можна яму паверыць, калі чалавецтва дасюль яшчэ не ведае формулы таго самага шчасця. І ўсё ж, калі ўлічыць тое, што жыццё чалавечае прабягае як адно імгненне, дык тых «некалькі хвілін» шчасця дастаткова, а, можа, нават і залішне. Дзе ж мае тыя няўлоўня некалькі хвілін? Пакуль яшчэ не ведаю.

* * *

Два вясковыя маладыя выпівохі разжыліся на пляшку нейкай гары і цяпер кумекаюць, дзе б гэта выпіць ды яшчэ і прыкусіць нечым. Першы, самы кемлівы, доўга і не думаючы, павёў сябра да ўдавы Марынчыхі. Тая сустрэла прыязна, выслухала хлопцаў, пайшла па шклянкі, закускі, праўда, не па-

абяцала. Ды пакуль шукала шклянкі, першы, спрытнейшы, хуценька адчыніў халадзільнік і выцягнуў адтуль бляшанку тушонкі.

— Цётка! Хлеба акраяц знайдзеця, а Люда мая во дала смачную канцэрву. Зараз паспрабуем, — расплываецца ва ўсмешцы той, спрытнейшы, ды адчыняе нажом-складанчыкам бляшанку.

Прысела і цётка за стол. Прыгубіла той пушчанкі, закусвае канцэрвай ды і нахвальвае:

— Ай, і смачная якая канцэрва! Я дык што не куплю, мне заўсёды падсунуць нешта абы-якое…

— Мая Люда абы чаго не дасць, — падхоплівае пахвальбу той, самы ўвішны. І не ўсміхнецца нават. А другі ледзьве стрымлівае смех. Доўга хлопцы не збіраюцца заседжвацца за сталом. Трэба змыцца, пакуль старая не разгледзелася, што тут да чаго, не адчыніла халадзільнік. Дапіўшы на хаду, развітваюцца і бягом у канец вёскі. Вось там ужо даюць волю свайму рогату.

Крыху пазней цётка агледзіцца, і на ўсю вёску будзе чуваць яе злосны лямант:

— Ах, вы, п'янчугі няшчасныя, ах, вы зладзеі!.. Гэта ж трэба дадумацца частаваць мяне маёй жа тушонкай. Я ж, можа, да свята яе пакідала…

Цяпер смяюцца ўжо і суседзі: «Так табе і трэба, пасадзіла за стол гэтых п'янтосаў…»

* * *

Нічога добрага не абяцала зацяжная вясна. Не пацешыла і лета. Тое, на што стараліся май і чэрвень, спалілі бязлітасныя ліпень са жніўнем. Раннія туманы даядалі начамі ўсю смакату гародаў. А ў верасні, калі хацелася плакаць, ад усяго таго, што страчана летам, заплакала дажджамі само неба. Забуксавала і не змагла падняцца на вясковую і не надта высокую гару аўталаўка. Знайшлося толькі двое нядужых, якія ўсё намагаліся падсабіць ёй. «Калі і машыны нядужыя, адкуль будуць дужымі самі людзі?» — гэтак сказала самая паважаная сваім узростам вясковая кабета. Сказала — і нібыта ўсё паправіла ў гэтым свеце. Адразу і неба пасвятлела, і машына выскачыла на гару. Трэба і нам слухацца старых, калі іх слухаецца само неба.

* * *

Не хвалі сябе за тое, што сказаў некаму праўду ў вочы. А яны вачыма слухаць не прывыклі. Іх вочы на праўду сляпыя.

* * *

Верш рухаць павінны не толькі рыфма ды вершаваны памер. У вершы мусяць абавязкова прысутнічаць дыханне самога паэта, нават пульс ягоны. Калі іх няма — няма і паэзіі. Ёсць толькі вершаскладанне. Чалавек чуйны адчуе гэта адразу.

* * *

Адзін з паважаных мною паэтаў горда заявіў, што паэтам ён сам сябе не называе і не хацеў бы, каб яго так называлі зямляне-наступнікі. Ён жадае, каб тыя называлі яго летапісцам свайго часу. Называючы яго ўсё ж паэтам, не

магу з ім пагадзіцца і ўхваліць ягонае жаданне. Каб быць летапісцам свайго часу, мне здаецца, дастаткова мець у наяўнасці ўсяго толькі паперу і нейкую самапіску. Сядзі сабе ды занатоўвай усё, што табе падабаецца і не падабаецца ў часе. У паэта зусім іншая задача: даваць вобразны малюнак свайго часу, прапускаючы ўсе дэталі гэтага малюнка праз сваю душу.

* * *

Няздольны граць на дудзе — не грае на ёй, няздольны маляваць — не малюе, а няздольны тварыць пяром — бярэцца ўсё ж за пяро і пачынае крэмзаць не толькі прозу, але і вершы. Як гэта зразумець? Ну, не судзяць жа ў нас за самападман. А праўду казаць у вочы мы не ўмеем. А хутчэй за ўсё — баімся. Здаецца, адзін толькі Антон Бялевіч адважваўся на такое. Ён нават і прасіў: «Не называйце бяздараў графаманамі. Яны ж не палезуць у слоўнік, дзе будзе напісана, што слова гэта паходзіць ад грэчаскага «графо» — пішу і «манія» — цяга, а паверачь, што тут ёсць графская сутнасць і ўявяць, чаго добрага, сябе Талстым. Бездар ёсць бездар. Так і называйце яго». Чаму б і не паслухацца парады самабытнага нашага паэта!

* * *

Жыў ён па прынцыпе кулінарыі: хацеў пакаштаваць усяго, каб ведаць потым, што можна і трэба есці. Але як толькі атруціўся нейкай недаваранай далікатэсінай, тут жа і развітаўся са сваім прынцыпам.

* * *

— Ці можна крытыкаваць крытыка? — каламбурна спытаў мяне нейкі хлапчына на адным з выступаў у школьнай аўдыторыі. Прытым, азірнуўся, прайшоўся ўсмешкай па сваіх сябрах (паглядзіце, як я яго зараз укладу!). Я адказаў яму проста:

— Можна і нават трэба крытыкаваць. Крытыка — таксама літаратура. Чаму ім можна, а нам не?

* * *

Яшчэ нейкія тры дзясяткі гадоў таму такое і ўявіць немагчыма было. Ад гэтага б і куры перасталі несціся і сабакі б языкі праглынулі. А для сённяшняга дня дык малюнак і зусім звыклы. Назіраў тое праз вясковае акно. Ён, вясёлы і ўсмешлівы, кіруе пагрузчыкам. Бяжыць той праз вёску на гумовых колах, а ў каўшы яго сядзяць, звесіўшы ногі, двое ды разліваюць у шклянкі нейкую бутэльчыну з цёмным напоем. Ім смачна, а яму ў кабіне весела. Сваволъства гэтае мне нагадала карову, паднятую нейкім кранам на вышыню і як тая, бедалага, там бездапаможна брыкаецца нагамі. Апошняе бачыў у нейкім кіно. І гэта мяне не ўразіла, а дужа абразіла. Дык што гэта? Выклік? Паспрабуй разбярыся. Можна было б прысесці ў нейкім цяньку ды спакойна выпіць, дык не, трэба яшчэ і здзівіць! Галоўнае, каб там, дзе няможна, было ўсё можна!

* * *

Надта хацелася мне ў дзяцінстве быць музыкам. І губны нямецкі гармонік я абсмоктваў сваімі вуснамі, і ў дудку дзьмуў, і мандаліну муштраваў, ірвучы

ды падкручваючы яе неслухмяныя струны. І ўсё дарэмна. Я не хачу згадваць таго слана, які наступіў мне на вуха, я заўсёды малюся на таго бабра, які навучыў мяне плакаць. Паэт павінен часта плакаць.

* * *

Жыццё сведчыць, што чалавек, які часта плача, здольны і смяяцца. У гэтым не раз пераконвалі мяне і самі анекдоты, якія часта ўзнікалі там, дзе трэба было плакаць. Я маю на ўвазе іх сацыяльную скіраванасць. Анекдот — гэта своеасаблівая бомба на вуснах, якая часцей за ўсё выбухае ў нейкай кампаніі. Страшна ўявіць сабе «бомбу на вуснах». Але чаму, калі мы слова называем зброяй, пяро прыбліжаем да штыка, ды не даць добраму гумару і моцнасць выбуху?! Нездарма ж у часы не надта далёкія за тыя ж анекдоты, за толькі адно агучванне іх, маглі пасадзіць за краты. І саджалі, і анекдот на доўгія гады слыў падпольшчыкам. Вылузаўшыся нарэшце з падполля, ён усё ж заняў сваё ганаровае месца на старонках нашага друку, хоць назва яго паходзіць ад грэчаскага слова «анекдотас» (неапублікаваны). Нягледзячы на гэта, анекдоты сёння яшчэ як публікуюцца, выдаюцца кнігамі, цэлымі тамамі.

Як узнікаюць анекдоты, хто прыдумляе іх? У многім і дасюль — гэта загадка. Вядома, што «выдумлякі» гэтыя з добрым талентам і досціпам. Імёны некаторых анекдотчыкаў сёння мы ведаем. Вядомы нам той жа самы Юрый Нікулін, вядомы Мікіта Багаслоўскі, яшчэ нехта. Ведаю, што аўтарам многіх лаканічных досціпаў быў Павел Дубашынскі.

У савецкі час анекдоты ўзнікалі пад шапкаю вядомых стыхійных рубрык: «Армянскае радыё», «Чапаеўскія анекдоты». Быў у свой час і вядомы беларускі цыкл пад назвай «Чаго не бывае на зямлі палескай». Для добрага анекдота патрабаваўся і добры выканаўца. Не кожны мог данесці да слухача той самы патрэбны аўтарскі сэнс, усю соль досціпу. Як правіла, анекдот, хоць і лёгкі на ўспрыманне, але і няўлоўны для памяці. Усе анекдоты вельмі хутка забываюцца, асабліва калі адразу іх чуеш зашмат. Многія анекдотчыкі-выканаўцы не толькі стараліся запомніць смешнае, а і запісвалі яго на розных паперках, пачках цыгарак. Той, хто на нейкай сустрэчы ці вечарыне мог парадаваць свежым анекдотам, адразу звяртаў на сябе ўвагу, да яго і адносіны былі самыя паважлівыя.

Памятаю, у нас, у студэнтаў, былі свае анекдоты. Адзін і засеў у памяці з таго часу. Ён добра малюе вобраз падхаліма. Згадваю па памяці. У лоўчую яму, выкапаную і замаскіраваную селянінам, трапляюць па чарзе трое: воўк, каза, і ліса. Самы галоўны ў гэтай тройцы воўк, пазяхнуўшы пашчай, пытаецца: «Ну з каго пачнём, хто з вас больш смачнейшы?» Каза плача ад перапалоху, лезе на дыбкі, чапляецца рагамі за верх ямы. А хітрая ліса, паддобрываецца да ваўка і ўшчувае казу: «Ды прерастань ты бляяць. Таварыш Воўк ведае, каго першага трэба есці». Падхалімская сутнасць лісы тут бачна адразу.

Будуюцца анекдоты па-рознаму. Але самай распаўсюджанай сталася форма дыялогу. У многіх дыялогах галоўнымі героямі выступаюць дзеці. Вось і згадаю тут той, што прыйшоўся пад руку:

— Пятрок, колькі вас усяго ў мамы?

— Дзевяць.

— Дык ты не самы старэйшы?

— Не, самы старэйшы дзядуля.

Што ж, я толькі закрануў гэту надта вясёлую тэму. А яна, як бачыце, просіць свайго даследавання. Дык хай і зоймуцца ёй даследчыкі!

* * *

Той, што ў дзіцячым садку сядзеў побач з ім на аднолькавым гаршку, пра гэта і здымак сведчыць, сёння сядзіць у нейкім высакаватым крэсле. Крэсла гэта не трон, але час ад часу вышэе. А ён пайшоў зусім іншай дарогай: нешта там майструе ў звычайнай майстэрні, шукае ды прыдумляе. Бывае, шляхі іх выпадкова перасякуцца. Тады гэты, з крэсла, нібы незнарок спытае: «Можа, чаво нада?» Яму шмат чаго трэба, і як тут адразу ўцяміш, чаго папрасіць? Гэта кепска, калі табе трэба вельмі шмат, калі ў цябе няма амаль нічога. Але і добра кожны раз памятаць, што ты майстра, што ты можаш нешта прыдумляць, шукаць і майстраваць. Усё сваё ты майструеш толькі сам. І можаш нават змайстраваць тое самае крэсла.

* * *

Людзі не толькі з'яўляюцца на гэты свет, але і пакідаюць яго. Каб адчуваць гэта, варта часцей наведвацца на магілкі. А мы часам нібы баімся сваіх нябожчыкаў. Вунь тупае ля мяне, пагрукваючы чаравікамі і адаграючы адубелыя ад холаду ногі, яшчэ не старая кабета, ды прыгаворвае:

— Хай бы часцей мянялася надвор'е… Калі мяняецца надвор'е, тады нам сняцца жывымі нашы нябожчыкі.

Хачу ёй запярэчыць, што якраз надвор'е залежнае ад сноў, а не сны ад яго. Ды і зменлівае яно — дзень такі, дзень гэткі… Урэшце надвор'е, як і чалавек, у лепшы бок мяняецца неахвотна. І сны нашы на гэта не звяртаюць увагі…

* * *

Часта думаю пра тое, што прыйшлі мы ў гэты свет на ўсё гатовенькае: і хлеб, і соль, і ваду, і тое самае моцнае пітво чалавек ужо прыдумаў да нас. Нешта ж пакінуць павінны і мы, каб не казалі потым: «Во, пагасцявалі ды пайшлі сабе ціхенька». Не дай бог пакінуць пасля сябе тое, што бачу я сёння на ўзбоччы лясных дарог: горы смецця, шкла і поліэтылену. Нават калі яго закапаюць бульдозеры, гэты «культурны слой» некалі ўсплыве на паверхню нядобрым падарункам для нашчадкаў. Калі згадзіцца з тым, што мы на гэтай зямлі толькі нейкія госці, дык у гасцях сябе так не паводзяць.

* * *

Дзяўчаткі-дзесяцікласніцы з накрухмаленымі белымі фартушкамі, з каліграфічнай паходкай, цыбатыя дзецюкі ў штанах-дудачках з незразумелым свербам у руках, што ліхавата засунуты ў кішэні, пунсовашчокія маладыя настаўніцы яшчэ ўсё ў студэнцкіх сарамлівых сукеначках да калень, белабародае піва ў прыдарожных забягалаўках… Гэта ўсё абрывіста з майго далёкага юнацтва. І я сарамліва блытаюся з кульбай памяці за ўсім гэтым…

* * *

У Рыгора Барадуліна, калі ён яшчэ жыў у высотным доме паблізу Юбілейнай плошчы, быў цудоўны рыжы кот, якога ён называў імем свайго галоўнага начальніка Мікалаем Гаўрылавічам. Гаўрылавіч-кот вельмі звыкла садзіўся за пішучую машынку і пярэдняй касматай лапай пачынаў ляпаць па гузічках літараў. Невядома, ці гэта была гульня, ці работа, ці перадражніванне гаспада-

ра, але на белым аркушы паперы выскоквалі нейкія каціныя словы. Мы, прысутныя, смяяліся і пляскалі ў ладкі ад задавальнення. Памятаю, нехта з нас тады заўважыў, што ў таленавітага паэта і кот мусіць быць таленавіты. Мы, жартаўнікі, адразу пачалі дадумваць, што яшчэ ў яго мусіць быць таленавітае. Шмат чаго налічылі...

А неяк я сядзеў у гасцях у слесара і згадваў пра ўсё гэта паэтава. Гаспадар слухаў сур’ёзна, нават без усмешкі і ўрэшце сказаў:

— Ну не буду ж я даваць свайму кату ў лапу малаток ці гаечны ключ…

* * *

Чую з-за сцяны словы дачніка:

— Дрозд хоць і спявае пад салаўя, а птушка зладзеяватая. Зноў дзяўбе вішні…

А з той вішні сам дрозд яму адказвае:

— Жыць жа неяк трэба…

* * *

Чую ў двары і гэта:

— Чаму вы сабаку свайго не навязваеце?

— А вас, каб навязалі?..

На пытанне лепш за ўсё і адказваць пытаннем.

* * *

Гэты дужы клён, пасаджаны некалі бацькам, хоць крыху і маладзейшы ад мяне, ужо дзесьці падкалечаны электрыкамі. Вось і нядаўна трашчалі яны тут маторнай пілой, ратуючы ад густых галін электралінію, што цягнецца да вёскі. З чорных драўляных слупоў тая ганарыста пераабулася ў высокія бетонныя камашы. А клён не баіцца ніякіх муштраў, ён — дрэва жывучае ды сеістае. Вунь колькі моладзі кожную вясну вакол сябе высейвае. І цяпер вышэйшы паўночны бок маёй хаты ахоўвае цэлая кляновая сцяна. Я штовесну яе прарэджваю, бо хата просіць не толькі ценю, але і святла.

Другому клёну побач пашанцавала больш. Яго не калечылі пілой. Хіба што дакучаў я напрадвесні, каб пакаштаваць яго соку. Ах, які ён да гаркаты салодкі, нават цягучы, як мёд! Можа, і добра ім, гэтым двум, у цёплым маладым атачэнні. Галіны іх даўно абгуканы сойкамі і гракамі, абсвістаныя шпакамі, абмоленыя пчоламі ды блаславёныя чалавекам. Бацька пасадзіў іх для нас, двух сыноў, — кожнаму па клёніку. Не ведаю, які мой, які братаў. Бацька пры жыцці так мне і не сказаў. Мне ўжо даўно раяць спілаваць іх. Некаму не падабаецца іх лісцвяная цяністасць. Але я, пакуль жыву, не дазволю рабіць гэтага ні сабе, ні нікому. Бо разам нам лягчэй трымацца. Ім — гледзячы на мяне, мне — гедзячы на іх. Нават, зімуючы ў горадзе, праз далеч адчуваю пошум іх вятрыстых кронаў, нават чую галасы, якія зразумелыя толькі мне аднаму!..





**Марыя ВАЙНО**

# ФАРБЫ ДЗЁН

*Навелы*

## Аркестравая яма

Мусіў сябе недзе падзець.

Ажаніўся. З адчаю.

Здавалася, яе кахання хапіла б на дваіх.

Хапіла?

Пасля жахнуўся ад здзіўлення.

Не тое...

Музыка прагне гармоніі. Камусьці сняцца сны чорна-белыя, камусьці каляровыя, камусьці з болем, а камусьці — гукамі... І зранку дзень робіцца днём Бетховена альбо Чайкоўскага, Моцарта ці Скорыка...

...З Ганнай жыццё, як камень, які не абысці і не прыбраць з дарогі... Да таго ж яна яшчэ зацяжарыла... Падчас цяжарнасці стала асіметрычна рабою з твару, і ад таго выглядала вельмі непрывабна...

А яшчэ раздражняла яго, калі клікала снедаць або вячэраць... Яму не хацелася чуць яе голасу — непрыемнага, зусім... «Лепш бы маўчала», — думалася яму.

---

*__Вайно Марыя Эдуардаўна__ нарадзілася 13 сакавіка 1956 года ў сяле Букачыўцы Рагацінскага раёна Івана-Франкоўскай вобласці. Скончыла Чарнавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала настаўніцай, старшым выкладчыкам Івана-Франкоўскага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта нафты і газу, рэдактарам на Першым Нацыянальным тэлеканале ў Кіеве, супрацоўнічала з выдавецтвамі як літаратурны рэдактар, выкладала сцэнічнае майстэрства ў Івана-Франкоўскім інстытуце мастацтваў Прыкарпацкага ўніверсітэта.*

*Аўтар каля дваццаці мастацкіх кніг: «Даўкасць» (1992), «Паводка» (1992), «Цёплы двор, або Рапсодыя струннага квартэта» (2001), «Свекрушына» (2001), «Жанчына з куфлем дажджу» (выбранае, 2006), «Скрутак на лаўцы» (2006) і інш. Член Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, адказны сакратар абласной арганізацыі НСПУ, член Нацыянальнага саюза кінематаграфістаў Украіны (сцэнарыст), член праўлення Нацыянальнага саюза кінематаграфістаў Украіны.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі ім. В. Стэфаніка (2014), Гарадской літаратурнай прэміі імя І. Франко ў галіне літаратуры (2002). Двойчы лаўрэат Усеўкраінскага конкурсу «Каранацыя слова» (у намінацыях «Кінасцэнар» (2000) і «Раман» (2001)).*

*Жыве ў Івана-Франкоўску.*

Вечарам з неахвотай ішоў дадому. Яго творчая, раз'ятраная душа не жадала прымірэння. Бо ён такі, які ёсць, такая яго недаступная розуму музыка...

— Ты непрыгожая, калі крывішся... Не пасуе табе моршчыцца…

— Гэта ўсё пройдзе з часам. Я стараюся... Пастаянная млоснасць... Прабач...

Ганна плакала ўпотай. А яго душу займалі думкі, гукі, музыка, і ён заставаўся ў тэатры, хаваўся ў аркестравай яме і працаваў, працаваў...

А тая дзяўчынка прыйшла... І так заспявала! Ноты глядзелі ў душу яе вачыма! Вось яна, песня яго сэрца — гэтая дзяўчына... Яна спявала, і ў тэатры чулі: то было іх каханне...

Вярнуўшыся пасля ўдалай прэм'еры і святкавання дадому, пабачыў жонку, сумную і заплаканую.

— Зноў таксікоз? Калі ўжо гэта скончыцца?

Яна маўчала. Была стомленая і цяжарная.

— Я з табой жыць не буду! Гэта проста памылка. Ты мяне падцікавала, абкруціла. Захацелася лёгкага шчасця?

— Дазволь мне данасіць дзіця. Добра?

— Нядобра! Калі б ты ведала, як мне дрэнна! Калі б ты ведала... Але ты не хочаш ведаць...

— Я ведаю... Чула... Сказалі ўжо...

— То будзь глухая! Так прасцей.

Яна кінулася тварам у падушку. Душылася ад слёз. З ім трэба асцярожна — не наўзрыд...

А яму часам нават было шкада яе. Так, ён цяпер перабраў, вядома. Супакоіў, папрасіў прабачэння... Сказаў, што сам вінаваты ва ўсім.

…Яна нарадзіла дзяўчынку.

...Завагаўся, таму што і камень бы не ўтрымаўся...

...Каханне дзесь у грудзях варухнулася, затаілася, хоць пякло ой як, ды неўзабаве аціхла...

Недзе разбегліся гукі. Бясколернай дома сноўдалася музыка...

Былі малочная кухня, сумкі, кірмаш, хлеб, садавіна, гародніна... Яго гвалтавалі будні... На працы, аднак, ён як мастак не пераставаў шукаць сваёй гармоніі.

І часта шукала вачыма яго дачка, так падобная на бацьку...

...Ён штосьці наблытаў?

Аднак жа яму да зарэзу трэба, каб яна была (!) і яго бачыла! Ён прывёў яе на спектакль, сваю дачушку.

Спусціўся ў аркестравую яму, каб узвіцца над ёй у гуках, напоўніўшых залу...

...Аднак дачка... Што яна зразумее? З недахопам слыху і нямая...

Ёй не дадзена спазнаць велічы яго таленту. Яна — увасабленне застылага маўчання...

...Любіць тату за тое, што ён прыводзіць яе сюды. А ён чакае, што яна скажа...

...Дзіця напружвае зрок, назірае за іншымі і ніяк (?!) не можа зразумець, што дарослыя граюць: чаму дзейства адбываецца несапраўднае — над татам... І бачыць яна адно калі-нікалі яго патыліцу, таму што сам ён ад усіх штораз хаваецца ў сваю схованку — аркестравую яму...

## Кусманчык хлеба на заўтра... Ад сёння

*Маёй адзінай сястрычцы прысвячаю*

— Ну, што я яшчэ магу табе распавесці? Не хачу ўспамінаць таго, што было да яго...

Жанчына плакала і прызнавалася ў тым, што роспач ёй выдзеўбла душу... У рэшата... — без яго... Захлыналася ў жальбе і распавядала далей.

— Мушу хоць нешта рабіць, — ківала на вялікі бак з яблыкамі, якія плавалі ў вадзе, — каб не звар'яцець.

Яна вылоўлівала з вады антонаўкі, выцірала іх і разразала на чатыры роўныя часткі, выкладвала на чыстае радно, якое павінна была занесці на гарышча, каб спёка затрымала ў іх сок на потым, пакінуўшы зморшчанымі, як старэчая скура, сушанцамі.

Яе кватэра на другім паверсе стагадовага цаглянага дома была шчэ дыхтоўнай, вокнамі глядзела на вялікі арэх, што захіляў святло ў доме, але ні яна, ні суседзі не секлі яго, таму што ён, казалі, меў нейкую моц для жыцця. Той, хто прыходзіў да яго, прыціскаўся плячыма, моршчыў лоб у задуменні — а пасля сыходзіў у пэўнасці, быццам трапіў на думку таго арэха. Праз дом у двор сягаў водар ліп з вуліцы, былой Ліпавай, што вяла да парку і была такой салодкай у квецені сярод цёплага лета!..

— Лідзю, чаго ты мяне так кахаеш? — пытаўся ён мяне. — Я стары і сівы. У мяне хворыя сэрца і ногі...

— Я кахаю ўсё, што ёсць ты... Я не памятаю, як сядзела ў таты на каленях... Не адчувала татавай любові. Не мела брата. Мужчыны бачылі ўва мне пышную жанчыну, часам жартавалі, «бы мяккую пярыну»... Дзеці спрабавалі наракаць, таму што людзі не суніманіся... А я ўсё жыццё шукала для сябе сапраўднага кахання. Нейкі час перастала, было, верыць у яго. Пасміхалася не па-людску, калі вярэдзіў мне хтось тым душу...

У жыцці боўталася доўга. Сюдэма-тудэма. Хтось ідзе сцежкамі, ды ўсё вышыванымі, а хтось на роўным месцы спатыкаецца, сярод белага дня блукае... Бывала такое...

...А ведаеш, як ён казаў пра мяне? Што я яго «кусманчык хлеба на заўтра ад сёння». У яго было тое заўтра.

І заўтра было ў мяне...

Прыйду, бывала, дадому з працы, а ён:

— Лідзю, ці цябе хто-небудзь пакрыўдзіў?

— А ты што, — жартую, — паб'еш яго?

— А хто ж, як не я? Мушу для цябе старацца, каб не расчаравалася ўва мне...

...А пазнаёміліся мы нават цікава. Яго нумар запісала мне яго палюбоўніца, таму што знайшла іншага... Разумны, казала, адзінокі... Жаніцца не хоча. Хоча дзецям хату пакінуць непадзельна. Ніякую жанчыну да сябе не бярэ, але да размоваў ахвочы. А ёй, яшчэ маладой, — не толькі размовы патрэбныя...

— Мне гэты тэлефон дала ваша знаёмая. Мне вельмі самотна. Ці можна з вамі паразмаўляць?.. Бо трэсну...

— Можна. Я таксама стары і патрэсканы...

Вось і гаварылі па тэлефоне, як камусь з нас да таго патрэба была, аж два месяцы, хоць не бачыліся ні разу. Без прэтэнзій. Проста...

Чула ў трубцы: рэдка, аднак часам бываў чалавек і падвыпіўшы. Казаў, што пройдзе... А я не магла яму хоць чымсьці дапамагчы. Парывалася, і не магла. Не тое ў яго стане бачыла... Калі пачынала скардзіцца на свой лёс, ён казаў мне, што час гуляць у псіхатэрапію і прыдумляць сабе тое, чаго не было. То я ўжо такога панапрыдумляю, што і спаць не магу. Кажу, што я страшная, крывая, марудлівая. А ён — што такіх ведае. Што нічога страшнага ў тым: адною больш на яго шляху да працы, адною менш... Не жыць ён са мной збіраецца, а размаўляць усмак. Калі ж гэта прыкрая праўда, што я кажу, — то няхай так і будзе, застанецца ў жаніхах яшчэ гадоў на дзесяць... І жартуе, жартуе, а то неяк кажа: якая б ні была — сустрэцца час. Я маўчу. А ён хітра так:

— Ой, спадарыня Лідзю, меў я жанчын... Не аднаму ж было жыццём цешыцца. Не баіцеся? Тое праўда... шмат... жанчын пазнаходзілася...

— Я буду апошняя... — выпаліла я і толькі потым зразумела, што сказала.

Бывала, мы смяяліся, размаўляючы гадзінамі…

Смяюся з сябе, проста як дзіця, ды ў тым нешта ёсць, таму што сыходзіць боль і крыўда забываецца. Мужчына меў цікавы густы, мяккі, заліўны смех. Ён ціха казытаў мае грудзі, захопліваючы дыханне... А на сустрэчу я не пагаджалася. Мне і так з ім добра было.

Ну, а потым... Так павінна было здарыцца... Я бацькоўскую хату тады прадала... У пятніцу тое было. А праз выходныя інфляцыя цэнамі выбухнула. Таму не тры кватэры: сабе, дачцэ і сыну, — а дзве аднапакаёвыя за тыя грошы выпадала купіць... І даросламу сыну ў аднапакаёўцы са мной давялося жыць. Пакрыўдзіўся, што неразумна зрабіла. Добрыя людзі пад’юджвалі. Мы гэтак сварыліся, што роднае дзіця мяне праклінаць пачало... Хоць бяры і з хаты бяжы. Таму... і пайшла куды вочы глядзелі. Ні дарогі, ні людзей не бачыла... Пад машынай ледзь не апынулася. Кіроўца затармазіў своечасова. Аслепла праз боль у сэрцы... Тэлефон на брук з кішэні выкаціўся... Таму ўзяла патэлефанавала і...

— Я ледзь не трапіла пад бус. Мне дрэнна. Дадому не пайду...

— Добра, ідзіце да мяне. Не бойцеся...

— Я не баюся нічога, акрамя заўтрашняга дня...

Ён павінен быў ісці на сямейнае свята — не пайшоў. Адчыніў дзверы.

— Гэта я... — сказала.

— Калі вы ўжо ў мяне — то не канец свету... у вас...

Я нічога не расказвала... дый мала што пра той дзень памятаю.

Ён прапанаваў гарбаты. Есці я нічога не магла і неўзабаве правалілася ў сон, утомленая перажываннем і болем...

Зранку прачнулася — і спрасонку доўга вывучала чужыя столь і сцены... Калі вызвалілася ад сну, пачула, што на кухні штосьці шыпіць, а на парозе ўбачыла чалавека гадоў за шэсцьдзясят пяць, сівога, з правільнымі рысамі твару, з вусамі і барадой. «Няўжо такія не толькі ў Галівудзе бываюць?» — падумала я і ўстала...

— Як вы? — спытаў ціха.

— Як пабіты сабака... Але сэрца маё адпачыла — ачулася...

— Ну, і добра. Я абед згатаваў.

— Ужо абед? І Раство? А мы ўчора не вячэралі?

— На вячэру Бог мне даслаў вас. Не ў тым сэнс, каб набіць страўнік. Я ўбачыў у гэтым знак, — ён усміхнуўся — і вочы схаваліся ў яго ўсмешцы, шчырай і пяшчотнай...

Мы адзначылі свята, чым было і, здавалася, былі шчаслівыя. На вечар я наляпіла варэнікаў.

— Дзякуй вам за прытулак. Але мне, мабыць, час ісці. І так планы вам перакрэсліла. Клопату столькі нарабіла...

— Жанчына ў доме — гэта заўжды клопат. Часам яго так не хапае...

— А як: «нечаканы госць — горш за татарына»?

— Гэта не пра вас...

— Вы ўратавалі мяне. Ды трэба ісці, нешта рабіць, а я не ведаю, што...

— А ці не грэх адпускаць такую жанчыну?

— Вам варэнікі мае спадабаліся?

— І варэнікі таксама...

— Добра. Пайду ўжо...

— А ведаеце, — спахапіўся прапановай, — заставайцеся кватараваць. Хай сын у вашай кватэры адзін застанецца, можа, паразумнее...

— Не пойдзе так... Што людзі скажуць?

— А людзі і без таго знойдуць, што сказаць. Нават калі нічога не будзе. Інакш не было б народнай творчасці... Няхай гавораць... Колькі на іх аглядацца? Так і жыццё пройдзе. Часам варта вырашаць наўпрост... Не бойцеся, я вас не прымушаю...

— Я думала зняць пакой і жыць у ім... пакуль змагу зарабляць. А на старасць — прытулак альбо манастыр... Усё роўна што...

— Усё роўна... — задумаўся. — За вамі выбар.

— Я аб тым, што... Не магу, каб не плаціць за жыллё.

— Добра, тады вось што, будзеце кухарыць для мяне, гэта чым не плата за пакой? Вячэру згатаваць альбо абед раз у дзень. Прадукты прынясу сам. Паспрабуем хаця б дні тры... Таго дастаткова будзе, каб адчуць, што між намі.

— «Між намі»?..

— Вы перапытваеце... Можа, і я сабе прыдумаў нешта не тое... — задумаўся.

І мяне штосьці гэтак схапіла за сэрца — і не адпусціла. Я не хацела, каб ён так думаў, і ведала, чаму не хацела...

* * *

Мы не распісваліся. Пабраліся шлюбам у царкве.

У мяне і ў яго ніколі такога не было. Так спакайней для дзяцей і для нас, несумненна, для кожнага...

А праз колькі дзён сябры да яго прыйшлі. Я стала крыжам у дзвярах:

— Не пушчу. Мяне ванітуе ад паху перагару. Згідую цябе.

— Гэта мая жонка. Цяпер перш за ўсё яна — мой сябар, — сказаў сваім, а яшчэ... жартаваў, што займеў больш моцны «допінг» і таго, штучнага, ужо не трэба...

* * *

— Знайдзі сабе каго, як памру...

— Я да цябе на жыццё прыйшла, а не на смерць. Не смей такое думаць нават...

— Я мушу, таму што кахаю... Таму што хтосьці мусіць жанчыне ўначы пад галаву руку пакласці, яе клопаты адпусціць, каб не важылі так цяжка, хтосьці мусіць яе дом падперці рукамі і зачыніць дзверы ад ночы... Каб быў

той дом у радасць жанчыне, якая ЗА мужам... А яшчэ ведаю, што мужчына мусіць жанчыну прытуліць да сябе і пад пахай ад бед адагрэць, як ад дажджу мокрае баязлівае кураня...

А яшчэ ён любіў вось так глядзець на мяне вечарамі, а потым з нейкай нецярплівасцю казаць:

— Пасядзі колькі хвілін са мной. Нікуды не сыходзь... Раскажы штонебудзь...

Я казала пра цёплы дзень на двары або пра дрэнны, ветраны. А ён ківаў галавой, згаджаўся... Напэўна, яму трэба было згаджацца.... А зімой, калі ў жалезных батарэях цяпла неставала і мы, абняўшыся, грэлі адно аднаго, шаптала яму, што патрываем яшчэ колькі дзён — і прыйдзе вясна, наша новая вясна. Мы чакалі чамусь, як, верагодна, нашы продкі, штогод менавіта вясны, мабыць, таму, што то быў нейкі рубеж на перажыванне... Не новы год, а вясна...

Я казала шмат. Бурчэла часам, нават, бывала, забывалася на яго, нібы тое, пра што казала, было толькі маё... і ўсё толькі дрэннае...

— Аёй, Лідзю, ты чула, хтось уключыў нам радзіва... — супыняў ён мяне тады. — Аёй, як траскоча!..

Я вярталася на зямлю. Да яго... І было мне нават сорамна, што ён мяне кахае, а я яму — такая траскучая баба...

Прычапуруся, бывала, пытаюся, як кожная жанчына: «Ну, як я табе?» А ён пазірае і кажа:

— Я пакахаў цябе такой, якая ты да мяне прыйшла. Без усяго гэтага мастацтва на твары...

— Дык што, мне разраўсціся, аж спухнуць, валасы растрапаць і нічога не бачыць перад сабой?..

— Ды не, будзь прыгожай, каб табе людзі ўсміхаліся, і я буду...

Перажываў вельмі за мяне, калі хварэла:

— Ой, дзетка, беражыся — мяне не асіраці. Хай бы Бог даў, каб ты мяне хавала, а не я цябе.

Таму пакінуў мне страшэнны сум...

Кожны дзень, як ішлі на працу, разыходзіліся на прыпынку. Цалаваў на дарогу, папраўляючы бараду, а я яшчэ некаторы час стаяла і глядзела яму ўслед. Ён вяртаўся.

— Чаго стаіш?

— Хачу пабачыць, як ты пяройдзеш дарогу...

— Ну, як малое... Што са мной здарыцца, калі ты ў мяне ёсць?..

...У грудзях б’ецца, што яшчэ штосьці сказаць яму мусіла, чаго б ён хацеў пачуць... Бо чаму тады ён мяне так аб чым-небудзь распытваў?.. Казаў, што любіць мяне слухаць, што голас мой кладзецца яму на душу...

А яшчэ казаў, што калі памірае хто-небудзь з мужа і жонкі, то каханне — не праходзіць, яно кладзецца спаць, каб адпачыць ад гэтага свету, а пасля зноў казыча душу. Таму я кладуся цяпер і гляджу сны нашы, прачнуся, а яны далей за мной ходзяць, таму што я спазнала шчасце, — і яно засталося, не праходзіць. Яно як рука або нага... — сябе не адарвеш... не вырвешся...

* * *

Так жыла і бесклапотна думала, што яго хопіць мне на ўвесь мой век. А не адбылося бясконцасці... Умеем мы час пераацэньваць...

Маліўся, часта хадзіў у царкву, нават без мяне, калі яму хацелася, каб дзякаваць за тое, што мае. Пра хлеб гаварыў з пабожнасцю. Неяк сказаў:

— Вось так ясі-ясі, а не можаш з’есці дарэшты, — зашмат. Пакінеш. Забудзешся на яго. Потым, як згаладаешся, — такі ён табе, той кавалачак пакінуты, дарагі робіцца... Смак адчуваеш лепш за той, неацэнены, свежы. А ўсё таму, што ўсяму свой час... Вось і ты — мой кусманчык на старасці гадоў майго хлеба надзённага...

* * *

І сын апамятаўся мой. За мужам інакшаю і мяне ўбачыў... І як не даруеш яму, безгаловаму, праз свой узрост, калі ён, як тая недалёкая ноч, што дня не ведае... Ну, а ўжо як дачка з сям’ёй радаваліся, што мяне кахаюць!.. Быццам яе... І мы іх любілі!.. Унучку вельмі песціў. Такая шчупленькая, хваравітая была, а ён казаў: «Нічога, гэтаму птушаняці мы выпрастаем крылы — будзе з яе дзеўка!» І калі дзядулі не стала, дзіця ведала пра пахаванне, на наступны дзень устала і кажа, што трэба ісці... да яго, бо ён учора памёр, а сёння — не ўчора, можа, нядзеля, — і ён абяцаўся гуляць з ёй...

...Дзеці Міхала добра да мяне ставіліся, таму што бачылі, што бацьку я кахаю, а на іх спадчыну не прэтэндую. Пасля пахавання сказалі, каб брала з хаты ўсё, што пажадаю. Узяла тое, што мне пра яго нагадвала: попельніцу, самавар, партрэты, з рэчаў тое-сёе...

А... футболку часта яго вымала, бывала... Лавіла ноздрамі яго пах... Потым складала ў цэлафанавы пакет, каб не выветрывалася, каб была мне ў ёй яго прысутнасць...

А... яшчэ сон нядаўна сасніўся, што ён прыйшоў на кухню, адчыніў халадзільнік, у каструлі пад вечкі пазазіраў і кажа, што ў мяне няма чаго есці, а ён праз гэта перажывае вельмі. Так, нават там...

— Дзякуй богу, што ён у мяне быў... І не стамляюся дзякаваць...

Жанчына замаўчала, нібы знайшла, вылучыла штосьці галоўнае ў ланцугу споведзі…

...А я глядзела на жанчыну ў роспачы, апухлую ад слёз, якую не адпускала мінулае, якая механічна рэзала на сушанцы яблыкі, складаючы іх гарой на чыстым радне, але не бачыла той страты, пра якую яна казала, таму што падобная страта — пустэча без добрага ўспаміну, а тут іх, добрых успамінаў, вунь колькі... І той скарб-памятка, што з ёю застаецца цяпер назаўжды, — адкрыецца ў любы час, калі ёй заманецца. І ўсё гэта — яе «кусманчык хлеба на заўтра ад сёння» аж да новага світання... і слова Госпада... — на век яе яшчэ не пражыты...

## Вясельная ападаць на пажоўклым лістку

***Каханню Івана Франко і Вольгі Рашкевіч***

Лісток той ён трымаў у кнізе. Часам перакладваў у іншую... быццам перахоўваў невядома на што ці ад каго...

Гэта быў сакрэт яго ўспаміну, нешта вельмі патаемнае і каштоўнае, аж да козыту ў сэрцабіцці. Доказ, які штораз сцвярджаў яго праўду быцця і магчы-

масць існавання... Ён адчуваў, як тая моц праймала аж да костак і шарпала ў гром душу...

Скуголіла туга... прасілася... Доля... Але галоўнае, што была... Бог даў яе — а гэта нямала... нягледзячы на ўсе іншыя дары... Тая мужнасць прыняцця ўзаемная... А яшчэ — прыхаваная ўцеха ад кожнага дня... Ён не думаў пра яе, а яна проста была: нягледзячы на яго, нягледзячы на час, нягледзячы на жыццёвыя сустрэчы і любові...

Колькі здараецца такога: пройдзе — і быццам не было! А тут засталося. І край! І не было яму межаў... Таямніца і ява, якой не бачыў ніхто. І пачуцці, што, верагодна, адчувае кожны мужчына. Інакш не будзе мець сілы і восі кахання ў сэрцы сваім... на перажыванне...

Пачуцці, пранікнутыя ўзаемнасцю, прасякнутыя ўцехай радасці і асцюком болю... Хай так... Быць разам... Быць паасобку... І застацца назаўжды...

Ён бярог той сакрэт душой, яго адзіны артэфакт, ірваную ўцеху, поўную любові, і такую моцную, увесь свой век. Яна адбілася зарубкай на сэрцы. Пад тым шнарам — жывая тканіна пачуцця, такога няўмольнага і ўсюдыіснага... Гэта ласка, што не адпускае нават тады, калі ты даўно ўжо выкупаны ў іншай салодкай купелі...

Маленькі нечаканы падарунак. Шчаслівы ўспамін. Тую вясельную песню знайшла і запісала на іх вяселле яна, Вольга. Ды і не толькі тую песню, а «звязак...», пучок вясельных песень. Адна з іх выпала з таго пучка, ён падняў і машынальна паклаў яе ў кнігу — і забраў з сабой... лісток з запісанай на ім песняй.

І песня яму то галосіць, то памоўчвае па-свойму раз ад разу. А ён — штораз знаходзіць ёй іншы прытулак — і яна жыве там да свайго часу.

Скручаныя падаграй пальцы дрыжаць... Ён не можа дастаць і пабачыць зноў той лісток зжаўцелай паперы — баляць ужо не столькі косткі, а штосьці ў яго бяздонным чэраве, якое не ведае ніхто, хіба толькі Бог. Ён не можа каго-небудзь папрасіць прынесці той скарб... бо парушыць таямніцу, выверне навыварат... Але ён памятае і колер, і пах, і дотык цела таго лістка настолькі, што памяць пераносіць яго ва ўспамін пачуццяў, якія не дранцвеюць, якім не скруціла пальцы і ў якіх не адняліся ногі, якія ёсць... (не супраць яго, а з ім, нават калі і вочы не ўбачаць), якія на досвітку штораз убіраюцца ў яго подых... і нічога, што яны, гэтыя пачуцці, яму на гэтым свеце палічаныя... Ён ведае іншыя светы...

...Не можа зрушыць з крэсла... Але ўяўныя магчымасці мацнейшыя. Ён чуе вясельную песню... Яго і Вользіну. Яе спяваюць яму з таго лістка любові...

## Малітва ў смерч

Ганна думала пра сваё... Але кожны раз, калі яна прыязджала дадому, глядзела на адухоўлены, шчаслівы твар сястры — і само сабой — думалася пра яе...

Яна была ўпэўненая, што Галіч зляпіў яе вось такую: Галіч — Галачку.

Зямля тут здавалася ёй салодкай з дзяцінства, а дрэвы нябачнай душой абаранялі... Яна іх любіла. Вось так і вырасла.

З каханнем — не склалася. Горб... напэўна... Не ўтрымалі незнарок, калі была малечай... Ды галоўнае ў ёй — не горб.

Калі не знайшоўся... не разгледзеў... — такая яе ноша...

Любіла вось так сабрацца ў свята ці ў нядзелю летам з сабакам і на Караліўку-гару рвануць... Адпачыць на паляне, чарэшань або яблыкаў пакаштаваць, напоўніцца сокам лесу і... вандраваць... Цішыня часам вельмі мудра і абачліва гаворыць. Цішыня барвіцца шолахам, цвіркатам, сонечнымі промнямі, шчэбетам. І тое дзіўнае суправаджэнне, як дзіця, вядзе Галю дарогаю.

Яна сядае на паваленае старое дрэва перадыхнуць, сабака кладзецца ў нагах, і поўсць яго казыча і лашчыць пальцы ног. Абутак ставіць побач. Хочацца спяваць — і яна спявае. Перапявае салаўя, бо той змаўкае, і воплескі лістоты пад шоргат ветру яшчэ доўга не адпускаюць яе.

А то раптам нешта выплюхнецца — торкнецца сэрца блізка-блізка, і яна ўпадзе на калені. Бо «чым сэрца напоўнена — то скажуць вусны», — сказана. Яна моліцца.

...Бог і яна, а яшчэ — той лес, як вялікая капліца. Кроны дрэў — склаліся ў далоні...

І яна ў тую хвілю стае словам зямлі — да неба.

Калі заканчвае малітву, устае і абдымае дрэва, старое, пахіленае.

Усё ў вузлах, старажытнае, абшарпанае, парэпанае, абсыпанае, аголенае, сумнае... яно ёй скардзіцца...

Схіленае долу, пазначанае таўром старасці, — яно, як жыццё, хапае рукамі-галінамі неба і моліць сілы, каб выжыць, просіць, шэпча: зазелянець увесну.

Гады вызначаюць па зрубах, па кольцах. Яно памрэ, калі струхлеюць тыя кольцы ў смерць, а пакуль горкі даўкі смак жывіцы поіць цела, душу, — не расчмыхнуцца толькі, выстаяць бы ў холадзе вятроў, не раскрышыцца зімой, не абняславіцца ўлетку.

І вось сцямнела неба (ой, сцямнела!), халоднае стала, шэрае, сівое, сталёвае і чужое якоесьці!

Сарваўся вецер — рэзка так! Дождж, пэўна, будзе! А дадому яшчэ далёка!

Галіч-гара і Галачка...

Сабака ўціснуўся аж да ног.

І тут зарыпела і завыла ўсё, загуло, зараўло болем нялюдскім. Грымнуў гром, раскаціўся той грукат — расшкамутаў паўнеба маланкай.

Галі здалося: яна ў пашчы страшнага звера...

І тут знайшліся, як выратаванне, словы дзіўныя, што казачна пачуліся: «...калі вы будзеце мець веру нават з гарчычнае зерне, і мовіце гэтай гары: «перайдзі адсюль туды», то яна пяройдзе, бо нічога няма немагчымага!» Галя знайшла пры дарозе дрэва, пад ім, яго каранямі некалі даўно ўтварылася ніша, — і схавалася там...

Яна сядзела, заплюшчыўшы вочы, і спакойна малілася...

Недзе побач чуўся трэск і жудасны лямант упаўшага дрэва, выдранага з каранямі. Заскавытаў сабака і скочыў са свайго месца — там упала яйка з гнязда, пэўна, птушкі нейкай... Галя пацягнулася да яго і... знежывела. То была глыба лёду. Разгуляўся смерч з градам, распееразаўся.

Ён мясіў зеляніну, выкарчоўваў дрэвы, рагатаў і выў пераможцам.

Галя гэтым не пераймалася. Нейкі спакой напаўняў яе душу. Яна ціха малілася, і смерч не чапаў яе дрэва. Паваліў побач здаровае, якое ўпала на тое, што было над ёй, зачапіла яго, і адхілілася, рухнуўшы побач.

«Упадзе тысяча з боку ад цябе, і дзесяць тысяч праваруч ад цябе, да цябе не дойдзе...» — зноў успомнілася...

Тое — адчувалася? Не, — так было...

Прахалода біла ў грудзі. Аднак Галя не прастудзілася, хоць сцежка была ўсеяная шарыкамі лёду з галубінае яйка. І яна ступала паміж імі, абпальваючы раз пораз ногі холадам.

Камусьці на доме знесла страху, нехта страціў карову, некаму вырвала вінаград з каранямі, нарабіла ў двары бязладзіцы, пабіла хлеб... Чуўся ў дальшых суседзяў плач — у іх здарылася бяда... Галя перахрысцілася і прамовіла «Ойча наш» і «Багародзіцу», каб ім Бог дапамог гэта вынесці.

Дома дзівіліся, што яна прыйшла сухая і не растурзаная смерчам.

А Галя была шчаслівая! Ёй нават не балеў горб, — ён зусім не перашкаджаў ёй... быць сёння вышэйшай ростам, — у нябеснай Любові.

Села каля лядашчага сівога вузлаватага дзядулі, які верыў, што ён вымаліў ёй жыццё, які казаў — а маршчыны-прамяні свяціліся на твары глыбокай павагай: «Мацуйся, дачка, вера твая ўратавала Цябе. — Гэта з Матфея... — Ёсць шмат пакліканых — але мала абраных». Дзядуля казаў разважліва, і ёй здалася ў гэтым часе мірская мітусня цацачнай і... непатрэбнай увогуле. Захацелася да сясцёр Васіліны і Міхайлы — у манастыр.

Галя яшчэ бачыла вузлаватыя рукі дзядулі...

Вузлаватыя дрэвы свету...

Вузлаваты дабрабыт у некага...

Яна ішла не па дарозе, а сцежкаю, — таму што так бліжэй, — да манастыра.

…І гэтая, не падобная ні на чыю іншую, постаць вылучалася на шляхах і здавалася толькі вузельчыкам пацерак. Тых, што лёсам завуць…

***Пераклад з украінскай Міколы АДАМА.***



**Мікола ТРУС**

# ТВОРЫ ЯРАСЛАВА ГАШАКА Ў БЕЛАРУСІ 1930-х ГАДОЎ: РЭПРЭЗЕНТАЦЫЯ, РЭЦЭПЦЫЯ, КАНТЭКСТ

Творчасць чэшскага пісьменніка Яраслава Гашака (Jaroslav Hašek, 1883—1923), асабліва яго кніга «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветнай вайне» (Osudy dobrého vojáka Švejka za světové války», 1921—1923) мае сваю размаітую гісторыю сусветнага прызнання, перакладаў, літаратуразнаўчых даследаванняў, інтэрпрэтацыі ў розных відах мастацтва.

Нягледзячы на тое, што аб'ёмісты корпус перакладных тэкстаў Я. Гашака сфарміраваўся ў Беларусі яшчэ ў пачатку 1930-х гадоў, абставіны яго з'яўлення, спецыфіка перастваральных стратэгій і рашэнняў так і не сталі аб'ектам самастойнага навуковага вывучэння. Пераклад «шасцікніжжа», якое склалі раман Я. Гашака і працяг, напісаны пасля смерці аўтара К. Ванэкам, здзейснілі М. Зарэцкі, К. Крапіва, М. Лужанін, Л. Калюга, Т. Кляшторны, Зм. Астапенка, К. Чорны.

Фактурная факталагічная база эпапеі пра Швейка і паасобных выданняў твораў Яраслава Гашака ў Беларусі дае падставы для патэнцыйнага літаратуразнаўчага даследавання месца і значэння перакладаў у розных кантэкстах: індывідуальна-аўтарскім, калегіяльна-аўтарскім (прэцэдэнт сінхроннай перастваральнай працы сямі пісьменнікаў), агульналітаратурным (беларускім, савецкім, славянскім, еўрапейскім).

На шмат дзесяцігоддзяў плён працы выбітных майстроў слова міжваеннага перыяду ўступіў у фазу замоўчвання і архіўнай недаступнасці для масавага чытача, што нельга не ўлічваць пры фарміраванні сённяшніх літаратуразнаўчых падыходаў і спробах усебаковага, міждысцыплінарнага разгляду.

Спарадычны (як правіла, рэфератыўны) зварот да творчасці класіка чэшскай літаратуры быў звязаны з юбілейнымі датамі. Так, у 1958 годзе ў газеце «Звязда» (29 красав.) і часопісе «Полымя» (№ 4) былі апублікаваны артыкулы Давіда Фактаровіча; у 1984 годзе — артыкул Ірыны Шаблоўскай на старонках «Весніка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта» (Серыя 4, № 1).

Новыя і канцэптуальныя ракурсы бачання творчай спадчыны Я. Гашака прапанавалі І. Шаблоўская і М. Тычына ў часопісе «Крыніца» (1995, № 6), Іван Лучыц-Федарэц прадставіў свой пераклад урыўка з «Прыгодаў…». На хвалі крытычнага разгляду нядаўняга гістарычнага мінулага грамадства і дзяржавы І. Шаблоўская запачаткавала літаратуразнаўчы дыскурс антыгероікі абсурду Гашака і Кафкі, пастулат аб тым, што два пражскія пісьменнікі «выказалі сябе ў творах супроць таталітарызму, імперскасці, падаўлення Асобы. Абодва пісьменнікі разумелі абсурд жыцця, абодва не маглі з ім ужыцца» [1, с. 80]. Аўтар нагадала пра амаль забытыя чатыры кнігі рамана Я. Гашака на беларускай мове, што выйшлі ў 1931—1932 гадах, і выказала пажаданне: «Сёння рэдкія, перажыўшыя вайну экзэмпляры, на жаль, не даступныя чытачу. Не пашкодзіла б перавыдаць беларускага Швейка, хоць бы і факсімільным выданнем, а мо зрабіць новы пераклад» [1, с. 80].

---

***Трус Мікола (Мікалай Валянцінавіч),*** *дактарант Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*




Далейшыя ўзгадкі пра беларускую асвоенасць вяршыннага твора Я. Гашака знайшлі адлюстраванне ў вучэбных дапаможніках і асобных публікацыях прафесара І. Шаблоўскай. Сёння яго творчасць разглядаецца ў ходзе вывучэння гісторыі чэшскай літаратуры студэнтамі-багемістамі БДУ (курс распрацаваны дацэнтам А. Вострыкавай).

Новы пераклад рамана, зроблены А. Мажэйкам, выйшаў у 1997 годзе [2]. Мастацкія перастварэнні пачатку 1930-х гадоў цяпер даступны для азнаямлення ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а для шырокай аўдыторыі — на сайце «Беларуская Палічка» (акрамя першай часткі, якая і ў НББ маецца толькі ў мікраформе).

Такім чынам, сёння ў нашым распараджэнні ўсе магчымасці для ўсебаковага разгляду творчасці Я. Гашака ў беларускіх перакладах. Гэтым разам мы звернемся да пачатку гэтай літаратурнай і выдавецкай гісторыі. Сёлетняя юбілейная нагода — падстава для актуалізацыі наступных праблемных аспектаў: 1. Прычыны шматгадовага замоўчвання перакладаў пачатку 1930-х гадоў. 2. Выданне творчай спадчыны Я. Гашака ў БССР і праўдзівае ўзнаўленне гісторыі. 3. Беларуская рэцэпцыя твораў Я. Гашака: сацыякультурны, выдавецкі, літаратурны кантэкст.

## Савецкі фармат супрацоўніцтва

Маладая савецкая дзяржава выбудоўвала свае міжнародныя адносіны, прынцыпова адрозныя ад часоў Расійскай імперыі, арганізоўвала акцыі, як сёння прынята называць — іміджавага характару, імкнулася прадэманстраваць усяму свету перавагі і поспехі новага грамадскага ладу, дзейснасць нацыянальнай палітыкі. Пачынаючы з 1920-х гадоў, актыўна апрабоўваўся беспрэцэдэнтны фармат арганізацыі і прыёму дэлегацый працоўных, журналістаў і пісьменнікаў з еўрапейскіх краін. Маршруты многіх візітаў пралягалі праз Беларусь.

Адной з першых наведала БССР дэлегацыя з Чэхаславакіі, новай краіны, што ўзнікла пасля развалу Аўстра-Венгерскай імперыі. Група працоўных выехала з Прагі 1 кастрычніка 1925 года. Праз 2 дні на памежнай станцыі Негарэлае для 23 чэхаславацкіх рабочых была наладжана шматлюдная ўрачыстая сустрэча: гасцей віталі прадстаўнікі партыйных і грамадскіх арганізацый, мясцовыя сяляне і чырвонаармейцы-пагранічнікі. У дзень важнага для краіны візіту газета «Звезда» (4.10.1925) прысвяціла гэтай падзеі дзве старонкі, а прывітальныя словы ў вядучым друкаваным органе рэспублікі былі спецыяльна апублікаваны на чэшскай мове.

Дэлегацыя правяла ў Краіне Саветаў 5 тыдняў, наведала 4 рэспублікі: Беларусь, Расію, Украіну і Грузію. Чэхаславацкія госці сустракаліся з рабочымі і сялянамі, партыйнымі і камсамольскімі актывістамі, прадстаўнікамі савецкай улады. У Мінску іх вітаў старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў, у Маскве — старшыня ЦВК СССР Міхаіл Калінін. Абставіны побыту дэлегацыі актыўна асвятляліся ва ўсесаюзным і рэспубліканскім друку.

Мы акцэнтавалі ўвагу менавіта на гэтым візіце, паколькі ён быў у ліку першых, на той час меў шырокі грамадскі розгалас, але ў летапісе дружбы народаў XX стагоддзя чамусьці зафіксаваны выключна з чэшскага боку [3], што толькі падкрэслівае недастатковую вывучанасць гісторыі чэшска-беларускіх культурных сувязей, якія ў грамадска-палітычнай парыдыгме таго часу былі ўлучаны ў агульны фармат чэхаславацка-савецкіх міждзяржаўных стасункаў.

У 1925 годзе група беларускіх пісьменнікаў — Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Купала, Міхась Зарэцкі — наведала Чэхаславакію. У гэтым жа годзе чэшскі пісьменнік і перакладчык Ёзэф Гора пабываў у БССР. Янка Купала яшчэ двойчы гасцяваў у Чэхаславакіі — у 1927 і 1935 гадах.

Крытэрыі пры выбары замежных пісьменнікаў для персанальнага запрашэння, а таксама перакладу твораў у Савецкім Саюзе былі адпаведныя: лаяльнасць да бальшавіцкай улады, партыйная прыналежнасць, крытычнае стаўленне творчасці да рэалій капіталістычнага свету.

Вельмі паказальна, што прадмову да аднаго з першых выданняў на рускай мове галоўнага твора Я. Гашака напісаў вядомы рэвалюцыянер, партыйны і дзяржаўны дзеяч Уладзімір Антонаў-Аўсеенка (1883—1938). Лейтматыў уступнага артыкула да кнігі 1929 года вытрыманы ў духу эпахальнага ідэйнага змагання і барыкаднага размежавання: «“Похождения бравого солдата Швейка” — книга, получившая уже мировое признание. Получившая? Нет, завоевавшая» [4, с. 3]. Адпаведныя і непрымірымыя, пафасна-заклікавыя высновы аўтара прадмовы (захоўваецца правапіс арыгінала): «Гашек наш. Гашек с неотразимой убедительностью, с яркой, жгучей ненавистью клеймит прогнивший насквозь буржуазный мир. Гашек прозревает очертанья иной жизни, где раз навсегда покончено будет с эксплоатацией человека человеком и с самой подлой из форм этой эксплоатации — с империалистической войной… Молодая буржуазная Чехословакия не любит Гашека, стыдится его как секретной болезни. Пролетарская Чехословакия, пролетарская интеллигенция всего мира гордится Гашеком как одним из лучших своих выразителей» [4, с. 18—19].

Словы У. Антонава-Аўсеенкі можна разглядаць як свайго роду ўзмоцнены палітычны рэзанатар публіцыстычных выступленняў, што адзінкава і нязладжана гучалі на той час у шматпартыйнай і амбівалентнай у культурным жыцці Чэхаславакіі. Адзін з раздзелаў кнігі чэшскага літаратуразнаўцы Радкі Пытліка так і называецца — «Барацьба за Швейка». Крытыка не магла адказаць адназначна, ды і не спяшалася з адказам на пытанне, ці з’яўляецца наогул твор Гашэка мастацкай літаратурай? Як піша Р. Пытлік: «С момента своего появления Швейк и его похождения служили своего рода лакмусовой бумажкой, с помощью которой проявлялась идеология исследователей и критиков» [5, с. 164]. У гэтай сітуацыі няпэўнасці ацэнак, маўчання інтэлектуалаў, але вялікай папулярнасці твора актыўна абараняць аўтара ў сваіх публіцыстычных артыкулах узяўся камуніст Іван Ольбрахт, які ў Савецкім Саюзе стаў асноўным рэпрэзентантам творчасці Я. Гашэка, без цытавання слоў замежнага ідэйнага пабраціма, па сутнасці, не абыходзілася ні адна публікацыя, прысвечаная пісьменніку, і згаданая прадмова У. Антонава-Аўсеенкі не стала выключэннем. Творы самога І. Ольбрахта актыўна перакладаліся ў СССР, у тым ліку на беларускую мову.

## На кніжных паліцах БССР

Выдавецкі бум кніг Я. Гашака ў СССР назіраўся ў другой палове 1920-х — пачатку 1930-х гадоў. Асабліва запатрабаванымі былі сатырычныя сюжэты антырэлігійнага, антыманархічнага характару, выкрывальніцкія ў адносінах да буржуазных парадкаў і армейскай муштры ў Аўстра-Венгерскай імперыі. У БССР творы чэшскага пісьменніка друкаваліся буйнымі тыражамі асобнымі выданнямі,

з’яўляліся ў перыядычным друку ў 1928—1932 гадах:

«Партрэт цэсара Франца-Іосіфа» (апавяданне; літаратурны дадатак да «Савецкай Беларусі», 1928, 31 сак.);

«Швейк за дзеншчыка ў фельдкурата» (апавяданне; 1930, 1932);

«Таямніца споведзі» (апавяданне, 1931);

«Цвёрдая скура» (апавяданне; «Іскры Ільіча», 1931, № 5);

«Цвёрдая скура» (зборнік апавяданняў, 1931);

«Швейк на фронце» (апавяданне, 1931);

«Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну» (раман, 1931—1932).




З пункту гледжання выдавецка-паліграфічнага, нават беларускія ілюстрацыі могуць стаць цікавым вопытам нацыянальнай мастацкай адаптацыі ў гісторыі міжнароднай «Швейкіяны». Над афармленнем вокладак «шасцікніжжа» працавалі Мікалай Малевіч (1898—1944), Валянцін Ціхановіч (1909—1978), Ісак Давідовіч (1911—1993) і інш. Тыраж кожнай кнігі гашакаўскай эпапеі — 5 тыс. экзэмпляраў. Сярод карэктараў — пісьменнік Барыс Мікуліч.

У той час важны сегмент кніжнага рынку БССР займалі выданні на беларускай мове, прызначаныя для рабоча-сялянскай арміі. У пачатку 1930-х гадоў для палітработы ў вайсковых часцях былі выдадзены «Ленін і Чырвоная армія» А. Залескага, «Памятка здароўя чырвонаармейца» Я. Акодуса, «Японія і яе ўзброеныя сілы» Н. Весялоўскага, «Як зберагчы здароўе ў часе паходу» С. Бязскладнікава, «Памятка чырвонаармейцу аб бронясілах» С. Дзераўцова і інш. У некаторыя кнігі былі ўключаны не толькі выказванні партыйных правадыроў, але і фрагменты твораў рускіх і замежных літаратараў, асабліва запатрабаваных на ідэалагічным фронце, — Міхаіла Кальцова [6, с. 44—46], Матэ Залкі [6, с. 52—54], Барыса Галіна [6, с. 176—177], Дзмітрыя Фурманава [6, с. 219—220].

Беларускія аўтары Міхаіл Касянкоў (сапраўднае прозвішча пісьменніка Міхася Зарэцкага) і Сяргей Русаковіч пераклалі з рускай мовы кнігу «Аб вайне» [7] − асноўную працу прускага генерал-маёра Карла фон Клаўзэвіца (1780—1831), якая, паводле ўстаялай характарыстыкі, стала вехавай падзеяй у тэорыі і гісторыі ваенных навук.

Першыя кніжкі Я. Гашака, выдадзеныя ў Мінску, былі таксама прызначаны для патрэб выхаваўчай работы ў арміі; яны выйшлі ў серыі «Бібліятэка чырвонаармейца», а таксама ў «Вайсковым сектары» Дзяржаўнага выдавецтва БССР [8; 9; 10]. У друку быў прадубліраваны ўрывак «Швейк за дзеншчыка ў фельдкурата» з вядомага рамана чэшскага аўтара. Выданні 1930, 1932 гадоў мелі аднолькавы тыраж — 7 тыс. экзэмпляраў, ідэнтычны малы фармат, зручны для нашэння ў нагруднай кішэні гімнасцёркі. Адрознівала кніжкі толькі афармленне вокладкі.

Такое выдавецкае рашэнне, паўторанасць выпускаў сведчаць пра рэальную запатрабаванасць твора чэшскага пісьменніка. А малафарматнасць варта разглядаць як своеасаблівае беларускае ноу-хау на кніжным рынку Савецкага Саюза і, верагодна, краін Еўропы. Падобныя кішэнныя выданні спадчыны Я. Гашака для

ідэалагічных патрэб Савецкай арміі і флоту, наколькі нам удалося прасачыць, маскоўскія выдавецтвы ажыццявілі толькі ў 1944—1947 гадах [11; 12; 13] — цалкам магчыма, што перанялі вопыт мінскіх калег.

Факты мэтанакіраванага распаўсюджання твораў Я. Гашака ў Чырвонай, а потым Савецкай арміі − беспрэцэдэнтны і невывучаны феномен, асабліва прымаючы пад увагу шырокі кантэкст. У многіх еўрапейскіх краінах раман чэшскага пісьменніка не рэкамендаваўся або забараняўся для чытання людзьмі ў пагонах, а ў фашысцкай Германіі кнігі Я. Гашака публічна спальваліся на кастрах.

## З перакладчыцкіх рэалій

Усе пераклады твораў Я. Гашака на беларускую мову былі здзейснены праз рускае пасрэдніцтва, гэты факт спарадзіў сённяшні недавер да карэктнасці падыходаў і мастацкіх вартасцей вынікаў тагачаснай працы. З вышыні сённяшняга дня практыку мастацкага перакладу 1920—1930-х гадоў праз мову-пасрэдніцу называць часовай, зжытай не выпадае. Можна спрачацца, ці сфарміравалася наогул беларуская школа перакладу, ці мы маем толькі асобных майстроў гэтай справы, чый плён творчай працы вядомы шырокай аўдыторыі перастварэннямі твораў замежнай класікі? Што дамінуе ў арганізацыі мастацкага перакладу: сацыяльны заказ, звязаны з ідэйна-эстэтычнымі прыярытэтамі грамадства, а таксама часавай неабходнасцю дэманстрацыі дыпламатычнага «жэста», або ўласны выбар перакладчыка, адпаведны яго індывідуальна-аўтарскаму настрою і мастацкім пошукам?

Класічным перакладам гашакаўскай сатырычнай эпапеі сёння лічыцца перастварэнне, зробленае з мовы арыгінала Пятром Багатыровым (1893—1971), вядомым этнолагам, удастоеным звання доктара honoris causa Карлава ўніверсітэта (Прага). У 1922—1939 гадах ён быў супрацоўнікам савецкага паўпрэдства ў Чэхаславакіі. У 1940-х гадах П. Багатыроў падвергся ганенням: звольнены з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, АН СССР. Вучонаму пашчасціла выжыць у часы рэпрэсій. У 1950-х гадах ён стварыў новую рэдакцыю свайго перакладу «Прыгодаў…».

На самай справе, у рамана Я. Гашака было некалькі перастваральнікаў у СССР: Г. Зукау, М. Скачкоў, П. Багатыроў. На той час рэй у рускамоўных інтэрпрэтацыях і папулярызацыі творчасці чэшскага пісьменніка ў Савецкім Саюзе вёў Міхаіл Скачкоў (1896—1937), які ў 1920-х некалькі гадоў свайго эміграцкага жыцця правёў у Чэхаславакіі. У друку ён вельмі часта выступаў з перакладамі і артыкуламі па пытаннях творчасці чэшскіх пісьменнікаў левага палітычнага ўхілу. Некаторыя з перакладаў і крытычных допісаў М. Скачкова перасаджваліся на беларускую глебу: антырэлігійнае апавяданне Я. Гашака «Цвёрдая скура» [14; 15], артыкул «Пралетарская літаратура Чэха-Славакіі» («Маладняк», 1931, № 4).

Адно з першых сведчанняў інфармаванасці чытацкай аўдыторыі Беларусі адносна гэтага твора знаходзім у часопісе «Полымя» (1930, № 11/12), у рубрыцы «Замежная культурная хроніка» (захоўваем правапіс арыгінала): «Роман вядомага чэскага сатырыка Я. Гашэка «Приключения бравого солдата Швейка» вытрымаў у Чэхіі 11 выданьняў. На сёньня роман перакладзены на гэткія мовы: нямецкую, украінскую, расійскую, польскую, славянскую (славенскую — ***М. Т.***), сербскую, угорскую, галяндскую, швэдскую, ангельскую, французскую, гішпанскую і японскую. На сцэне “Прыгоды Швэйка” ідуць у Славаччыне, СССР, Германіі, Польшчы і Юга-Славіі». Гэты невялікі допіс засведчыў сусветную папулярнасць твора, геаграфію яго тэатральнага пераўвасаблення. Але ў ім няма ніякіх намёкаў на хуткія перспектывы беларускіх перакладаў, што можна аднесці на нечаканасць цэнтралізавана даведзеных выдавецкіх планаў і мабільнасць перастваральнай працы, першыя вынікі якой з’явяцца ў друку праз год пасля палымянскай публікацыі невядомага аўтара.

## Злавесны цень «Справы славістаў»

У БССР пытанне аб перавыданні беларускага перакладу сатырычнай эпапеі чэшскага пісьменніка было агучана Д. Фактаровічам у 1958 годзе, у перыяд т. зв. «хрушчоўскай адлігі»: «Цяпер рыхтуецца новы ўкраінскі пераклад Я. Гашака. Нам нельга забываць, што цэлыя пакаленні беларускіх чытачоў пазнаёміліся з раманам чэшскага сатырыка па перакладах К. Крапівы, К. Чорнага і М. Лужаніна. Выпушчаны ў 30-х гг., цяпер беларускі пераклад рамана стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Час, даўно час зробленыя пераклады нанава адрэдагаваць і выпусціць у свет. Чытач скажа выдавецтву за гэта толькі “дзякуй”» [16, с. 184]. Адзначым, што ініцыятар ідэі перавыдання з сямі перакладчыкаў «шасцікніжжа» (раман Я. Гашака і яго працяг, напісаны К. Ванэкам) назваў толькі траіх, пры гэтым нават не выкарыстоўваючы магчымасці звыклага тэкставага афармлення пералікаў і недагаворанасці — «і іншыя». Тая большасць незгаданых перакладчыкаў (Зарэцкі, Калюга, Кляшторны, Астапенка) была рэпрэсавана. І сёння на ўцалелых экзэмплярах рамана ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ёсць літаральныя пазнакі выкрасленасці гэтых імёнаў з гісторыі беларускай літаратуры — яны старанна замазаны. Рэпрэсаванасць перакладчыкаў, наступныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны тлумачаць сітуацыю замоўчанасці, страту і пазнейшую недаступнасць кнігазбораў.

Зварот да гісторыі перакладаў Я. Гашака ў СССР немагчымы без асвятлення некаторых старонак агульнага стану славістыкі 1930-х гг., паколькі перакладчыцкая справа так ці інакш звязана з акадэмічнай навукай, знаходзіцца ў сілавым полі яе традыцый, актуальных задач і крытычнага стаўлення да пераствораных тэкстаў. У сваю чаргу, гуманітарыстыка і практыка мастацкага перакладу неад’емныя ад грамадска-палітычнага жыцця краіны.

У Савецкім Саюзе даследчыцкая цікавасць да гісторыі першых перакладаў твораў Я. Гашака на рускую мову пачынаецца з канца 1980-х гг. Не ў апошнюю чаргу гэта было звязана з важнымі зменамі ў грамадстве, выразнай тэндэнцыяй на праўдзівае прачытанне трагічных старонак мінулага, вяртання імёнаў загубленых дзеячаў культуры і навукі. Сімптаматычныя зрухі паволі пазначаліся і ў сферы перакладазнаўства, і хоць гэты працэс на фоне агульнай сітуацыі рэвізійнай эйфарыі і кніжнага буму заканамерна выглядаў досыць факультатыўна, стараннямі энтузіястаў і спецыялістаў ён паступова набываў сваю ўстойлівую дынаміку, адлюстроўваўся ў канцэптуальным бачанні і зместавым напаўненні профільных публікацый.

У 1988 годзе ў ленінградскім часопісе «Нева» быў апублікаваны артыкул Пятра Матко «Неотмеченный юбилей Швейка», прымеркаваны да шэрагу круглых дат, звязаных з творчасцю чэшскага пісьменніка. Аўтар звярнуўся да кнігі, што выйшла ў 1926 годзе ў выдавецтве «Прибой» — «Ярослав Хашек. Приключения бравого солдата Швейка». Перад П. Матко паўсталі пытанні, якія сведчылі пра абсалютную забытасць гэтага факта (і ўсяго з ім звязанага) пераствральнай і выдавецкай дзейнасці: «Почему Хашек, а не Гашек, приключения, а не похождения, почему перевод с немецкого, а не с чешского, и, наконец, кто они — А. Г. и Г. А. Зуккау?» [17, с. 205].

Яскравым сведчаннем працы «з чыстага ліста» з’яўляецца таксама першасны алгарытм даследчыцкага пошуку: «Попытка отыскать фамилию Зуккау в общих и литературных энциклопедиях ничего не дала. Для обращения в адресное бюро необходимо знать имя и отчество, год и место рождения. К тому же в военные годы многие ленинградцы были эвакуированы, многие погибли. Издательство «Прибой» еще в 1930 году влилось в Госиздат РСФСР, да и тот неоднократно реорганизовывался…» [17, с. 206].

Пошукі П. Матко былі досыць плённымі: за ініцыяламі, якія выклікалі пытанні, — Аліса Германаўна і Герберт Аўгуставіч Зукау. Былі высветлены нека-




торыя факты жыцця і творчасці іх нашчадкаў. Артыкул у «Неве» быў падмацаваны візуальным радам — выявамі вокладак кніг Я. Гашака і К. Ванэка, выдадзеных у 1926—1929 гадах.

Сёння, у агульных штрыхах жыццяпісу, вядома, што Герберт Зукау (1883—1937), этнічны немец, быў прафесійным юрыстам, а з 1917 года — запатрабаваным перакладчыкам. Двойчы арыштоўваўся: у 1935-м (высылка на 3 гады), у 1937-м (расстрэл). Рэабілітаваны па першым прысудзе ў 1957 годзе, па другім — у 1989-м (праз год пасля названай публікацыі ў часопісе «Нева»).

У 1990 годзе Андрэй Гараінаў, вядучы расійскі спецыяліст па гісторыі славяназнаўства, апублікаваў артыкул у часопісе «Советское славяноведение», у якім прадставіў некаторыя невядомыя старонкі савецкай навукі 1920—1940-х гадоў [18]. Гэта была адна з першых публікацый, у якой закраналася т. зв. «Справа славістаў», яна засведчыла вынікі пачатковага, але канцэптуальна важнага, этапу збору інфармацыі, архіўных сведчанняў, даследчыцкіх меркаванняў:

«Есть основания предполагать, что «дело» тщательно готовилось. Об этом свидетельствуют неожиданные на первый взгляд аресты в конце 1933 г. сотрудника Ленинградского педагогического института им. М. Н. Покровского, болгарина по национальности Д. Д. Димитрова и сотрудника Главлита М. Н. Скачкова. Ни Димитров, ни Скачков не принадлежали к видным ученым, но, вместе с тем, по своему образованию, социальному происхождению, общественному положению и занятиям больше других славистов соответствовали духу времени» [18, с. 80—81].

У гэтым артыкуле ўпершыню былі прадстаўлены звесткі аб літаратурнай, навукова-публіцыстычнай і перакладчыцкай дзейнасці Міхаіла Скачкова, вызначаны падыходы ў высвятленні яго ролі ў «Справе славістаў». У вызначаным кантэксе А. Гараінаў закранае таксама жыццёвы і творчы лёс беларускага мовазнаўцы-славіста Пятра Бузука [18, с. 83], гісторыкаў Уладзіміра Пічэты і Мікалая Улашчыка [18, с. 87—88].

Сабраны і прадстаўлены чытачам пераканаўчы факталагічны матэрыял даў падставы для наступных сур’ёзных высноў:

«Приведенные выше факты истребления кадров славяноведов красноречиво свидетельствуют, какой огромный урон изучению зарубежных славян был нанесен в Советском Союзе в годы сталинщины. Были репрессированы ведущие специалисты и талантливые молодые ученые, занимавшиеся исследовательской и преподавательской работой во всех отраслях славяноведения»; «…советское славяноведение оказалось отброшенным далеко назад» [18, с. 88].

Артыкул А. Гараінава пабудаваны, у асноўным, на абагульненні звестак з многіх славістычных публікацый розных краін. Толькі ў выпадку з А. Паўловічам, названым у ліку добрых спецыялістаў, чые славістычныя інтарэсы сфарміраваліся ў гады савецкай улады, аўтар звярнуўся да Архіва Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Кнігу Фёдара Ашніна і Уладзіміра Алпатава «“Дело славистов”: 30-е годы» (1994) [19] можна назваць неперaўзыдзенай і вехавай — па фактаграфічнай

напоўненасці пры разглядзе акрэсленай тэмы. Яна заснавана на матэрыялах следчай справы № Р-28879 (11 тамоў) з архіваў КДБ СССР. Аўтарамі выкарыстаны матэрыялы іншых спраў названай установы, а таксама Архіва Расійскай Акадэміі навук, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва (ЦГАЛИ).

«Это дело было сфабриковано Секретно-политическим отделом ОГПУ в конце 1933 — начале 1934 г. Его жертвами оказались известные ученые и специалисты, среди которых Н. Н. Дурново, М. Н. Сперанский, В. Н. Перетц, Г. А. Ильинский, А. М. Селищев, В. В. Виноградов, Н. В. Сычев, П. Д. Барановский, В. Н. Сидоров и др., и наряду с ними скромные музейные работники, краеведы, врачи, агрономы» [19, с. 3].

Спецыяльная следчая справа № 2554 была завершана да сакавіка 1934 года. З абвінавачага заключэння: «Проведенным по делу следствием установлено, что в Москве, Ленинграде, на Украине, в АЧК (Азово-Черноморский край. — ***М. Т.***), в Белоруссии, в Западной области и Ивановской области существовала разветвленная контрреволюционная национал-фашистская организация, ставившая своей целью свержение Советской власти и установление в ней фашистской диктатуры» [цыт. паводле: 19, с. 70].

Сярод іх былі прызнаныя філолагі-славісты, якія стаялі каля вытокаў фарміравання беларускай акадэмічнай навукі, арганізацыі сістэмы вышэйшай адукацыі ў БССР: Мікалай Дурнаво (1876—1937), правадзены член Інбелкульта, акадэмік Беларускай АН; Павел Растаргуеў (1881—1959), правадзейны член Інбелкульта; Аляксандр Вазнясенскі (1888—1966), прафесар БДУ; Пётр Бузук (1891—1938), дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. Шэрагі арыштаваных і асуджаных папоўнілі выхадцы з Беларусі, што даволі паспяхова рэалізоўваліся як выкладчыкі і навукоўцы ў сталіцы Савецкага Саюза: Андрэй Паўловіч (са Слоніма), дацэнт Міжнароднай Ленінскай школы, выкладчык рускай, польскай і чэшскай моў; Глеб Бонч-Асмалоўскі (з в. Блонь Мінскай губерні), супрацоўнік Геалагічнага інстытута АН СССР, антраполаг, і інш.

Паводле сфабрыкаванай «Справы славістаў», на чале контррэвалюцыйнай арганізацыі стаяў вядомы мовазнаўца Мікалай Дурнаво, прафесар Саратаўскага і Маскоўскага ўніверсітэтаў, член-карэспандэнт АН СССР (1924), блізкі калега заснавальніка беларусістыкі акадэміка Яўхіма Карскага — пра гэта, між іншым, сведчаць кнігі з дарчымі подпісамі, што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

У 1924—1927 гадах М. Дурнаво жыў у Чэхаславакіі, цесна супрацоўнічаў з акадэмічнымі коламі Прагі (Пражскі лінгвістычны гурток) і Бялграда. Па запрашэнні Пятра Бузука перабраўся ў Мінск (у матэрыялах допыту М. Дурнаво фігуруюць таксама Ластоўскі, Некрашэвіч, Лёсік). У 1930 годзе, пасля разгрому беларускіх «нацдэмаў», пазбаўлены пасад, выехаў у Маскву. Арыштаваны ў снежні 1933-га, асуджаны на 10 гадоў лагераў (адбываў пакаранне на Салаўках), паўторна асуджаны і расстраляны ў 1937-м.

Паводле матэрыялаў следчай справы, кіруючая роля вучонага ў контррэвалюцыйнай арганізацыі была вызначана ў многім дзякуючы паказанням М. Скачкова, які яшчэ ў Празе зблізіўся з сям'ёй М. Дурнаво, сябраваў з яго сынамі Андрэем і Яўгенам (абодва расстраляны ў 1938 годзе).

## Высновы

Паводле логікі этапаў даследавання, закранутыя ў гэтай публікацыі масівы інфармацыі і гістарычных звестак схіляюць не да падвядзення рысы, а да актуалізацыі абагульненняў, вызначэння перспектыў:

1. Беларускія пераклады твораў Я. Гашака з'явіліся як вынік агульнай выдавецкай палітыкі ў СССР, сацыяльны заказ таго часу. Пры гэтым у БССР пера-

стваральнікі і выдаўцы падышлі да нацыянальнага асваення творчай спадчыны чэшскага пісьменніка творча і здолелі прапанаваць арыгінальныя рашэнні.

2. Беларускі вопыт перастварэння і выдання рамана класіка чэшскай літаратуры можна вызначаць як беспрэцэдэнтны ў кантэксце гісторыі мастацкага перакладу і выдавецкай дзейнасці ў Беларусі, Савецкім Саюзе, еўрапейскіх краінах. Шэсць частак сатырычнай эпапеі Гашака і Ванэка рыхтаваліся практычна сінхронна, за вельмі кароткі тэрмін. Над кожнай працаваў асобны перакладчык. Сінхроннасць стварала яшчэ адзін відавочны прэцэдэнт — пісьменніцкую канкурэнцыю, якая фенаменальна вылучаецца як адзінкавы прыклад інтэлектуальнага спаборніцтва на фоне агульнадзяржаўнага энтузіязму і тэмпаў пабудобы новага грамадскага ладу і нацыятворчасці.

3. На парадку дня — вызначэнне месца перастварэння рамана Я. Гашака ў творчасці кожнага з беларускіх пісьменнікаў і беларускай літаратуры наогул. Відавочны аб’ект для кампаратыўнага даследавання — раман «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя. Між тым, той жа сінхронны падыход дазваляе праводзіць іншыя паралелі, асабліва ў дачыненні да пісьменнікаў, непасрэдна ўлучаных у перакладчыцкую працу.

4. Названыя пераклады варта таксама даследаваць у кантэксце ўсіх перакладаў чэшскіх пісьменнікаў на беларускую мову, зробленых у міжваенны перыяд, а таксама ў кантэксце ўсіх перастварэнняў літаратур народаў шматнацыянальнай Чэхаславакіі.

5. Важнай характарыстыкай нацыянальнага асваення сатырычнай эпапеі Я. Гашака з’яўляецца адпаведная рэалізацыя эмацыйнага патэнцыялу першатвора, дасягненне асноўнага эфекта ўздзеяння на чытача — смехавага. Дэмакратычная стыхія прадмесцяў Прагі, розначынныя персанажы, абмаляваныя чэшскім пісьменнікам, натуральна прыжыліся на добра ўробленай беларускай літаратурна-фальклорнай глебе.

## Спіс літаратуры:

1. Шаблоўская, І. Яраслаў Гашак і Франц Кафка. Антыгероіка абсурду / І. Шаблоўская // Крыніца. — 1995. – № 6. — С. 73—80.

2. Гашак, Я. Прыгоды ўдалага салдата Швейка: Раман: Для ст. шк. узросту; пер. з чэш. А. Мажэйкі / Я. Гашак. — Мінск: Ураджай, 1997. — 496. — (Школьная бібліятэка).

3. VorobjevaJ.První československá dělnická delegacevSSSR. Říjen — listopad 1925 / J. Vorobjeva // Studiezdějin československo-sovětskýchvztahů, 1917—1938. — Praha: Akademia, 1967. — S. 30—52.

4. Гашек, Я. Похождения бравого солдата Швейка во время мировой войны; пер. с чеш. П. Богатырева / Я. Гашек. — М., Л.: Гос. изд-во, тип. «Красный пролетарий», 1929. — 256 с.

5. Пытлик, Р. Швейк завоевывает мир; пер. с чеш. В. А. Мартемьяновой. — Р. Пытлик. — М.: Книга, 1983. — 237 с.

6. На варце социялізму. Рабочая кніга чырвонаармейца для політзаняткаў / склалі Н. Жукаў і П. Сычоў; пад рэд. Н. Харытонава. — Менск: Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва БССР, 1932. — 283 с.

7. Кляўзэвіц, К. фон. Аб вайне; з рус. мовы пераклалі М. Касянкоў і С. Русаковіч / К. фон Кляўзэвіц. — Менск: Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва БССР, 1933. — Т. 2. — 292 с.

8. Гашэк, Я. Швэйк на фронце / Я. Гашэк. — Мінск: Белдзяржвыд, 1931. — 120 с. — (Мастацкая б-ка чырвонаармейца).

9. Гашэк, Я. Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата / Я. Гашэк. — Мінск: Белдзяржвыд, 1930. — 87 с. — (Б-ка чырвонаармейца).

10. Гашэк, Я. Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата / Я. Гашэк. — Выд. 2-е. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1932. — 84 с.

11. Гашек, Я. Моя торговля собаками: рассказы / Я. Гашек. — Ленинград; Москва: Военмориздат, 1944. — 112 с. — (Б-ка краснофлотца).

12. Гашек, Я. Швейк — симулянт / Я. Гашек. — Москва: Воен. издат. М-ва Вооруж. Сил СССР, 1946. — 65 с. — (Б-чка журнала «Красноармеец», № 5 (50)).

13. Гашек, Я. Швейк в денщиках у поручика Лукаша / Я. Гашек. — Москва: Воениздат, 1947. — 65 с. — (Б-чка журн. «Красноармеец», № 4 (71)).

14. Гашек, Я. Твердая кожа; пер. с чеш., вступ. ст. М. Скачкова / Я. Гашек. — Москва: Молодая гвардия, 1930. — 32 с.

15. Гашэк, Я. Цвёрдая скура / Я. Гашэк. — Мінск: Белдзяржвыд, 1931. — 35 с.

16. Фактаровіч, Д. Яраслаў Гашэк і яго сатырычная эпапея / Д. Фактаровіч // Полымя. — 1958. − № 4. — С. 178—184.

17. Матко П. Неотмеченный юбилей Швейка / П. Матко // Нева. — 1988. — № 7. — С. 205—207.

18. Горяинов А. Н. Славяноведы — жертвы репрессий 1920—1940-х годов. Некоторые неизвестные страницы из истории советской науки / А. Н. Горяинов // Советское славяноведение. — 1990. — № 2. — С. 78 — 89.

19. Ашнин Ф. Д. «Дело славистов»: 30-е годы / Ф. Д. Ашнин, В. М. Алпатов. — Москва: Наследие, 1994.—285 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 снежня 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Мікола ТРУС**

**Творы Яраслава Гашака ў Беларусі 1930-х гадоў: рэпрэзентацыя, рэцэпцыя, кантэкст**

УДК 821.162.3:821.161.3

У артыкуле ўпершыню разглядаецца гісторыя перакладаў і першых выданняў твораў Яраслава Гашака ў Беларусі. Актуалізуюцца асобныя аспекты міжнародных культурных сувязей 1920—1930-х гадоў, праблем мастацкага перакладу, кан'юнктуры кніжнага рынку. Аўтарам праведзены сінхронны аналіз рэцэпцыі творчасці чэшскага пісьменніка ў беларускім і рускім кантэкстах.

**Ключавыя словы:** чэшская літаратура, беларуская літаратура, рэцэпцыя, мастацкі пераклад, моўнае / літаратурнае пасрэдніцтва, кнігавыдавецкая практыка.

**Summary**

**Mikola TRUS**

**Writer JaroslavHasek in Belarus the 1930-ies: representation, reception, context**

The paper first examines the history of translations and first editions of works by Jaroslav Hasek in Belarus. The study actualizes some aspects of international cultural relations 1920—1930-ies, the problems of literary translation, the situation of the book market. The author conducted simultaneous analys of the reception of creativity of Czech writer in Belarusian and Russian contexts.

**Keywords:** Czech literature, Belarusian literature, reception, literary translation, linguistic / literary mediation, publishing practice.

Мікола ТРУС

# БЕЛАРУСКІЯ ТАЯМНІЦЫ ЧЭШСКІХ АРХІВАЎ




***Kolenovská D., Plavec M.*** *Běloruská emigrace v meziválečném Československu: Studie a dokumenty. Sociopo-litický aspect (Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславакіі: Даследаванні і дакументы. Сацыяпалітычны аспект) / D. Kolenovská, M. Plavec. — Praha: Univerzita Karlova, Nakladatelství Karolinum, 2017. — 287 s.*

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў беларуская гуманітарыстыка відавочна развіваецца ў прыярытэтным напрамку катэкстуальнага вызначэння гісторыі нацыянальнай культуры. Сёння, у калегіяльным парадку, варта было б падвесці некаторыя вынікі гэтай амбітнай і сацыяльна значнай шматгадовай працы, адказаць на важныя пытанні: 1) Якія геаграфічныя вектары даследавання беларускай прысутнасці ў свеце сталі найбольш плённымі, набылі сваю ўстойлівую дынаміку? 2) Ці сфарміравалася (абнавілася) метадалогія навуковых росшукаў і аналітыкі іх вынікаў? 3) Наколькі ўдалым у гэтам плане было міжнароднае навуковае супрацоўніцтва? 4) Ці паўплывала рэтраспектыўнае (сінхроннае / дыяхроннае) бачанне на фарміраванне новай / актуальнай перспектывы даследаванняў? Адказы найперш патрабуюць стварэння вычарпальнай факталагічнай базы вынікаў працы, праходжанне рэестравага этапу абагульнення: завершаныя навуковыя тэмы, манаграфіі, дысертацыі, артыкулы, міжнародныя праекты і г. д.

Падставай для актуалізацыі вышэй пералічаных і іншых пытанняў для нас паслужыў прыемны падарунак калег з Карлава ўніверсітэта (Прага) — манаграфія **«Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславакіі: Даследаванні і дакументы. Сацыяпалітычны аспект»**, якую ў мінулым годзе выдалі гісторыкі Даніэла Каленоўска (Daniela Kolenovská) і Міхал Плавец (Michal Plavec), дзякуючы фінансавай дапамозе праекта «PROGRES Q18».

## Невялікі экскурс ў гісторыю пытання

Тэмы беларуска-чэшскіх культурных узамадачыненняў, тыпалогіі нацыянальнага будаўніцтва прыцягваюць увагу інтэлектуалаў яшчэ з нашаніўскага перыяду, калі беларускі рух быў ідэйна вызначаны і арганізацыйна аформлены. Прага, горад Францыска Скарыны, звязаны з пачаткам беларускага кнігадрукавання — вехавым момантам нацыянальнай гісторыі, падмуркам нацыянальнага адраджэння (у чэшскай традыцыі — *будзіцельства*). На працягу стагоддзяў сувязі паміж нашымі народамі не перарываліся, хоць і праходзілі ў розныя часы з рознай інтэнсіўнасцю, іх характар у многім вызначаўся ўнутрыдзяржаўнай і агульнаеўрапейскай грамадска-палітычнай кан’юнктурай.

Глабальныя геапалітычныя зрухі Першай сусветнай і лакальных войнаў пачатку XX ст., сацыяльныя рэвалюцыі спарадзілі фенаменальную культурную з’яву 1920—1930-х гг. — беларускую палітычную і «акадэмічную» эміграцыю ў Чэхаславакіі. У шэрагу маштабных і трагічных эксперыментаў еўрапейскай гісторыі XX ст. гэты быў самы гуманны, звязаны з асветай і шэрагам нацыянальных культурных праектаў за мяжой. Беларуская прысутнасць у гэтай краіне звязана з вядомай «Рускай акцыяй» — дапамогай урада Чэхаславакіі эмігрантам з былой Расійскай імперыі атрымаць адукацыю, працу.

Беларускае жыццё ў Чэхаславакіі — «Еўропе ў мініяцюры» — аказваецца ва ўмовах выбуху культурнай дыферэнцыяцыі. Паводле звестак сведкі і ўдзельніка тых падзей Тамаша Грыба, у агульнай студэнцкай масе беларусаў налічвалася — за ўвесь перыяд навучання — каля 300 чалавек (у дзясяткі разоў менш, чым рускіх і ўкраінцаў), у асноўным гэта былі прадстаўнікі сялянства з Заходняй Беларусі.

У Чэхаславакіі рускія і ўкраінцы мелі аўтаномныя сеткі сваіх адукацыйных, культурна-асветніцкіх устаноў і творчых аб’яднанняў. Такіх выгод ані блізка беларусы не мелі. Студэнты заснавалі па-рознаму арыентаваныя групоўкі: Аб’яднанне беларускага паступовага студэнцтва, Беларускі студэнцкі саюз, Беларускі сялянскі саюз, Вольная Грамада і інш. Меліся свае часопісы: «Беларускі студэнт», «Прамень», «Перавясла», «Іскры Скарыны». Навучэнец Карлава ўніверсітэта Уладзімір Жылка ў адным з лістоў да Антона Луцкевіча ў Вільню пісаў: «Прага дасць колькі дзясяткаў добрых і сумленных беларускіх працаўнікоў, незалежна ад іх поглядаў: будуць і правыя і левыя. <…> Як ні кажыце, а пры нашай нядолі і беднасці духовай і матэрыяльнай Прага ёсць важным пунктам, дзе пры добрай волі можна атрымаць скарбы». Як адзначаў Уладзімір Калеснік у манаграфіі «Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі» (1977), «…у сценах Карлава ўніверсітэта студэнты ўзнаўлялі ў мініяцюры той веер палітычнага размежавання, якое існавала ў Заходняй Беларусі і ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі за межамі БССР».

Калькасна нешматлікая беларуская эміграцыя, хоць і была сацыяльна роўнай, але палітычна неаднастайнай, спарадзіла фенаменальную з’яву паспяховай рэалізацыі за мяжой (малымі сіламі, на энтузіязме) шэрагу нацыянальных праектаў, прызнаных поліэтнічнай супольнасцю Чэхаславакіі. Гэтыя факты варты дэталёвага вывучэння, а вопыт — сённяшняга пераймання.

Тэма беларускай культурнай прысутнасці ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду мае сваю гісторыю архіўных збораў і даследчыцкага асэнсавання. У 1928 годзе быў заснаваны *Беларускі загранічны архіў у Празе*, створаны намаганнямі нацыянальнай эміграцыі, пад пратэктаратам Міністэрства замежных спраў Чэхаславацкай Рэспублікі. Спачатку яго ўзначальваў Мікола Вяршынін, потым — Тамаш Грыб; курыраваў — чэшскі гісторык, прафесар Ян Славік. Архіў меў чатыры аддзелы, у якіх былі сабраны матэрыялы па гісторыі БНР, беларусазнаўчыя

выданні і перыёдыка, гістарычная бібліяграфія і картатэка. Лёс гэтага, а таксама іншых эмігранцкіх збораў Чэхаславакіі часткова праясняе тэкст апублікаванага ў кнізе дакумента пад назвай «Пісьмо прэзідыума Міністэрства ўнутраных спраў аб перадачы Украінскага гістарычнага кабінета, Рускага гістарычнага архіва і Беларускага архіва ў СССР. Прага, 28.8.1945» (с. 232—233).

Пасля Другой сусветнай вайны тэма эміграцыі для савецкіх даследчыкаў на доўгія гады патрапіла ў шэраг табуіраваных. Замежныя наогул і пражскія зборы ў прыватнасці былі папросту недасягальныя. Несістэмна асобныя дакументы перадаваліся ў архівы і музеі БССР, спарадычна траплялі ў друк, дзякуючы ініцыятыве прыватных асоб-захавальнікаў, якія ў 1920—1930-х гадах вучыліся ў Чэхаславакіі, выжылі ў перыяд сталінскіх рэпрэсій, — Міколы Шыманкі, Георгія Мухі-Мухноўскага, Людмілы Краскоўскай і інш. Сёння гэтыя матэрыялы захоўваюцца ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, іншых профільных устаноў. Прыведзены пералік паказальны пры характарыстыцы абставін фарміравання беларускіх архіўных збораў, патэнцыйнага кола зацікаўленых навукоўцаў: рэй у гэтай справе вялі, у асноўным, захавальнікі нацыянальнай літаратурнай спадчыны.

Як вядома, дакументы — гэта фундамент гістарыяграфіі. Выяўленне, збор, публікацыя архіваў былі асабліва запатрабаваны ў Беларусі ў 1990-х гадах — на хвалі вяртання імёнаў і твораў, гвалтоўна выкрасленых з нацыянальнай гісторыі і культуры. Стараннямі літаратуразнаўцы У. Калесніка для беларускіх даследчыкаў сталі звыклымі найменні *Пражскі архіў*, *Пражскі эпісталярый* — зборы дакументаў, якія сталі каштоўным матэрыялам для вывучэння беларускай прысутнасці ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду, на ўзроўні персаналій дапамаглі пашырыць бачанне жыцця і дзейнасці Ігната Дварчаніна, Тамаша Грыба, Яўгена Ляцкага, Уладзіміра Жылкі, Адольфа Клімовіча і многіх іншых.

Вельмі паказальна, што ініцыятыва міжнароднага супрацоўніцтва спецыялістаў на новым этапа еўрапейскай гісторыі належала чэшскім калегам і была прадэманстравана на афіцыйным узроўні: 14—15 жніўня 1995 года ў сталіцы Чэхіі была зладжана выстава «Руская, украінская і беларуская эміграцыя ў Празе».

Важнай падзеяй стала таксама мінская выстава «“Ёсць на карце месца…”: Грамадска-культурная чыннасць беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі. 1921—1938», праведзеная 27 мая — 3 ліпеня 2002 года ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Яе арганізатарамі выступілі Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

Абодва гэтыя мерапрыемствы аўтарытэтна засведчылі зняцце табу з тэмы даследавання, адкрытасць і гатоўнасць архівістаў і спецыялістаў музейнай справы да міжнароднага супрацоўніцтва, прадэманстравалі яго практычныя вынікі.

За апошнія паўтара дзясятка гадоў у актыве вывучэння тэмы беларускай эміграцыі набярэцца некалькі дзясяткаў важкіх публікацый, у тым ліку манаграфій і дысертацыйных даследаванняў. Большасць з іх належыць пяру гісторыкаў, і ў гэтым ёсць свая заканамернасць і логіка даследчыцкага шляху — ад факта.

Мяркуючы па колькасці абароненых дысертацый, публікацый, характары ўзнятай праблематыкі і глыбіні яе асэнсавання беларуская гуманітарыстыка ў гэтым напрамку сёння значна саступае вынікам працы рускіх і ўкраінскіх навукоўцаў (гісторыкаў, культуролагаў, філосафаў, літаратуразнаўцаў), дзе даследаванні

паслядоўна вядуцца на працягу апошніх дзесяцігоддзяў — на ўзроўнях распрацоўкі агульных тэм, асобных праблем, а таксама канкрэтных персаналій. У гэтым плане кніга Д. Каленоўскай і М. Плавеца — важная факталагічная дапамога для беларускіх калег, грунт, на якім будзе развівацца ў тым ліку і літаратуразнаўства.

## Архівы сведчаць

Асноўны корпус тэкстаў манаграфіі «Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславакіі…» складаецца з трох раздзелаў — двух аглядных і аднаго ўласна фактаграфічнага: «Праект незалежнай Беларусі і міжваенная Чэхаславакія» (с. 15—65; аўтар Д. Каленоўска), «Беларусы ў Чэхіі і Маравіі і чэхаславацкая палітыка 1921—1946 гадоў» (с. 70—109; аўтар М. Плавец), «Дакументы» (с. 110—235).

Першы ўключае наступныя параграфы: «Міжнародныя сувязі», «Чэхаславацкае стаўленне», «Беларусы ў Празе», «Беларусы ў Празе пасля прагалошання беларусізацыі», «Расклад», «Выснова». У другім раздзеле прадстаўлены тэматычныя блокі «Беларускія аб’яднанні ў першай рэспубліцы», «Беларускае пытанне ў чэхаславацкім парламенце», «Беларускае пытанне пры перагаворах аб чэхаславацка-польскай федэрацыі ў час Другой сусветнай вайны», «Беларусы ў пратэктараце Чэхіі і Маравіі». Трэба адзначыць, што аўтары ўжо не першы год даследуюць закранутую тэму, выдатна дасведчаны ў выніках працы сваіх калег з розных краін. Пра гэта яскрава сведчыць апеляванне да багатай фактаграфіі, заснаваныя на дакументах аналітыка і высновы, 373 падрадковыя спасылкі і заўвагі, у якія часта ўлучаны ўказанні на дадатковыя крыніцы інфармацыі.

Раздзел «Дакументы» ў храналагічнай паслядоўнасці рэпрэзентуе вялікі блок фактаграфіі палітычнага і культурнага жыцця нацыянальнай эміграцыі ў чэхаславацкім і міжнародным кантэкстах. Першы дакумент датаваны 22 студзеня 1919 года, апошні — 4 лістапада 1950-га.

Усяго прадстаўлена 80 дакументаў са збораў дзевяці чэшскіх архіваў, толькі пералік якіх сам па сабе з’яўляецца адмысловым навігатарам для даследчыкаў у працы па выяўленні ў сённяшняй Чэхіі дакументальных сведчанняў беларускай грамадска-культурнай чыннасці ў Чэхаславакіі і іншых еўрапейскіх краінах больш чым за тры дзесяцігоддзі першай паловы XX стагоддзя:

- Нацыянальны архіў у Празе (Národní archiv v Praze);
- Архіў сталіцы Прагі (Archiv hlavního města Prahy);
- Архіў міністэрства замежных спраў (Archiv ministerstva zahraničních věcí);
- Архіў Карлава ўніверсітэта (Archiv Univerzity Karlovy);
- Архіў Канцылярыі прэзідэнта рэспублікі (Archiv Kanceláře prezidenta republiky);
- Архіў Акадэміі навук Чэшскай Рэспублікі (Archiv Akademie věd ČR);
- Архіў Інстытута імя Томаша Гарыка Масарыка Акадэміі навук ЧР (Archiv Ústavu Tomáše Garrigue Masaryka Akademie věd ČR);
- Архіў міністэрства ўнутраных спраў / Архіў службы бяспекі (Archiv ministerstva vnitra / Archiv bezpečnostních složek);
- Літаратурны архіў «Мемарыял нацыянальнага пісьменства» (Literární archive Památníku národního písemnictví).

Прыведзены пералік чэшскіх інстытуцый варты асаблівай увагі не толькі з азнаямленча-дапаможнага пункту гледжання. Да гэтага ў даследчыкаў-беларусістаў, па сутнасці, быў дастаткова апрабаваны адзін крыніцазнаўчы шлях — Сла-

вянская бібліятэка ў складзе Нацыянальнай бібліятэкі Чэшскай Рэспублікі. Публікацыя поўнага спісу выкарыстаных архіваў у нашым выпадку мае не ўласна фармальны, а канцэптуальны характар, паколькі наглядна дэманструе сённяшняе пашырэння магчымасцей архіўных пошукаў, змены ракурсаў асэнсавання, пастаноўкі і вырашэння беларускага пытання ў міжнароднай палітыцы міжваеннага перыяду, арганізацыі нацыянальнага жыцця (на правах эміграцыі або нацыянальнай меншасці) у шэрагу еўрапейскіх краін.

У кнізе чэшскіх даследчыкаў выкарыстаны таксама матэрыялы (у асноўным візуальнага характару) з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Улічаны асноўныя публікацыі па тэме спецыялістаў з Беларусі, Польшчы, Чэхіі і ЗША: Андрэя Бучы, Вітаўта Кіпеля, Вольгі Коваль, Уладзіміра Ляхоўскага, Алены Маркавай, Дароты Міхалюк, Захара Шыбекі і інш. («Выбраная бібліяграфія», с. 241—242).

Зыходнае стаўленне да дакумента ў спецыялістаў-гуманітарыяў рознае. У агульных рысах, для архівістаў — гэта каштоўнасць сама па сабе, прафесійная задача — выявіць, апісаць, захаваць. Гісторыкі ўлучаюць дакументы ў працэс графічнага мадэлявання і асэнсавання мінуўшчыны. Для літаратуразнаўцаў (да іх ліку належыць і аўтар гэтых радкоў), фактаграфічныя матэрыялы традыцыйна адносяцца да т. зв. фонавых ведаў ці інфармацыі. На сённяшнім этапе пераасэнсавання нацыянальнай гісторыі і культуры, калі многія ранейшыя кнігі, створаныя ў грамадскай парадыгме тэматычных табу, перасцярог і зададзенага міфалагізатарства, не вытрымалі выпрабавання часам, дакументы — адзіная магчымасць праўдзівага ўзнаўлення мінуўшчыны, справядлівай ацэнкі грамадскай дзейнасці, навуковай і творчай працы выбітных папярэднікаў. Сёння дакумент валодае аўтарытэтам гістарычнай праўды, чытаецца як самадастатковы мастацкі твор, а ў гуманітарыстыцы, асабліва літаратуразнаўстве, запатрабаваны міждысцыплінарны падыход.

Рэцэнзуемая кніга чэшскіх калег уяўляе сабой унікальны комплекс дакументальных сведчанняў. Іх каштоўнасць шматкроць павялічваецца, паколькі ўводзіць у навуковы ўжытак невядомыя матэрыялы, фактaлагічна дэманструе ўсе нюансы і ўнутраныя механізмы арганізацыі беларускага грамадска-культурнага жыцця ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду, пастаноўкі і адстойвання нацыянальнага пытання на ўнутры- і міждзяржаўным узроўнях. Упершыню ў навукова-выдавецкай практыцы рэпрэзентуюцца дакументы ўладных структур, дыпламатычных служб, а таксама дзяржаўных інстытуцый унутранай і знешняй бяспекі.

Сярод аўтараў афіцыйных зваротаў да прадстаўнікоў улады Чэхаславакіі вядомыя беларускія грамадска-палітычныя дзеячы: Антон Луцкевіч, Мікола Вяршынін, Пётр Крэчэўскі, Аляксандр Цвікевіч і інш. Прадстаўнікі малодшай генерацыі, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў Чэхаславакіі (Мікола Ільяшэвіч, Францішак Грышкевіч) дэманструюць у сваіх лістах цеснае супрацоўніцтва з інтэлектуаламі краіны. Кожны дакумент — гэта асобная гісторыя, якая ўлучае шэраг персаналій, падзей, сувязей лакальнага і міжнароднага фарматаў.

Дадаткі да манаграфіі выконваюць не толькі функцыі зручнасці карыстання выданнем (іменны і прадметны паказальнікі), тут прадстаўлена таксама зводная табліца «Формы беларускіх імёна» (с. 236—240), якая дазваляе правільна ідэнтыфікаваць згаданыя ў дакументах асобы — у сітуацыях рознага напісання паводле нацыянальных (імёнаслоўнай і арфаграфічнай) традыцый: беларускай, рускай, польскай, чэшскай. Шэраг фотаздымкаў, пададзеных у канцы кнігі, з'яўляецца важным візуальным дапаўненнем фактаграфіі выдання: перад чытачом паўстаюць партрэтныя і групавыя выявы прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, відзежы памятных мясцін, падзей нацыянальнага культурнага жыцця ў Чэхаславакіі і інш.

## Значэнне і навуковы патэнцыял выдання

Манаграфія «Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславакіі: Даследаванні і дакументы. Сацыяпалітычны аспект» (2017) Даніэлы Каленоўскай і Міхала Плавеца — гэта важная падзея навуковага жыцця, знамянальны факт міжнароднага супрацоўніцтва. Гэтую выснову, а таксама некаторыя магчымыя перспектывы плёну працы чэшскіх калег мы бяромся раскрыць у некалькіх выніковых тэзісах:

✓ Разглядаемая кніга выдадзена ў Празе, паводле фармальных характарыстык — па мове і магчымасцях распаўсюджання — разлічана ў першую чаргу на чэшскіх спецыялістаў; па фактуры і змесце дакументаў — на беларускіх гісторыкаў. Азначаная тут «фармальнасць» мае фігуральны характар: прадстаўленыя дакументы дэманструюць важныя нюансы гісторыі ўнутранай і знешняй палітыкі па нацыянальным пытанні самой Чэхаславакіі, а значыць і сучаснай Чэхіі як яе правапераемніцы.

✓ Паколькі ў манаграфіі асвятляюцца пытанні еўрапейскай палітыкі міжваеннага перыяду, актыўныя міжнародныя стасункі, сувязі нацыянальных эміграцыі ў Чэхаславакіі, яна будзе таксама карысная для навуковай працы рускіх, украінскіх, польскіх гісторыкаў, спецыялістаў па пытаннях эміграцыі і дыпламатыі.

✓ З выхадам манаграфіі Д. Каленоўскай і М. Плавеца істотна ўмацоўваюцца пазіцыі замежнай беларусістыкі.

✓ Кніга наглядна дэманструе магчымасці міжнароднага навуковага супрацоўніцтва, узаемазапатрабаванасць фондавых калекцый чэшскіх і беларускіх архіваў.

✓ Выданне можа быць паспяхова інтэгравана ў сучасную гістарыяграфічную практыку асэнсавання беларускага вопыту адстойвання нацыянальных інтарэсаў на міжнароднай арэне, арганізацыі грамадскай дзейнасці за мяжой, рэалізацыі шэрагу культурных праектаў.

✓ Манаграфія мае перспектывы стаць значным фактаграфічным укладам у справу гістарычнага асэнсавання праблем сучаснай еўрапейскай інтэграцыі, перадумоў фарміравання найноўшых алгарытмаў міжнацыянальнага і міждзяржаўнага супрацоўніцтва.



**Людміла ЗАРЭМБА**

# «ПЛАЧ ЯРАСЛАЎНЫ» ЯНА ЧЫКВІНА

*Метафарызацыя антрапанімікона*

Першадрук згаданага ў загалоўку «Плачу Яраслаўны» адбыўся 7 студзеня 1973 года на *Літаратурнай старонцы* літаратурна-мастацкага аб’яднання «Белавежа» (№ 168) у тыднёвіку «Ніва»[1], у 1975-м — з ім знаёміліся па «Беларускім календары»[2]. Затым верш быў уключаны ў кнігу «Неспакой»[3], у першы зборнік, выдадзены ў Мінску, «Светлы міг»[4] і апошнім часам — у «выбранае» «Адно жыццё»[5]. Нам вядомы таксама пераклад на польскую «Płacz Jarosławny» Elżbiety Feliksiak[6].

У анамастычным пласце лексікі рэгіструем прынцыповыя, як пабачым далей, тэксталагічныя перапрацоўкі: пачатковае «Немесіда» ад 1977 г. заўжды «Немезіда»; з 1989 г. верш друкуецца і без прысвячэння «Фларыяну Няўважнаму». У прамежкавым па часе, зразумела, аўтарызаваным пераўвасабленні E. Feliksiak (не пазней 1983 г.): «Nemezis» і «Fłorianowi Nieuważnemu».

Аўтарскія праўкі, настойлівасць узнаўлення твора ў колах адрозных чытацкіх аўдыторый і ў гістарычна малападобных (але звязаных дыялектычна) перыядах развіцця грамадства на працягу трох з паловай дзесяцігоддзяў выклікае да сябе ўвагу больш пільную, чым вымагаў бы звычайны бібліяграфічны пералік. На жаль, крытыка адносна гэтага заставалася доўгі час устойліва індыферэнтнай, хоць відавочна, што «Плач Яраслаўны» як (гіпатэтычна мяркуем) у свядомасці яго стваральніка, так адэкватна павінен паўстаць і ў нашым ацэначным падыходзе не столькі як іншамоўны пераспеў фальклорна-паэтычнага фрагмента пад умоўнай літаратуразнаўчай назвай, а сацыяльна арыентаваным, пераважна асобасначыквінскім творам.

Абранне ж у якасці адсылачнай першакрыніцы магутнага эстэтычнага комплексу «Слова пра паход Ігаравы» дадаткова надзяляла праблематыку новага тэксту значнасцю, а яго ідэйна-мастацкія каардынаты — якасцю дамінантных.

Такі літаратурны прыём інтэрпрэтацыі ў адносінах да «Плачу Яраслаўны» мае пад сабой глыбокае, даўняе і важкае апірышча. У зародку яно склалася яшчэ на пачатку XIX стагоддзя. Пры першай публікацыі старажытнай паэмы самавідцы рукапісу выдзелілі адрэзак, адасоблены, на іх думку, сюжэтна і стылістычна:

---

[1] Ніва (Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Беласток). 1973. № 1 (880). С. 3.

[2] Гл.: Чыквін Ян. Беларуская літаратура Польшчы: Бібліяграфічны даведнік: 1957—1998. Беласток, 1998. С. 44.

[3] Чыквін Ян. Неспакой. Беласток, 1977. С. 16—17.

[4] Чыквін Ян. Светлы міг. Мінск, 1989. С. 58—59. Пры публікацыі «згубілася» прысвячэнне Фларыяну Няўважнаму — выкладчыку, дарадцу і навуковаму кіраўніку Я. Чыквіна ў працы над творчасцю Л. Мартынава (звесткі Г. Твaрановіч). Магчыма, гэта звязана з тагачасным поглядам на гэту кнігу як выключна майстэрскае апяванне красы прыроды. (Гл.: П. Макаль. Зямныя вытокі // Ян Чыквін. Светлы міг. С. 5—7.)

[5] Чыквін Ян. Адно жыццё: Выбранае. Беласток, 2009. С. 63—64. Далей цытую па гэтаму выданню без спасылак.

[6] Czykwin Jan. Na progy świata: Wybór, wstęp i opracowanie Elżbieta Feliksiak. Warszawa, 1983. C. 46—47.

ад «Ярославнынъ гласъ…» да «…тугою имъ тули затче»[1]. Яны адзначалі: «Русскія жены оплакиваютъ смерть и плѣнъ мужей своихъ. *Игорева* супруга Княгиня *Ефросинія* (дочь Князя *Ярослава Владимировича Галичскаго*), оставшись въ *Путивлѣ*, возноситъ жалобный голосъ свой то къ вѣтру, то къ солнцу, то къ рѣкѣ Днѣпру»[2]. Эстэтычныя прыярытэты часу станаўлення рамантызму энергічна замацавалі як традыцыю назоў фрагмента «Плач Яраслаўны» (у помніку тройчы «Ярославна… плачетъ»), адвольна-паэтычнае яго пераасэнсаванне, сфармавалі папулярнасць у літаратурна-грамадскіх колах[3]. На працягу двух апошніх стагоддзяў заклінанне княгіні ўстойліва набывае якасці прэцэдэнта — становіцца мадэллю і сродкам дзеля кампаратыўнага раскрыцця зместу, ацэнкі сацыяльных востраактуальных з'яў (грамадска-палітычных ідэалагем, асоб, учынкаў і г. д.). Пры дыяхранічным зрэзе ў аксіялагічным полі гістарычных змен сярод мастацкіх праўвасабленняў асабліва выбітнай становіцца рухомасць асноўнай думкі і эстэтыкі старажытнага Плачу. (Нагадаем прыклады відавочнай моцнай карэляцыі: А. Вялюгін «Плач Яраслаўны», 1942—1943 гг. і яго ж «Пад чорным крыллем», 1993 г. На пачатку бягучага стагоддзя М. Г. Булахаў, дэманструючы багацце і патэнцыяльныя магчымасці народнай мовы, уключыў у сваю кнігу "Слово о плъку Игоревѣ" і Беларусь» 16 пераказаў старажытных узнёслых радкоў на сучасныя гаворкі асобных вёсак[4].) У рэчышчы такіх карэспандэнцый з аўтэнтыкам мэтазгодна разглядаць чыквінскую імпрэсію.

Яна аднаўлена ў рэгламентах строгіх форм раманскага сярэднявечча (магчыма, як свядомая процілегласць засяроджанасці нашага «Слова»-знаўства на славянскіх фальклорных вытоках). Напружаны вакатыў гераіні аўталагічнага мала роднiцца з арыгіналам: апрача ўмоўнай назвы толькі гістарычнымі рэферэнтамі «князь», «Святаслаў», «Ігар», «Яраслаўна», эпітэтам «Буй Тур», «рэчка Каяла», сюжэтным матывам сна/смерці Святаслава і да т. п. Ілюстрацыйны (тэатральна-дэкаратыўны, блізкі па мастацкіх дэталях да васняцоўскага палатна «Пасля пабоішча Ігара Святаславіча з полаўцамі») характар носяць замалёўкі «Князь Ігар… ляжыць — мядзвежа шкура разаслана», а таксама пяціpадкоўе:

Дружына ў зараслях чакае —
Імхом зялёным прараслі ім плечы…
І тонкімі бярозамі растуць з зямлі ім пікі.

Знешне могуць здацца штучна прыўнесенымі з грэчаскай антычнасці і такія вобразы, як «рака Лета», «Немезіда» з мячом у руцэ. Сярод аберацыйнай анамастыкі падкрэслена выдзелім, што героем верша, адрасатам звароту і адарацыі Яраслаўны абраны не вецер, Дняпро, сонца, а князь Святаслаў.

Паэт відавочна адыходзіць ад літаральнага падабенства Плачу як фігуры вакатыву (пасля Аўтарскіх уводзін — уласна зварот гераіні, які ўтрымлівае велічанне, дакор і маленне да пэўнай прыроднай стыхіі), ад прамога сэнсу слоў і выказвання да пераважнага скарыстання тропаў — метафарызацыйнага[5] поля. Гэта мае пад

---

[1] Слово о плъку Игоревѣ, Игоря, сына Святъславля, внука Ольгова // Энциклопедия «Слова о полку Игореве». СПб., 1995. Т. 1. С. 13. Старажытны тэкст далей цытую па апорным варыянце гэтага выдання.

[2] Ироическая пѣснь о походѣ на половцовъ удѣльнаго князя Новагорода-Сѣверскаго Игоря Святославича... М., 1800. С. VI.

[3] Багатая літаратура на гэты конт у падрадкоўніку: Каган М. Д. Ярославна // Энциклопедия «Слова о полку Игореве». СПб., 1995. Т. 5. С. 297; Зарэмба Л. І. «На Дунаи Ярославнынъ гласъ ся слышитъ…»: Плач Яраслаўны ў мастацкім асэнсаванні беларускіх перакладчыкаў // Зарембо Л. И., Шпаковский И. И., Яницкая С. С. Традиции древнерусской словесности и литературные формы нового времени. Минск, 2008. С. 8—47.

[4] Булахаў М. Г. «Слово о плъку Игоревѣ» і Беларусь. Мінск, 2000. Ч. 2. С. 181—189.

[5] Разумеем у шырокім сэнсе.

сабой глыбіннае эстэтычнае апірышча. Па агульнай думцы, «примарный слой художественных приемов как определенной целостности [вызначаецца найперш. — *Л. З.*] характером метафорического мышления автора С.[лова]. Метафора — главный из поэтич. тропов, с особенностями которого… согласуются в поэтич. системе все остальные»[1].

Таму ўспрыняты ў тэксце верша як асабовы, уласны антрапонім Святаслаў выклікае непаразуменне чытача. Ці маецца тут на ўвазе бацька Ігара Святаславіча Святаслаў Алегавіч, ці Вялікі Кіеўскі князь Святаслаў Усеваладавіч, або інтэрпаляцыя прадугледжвае тут фігуру Кіеўскага князя Святаслава Яраславіча — агульнага прадзеда Ігара Святаславіча, Усевалада Святаславіча і Кіеўскага Святаслава Усеваладавіча. (Як пабачым далей, светасузіранне, гісторыка-філасофскія погляды паэта робяць такія пытанні некарэктнымі, на іх немагчыма адказаць.) Імя Святаслава, як ніводная іншая графема, сем разоў прыводзіцца ў тэксце, ускосна аднаўляецца ў алюзіях, дзе акцэнтуюцца statiońучыя якасці героя. Выразная лексіка-семантычная двухсастаўнасць «святасць»+«слава» / «свет»+«слава» меліяратыўна ўзмацняецца ў кантэкстах паэтычных характарыстык «твая сіла», «твая слава», «дружа Святаславе», «о ўстань… у ярай славе», «мудры Святаславе», ўзбагачаецца дадатковым апатрапеічным значэннем:

Твой конь спыніўся над ракой Каялай,
Ён воду піў — вада спрыяла.
Твой конь спаткнуўся над ракою Летай…
Як быццам бы заглянуў у вочы смерці.
Ты спіш, о княжа, я ў гэта веру!

На карысць гэтага «працуе» і прыём свядомага перанасычэння наратыву гаворачай і латэнтнай антрапанімікай, якой няма ў старажытным варыянце. «Князь Ігар» сваёй устойлівай характарыстыкай вельмі адважнага ваяра нагадвае нам аб прыналежнасці да Святаславага гнязда (як фігуруе ў вершы, а не ў «Слове», — Вольгава). Празрыста-прыхаваная апелятыўнасць «Усе(-)валада Святаславіча» бачыцца чытачу ў эпітэце «Буй Тур», перанесенай са «Слова», таксама дзеля меліяратыва Святаслава.

Гэтае імя, паводле лінгвістычнай градацыі, адносіцца да віду дынастычных. У «Словаре русской ономастической терминологии» Н. Падольскай яно прыводзіцца сярод «княжацкіх» Уладзімір, Святаслаў, Усевалад, Андрэй[2]. Пра высокую ўстойлівасць «Святаслава» ў гэтай якасці сведчаць дадзеныя гістарычнага слоўніка Д. Данскога «Рюриковичи»: 14 персаналій ад III да XVI дынастычных пакаленняў, з іх пераважная большасць у VIII—X — восем (VIII — тры, IX — два, X — тры). Тыя ж гістарычныя крыніцы данеслі да нас звесткі таксама пра семярых Святаслаўнаў, з IX (пяць) і X (дзве) каленаў ад родапачынальніка[3]. З'яднаем лічбы:

---

[1] Лихачев Д. С. Поэтика «Слова» // Энциклопедия «Слова о полку Игореве». СПб., 1995. Т. 4. С. 171.

[2] Подольская Н. В. Словарь русской ономастической терминологии. Москва, 1978. С. 71. Сярод Рурыкавічаў па колькасці адпаведна: 22, 14, 11, 18 (Донской Д. В. Рюриковичи: Исторический словарь. М., 2008. С. XXIV, XXIX, XXII; 763—764, 769, 764, 762).

[3] Дзеля параўнання: «Яраслаўны» не зарэгістравана ўвогуле. Цікава далучыць да прыведзенай інфармацыю пра «вядучага канкурэнта» «Святаслава» — імя «Уладзімір» у Рурыкавым родзе на Русі. Яно набыло апагей сваей пашыранасці на адно калена пазней «Святаслава». Уладзіміраў у IV—XXI пакаленнях зарэгістравана 22, але з іх больш як палова (13) прыпадаюць на IX—XI, і ў XII пакаленні адна дачка Вялікага Кіеўскага Уладзіміра Рурыкавіча пайменаваная Уладзіміраўнай. Гл.: Д. В. Донской. Рюриковичи: Исторический словарь. М., 2008. С. XXIX, 769; XXIII, XXIV, XXV, XXVII, XXVIII, 763, 764, 766, 767, 768).

Зразумела, што гэтыя складнікі не вольныя ад пэўнай аберацыі (колькасць крыніц, абмежаванасць іх менавіта гістарычна-дакументальнай прыналежнасцю і да т. п.) ды ўсё ж яны даюць падставы прачытаць верш у новым асвятленні.

| Калены | Святаслаў | Святаслаўна |
|---|---|---|
| VII | — | 2 |
| VIII | 3 | — |
| IX | 2 | 5 |
| X | 3 | 2 |

Не забудземся, што дачка вербальна «нагадвала» бацьку, а сын — генеалагічна не раней, як дзеда, прадзеда. Напр: галоўны герой «Слова» Ігар Святаслаўлевіч (IX калена) — сын Святаслава Алегавіча (VIII калена) і ўнук Алега Святаславіча (VII калена). Апошні — сын Святаслава Яраславіча, заснавальніка чарнігаўскага адгалінавання Рурыкавічаў, г. зн. «Вольгавага гнязда».

Такога рода даведкі гавораць не толькі аб значнай пашыранасці індывідуальнага антрапоніма, але і, што для нас важней, уплывовасці, папулярнасці носьбітаў у шырокіх колах. Калі водсвет дзеянняў бацькі ўзвышаў на дзяржаўна-дакументальным узроўні нават дачку (асабліва ўражвае ў IX), то набывае рысы псіхалагічнай заканамернасці, што жонка Ігара Святаславіча, прыналежнага да IX, з велічаннем і мальбою звяртаецца прынамсі да Святаслава. Ён — максімальнае абагульненне Генія — сілы, святасці і славы прашчураў, на яго спадзяюцца ў крытычнай сітуацыі, ад яго чакаюць вырашальных учынкаў, дапамогі:

Буй Тур над рэчкаю Каялай,
Князь Ігар там цябе чакае…
Дружына ў зараслях чакае…
Стаіць над князем [Ігарам. — *Л. З.*] Немезіда,
І меч у руцэ блішчыць варожа.

О Святаславе, Святаславе,
Зямля сыра табе пасланнем!...
О, устань, вялікі ў ярай славе!..
Не ўсё яшчэ ўладкавана…

і да т. п.

Так, старажытны плач сваім зместам прысутнічае нібы ў «знятым стане» ў «Плачы…» XX стагоддзя. Яраслаўна ў Пуціўлі звярталася не да хрысціянскага Айца нашага на небесех, а язычніцкага пантэона, г. зн. адвечнага на Русі, багоў продкаў. У саміх хвале-велічанні і дакоры цяперашняму неспрыянню ўтрымліваецца ўжо мадэль спадзяванняў на моц папярэднікаў роду. Яна, думаецца, псіхалагічна скіроўвала Яна Чыквіна да асэнсавання айчыннай гісторыі ў пашыранай праекцыі як шляху-тэндэнцыі ад глыбокай мінуўшчыны да перспектыў будучыні. Фіярытура фрагмента перарасла ў самадастатковы, актуальны сёння метатэкст.

«Плач Яраслаўны», створаны ў 1972 годзе[1], сваімі алюзіямі, роднасцю пэўных матываў глыбінна карэспандуе са знакамітым «Словам аб паходзе Ігаравым», адрасуе да яго пафасу патрыятызму і канфедэрацыі, «учительной» скіраванасці падпарадкавацца волі і мудрасці старэйшага ў родавай, палітычнай іерархіі. Не будзе памылкаю кваліфікаваць уласны назоўнік «Святаслаў» як выразны канцэпт, дзе план зместу размеркаваны з прыгнечаннем дыфініцыйнага ядра (абрысы пэўнай, канкрэтнай асобы) на карысць перыферыйнай — кагнітыўнай часткі. Гэта значыць, што асноўная ўвага аўтарскай свядомасці засяроджана тут на выніку праекцыі—абагульнення рыс гістарычна-індывідуальных асоб, першаносьбітаў імя. Лінгвісты кваліфікуюць такую з’яву як «трансмутационный процесс, состоящий в трансформации энциклопедических знаний в элементы языкового сознания, элементов культурной семантики в языковую… Имя собственное преодолевает свой ономастический узус и функционирует вне своего первичного назначения, состоящего в идентификации

[1] Чыквін Ян. Адно жыццё, с. 64.

референта… Имя собственное [выступает как. — *Л. З.*] «накопитель» анеязыковай информации об объекте и его среде, уникальный «банк смыслов», которые при определенных условиях… становятся элементами… (контекстуального) значения»[1]. У адносінах жа да антрапонімаў устойліва замацаваўся наступны вывад: канцэпт імя ўласнага — гэта яго кагнітыўны аналаг, праекцыя індывідуальнага аб'екта ў свядомасці. Ядро антрапанімічнага канцэпту ўключае дэфініцыйныя семантычная адзнакі і дзякуючы таму не губляецца сувязь з рэферэнтам. Пазапанятыўная частка ядра і перэферыйная канцэпта развіваюць метафарычнае значэнне. Апошняе, на думку аўтара найноўшай доктарскай працы на гэты конт І. Ратнікавай, утрымлівае «1) ключевые события биографии референта; 2) его индивидуальные качества (особенности мировоззрения, характера, поведения, речи, внешности и т. п.); 3) историко-культурный фон деятельности индивидуума; 4) оценки индивидуума в общественном сознании; 5) этимологические, словообразовательные и фоно-символические характеристики антропонима»[2]. Складанасць ужывання nomen proprium «Святаслаў» на фоне традыцыйна разглядаемых выпадкаў у тым, што ў кантэксце верша сталася максімальна размытае дэфініцыйнае ядро назова — уяўленне аб рэферэнце як канкрэтнай гістарычнай асобе. Першасная метафарызацыя — на старажытнарускім часавым узроўні — увасабленне ўсяго роду Рурыкавічаў або/і ваяўнічага знакава пэўнага яго адгалінавання — Алегава гнязда. Другасная — звязана з утварэннем канцэпту, у якім захаваная стрыжнёвая сэнсавая рыса ўжо абагуленага рэферэнта ўзбагачаецца за кошт тэмпаральнага пашырэння і звужэння локуса. Вобраз энергічнага кіраўніка сярэднявечнай дзяржавы Русі прарастае (як падрабязней пабачым далей) ва ўяўленне паэта аб генетычнай патэнцыі і гістарычнай перспектыве роднай беларускай нацыі, убірае ў сябе станоўчыя імпульсы прыродных сіл ветру, Дняпра — Славуціча, сонца — шматвяковых багоў прашчураў.

Для дадзенага выпадку надзвычай выйгрышна спрацоўвае тая характарыстыка метафары, якая родніць яе з упадабленнем/проціпастаўленнем пэўных з'яў. Метафара — «блізкая да параўнання, аднак адрозніваецца ад яго тым, што мае толькі адзін член супастаўлення — тое, з чым супастаўляецца, а тое, што супастаўляецца, не называецца…»[3].

Магутнае метафарычнае поле «Святаслава» аб'ядноўвае вакол сябе ў гэтай якасці ўсю анамастыку верша Чыквіна: Яраслаўна, Каяла, Ігар, Лета, Немезіда.

Па думках медыявістаў, Яраслаўна — «один из самых поэтических персонажей», «народный образ», «горюющая жена», «стихия человеческой жалости»[4] ў старажытным помніку. Зразумела, што падобны характар меў многія падставы, каб імя яго носьбіта магло быць пераасэнсавана як патронім дэрывацыйнага ўтварэння. Ярыла — у міфалогіі славян — бог сонца і ўрадлівасці[5]. Яна — дачка (матрыманіяльнае адгалінаванне) з пакалення герояў і носьбітаў ярай славы. Яе закліванне звернута да мудрых папярэднікаў рода, увасабляючых святую славу, рыцарскую годнасць пераможцаў. Цяпер, у стане заняпаду айчыны, яна плача; і думкі, і душэўныя яе сілы скіраваны да адраджэння, узнаўлення Русі. У чыквінскім вершы адбываецца метанімізацыя старажытнарускага жаночага імя.

---

[1] Ратникова И. Э. Имя собственное: от культурной семантики к языковой. Минск, 2003. С. 11.

[2] Там жа, с. 155.

[3] Рагойша В. П. Паэтычны слоўнік. Мінск, 1987. С. 100.

[4] Каган М. Д. Ярославна // Энциклопедия «Слова о полку Игореве». СПб., 1995. Т. 5. С. 296.

[5] Піліпенка М. Ф. Ярыла // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Мінск, 1987. Т. 5. С. 695.

Ад становішча «захаду» (г. зн. ‘заняпаду, замірання, змізарнення’) да «ўсходу» Яраслаўна як захавальніца патрымоніума пракладае сцежку аўтарскіх інтэнцый і, зразумела ж, увасабляе здаровую, перспектыўную сутнасць духа Айчыны.

У гэтых акалічнасцях Чыквін падае вобраз Ігара найперш не смелым, прадпрымальным (як у «Слове»), не ў арэоле вайсковай адвагі, а як князя, які не збярог дружыну і згубіў повязі з магутнасцю даўніны бацькоў. Ён — паланёны, знямоглы, у стане нікчэмнага ўладарнага патэнцыялу, бо збочыў да эгацэнтрызму з рэчышча яднаня і падпарадкавання шматвяковай мудрасці папярэдніх пакаленняў. Значнасць ролі Ігара ў сістэме герояў заключаецца ва ўвасабленні антыноміі Святаславу і ўнутраным падпарадкаванні станоўчай вектарнасці вакатыва Яраслаўны. На заканчэнні верша чытаем паралелізм, які падае надзею на магчымасць усталявання гармоніі быцця:

…дзень і ноч — два крылы князя,
А ўсход і захад — Яраслаўны.

Што ж тычыць сэнсавай канатацыі ўласнага імя Ігар, то прымем да ўвагі, што ў «Слове» яно сустракаецца 29 разоў (дадаткова да іх прыметнікавых і па-бацькавых утварэнняў 10 і 1 раз[1]), Яраслаўна — 3 разы і 1 — прыметнік[2], а Святаслава: імя — 4 разы, імя па бацьку — 10, прыналежны прыметнік — 5[3]. Іншае якасна-колькаснае размеркаванне назіраем у вершы: Яраслаўна 2 разы і з іх 1 у загалоўку, Святаслаў — 7 разоў, Ігар — 1 раз. Так «Ігар» (ад старажытна-скандынаўскага «Ingvarr», старажытнарускае «Ін(ъ)гварь»[4]) набывае якасці эстэтычна прыгнечанага паказчыка, падпарадкаванага метафарычнай прасторы «Святаслаў», «Яраслаўна». Канцэптуалізацыя прадстаўляе яго як сумоўе анафарыстычнага займенніка «и» (‘известный…; тот, этот…; он…’; «родит. и дат. п. в знач. притяж. мест.»[5]) + назоўнік пэўнай семантычнай арыентацыі з корнем «—гор—». Гэта, зыходзячы з ідэі верша, можа быць база зразумела ж не лексем «горьнии» (‘небесный’), «гораздыи» (‘умелый’), «городъ»[6], а «гор/е», «горест/ь», «гории», «горько», «горькыи»[7] і т. п. Апошні выбар карэспандуе з адыёзным празваннем у «Слове» дзеда князя Ігара Алега Святаславіча «Алегам Гарыславічам». Спашлёмся тут на прыведзенае вышэй палажэнне, што ўнук мог насіць імя (або прazванне) папярэдніка, другога са знакам «мінус» пакалення ў родзе. Канатацыйнае асэнсаванне «Ігар» «учытваецца», раскрываючы ў вершы як бы прыхаваную метафарычнасць: перанос ацэначнасці наймення па шырокавядомым падабенстве — вайсковай палітыцы дэнататаў.

Як прадаўжэнне і развіццё думкі ўмоўнага ўзроўню разумеем увядзенне ў тэкст верша «нечаканага» (у адносінах да першакрыніцы) персанажа — багіні помсты «Немезіды». Міфаантрапонім гэты пасуе з грэчаскім міфалагічным патамонімам «Лета», а пры такой форме агучанасці ў адносінах метафарычнасці дазваляе гаварыць аб табуіраванасці балючай назвы падзей на Нямізе: згубнай міжусобіцы 1067 года як прадвызначэння разгрому іншаземцамі ў 1185-м.

Мы ўдзячныя А. Раманчуку, які эўрыстычна адзначыў і патлумачыў алітэрацыйна-асацыятыўную повязь тэматычна, здавалася б, вельмі аддаленых найменняў: «Асэнсаванне і ўсведамленне гэтага твора [«Слова пра паход Ігаравы». — *Л. З.*] адшукваецца ў тым жа пласце мастакоўскай свядомасці, дзе знаходзяцца і шматлікія іншыя класічныя ўзоры сусветнай культуры, антычныя міфы, гісторыя і літаратура, фальклор… Перагукванне *Немезіда — Няміга…* сумяшчае-пера-

[1] Словарь-справочник «Слова о полку Игореве». Л., 1967. Вып. 2. С. 147.
[2] Там жа, Л., 1984. Вып.6. С. 198, 199.
[3] Там жа, Л., 1978. Вып. 5. С. 108, 110, 112.
[4] Петровский Н. А. Словарь русских личных имен. М., 1984. С. 118.
[5] Словарь древнерусского языка (XI – XIV вв.): В 10 т. М., 1990. Т. 3. С. 436—438.
[6] Там жа, М., 1989. Т. 2. С.362, 355—356, 357.
[7] Там жа, с. 356, 361.

мешвае ўсе магчымыя пласты літаратурнай рэальнасці, упершыню злучаючы праз алітэрацыйныя фігуры ў вобразнай плыні такія розныя матывы і сімвалы»[1].

Па сутнасці, менавіта ў такім абранні аб'екта для перагуквання бачыцца магчымасць для развіцця сітуацыі ў класічны від лексікалізацыі тапанімічнай метафары. Шаноўная аўтар І. Ратнікава прадстаўляе яе як зададзенае з нагоды пэўнай грамадскай з'явы адшуканне ідэяй-актантам тапанімічнага канцэпту з адпаведным асацыятыўным фонам[2].

«Учытванне» па сугучнасці «Нямігі» ў вобразную сістэму верша толькі на першы погляд можа падацца штучным, бо высокая эстэтычная актуалізацыя гэтага слова ў помніку агульнапрызнаная (хоць і недастаткова абгрунтаваная даследчыкамі). Так, у «Энциклопедии «Слова о полку Игореве» чытаем: «Немига — небольшая река, приток Свислочи… Остается загадочным, почему о небольшой реке-ручье вспоминают и летопись и С.[лово] (последнее особенно высокопарно[3]: «Немизѣ кровави брезѣ»), не говоря при этом о куда более значит. Свислочи. И Всеслав, согласно С.[лову], «скочи влъкомъ до Немиги», т. е. именно Н.[емига] является здесь геогр. ориентиром, заменяющим в сознании автора С.[лова] и р. Свислочь и г. Минск»[4]. (Магчыма, што прапанаваная тут ніжэй сэнсава-стылістычная повязь «Нямігі» з «Каялай» утрымлівае адказ на «загадкавасць». Заўважым, што ў гэтым сэнсе наш гідронім роднасны для новага часу таемнасці назвы «Каяла/Каялы» ды і ўвогуле «темному походу неизвестного князя» (А. С. Пушкін).

Агульнапрынятая сёння назва старажытнай ракі мае літара-гукавую форму «Няміга». У «Слове ж аб паходзе Ігаравым» прадстаўлены два варыянты асновы «до Немиг/и» і «на Немиз/ѣ», «Немиз/ѣ кровави брезѣ»[5]. У «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 годам — выключна палаталізаваны модус «къ Немиз/ѣ» на «на Немиз/ѣ»[6]. (Дзеля супастаўлення: калі прыняць што родны склон адзіночны лік «Неми<u>зѣ</u>» у апошнім прыкладзе марфалагічна і фанетычна асімілятыўна каталізуе варыянт «бре<u>зѣ</u>» з-за другой палаталізацыі г/з у абодвух словах[7], то разам з астатнімі трыма выпадкамі «Немизѣ» (супроць гапакса «до Неми<u>ги</u>») утварае пераканаўчую гістарычна прыцягальную пазіцыю на сваю карысць. А таму як станоўчую з'яву адпаведнасці старажытнаму твору можна расцэньваць ужыванне М. Гарэцкім паралельных «паскакаў ваўком да Нямігі» (1922 г.), «панёсься ваўком з Дудутак на Нямігу» (1925 г.); «на Нямізе снапамі сьцелюць» (1922 г.), «на Нямізе сьцелюць галовы, як снапы» (1925 г.); «крывавыя Нямізіны берагі» (1922, 1925 гг.)[8]. На жаль, гэта адзіны з вядомых нам варыянтаў сярод беларускіх і рускіх перакладаў, дзе пісьменнік так паслядоўна прытрымліваецца арыгінала. У набліжаным да яго пераўтварэнні У. Каялы назіраем некаторую мадэрнізацыю: «да Нямігі з Дудутак», «на Нямізе снапы», «Нямігі крывавыя берагі»[9]. Беларуская гістарычная анамастыка дае для захавання асновы не звяртае ўвагі апірышча: «Няміга, адна са стараж. вуліц Мінска… У дакументах XVI—XVIII ст. наз.

---

[1] Раманчук А. Гарыць мая свяча: Творчая індывідуальнасць Яна Чыквіна. Беласток, 2000. С. 61, 62.

[2] Ратникова И. Э. Имя собственное: от культурной семантики к языковой. Минск, 2003. С. 111.

[3] Дакладней, відаць, было б сказаць: «трагически-возвышенно».

[4] Творогов О. В. Немига // Энциклопедия «Слова о полку Игореве». СПб., 1995. Т. 3. С. 310, 311.

[5] Слово о плъку Игоревѣ.., с.13.

[6] Полное собраніе русскихъ лѣтописей. С.-Петербургъ, 1908. Т. 2. Л. 62.

[7] Гл.: Гаспаров Б. М. Поэтика «Слова о полку Игореве». М., 2000. С. 420.

[8] Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры XI век – 1905 год. Вільня, 1922. С. 19; Гарэцкі М., Дзяржынскі У., Каравай П. Выпісы з беларускае літаратуры. М.; Л. 1925; Мінск, 1926. Ч. 1. С. 185.

[9] Старажытная літаратура ўсходніх славян XI—XIII стагоддзяў: Хрэстаматыя. Гродна, 2004. С. 171.

Нямізскай[1]». У якасці другой назвы ракі ў Мінску тая ж крыніца прыводзіць варыянт «Няміза»[2].

Інтуітыўна зыходзячы з гэтага паэт эксплiцыруе для беларускай мовы прадуктыўную і рэгулярную словаўтваральную мадэль, тоесную старажытнагрэчаскаму ўзору, — утварэнне назова паслядоўнікаў ад імя папярэднікаў: до́чкі тытана Акіяна → акіяніды, патомкі героя Геракла → геракліды, дачка цара Брыса → Брысеіда, выканаўца твораў Гамера → гамерыд[3] і т. п. Выбудоўваецца аўтарскі неалагічны матывавуючы ланцуг ад зыходнай лексемы «немиз/а» да матываванай «немез/ида» па марфалагічным (асноўным у беларускім словаўтварэнні) спосабе. Тым самым дадаткова замацоўваецца дзякуючы рэквізітам народнай этымалогіі асваенне запазычанага міфоніма, мастацкае «ўжыўленне» ў свядомасць Яраслаўны: «Немезіда» метафарызуецца вербальнай заменай «Нямігі» ў якасці грамадскай падзеі на Русі, пэўнага зместу і з пэўнымі наступствамі.

Нашы разважанні мэтазгодна дапоўніць анамастычнымі назіраннямі тэксталагічнага плана па гісторыі аўтарскіх перапрацовак верша. Адновім базавую інфармацыю: ад першапачатковага варыянта 1973 года ў 1977-м «Немесіда» → «Немезіда», а з 1989-га — знятае прысвячэнне. Такім верш прадстаўлены і ў публікацыі 2009 года, па ёй мы працавалі вышэй.

Мяркуем, твор перацярпеў змены ў ідэйнай скіраванасці: ад агульнапрынятай старажытнарускай праблематыкі да акцэнтуалізацыі ролі ў ёй беларускіх эпізодаў. Калі форма «немесіда» ўказвае толькі і выключна на вытокі, паралелі з грэчаскай мовай (nemesaō — ‘справедливо негодую’), то найбольш вядомае з неасноўных імён багіні «Немезіда» дазваляе ўтварыць асацыятыўную роднаснасць па сугучнасці, а затым і іншым канатацыям з Нямігай.

Магчыма, што ініцыятарам працы Яна Чыквіна над пераўтварэннем Плачу быў русіст па спецыяльнасці Ф. Няўважны (такая форма работы са студэнтамі над помнікам і да нашага часу мае распаўсюджанне). Разам з выспяваннем асобаснага светасузірання, нацыянальна арыентаваных мастацкіх вектараў, Чыквін палічыў мэтазгодным не абазначаць першы варыянт як адлюстраванне-імітацыю, перайманне агульнапрынятага (што заўсёды яму надзвычай непрыемна), а пераўвасобіць Плач у новых рэквізітах, адпаведных сваёй канцэпцыі даўніны. Яе аўтар лічыць патрэбным удасканальваць толькі ў дачыненні праёмаў раскрыцця як найбольш рухомага інструментарыя (у процілегласць выспяванню сэнсаў). Так мы тлумачым з’яўленне даты «1972» пад варыянтам 1989 года на старонках выдання 2009 года[4].

Неардынарныя мастацкія вырашэнні ідэйнай праблематыкі «Слова», імкненне асэнсаваць яе з рэгіянальна беларускіх пунктаў поглядаў на гістарычныя эпізоды мелі плённым наступствам навацыі і ў галіне эстэтыкі.

Па сутнасці перад намі тыповая для Чыквіна мадэль суадносін гістарычных пакаленняў, паводле якой піетэт, надзея і спадзяванне адрасуюцца носьбітам станоўчых вытокаў гісторыка-культурных нацыянальных кодаў, без моцы якіх маладое пакаленне не здольнае справіцца з трагічнай праблематыкай сучаснага яму быцця. Нездарма ж, багіня помсты пагражае князю Ігару, бо ён адступіў ад гэтага пастулата.

---

[1] Загарульскі Э. М. Няміга, Няміза; Няміга // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Мінск, 2000. Т. 11. С. 409.

[2] Там жа.

[3] Гл.: Мифологический словарь / Гл. ред. Е. М. Мелетинский. М., 1991. С. 413, 143, 149, 101.

[4] Чыквін Ян. Адно жыццё…, с.64.

Жанна ШАЛАДОНАВА

# СПАСЦІЖЭННЕ «ІНШАГА»: ВЕКТАРЫ МАСТАЦКА-КУЛЬТУРНАГА ДЫЯЛОГУ

Сучаснае літаратуразнаўства ў якасці аднаго з прыярэтэтных кірункаў даследаванняў вылучае праблемы камунікатыўна-рэцэптыўнай эстэтыкі, праяўляючы зацікаўленую ўвагу да пытанняў міжкультурнага ўзаемадзеяння паміж народамі. Камунікатыўнасць — гэта анталагічная характарыстыка чалавека. Менавіта Іншы як саўдзельнік камунікатыўных працэсаў, раўнапраўнага дыялогу выступае фундаментальнай асновай, гарантам быційнага існавання суб'екта, удзельнічае ў яго сцвярджэнні, здзяйсненні і рэалізацыі. Яшчэ ў Бібліі сказана: «Калі Я сведчу Сам пра Сябе, то сведчанне Маё не ёсць ісцінае. Ёсць іншы, хто сведчыць пра Мяне, і Я ведаю, што ісцінае тое сведчанне, якое ён сведчыць пра Мяне». (Ін 5: 31—32). Феномен Іншага заўсёды быў у цэнтры развіцця гуманітарнай думкі, выклікаючы зацікаўленасць вучоных, пісьменнікаў, філосафаў. М. Бахцін лічыў міжасабовую камунікацыю дамінуючым пачаткам чалавечага існавання, а Іншага гарантам не толькі ісціннасці ведаў пра свет і пра сябе, але і ўмовай і гарантам спасціжэння гэтых ведаў увогуле: «...сапраўднае жыццё асобы здзяйсняецца як бы ў кропцы... несупадзення з самім сабою, у кропцы выйсця яе за межы ўсяго, што яна ёсць як рэчыўнае быццё» [1, с. 13]. Ж.-П. Сартр звярнуў увагу на цэласнасць і паўнакроўнасць пазнання ўнутранага свету індывіда толькі пры ўмове існавання іншага: «...мне патрэбны іншы, каб цэласна спасцігнуць усе структуры свайго быцця» [4, с. 342]. Пра блізкасць канцэпцый сведчыць вектарнае падабенства ключавых пастулатаў. У М. Бахціна гэта «Я-для-сябе», «Я-для-іншага», «Іншы-для-мяне»; у Ж.-П. Сартра: «Быццё-ў-сабе», «Быццё-для-сябе», «Быццё-для-іншых». Мысліцелі аднолькава перакананы ў вызначальна камунікатыўных якасцях чалавека, у жыццёва неабходнай перспектыве судакранання яго з Іншым.

«Дыялагічныя адносіны» прадугледжваюць адкрытасць свядомасці і паводзін чалавека навакольным уражанням і стасункам, датычацца не толькі непасрэдных кантактаў паміж людзьмі, народамі, але і ахопліваюць тэксты і іншыя помнікі культуры. У агульную камунікатыўную плынь арганічна ўключаны дыялог культур, якія пры імкненні захаваць свой суверэнітэт ва ўмовах глабалізацыі, узаемна дапаўняюць адна адну і набываюць новыя імпульсы развіцця як вынік узаемапазнання. Калі адна культура глядзіцца ў люстэрка іншай, яна бачыць сваё адлюстраванне, адрознае ад іншанацыянальнага кантэксту і адначасова ўзбагачанае ім. У выніку глыбей усведамляецца ўласная ўнікальнасць, непаўторнасць, ідэнтычнасць. Такім чынам, суадносіны «свайго» і «чужога», асаблівасці ўспрымання «чужога» і пазнанне, ідэнтыфікацыя, самавызначэнне праз гэтыя працэсы «свайго» ўтвараюць важнейшыя рычагі міжкультурнага ўзаемадзеяння. Вызначальнымі фактарамі ў гэтых працэсах выступаюць традыцыйны досвед, агульначалавечыя духоўна-культурныя каардынаты, гісторыка-кантэкстуальная абумоўленасць і светапоглядная пазіцыя рэцыпіента (аўтара), яго настроенасць на канструктыўны дыялог, здольнасць да жывога і зацікаўленага рэагавання на прэцэдэнт «інакавасці» (іншасці). Гнасеалагічна апраўданай умовай плённасці і паспяховасці дыялагічных узаемаадносін нам бачыцца імкненне ў іх працэсе да згоды і паразумення, а не да супрацьстаяння і канфрантацыі, наўмыснага ігнаравання ці нават прыніжэння пэўных феноменаў іншанацыянальнага свету.

З часоў антычнасці асаблівасці, норавы, «дзівацтвы» іншых народаў апісваліся Страбонам, Герадотам, Тацытам, Плініем, Платонам і Арыстоцелем. Г. Гачаў звярнуў увагу, што «яшчэ ў старажытным Егіпце сяміты выяўляліся белымі, негры чорнымі, егіпцяне жоўтымі, лівійцы чырвона-карычневымі. Потым грэкі заўважылі нашмат большую колькасць людзей, на сябе не падобных, і назвалі іх «этнасы» (ад грэч. — народ, парода)». Знакамітая паэма вандраванняў «Адысея» (VIII ст. да н. э.) дэманструе ўнікальны мастацкі вопыт спасціжэння і інтэрпрэтацыі «іншасці». Галоўны герой, які «многих людей города посетил и обычаи видел» (пер. В. Жукоўскага) трансфармуе свае ўражанні ў каларытныя і маляўнічыя замалёўкі чужаземных краін, гарадоў і нораваў.

У XVIII ст. навуковы інтарэс да названай праблематыкі акрэслены ў працах Ш.-Л. Мантэскьё, І. Гердэра і інш. У XIX ст. Х. Штэйнталем і М. Лацарусам пастаўлена задача стварэння навукі «псіхалогіі народаў», якая прадвызначае іх лад жыцця і культуру. З сярэдзіны XX ст. спецыфіка ўзаемадачыненняў «свайго» і «чужога» знаходзіцца ў цэнтры ўвагі імагалогіі (ад лац. imago — вобраз) — вобласці ведаў і інтэгратыўнай дысцыпліны, якая вывучае рэцэпцыю і рэпрэзентацыю свайго свету і свету іншых. У сучасных даследаваннях дысцыпліна трактуецца дастаткова шырока і ўніверсальна, ва ўвязцы з культурна-грамадскай свядомасцю, як форма светапазнання ўвогуле. «Прадметам імагалогіі па Г. Дызерынку стала вывучэнне духоўнага вобраза пэўнага народа з пункту погляду іншай нацыянальнай свядомасці. Вучоны адзначыў, што менавіта літаратура з'яўляецца важнейшай, хаця і не адзінай крыніцай ведаў пра іншыя народы і культуры, бо менавіта ў мастацкіх творах фарміруюцца найбольш тыповыя мадэлі кітчавага або іміджмейкерскага мыслення» [3, с. 18—19]. На істотную ролю вобразаў іншанацыянальнага ў самаідэнтыфікацыі звярнуў увагу В. Хораў: «Вобразы чужога жыцця складваюцца ў традыцыю, у інварыянтныя ўстойлівыя структуры свядомасці, што ахінаюць гістарычны вопыт сваёй нацыі. Яны не толькі ўзбагачаюць веды пра іншы народ, але і характарызуюць уласную этнічную ментальнасць… Імагалагічны падыход скіраваны на вывучэнне комплексу ўзаемасувязей духоўнай культуры двух народаў» [6, с. 10—11]. Сучаснымі даследчыкамі акцэнтуецца ўвага на тым, што першаступеннымі момантамі ў трактоўцы вобразаў іншанацыянальнага ў літаратуры выступаюць не так іх эстэтычныя характарыстыкі і сэнсавая змястоўнасць, як праяўленне ментальна абумоўленых структур успрымаючай свядомасці. Украінска-польская даследчыца С. Андрусіў падкрэслівае значнасць таго, «хто гаворыць, што гаворыць і для каго гаворыць. Таксама важна ў першую чаргу звярнуць ўвагу і на самога апавядальніка» [3, с. 26].

Мастацкая літаратура здольная найбольш паўнакроўна і пераканальна ўвасобіць вобраз іншай краіны, перадаць быт і норавы яе насельнікаў, яскрава абазначыўшы пры гэтым аўтарскую пазіцыю, фарміраванне і развіццё стэрэатыпаў, іх дынаміку а таксама ролю ў разгорнутых аўтахарактарыстыках успрымаючага боку. Розныя ўмовы жыццядзейнасці паўплывалі на спецыфіку светапоглядных уяўленняў таго ці іншага народа, асаблівасці характару, паводзін, стасункаў, фарміраванне разумова-лагічных структур свядомасці. Усе гэтыя параметры могуць вельмі адрознівацца. Тое, што з'яўляецца вызначальным і запатрабаваным у адной гісторыка-культурнай традыцыі, можа падацца зусім неістотным у другой. Традыцыі прадвызначаюць звычкі, манеру паводзін, прыярытэты жыхароў краіны, афармляюць і ўпарадкоўваюць нацыянальную карціну свету. Важным фрагментам у яе ўзнаўляльнай структуры выступае стэрэатып. На думку В. Хорава, стэрэатыпы з'яўляюцца пэўнай формай генералізацыі асобных з'яў, яны ўніфікуюць уяўленні пра этнічныя і грамадскія групы, інстытуты, з'явы культуры, асобы, падзеі і г. д., валодаюць выключнай сілай пераканання і інерцыі дзякуючы зручнасці і лёгкасці іх успрыняцця і выкарыстання. Фарміраванне стэрэатыпаў як правіла адбываецца ў працэсе стасункаў паміж народамі, на якія ўздзейнічаюць гістарычны вопыт узаемаадносін, грамадскія настроі, каштоўнасная шкала,

асабістыя ўражанні як на культурным, так і на бытавым узроўні. Традыцыйна за пэўнымі народамі ўжо замацаваны пэўны «багаж» асаблівасцей, якія ўражваюць менавіта непадабенствам, ступенню адрознасці. Уражанні могуць быць станоўчымі і негатыўнымі, не заўсёды адпавядаць рэальнасці, аднак заўсёды маюць ацэначны характар, пазначаны эмацыянальнай афарбоўкай і прэвалюючай суб'ектыўнасцю, бо ствараюцца на аснове ўласнага вопыту, нацыянальна арыентаваных каштоўнасных норм і зацікаўленняў. Захаванне этнацэнтрычнай дамінанты ў працэсе кантактаў паміж рознымі народамі тлумачыць абвостранасць успрымання адрознага, якое трактуецца спрошчана, прымітыўна, па заніжанай ацэначнай шкале, нават як дзівацтва. Суб'ектыўны характар нівелюе паняцце пра ісцінасць або падманнасць стэрэатыпаў, у выніку чаго яны ўсведамляюцца як дадзенасць, рэальнасць, карысны вопыт стасункаў іншых, з якім варта лічыцца ў мэтах больш лёгкай уласнай адаптацыі і арыентацыі ў іншакультурным асяроддзі, якое набліжаецца, пераўтвараецца ў больш даступную, зразумелую і ўжо засвоеную прастору яшчэ да непасрэднага знаёмства з ёй. Таму стэрэатыпы значна эканомяць час і намаганні па засваенні іншага. У камунікатыўна-творчым акце аўтар, як правіла, абапіраецца на ўласны вопыт, асабістыя ўражанні, рэальныя факты і з'явы і калектыўныя памкненні іх успрыняцця і асэнсавання (у выглядзе стэрэатыпаў таксама) з тым, каб прадставіць каларытны, цэласны і запамінальны малюнак-прэзентацыю іншакультурнага, іншанацыянальнага асяроддзя. Яшчэ ў XIX ст. У. Сыракомля ў вершы «Бусел» (1849) у вобразна-паэтычнай форме дасціпна, лаканічна і дакладна выявіў пазнаваўчую абумоўленасць, паслядоўную логіку і патрыятычную заангажаванасць адмысловага працэсу спасціжэння Іншага:

Добра на вырай ляцець цяплейшы,
Пабачыць дзівы ў чужбіне,
Сонца над Нілам агонь яснейшы
І думаць думку пра край тутэйшы [5, с. 37].

Адмысловая логіка ўзаемадачыненняў «свайго» і «чужога» адлюстравана і ў сюжэтна-падзейнай канве гутаркі У. Сыракомлі «Жменя пшаніцы» (1856) ва ўвязцы з паглыбленным адчуваннем прасторы жыццёвага сэнсу. Войт Сцяпан у рашэнні перадаць уладу аднаму з трох сыноў, накіроўвае іх з даручэннямі ў розныя краіны. Два старэйшыя вярнуліся з Германіі і Польшчы ў захапленні чужымі звычаямі і манерамі і, як вынік, з пагардліва-грэблівым стаўленнем да свайго, мясцовага ладу жыцця. Малодшы сын з Украіны прывёз уражанні і… жменю пшаніцы, каб засеяць ёю родныя палеткі. Сымон з тыпова беларускай практычнасцю і разважлівасцю вылучае дзве найбольш уразіўшыя яго дамінанты украінскай жыццепрасторы — бязмежны стэп і ўрадлівая пшаніца.

— Добра, — кажа, — у старане той,
І сляпцу відаць далёка:
Стэп, пакуль сягае вока,
Стэп, здаецца, на паўсвета [5, с. 173].

…Вось адно хіба — пшанічка!
Рэч зайздросная ў тым краі!
Кожны колас, быццам бічык,
Ніва з небам размаўляе! [5, с. 174]

Здольнасць да пазнавання і плённага засвойвання «іншага» вопыту сталіся вызначальнымі аргументамі ў рашэнні прызначыць войтам менавіта Сымона.

Трохі клёкаў тых дзівосных
Я сабраў у торбу ўпотай.
Прычакаем — прыйдзе восень
Украінскіх намалотаў.
Я па жменьцы ўсім адразу
Дам для добрага пачатку [5, с. 174].

Прадуктыўна скарыстаны аўтарам вобраз зерня традыцыйна мае павышаную знакавасць і ў гутарцы ўспрымаецца не на павярхоўна-побытавым узроўні, а як дэманстрацыя неўтаймоўнай моцы прыроды, жыцця, важны элемент асобасна-нацыянальнай ідэнтыфікацыі, сімвал неабмежаванага ведання. Такім чынам Сыракомля прапанаваў своеасаблівую стратэгію камунікатыўнага пазнання і ўзаемаўзбагачэння вопытам «іншасці».

Вобразы Іншага ў арыгінальнай мастацкай інтэрпрэтацыі мэтазгодна разглядаць як важны фактар у развіцці нацыянальнай свядомасці, уплывовы чыннік фарміравання ўласнай ідэнтычнасці. Пры гэтым найбольш адэкватнае і паўнакроўнае засваенне Іншага дасягаецца шляхам прытрымлівання важнейшых прынцыпаў міжкультурнай камунікацыі: узаемапавагі і канструктыўнай настроенасці на дыялог. Мастацкія тэксты, зарыентаваныя на «іншанацыянальны матэрыял», даносяць да чытача разнастайныя і каларытныя вобразы іншай краіны, перадаюць асаблівасці індывідуальна-аўтарскага ўспрымання, змяшчаюць ментальную абумоўленасць, магчымую стэрэатыпнасць. Іншанацыянальны мастацкі дыскурс уплывае на вобразна-тэматычнае поле беларускага прыгожага пісьменства, пашырае абсягі пазнання народаў свету і больш выразна акрэслівае беларускую нацыянальна-культурную прастору. У сувязі з гэтым у кантэксце беларускай культуры будзе актуальнай думка Ю. Лотмана аб тым, што «чужая цывілізацыя выступае для рускай культуры як своеасаблівае люстэрка і кропка адліку, і асноўны сэнс цікавасці да «чужога» ў Расіі традыцыйна з'яўляецца метадам самапазнання» [2, с. 748]. Нарастаючыя імпульсы насычанага і прадуктыўнага культурнага ўзаемаабмену прыкметна ажыўляюць айчынны літаратурны працэс, выклікаючы ў ім заканамерны рэзананс, прыкметнае ўзбагачэнне ідэйна-вобразнага, жанрава-тэматычнага дыяпазону. Праз асэнсаванне феномена Іншага беларускае мастацтва слова ўзмацняе патэнцыял ўзаемадзеяння з перадавымі еўрапейскімі тэндэнцыямі духоўна-інтэлектуальнага развіцця.

## Літаратура:

1. Бахтин, М. М. Проблемы поэтики Достоевского / М. М. Бахтин. — М.: Худож. лит., 1972. — 470 с.

2. Лотман, Ю. Современность между Востоком и Западом // Лотман, Ю. История и типология русской культуры / Ю. Лотман. — СПб: Искусство, 2002. — 768 с.

3. Никольский, Е. В. Роман Всеволода Соловьёва «Княжна Острожская»: проблемы имагологии и идеологии / Е. В. Никольский. — М.: ЛЕНАНД, 2014. — 176 с.

4. Новейший философский словарь / Гл. науч. ред., сост. Грицанов А. А. — Минск: Книжный Дом. — 2003. — 1280 с.

5. Сыракомля, У. Выбраныя творы / У. Сыракомля. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 528 с.

6. Человек на Балканах глазами русских / Отв. ред. Р. П. Гришина, А. Л. Шемякин. — СПб.: Алетейя, 2011. — 344 с.



**Васіль ШУР**

# ОНІМНАЯ ГУЛЬНЯ ЯК МАСТАЦКІ ПРЫЁМ І СРОДАК ЭКСПРЭСІІ Ў ТВОРАХ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ І ФАЛЬКЛОРЫ

*Онімная гульня* спецыялістамі кваліфікуецца як выразны кампанент вобразнай сістэмы ўласных іменаў у мастацкім творы. Яна адзін з эфектыўных спосабаў стварэння выразнага стылёвага эфекту ў мастацкім тэксце. У лінгвістыцы сфарміравана некалькі арыгінальных падыходаў да яе вывучэння і апісання. Так, з'явіліся даследаванні, прысвечаныя аналізу гэтай з'явы (гульні) на матэрыялах мовы сродкаў масавай інфармацыі, фальклору, асобных мастацкіх твораў (гл. публікацыі даследчыкаў Данецкай анамастычнай школы: працы В. Калінкіна, Н. Мудровай, а таксама Т. Грыдзінай, Э. Краўчанка, Р. Шабалава і інш.). Б. Норман у сваёй арыгінальнай кнізе «Язык: знакомый незнакомец» (1987) у заключнай частцы тлумачыць сутнасць тэрміна *«гульня»*, ужываючы яго ў больш вузкім сэнсе: *«занятак, што значыць забаўляцца, весяліцца словамі, гукамі»*. Даследчык сведчыць, што з дзяцінства ўсім знаёмая своеасаблівая гульня пра сапсаваны тэлефон і падобныя вольнасці. У больш дарослым узросце забаўляюцца рэбусамі, шарадамі, красвордамі і чайнвордамі, паліндронімамі. Усе падобныя гульні, несумненна, карысныя: яны развіваюць моўную памяць, фантазію, іншыя моўныя здольнасці. Для лінгвіста гэта даволі цікавы аб'ект назірання і роздуму. А ўпершыню тэрмін *моўная гульня* выкарыстаў аўстрыйскі філосаф і логік Людвіг Вітгенштэйн.

Звычайна пад такой гульнёй разумеюць моўны жарт, свайго роду *«славесную форму»* або «цэласны тэкст, абмежаваны аб'ёмам (магчыма, таксама аўтаномны элемент тэксту з камічным зместам)» (В. Макіенка). Ёсць каля дванаццаці спосабаў стварэння моўнай гульні. Назавём некаторыя, самыя частыя: 1. парушэнне ў апісанні лагічнай, часавай і прасторавай паслядоўнасці; 2. перабольшванне і як яго разнавіднасць — *гіпербалізацыя*; 3. змяншэнне (памяншэнне) спосабам *літоты*; 4. паўтарэнне сінанімічных або блізкіх значэннем слоў і сінтаксічных канструкцый; 5. ажыўленне зыходнага значэння (вобраза) фразеалагізма; 6. абыгрыванне гукавога і сэнсавага значэння слоў у абмежаваным тэксце (напрыклад, у фразеалагізмах); 7. ужыванне незвычайных метафар, параўнанняў; 8. выкарыстанне самых розных тропаў: *алегорыя, метанімія* і г. д. На наш погляд, моўную гульню паслядоўна ў беларускай драматургіі ўмела выяўляў і даследаваў В. Рагаўцоў, не ўжываючы гэтае тэрміналагічнае спалучэнне, у тым ліку і на шматлікіх антрапонімах і тапонімах, выкарыстаных як мастацкі сродак у творах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка і інш.

У сучасных лінгвістычных тэорыях і канцэпцыях сустракаюцца самыя розныя вызначэнні феномена моўнай гульні. Так, пад гэтай моўнай з'явай некаторыя даследчыкі разумеюць факты вольнага абыходжання з формай маўлення, з мэтай павялічэння яго выразнасці або стварэнне камічнага эфекта, калі пэўныя адхіленні, *«свабодныя, вольныя адносіны да асобных слоў, да формы маўлення і яе рэалізацыі атрымліваюць эстэтычную зададзенасць, нават самую сціплую»* (Т. Грыдзіна, Е. Земская, В. Саннікаў). Н. Аруцюнава разглядае яе як *«анамалію», усвядомленую на фоне нормы*». Б. Норман яе кваліфікуе як *«рэалізацыю асіметрыі моўнага знака і парушэнне сістэмных адносін паміж знакамі»*, Р. Якабсон

*«як праяўленне функцыі мовы пры мадэляванні эфекту балакання і вастраслоўя, а таксама тропавых кампанентаў мастацкага тэксту».* У якасці рэалізацыі моўнай гульні ў творах літаратуры, фальклоры найчасцей выступаюць жарт, каламбур, вострае нечаканае выказванне, розныя віды тропаў (параўнанні, метафары, перыфразы і г. д.).

У лінгвістыцы, літаратуразнаўстве некаторыя ў тэкстах уласцівасці часу, прасторы па-мастацку ўмоўна расцягваюцца або сціскаюцца (параўн.: сюжэт паэмы *«Тарас на Парнасе»* і інш.). Такі працэс М. Бахцін называў *«суб'ектыўнай гульнёй з часам».* Удалым класічным прыкладам онімнай гульні ў беларускай літаратуры XIX ст. з'яўляюцца неверагодныя прыгоды, своеасаблівая гульня палясоўшчыка Тараса з Пуцявішча, што пад Віцебскам, на антычную гару *Парнас* у Грэцыі. Аповед палясоўшчыка пра такія прыгоды, як піша З. Тычына, цікавы сваімі лінгвістычнымі асаблівасцямі, сярод якіх можна вылучыць: 1) парушэнне часава-прасторавых законаў і ўяўленняў, якое ўласціва нам, сучаснікам; 2) існаванне своеасаблівай логікі сну; 3) адлюстраванне ў паэме К. Вераніцына народных уяўленняў пра тое, што сон — шлях у іншасвет, што ў сне душа можа аддзяляцца ад цела і падарожнічаць [4, с. 10]. У розных пісьменнікаў такая гульня са словам можа адбывацца вельмі спецыфічна. Так, онімная гульня ўласціва шматлікім фальклорным творам. У займальнай форме, у народных прыпеўках, запісаных Максімам Лужаніным на радзіме Я. Коласа, абыгрываюцца імёны першых уладальнікаў Нясвіжа: каламбурна супастаўляюцца іх прозвішч і сугучныя ім апелятывы — аманімічныя агульныя назоўнікі*: Калі правілі Кішкі, / Выдзіралі нам кішкі, / А прыйшлі Радзівілы — / Рвуць і кішкі і жылы. / Не даваліся Кішку / Мы ў шырокую кішку, / А князь Радзівіл цішкам / Нас глынуў разам з Кішкам* [2, с. 63].

У зборніку «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы», складзеным Ф. Янкоўскім, ёсць нават асобны раздзел «Добразычлівыя і жартоўныя пажаданні. Жарты. Каламбуры». Усім пададзены прыклады абыгрывання онімаў з мэтай дасціпнага і часам нечаканага супастаўлення іх з агульнымі лексічнымі адзінкамі або іх формамі:*— Як завуць ? — А як за (Вуць — назва ракі — В. Ш.), дык і Церахоўка; Падкузміў Кузьма Дзяміда; Паддзямідзіў Кузьма Дзяміда; Дзядзька Піліп, ці ты да лаўкі прыліп? Ішоў Тодар з Тадораю, знайшоў лапаць з абораю. — Ой ты Тодар, я Тадора, табе лапаць, мне — абора.* Паходжанне некаторых каламбураў растлумачыў Ф. Янкоўскі: *рэчка Вуць*, а за рэчкаю *Церахоўка.* Такая гульня заснавана на сугучнасці *завуць* і *за Вуць*; *Шляхам, шляхам, да самай Гразі* — каламбур з Мсціслаўшчыны, заснаваны на супадзенні слоў: *гразь* — бруд і *Гразь* — назва вёскі. На гасцінцы з Мсціслава на Смаленск вясною, восенню многа гразі. Звычайна такія каламбуры ствараюцца ў межах з некалькіх радкоў, у якіх рыфмуюцца самыя разнастайныя лексічныя, фразеалагічныя і іншыя моўныя адзінкі. Сярод стылістычных фігур, заснаваных на моўнай гульні, з'яўляецца каламбур, што тлумачыцца асаблівасцямі яго пабудовы (свядома выбіраюцца розныя лексічныя сродкі — полісеманты, амонімы, паранамазы, антонімы, фразеалагізмы і інш.).

Прыкладамі рэалізацыі ўмелай фанетычнай моўнай гульні ў словах — разнастайныя *алітэрацыі.* У вершах Р. Барадуліна — гэта эстэтычна вывераныя паўтарэнні аднолькавых або блізкіх зычных для ўзмацнення гукавой выразнасці паэтычнай мовы, што дасягаецца прадуманым падборам метафар, каламбурных слоў. Самыя розныя алітэрацыі ў яго паэзіі — неад'емны кампанент гульні — выразных нечаканых метафар, частых каламбураў. Імі ствараюцца разнастайныя зрокавыя і слыхавыя вобразы і іншыя *«паэтычныя вольнасці».* І. Лепешаў, каменціруючы майстэрства паэта, прыводзіць яго верш «Матылёк». У ім усяго 66 слоў (разам з 15-ю службовымі), гук *л* паўтараецца 58 разоў [3, с. 76]. Гульня рэалізуецца, гаворачы словамі Б. Нормана, *«празмерным ужываннем адзінак любога моўнага ўзроўню — фанемнага, марфемнага і г. д. — вядзе да стварэння пэўнага надмоўнага (эстэтычнага, мастацкага) эфекту».* Паэтычныя

алітэрацыі ў спалучэнні з выверанымі лексічнымі і інтанацыйна-сінтаксічнымі сродкамі ўзбагачаюць паэтычнымі асацыяцыямі вобраз матылька, а таўталагічны паўтор аднолькавых гукаў (не толькі *л*) у выверaных радках верша прадумана дапамагае вылучыць асобныя словы-дамінанты, *«узмацніць іх інтанацыйна-гукавую выразнасць, а ўсяму твору надаць непаўторнасць і асаблівую мілагучнасць»* (Д. Разенталь).

Арыгінальна выкарыстоўваў *онімную гульню* Р. Барадулін у вершы *«Яраслаў Васільевіч»*, прысвечаным Яраславу Смелякову. Ён умела рыфмуе прозвішча і ўласнае імя паэта, ствараючы аманімічныя пары: *Віцебскія йдуць насмеляка, / Вочы тояць смутак васільковы. / Цвіль і кволь баяцца смаляка, / Смеляковы ўсе ды Смаляковы... / А Ярыла рэха з яра слоў,/ Ярына на ярышчы ярэла. / Рос патомны княжыч Яраслаў, / Вёсен разгайданыя арэлі...* У першым чатырохрадкоўі абыгрываюцца наступныя аманімічныя пары і групы, якімі ствараецца каламбур: *насмеляка... смаляка... Смеляковы... Смаляковы.* Супастаўляюцца блізкія па гучанні прозвішчы (Смаляковы, Смеляковы), у якіх папярэднімі аманімічнымі агульнымі адзінкамі, блізкімі па семантыцы да апелятываў (смаляка і насмеляка), падсвядома абуджаецца рэальнае значэнне апелятываў-прозвішчаў — *смелы, прасмолены, смалісты.* Дзеля рыфмы і стварэння каламбура Р. Барадулін выкарыстаў аўтарскі неалагізм *насмеляка* са значэннем «*смела, не баючыся*», а таксама назоўнік *смаляк* — смалісты кавалак дрэва. Гэта і арыгінальная метафара, якая характарызуе трываласць, моц чалавека, яго гарэнне ў справах. Узнёсла, узвышана гаворыцца пра паважанага паэта. У другім чатырохрадкоўі каламбур будуецца на абыгрыванні асабовага дахрысціянскага (княжацкага) імя *Яраслаў* і сугучнага яму спалучэння *«з яра слаў».* Мастацкае ўспрыняцце і выразнасць вершаванага тэксту ўзмацняецца ампліфікацыйнай алітэрацыяй, якая ствараецца частым паўтарэннем фанетычнага спалучэння *яр* (7 разоў у 15 адзінках гэтага чатырохрадкоўя). Узнёсласць, патэтычнасць у вершы дасягаецца найперш насычэннем тэксту архаізаванай лексікай — ужываннем язычніцкіх уласных імёнаў: *Ярыла* — у славянская міфалогіі божышча сонца і ўрадлівасці: *Яраслаў* — той, хто славіць сонца; агульных архаізаваных назоўнікаў: *княжыч — устар.* князёвіч, малады сын князя; *ярышча* — архаізаваная назва поля, на якім расла ярына, а таксама аўтарскіх неалагізмаў: *ярэла* — выяўляла прыкметы ярыны; *патомны* — наследны і інш.

На аснове ўнутрымоўнай аманіміі пабудаваны каламбуры ў вершы Р. Барадуліна «Адвячорак», прысвечаны самабытнаму беларускаму кампазітару Уладзіміру Журовічу, ураджэнцу Лельчыц, паэт шырока ўжывае ўстарэлыя словы, называе рэаліі, якія яшчэ мала закранула цывілізацыя: *борць, Убарць, мядзведзь, лось, вырак, бусел, юшка;* аўтарскія неалагізмы: *задужжа* — нахіленыя над рэчкаю ствалы дрэў; аўтарскія перыфразы: *сельгаснапітак* — самагон; *падпольны лірык* — самагоншчык і інш.

У каламбурах супастаўляюцца: *Убарць... у борць; ГАІ... ў гаі.* Гумарыстычны эфект дасягаецца тым, што Р. Барадулін, малюючы ідылічную карціну былога Палесся, праз супастаўленне гідроніма *Убарць* і яго архаізаванага апелятыва *борць* — дрэва, на якім раней трымалі вуллі, або вулей-калода, або дупло ў дрэве з пчоламі, падсвядома і нечакана падказвае чытачу тлумачэнне назвы гідроніма: *Ласі далёка трубяць. / Мядзведзь ілбом у борць / Бабах, і ў рэчку Убарць / Ахаладацца — боўць!* / (*Шафёр чытае вырак інспектарам ГАІ. / І п'е падпольны лірык за салаўя ў гаі.* У гэтым чатырохрадкоўі абыгрываюцца абрэвіятура ГАІ (рускі варыянт беларускага ДАІ — дзяржаўная аўтамабільная інспекцыя — *В. Ш.*) і спалучэнне *ў гаі.* Асноўным аргументам, падставай для такой «гульні слоў», як лічаць лінгвісты, з'яўляецца аддаленасць іх значэнняў, нечаканае сутыкненне якіх у кантэксце *«надае каламбурам асаблівую вастрыню і камічнасць слоўнага непаразумення»* (А. Шчарбіна). У каламбурах, на нашу думку, арыгінальна, нечакана гучаць і ўспрымаюцца чытачом этымалагічныя падказкі (часам на

падставе народнага разумення гэтай складанай моўнай з'явы), якія выяўляе або сам стварае і інтэрпрэтуе мастак слова ў аманімічных супастаўленнях, аўтарскіх перыфразах.

Па-мастацку абыгрывае Р. Барадулін татарскі назоўнік *салы* ў аднайменным вершы. Каламбур у ім будуецца на аманімічным супастаўленні і тлумачэнні тапанімічнай назвы *Салы* — паселішча ў Крыме і яе апелятыва *салы* — па-татарску: аўторак, другі дзень тыдня: *А стагоддзі Брыдуць, як валы. / І застаўся пасёлак Салы. / Хай запомніць скупеча і злы: / Па-татарску аўторак — салы!... / І махаюць Стары і малы: на замку дзверы — / Значыць, салы!* Эфектыўнасць каламбура ўзмацняецца тым, што слова *салы*, незразумелае чытачу, вынесена ў загаловак верша, а яго значэнне раскрываецца, вытлумачваецца толькі ў апошніх радках. У выніку інтрыгуючая гульня слоў завяршаецца нечаканай этымалагічнай падказкай, аформленай каламбурам. Паэт сваёй моватворчасцю сцвярджае і фактычна несвядома раздзяляе не ўсімі прымальнымі думку, выказаную італьянскім пісьменнікам Умбэрта Эка. *«Загаловак, на жаль, — ужо ключ да інтэрпрэтацыі... Назва-загаловак павінна заблытваць думкі, а не дысцыплінаваць іх».*

У вершы «*Возера Звонь*» пранікнёна паведамляецца пра багацце прыроды гэтага маляўнічага кутка Ушаччыны. Р. Барадулін стварае каламбур, рыфмуючы і знітоўваючы фанетычнымі алітэрацыямі блізкія па гучанні словы: *Не плоціць мурагам арэнды, / Палоніць ласкай абалонь, — / Як затанулы звон з легенды, / У зялёны бераг звоніць Звонь.* У аманімічных парах метафарычна супастаўляюцца агульны назоўнік *звон* — ударны сігнальны падвясны інструмент (з медзі або сплаву) у выглядзе ўсечанага пустога конуса з падвешаным у сярэдзіне ўдарнікам (языком) і назва-гідронім *Звонь* — возера ў басейне ракі Ушачы. Падкрэсліваецца, што сфера, берагі возера нагадваюць конус вялізнага прыроднага «звана», у берагі якога б'ецца (звоніць) *Звонь*. Каламбурна сутыкаюцца, збліжаюцца аднакаранёвыя словы: *звон, звоніць, Звонь*. Дапамагае глыбінна асэнсаваць высокапаэтычныя радкі і прыём *антрапамарфізму* — надзяленне возера чалавечымі якасцямі. Узмацняе паэтычнае ўспрыняцце гукавая алітэрацыя *зв*, дзякуючы якой дасягаецца асаблівая выразнасць, жывасць, пачуццёвасць у апісанні гармоніі прыроды і чалавека на берагах возера.

Берагі *Звоні*, навакольная прастора не толькі рэальна шматмерныя, а і гіпатэтычна асэнсаваныя, прапушчаныя праз мастакоўскую прызму ўласнага бачання родных краявідаў. У выніку вершаваныя радкі ўспрымаюцца як сінтэз унікальнай інфармацыі пра рэальнае апісанне возера і яго суб'ектыўнае ўспрыняцце, якое перадаецца ўмелым і вывераным наборам самых розных выяўленчых сродкаў — індывідуальна-аўтарскіх метафар, ёмістых эпітэтаў, каламбурных супастаўленняў уласных і агульных назоўнікаў і дзеясловаў, антрапамарфічных пераўтварэнняў, вар'іраваннем слыхавых алітэрацый, дзякуючы якім дасягаецца глыбіннае раскрыццё і выяўленне ўсяго камунікатыўнага, кагнітыўнага і эмацыянальнага патэнцыялу твора.

Алітэрацыі ў Р. Барадуліна — неад'емны кампанент яго выразных нечаканых метафар, частых каламбураў. Імі ствараюцца разнастайныя зрокавыя і слыхавыя вобразы і іншыя «паэтычныя вольнасці», у якіх паэт-наватар — *«нявольнік і ўладар адначасова, віртуоз і майстра»* (В. Быкаў).

Каламбурна абыграна імя *Людміла* ў вершы Янкі Купалы *«Людка»: Як Людкі не бачу — Не міла мне жыць: І сохну, і плачу, І сон не бяжыць! І хатка не міла.* Прысутнічае сугучнасць агульных і ўласных імёнаў. *Людміла* — людзям мілая, семантыка оніма рэалізуецца ў паэтычнай этымалогіі, што абыграна ў першай і другой строфах паўтарэннем *не міла*, а таксама эмацыйным варыянтам памяншальна-ласкальнай формы *Людка*. Такім паэтычным прызнаннем, як лічыць В. Ляшчынская, паэт перадае задавальненне, радасць, добры настрой ад сустэч з дзяўчынай-сваячніцай Людмілай Сівіцкай, якой, поводле сведчання жонкі паэта У. Луцэвіч, быў прысвечаны гэты паэтычны твор.

Каламбуры шырока выкарыстоўваюцца ў сяброўскіх жартах, віншаваннях, дасціпна перадаючы шчырасць пачуццяў. У пасланні-віншаванні У. Караткевіча з нагоды дня нараджэння Вячаслава Рагойшы арыгінальна створаны каламбур, выкарыстаўшы ў чатырохрадкоўі з'яву амафоніі — абыгрываюць асабовае ўласнае імя *Слава* (гутарковы варыянт ад язычніцкага княжацкага імя *Вячаслаў* — славячы Славу; той, хто памнажае славу — *В. Ш.*) і фразеалагізм: *на славу* — вельмі добры, цудоўны, надзвычайны: *Каня і падкову мы дорым сягоння / У дзень нараджэння для нашага Славы: / Каня — каб заўсёды любіў ты Пагоню, / Падкову — на шчасце, на вечнасць, на славу*. Узмацняе мастацкае ўспрыняцце ампліфікацыя спалучэнняў *на шчасце, на вечнасць, на славу*, якімі завяршаецца твор. Стварэнне каламбура, пабудаванага на амафоніі ўласнага асабовага імя і фразеалагізма *...для нашага Славы... на вечнасць, на славу* з'яўляецца яскравым прыкладам майстэрства паэта і сведчаннем неабмежаваных магчымасцей багацця мовы фальклору і мастацкай літаратуры, умелага карыстання імі паэтамі. І. Лепешаў, напрыклад, вылучыў больш за 20 стылістычных прыёмаў індывідуальна-аўтарскага ўжывання фразеалагізмаў у спалучэнні з іншымі моўнымі адзінкамі, у тым ліку і онімамі для стварэння выразных мастацкіх вобразаў і перадачы разнастайных канатацыйных адценняў у структуры мастацкага тэксту.

Празрыстасць, зразумеласць семантыкі некаторых уласна славянскіх імёнаў дае падставу выкарыстоўваць іх у якасці кампанентаў каламбураў — своеасаблівай «гульні слоў», калі апелятыў, ад якога ўтвораны онім, і ўласнае імя гучаць аднолькава і па-свойму абыгрываюцца, ствараючы мастацкі вобраз. У паэме Святланы Басуматравай «Вера Харужая» супастаўляецца імя *Вера*, якое ў гэтым кантэксце набыло значэнне оніма-сімвала, і агульны назоўнік — *вера*: *Трывога сяброў, / Што паліцыя гойсае, / За «Веркай» бясстрашнай / Ідзе па слядах, / І вера, што ты, / Беларусь мая мужная, / Не будзеш дзяліцца / На захад і ўсход... / Я — Вера, я Вера, / Я — Вера Харужая /(Бяссмертная вера) У бяссмертны народ.* Паўтор, ампліфікацыя амонімаў — уласных і агульных назоўнікаў гучыць лейтматывам і дапамагае стварыць уяўленне ўпэўненасці і пераканання ў тым, што ўчынкі і справы Харужай увасабляюць ідэю яднання беларускага народа ў адзіную краіну і яго перамогі ў змаганні з ворагамі. Параўн.: у ТСБМ *вера* — упэўненасць у чым-небудзь у здзяйсненні, ажыццяўленні чаго-небудзь; перакананне ў дадатных якасцях каго-небудзь.

У вершы Я. Коласа «*Міжнародныя піраты*», напісаным у 1937 г. у сувязі з нападам італьянскіх ваенных караблёў на савецкія гандлёвыя судны «Тимирязев» і «Благоев», даецца выкрывальна-зневажальная характарыстыка тагачаснага «*міжнароднага пірата*» Беніта Мусаліні, які быў ініцыятарам і выканаўцам шматлікіх міжнародных разбояў, правакацый і канфліктаў. Той ні разу не называе імя і прозвішча дыктатара фашысцкай Італіі, аднак канатацыйная сутнасць гэтых рэальных онімаў, за якімі ў мастацкай літаратуры і грамадстве назапашана шматлікая негатыўная інфармацыя, выяўляецца наступнымі мастацка-выяўленчымі сродкамі, насычанымі пеяратыўнай экспрэсіяй — аўтарскімі перыфразамі: *цэзар ліпавы, гною куча, майстар ад фашызму, бурбалка пустая*; кантэкстуальнымі сінонімамі да імя і прозвішча дыктатара: *пірат, бандыт*; яго ўчынкі і намаганні характарызуюцца экспрэсіўна-маркіраванымі дзеясловамі-выказнікамі: *абнаглеў, лезе, шворыцца* і інш. Гэты ж прыём таксама выкарыстаў К. Крапіва ў вершы «*Гебельс брэша — вецер носіць*», каб не паўтараць часта адыёзнае прозвішча бліжэйшага паплечніка *Гітлера*. Унікшы ў сутнасць перыфразы (*плюгавы доктар прапаганды*), лёгка здагадацца, пра каго знішчальна-саркастычныя радкі: *Каб прыкрасіць крыху справы, / Гітлераўскай банды, / У Берліне ёсць плюгавы / Доктар прапаганды*. Такая метанімічная замена прозвішча апісальным выразам у спалучэнні з эпітэтам *плюгавы* прыцягвае ўвагу, засяроджвае на выразна пеяратыўнай мастацкай дэталі. Даследчык мовы твораў К. Крапівы І. Лепешаў прыводзіць

арыгінальны прыклад з верша, дзе сатырык умела абыгрывае прозвішча міністра прапаганды фашысцкай Германіі доктара *Гебельса*. Дзеля гэтага К. Крапіва выкарыстаў, а потым удала змяніў прыказку «*Сабака брэша — вецер носіць*». З'яўленню абноўленай прыказкі ў тэксце, як слушна пераконвае даследчык, папярэднічаюць параўнанні Гебельса з сабакам (*«Не збрахаць, як карлік, столькі дзесяці сабакам», «брэша з захапленнем»*), а потым ідзе: *«Нам ужо абрыдлі досыць байкі прайдзісвета*: *— Гебельс брэша — вецер носіць, — кажам мы на гэта»*. Сатырычны эфект і дасціпнасць гэтага перафразавання становяцца яшчэ больш відавочнымі, калі прыняць пад увагу спецыфічнае абыгрыванне: у нямецкай мове прозвішча гітлераўскага міністра прапаганды супадае са словам *Gebells* (родны склон) — брэх, гаўканне. Адсутнасць імя канкрэтнай гістарычнай асобы кампенсуецца канцэнтраваным ужываннем апісальных выразаў, эматыўнай лексікі, якія вызначаюцца заніжанай экспрэсіўнай афарбоўкай, што садзейнічае выяўленню павышанай асацыятыўнасці онімаў, якія, становячыся гіпатэтычна маркіраванымі, рэальна ўспрымаюцца чытачом, але па задуме паэта не называюцца [3, с. 37]. Дарэчы адзначыць, што ў рускай літаратуры падобныя па семантыцы апелятываў прозвішчы рэальных персанажаў (белагвардзейскіх генералаў *Юдзеніча* і *Шкуро*) умела абагрываў у сатырычных творах *Дзям'ян Бедны*, ствараючы з гэтымі онімамі каламбурныя спалучэнні і ператвараючы іх (онімы) у з'едлівыя мянушкі: *Юдзеніч —> Іудзеніч; Шкуро —> Шкура,* пра што пераканальна пісала тагачасная літаратурная крытыка.

У іншых вершах Я. Колас, надварот, свядома ў параўнальна невялікім кантэксце стварае канцэнтрацыю адрозных рэальных імёнаў для перадачы адмоўнай экспрэсіі: *Гінуць Гітлер, Гімлер, Герынг, Гебельс, Гес. / Шле за іх літанне папа да нябес*. Памацняе такую моўную гульню экспрэсіўнасць, выразнасць паэтычных радкоў, ампліфікацыя онімаў, а таксама гукавая алітэрацыя, створаная паўторам спалучэнняў *Гі, Ге* ў імёнах кіраўнікоў фашысцкай Германіі. Выяўляецца ў такім свядомым наборы онімаў з пачатковым *Г* і мастацкая гульня-*алюзія* — саркастычны намёк на тое, што гэтым гукам пачынаюцца словы, якія выклікаюць самыя адмоўныя асацыяцыі*: гад, гніда, гной, ганьба, гора, гібель, галеча* і інш.

Гэты ж прыём народны пясняр выкарыстоўваў і ў вершы «Пахаванне Гейдрыха»: *Кат Гейдрых ляжаў у труне, / Кат Гімлер аплакваў яго. / Кат Гітлер стаяў, як у сне, / Над падлаю друга свайго*. Узмацняе эмацыйную арганізацыю гэтых радкоў лексіка-стылістычны паўтор, пабудаваны паралельным размяшчэннем онімаў у спалучэнні са словам-рэфрэнам *кат*, якія фіксуюць увагу, інтэнсіфікуючы канатацыйны бок онімаў і мэтанакіравана падкрэсліваюць іх пеяратыўнае адценне і эмацыйнае ўздзеянне ў кантэксце. Анафара ў гэтых радках таксама выразны і эфектыўны прыём узмацнення гульні і рытма-інтанацыйнай выразнасці верша, дзе дамінантную ролю ў выражэнні пеяратыўнай экспрэсіі выконваюць онімы. Прысутнічае і *аксюмаран* (*падла — друг*) — спалучэнне супрацьлеглых па семантыцы характарыстычных назоўнікаў, якія лагічна выключаюць адзін другога, ствараючы такім ужываннем дасціпна-саркастычнае ўяўленне пра носьбіта оніма.

Іван Мележ умела абыгрываў назву-айконім *Сходня*, дзе ў канцы вайны ў 1943 г. пачалося навучанне на філалагічным факультэце БДУ. «*Сходню не магу забыць і, відаць, ужо не забуду да канца свайго жыцця, — прачула прагаварыў Іван Паўлавіч. — Для мяне гэта была не Сходня, а Узыходня, — пажартаваў ён. — Там, на Сходні, былі мае першыя творчыя прыступкі, і іх не забыць мне ніколі...*» [10, с. 52]. Абыгрываюцца анамастычныя кантрастывы *Сходня — Узыходня*, якія матывуюцца дзеясловамі-апелятывамі *сыходзіць — узыходзіць*.

Гульня слоў можа выяўляцца і ў «пераклічцы» онімаў-загалоўкаў мастацкіх тэкстаў, іх паўторах, якія каламбурна ствараюць эфект павышанай увагі да такой творчасці. Так, у вершы У. Верамейчыка *«Таполі юнацтва»*, прысвечаным народнаму пісьменніку Беларусі *Івану Навуменку* — ураджэнцу Палесся з мястэчка Васі-

левічы, дзе, дарэчы, у дзіцячым доме ў галодныя пасляваенныя гады выхоўваўся і хлопчык-сірата Валодзя Верамейчык, паэт, выкарыстоўваючы аплікацыю *біблiёнімаў* — назваў-загалоўкаў асноўных мастацкіх твораў пісьменніка-земляка, стварае спецыфічную «гульню слоў» — каламбур, пабудаваны на амафаніі, калі фрагменты верша-прысвячэння «пераклікаюцца» з назвамі-загалоўкамі або іх фрагментамі з твораў І. Навуменкі. У Верамейчыка такія словы ўтрымліваюць павышаны эмацыйны патэнцыял, становячыся кульмінацыйным цэнтрам паэтычнага паслання і прызнання павагі да творчай спадчыны юбіляра, да асобы пісьменніка: «*Вы сталі народным. / Высокае званне. / Ля Цітавай копанкі — мір. / Лятуць з Васілевіч да Вас віншаванні, / Бо Вы і зямляк і кумір. / Хоць хлопцы-равеснікі моцна ссівелі, / Таполі юнацтва шумяць. / Ды Вы, летуценнік, не пастарэлі, / Мы просім пісаць і пісаць. / Няхай не паўторыцца той сорак трэці. / Хай бульба раскошна цвіце, / Няхай на планеце не ведаюць смерці, / Дзяцінства хай шчасна расце. / Не быць Вам ніколі у зморы і скрусе, Часцей к землякам прыязджаць, / Бо ў Васілевічах і ў Беларусі / Таполі юнацтва шумяць*».

У вершы «Васілевічы», ужываючы перыфразы, У. Верамейчык, зноў успамінае знакамітага земляка: *«Гарадок у жыццё пазірае, / Бо жыты ходзяць жоўтаю лаваю… / Адпачыць генерал прыязджае / Ці членкор, абцяжараны славаю»*. Не без гумару, не ўпамінаючы прозвішча пісьменніка, выразнымі мастацкімі сродкамі — індывідуальна-аўтарскімі перыфразамі: *членкор*, *абцяжараны славаю*, алагічнымі спалучэннямі: «*горад вясковы*» — пра мястэчка Васілевічы; параўнаннямі, традыцыйнымі метафарычнымі апісаннямі, паэт стварае выразны рэтрамалюнак былога мястэчка — раённага цэнтра Васілевічаў, «*горада вясковага*», дзе, «*як у Індыі, ходзяць каровы / Па даўжэзнай цэнтральнай вуліцы… / Толькі глуха шумяць таполі, / Цёплым пухам па вулачках сцелючы. / Што тут ёсць — не даўмецца ніколі! — / Ад былое райцэнтраўскай велічы?»*. Параўнаем, што тэкст верша надзвычай асацыятыўны: вобраз таполяў у апавяданнях І. Навуменкі, як піша А. Бельскі, утрымлівае сімволіка-абагульняльны сэнс. Гэтыя дрэвы ўвасабляюць радзіму, з імі звязана дзяцінства і юнацтва: «Я заўсёды любіў станцыю, — пісаў І. Навуменка, — любіў разложыстыя стагадовыя таполі, якія яе ахінаюць…» Пастаянны зварот да гэтых дрэў (скразны лейтматыў) сведчыць пра глыбокую духоўную сувязь герояў з радзімай, іх трывалую памяць. З таполямі звязаны аўтарскія ўспаміны і думкі, важныя жыццёвыя падзеі, лёсы герояў. Вобраз таполяў — гэта і своеасаблівая алегорыя маладога жыцця, сімвал юнацтва» [6, с. 122]. Узмацняюць паэтычную гульню, вобразнасць іншыя мастацкія сродкі, напрыклад, арыгінальна свежы аксюмаран-перыфраза «*горад вясковы*» — пра былое мястэчка Васілевічы. Такое ўжыванне заснавана на свядомым *алагізме* — наўмысным сутыкненні кантэкстуальна несумяшчальных слоў, якія ў такім спалучэнні па волі аўтара не без лёгкага гумару перадаюць якасна новае паняцце, прыўносячы элемент нечаканасці, а гумарыстычны вобраз мястэчка *«былое райцэнтраўскай велічы»* становіцца выразна запамінальным. Выдзеленыя словы ў вершы з'яўляюцца онімамі-загалоўкамі або іх фрагментамі самых значных празаічных твораў І. Навуменкі.

Некаторыя загалоўкі як алюзійны кампанент усяго тэксту паўторна выкарыстоўваюцца і абыгрываюцца ў новым тэксце для стварэння пэўнага культурнагістарычнага каларыту, заснаваны на кампетэнцыі стваральніка новага тэксту (пісьменніка) і інтэлектуальна дасведчанага чытача. Алюзійны кампанент, г. зн. паўтор вядомага чытачу, у новым тэксце, (напрыклад, у вершы С. Чыгрына «Васілю Быкаву») уяўляе сабой тэкставы фрагмент онімнай гульні з твораў пісьменніка, які адрозніваецца ад звычайных тым, што ён здольны ўскладняць новы вершаваны тэкст дзякуючы магчымасці сумяшчаць, спалучаць у адным азначэнні два, з іх адно належыць іншай семіятычнай прасторы. Алюзійны кампанент, — гэта загалоўкі або іх кампаненты з твораў В. Быкава, набывае выразна акрэсленую мастацка-эстэтычную напоўненасць, што абыгрываецца, паўтараецца і

актуалізуецца ў наступных вершаваных радках паэта С. Чыгрына: *Вайна — гэта знак бяды, / яе немагчыма забыць. / А мёртвым не трэба вады, / А мёртвым ужо не баліць. // Праз порах і дым вайны, / Праз пасткі / І праз вышыні / Ішлі батальёна сыны / І воўчую зграю крушылі. // Абеліскі вітаюць зару, / Жураўлiныя крыкі ачнуцца... / Праз Альпы ў Беларусь / Пайсці, дажыць і вярнуцца.* (С. Чыгрын «Васілю Быкаву»). Алюзійнае выкарыстанне онімнай гульні ў тэкстаўтварэнні, актыўнае ўздзеянне іх на ўяўленне, эмоцыі, падсвядомасць чытача пры дапамозе самых розных анамастычных, тэматычных, вобразных, гукавых асацыяцый уяўляе сабой спецыфічны тып мастацкай семантыкі слова, які набывае павышаную ўвагу і паглыбленае вывучэнне.

Гульня слоў выяўляецца і ў выбары псеўданімаў. Некаторыя аўтары звярталіся да *анаграм* — перастановак літар ці складоў у сваіх прозвішчах або да *палінонімаў* — літаратурных прозвішчаў, якія ўтвараліся ў выніку чытання прозвішча наадварот. Так, на беларускім анамастычным матэрыяле тлумачыцца псеўданім-палінонім рускага паэта *Аляксандра Блока*. Вядома, што ў часы Першай сусветнай вайны ён служыў у 13-й інжынерна-будаўнічай дружыне, якая дыслакавалася на Заходнім фронце ў раёне *Пінскіх балотаў*. Жыў паэт у фальварку князя Друцкага-Любецкага, што непадалёк ад паселішчаў *Парахонск, Лапаціна, Колбы.* Назва апошняй вёскі здзіўляла Блока, асабліва тым, што ў ёй кожны другі жыхар меў прозвішча *Колб* ці *Колбік*, а калі прачытаць наадварот, то атрымліваецца *Блок*. Паэт і сапраўды, як сведчаць даследчыкі яго творчасці, падпісваў некаторыя свае вершы псеўданімам *А. Колб.*

Падобным спосабам утваралі псеўданімы Лукаш Бэндэ — *В. Нэдбэ,* А. Бабарэка — *А. Рэка*, Рыгор Бахта — *Горбах Р.*, А. Лобач — *Чабола*, П. Кавалёў — *П. Уёлавак*. Ёсць калектыўныя псеўданімы, калі пад адным штучным найменнем «хаваецца» некалькі аўтараў: *Я. Лупаты* — Янка Брыль, А. Каратай, П. Панчанка, Я. Скурко. Упершыню названы псеўданім (*Я. Лупаты*) з’явіўся ў 1946 г. у часопісе «Вожык» у гумарыстычным рэпартажы пра чарговы пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі: ад Янкі Брыля замацавалася ў псеўданім *«Я»*, ад Пімена Панчанкі — *«па»*, ад Максіма Лужаніна — *«лу»*, ад Максіма Танка — *«т»*. А пляменнік паэта *Ніла Гілевіча* і сын пісьменніка *Міколы Гілевіча* (Міколы Гіля) — *Мікалай Мікалаевіч Гілевіч*, даследчык літаратуры, журналіст, выбраў сабе, гуляючы словамі, псеўданім *Мікола Віч*, узяўшы за аснову другую частку ад афіцыйнага прозвішча *Гіле-віч*. Дарэчы, першая яго частка — гэта ўсталяваны псеўданім яго бацькі, пісьменніка *Міколы Гіля*. Такім чынам, бацька і сын, падзяліўшы паміж сабою афіцыйнае прозвішча *Гіле-віч*, стварылі арыгінальныя псеўданімы.

Беларускай літаратуры вядомы псеўданімы, утвораныя ад зліцця ў адно слова розных скарачэнняў імя і прозвішча аўтара: *Легал* — Леанід Галубовіч. У аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця» галоўная гераіня *Аленка Гарнашка* піша карэспандэнцыі ў газету, падпісаўшыся псеўданімам, скамбінаваным з яе і *Сцяпана Баруты* прозвішчам *Багар*, што расшыфроўваецца як «Барута і Гарнашка».

У канве вершаў рускамоўных паэтаў, пра Беларусь нярэдка сустракаюцца беларусізмы, у тым ліку і онімы, якія творцы свядома абыгрываюць, своеасабліва этымалагізуюць, выкарыстоўваючы такое тлумачэнне ў вершаваным тэксце, як мастацкі прыём, пакладзены ў аснову ўсяго ідэйна-мастацкага стрыжня твора. Так, аналізуючы верш Б. Спрынчана «Беларускія месяцы», А. Гіруцкі звярнуў увагу, што назвы ўсіх дванаццаці месяцаў разглядаюцца як уласныя моўныя адзінкі, а этымалагічныя падказкі да онімаў вельмі выразныя, пабудаваныя з выкарыстаннем таўталогіі і каламбураў. У паэтычных радках назвы месяцаў празрыстыя і лёгка тлумачацца, а мастацкія вобразы, створаныя спецыфічнай гульнёй аднакаранёвых слоў, вядомых у рускай і беларускай мовах, становяцца падкрэслена семантычна выразнымі і зразумелымі чытачу: *...следом травы из-под листьев ржавых / В мир несут красу / Красавика. / И запахнет цветом липы /*

*Липень, / И Зарей нальётся в соты мёд. / И летит на землю снегом / Снежань. / Стынет бор в слепящей белизне... / Запахом березового сока / Из лесу сочится / Сакавик...* Народныя этымалогіі назваў месяцаў, умела выкарыстаныя паэтам, даволі пераканальныя і выразныя, у іх трапна адлюстраваны не толькі векавыя назіранні сялян за станам прыроды ў канкрэтную пару года, а і асаблівасці сялянскага побыту [9, с. 183].

Гульню слоў пераканальна ілюструюць паэтычныя зборнікі Васіля Рагаўцова «Адмыслоўцы» (2007), «На роскрыжы дарог» (2008), «ДоляГляд» (1998) і інш. Вершы высокамастацкія, займальныя і пазнавальныя. Першая з названых кніжак пераважна разлічана на маленькага чытача, які пазнае таямніцы роднага слова. Творы ў ёй прасякнуты шчырасцю, зычлівасцю, спагадай і любоўю да роднай зямлі, мовы бацькоў. Шмат таго, што абуджае цікавасць да спасціжэння рэчаіснасці, да чаго найчасцей прагна імкнецца дзіця, пазнаючы праз словы, апісанні безліч невядомых яму таямніц. Вершы багатыя на займальнае выяўленне семантыкі роднага слова, абыгрыванне блізкіх або аднолькавых па гучанні моўных адзінак. Так, значная частка паэтычных мініяцюр пабудавана з выкарыстаннем такой стылістычнай фігуры, як каламбур, калі абыгрываюцца дзве і больш сугучныя лексічныя адзінкі (амонімы і блізкагучныя словы), у выніку чаго ўзнікае спецыфічная «гульня» слоў, якой ствараецца дасціпнасць, павышаная ўвага да зарыфмаваных радкоў: «*Я для птушачкі аўсянкі / Кашкі навару — аўсянкі. / Вечарочкам мне аўсянка / Праспявае калыханку*».

Умела і пераканальна паэт тлумачыць мнагазначныя словы, а таксама словы-амонімы, выкарыстоўваючы дзеля гэтага агульнавядомыя прыказкі, перыфразы: *«— Вы ўжо ведаеце, дзеткі, / Колькі слоў «каса» у нашай мове. / Ну, а зараз паспрабуйце / Скласці сказы з словамі. / — Можна нам? Мы ўжо гатовы. / — Калі ласка, Грыша. / — Косіць каса, / Пакуль раса. / — Слухаем цябе, Францішка. / — Пясчаная каса — / Вузкая на рэчцы паласа. / — Што сказаць нам хоча Міша? / — Каса — дзявочая краса…»*

Даступна растлумачаны маленькаму чытачу назвы месяцаў. Умела персаніфікуюцца, па-свойму ажыўляюцца з’явы, прадметы, надзяляюцца іх чалавечымі якасцямі, а таксама супастаўляюцца ў кантэксце роднасныя словы і такім чынам лаканічна і займальна тлумачацца, чаму людзі выбралі ў якасці назвы месяца такое гаваркое слова: *«Студзень студзіць вокны, дзверы / Подыхам мяцеліц. / Завывае люты зверам — / Аж дрыжыць аселіца. / Сакавік — з гаючым сокам, / З сонечнаю ласкай. / Красавік… І на ўзлобках / Зацвітаюць краскі. / Луг вітае першатравы. / Травень… Час маёвы. / Чэрвень пчол выводзіць спраўна / На папас мядовы…»*.

Многія радкі паэта В. Рагаўцова гучаць афарыстычна. Ужо ў яго першых зборніках выяўляецца адметная асаблівасць творчасці В. Рагаўцова дасканала валодаць паэтычным словам, ствараць пераканальна-запамінальныя малюнкі, «здатна пісаць афарыстычна» (А. Марціновіч). Параўн.: *«І радасць / не сагрэе нішчымную душу. / Як ружа ў вазоне / — сваім пустацветам», «Любіць / можна й розумам. / А кахаюць — толькі душою».* Безумоўна, стварэнне афарызмаў патрабуе вялікіх намаганняў, ведаў, таленту, духоўнасці, пра што падкрэсліваецца даследчыкамі пры аналізе такіх выслоўяў.

Афарыстычнасць як адзнака стылю мастакоў слова была выразнаю прыкметаю ўжо ў лепшых творах антычных аўтараў. З часоў Старажытнай Грэцыі дайшлі самыя разнастайныя кароткія і выразныя па форме, глыбокія сэнсам і абагульненнямі выразы, *Арыстоцеля, Геракліта, Дэмакрыта, Платона, Плутарха, Сакрата*. Лічыцца, што ўпершыню слова *афарызм* у сучасным яго разуменні выкарыстаў старажытнагрэчаскі ўрач *Гіпакрат*, які ў серыі парад, называючы сімптомы і дыягназы хвароб, лаканічна і мудра раіў тым, хто лечыць і хто лечыцца: *«Жыццё кароткае, творчасць даўгавечная, магчымасці абмежаваны, вопыт небяспечны, разважанні ўскладнены: неабходна быць не толькі справядлівым у*

*адносінах да кожнага, але і дабівацца добразычлівасці ад пакутуючых, тых, з кім сутыкнуўся ты пры надзвычайных абставінах».* Старажытныя грэкі, як вядома, вельмі паважалі гэтага ўрача-рэфарматара. Нездарма, як піша А. Міхневіч, яму прыпісваюць тэкст вядомай клятвы — *клятвы Гіпакрата*, якую і сёння даюць студэнты-медыкі пры заканчэнні ўніверсітэта. Працы Гіпакрата высока цаніліся, а яго азначэнні розных з'яў і прадметаў лічыліся ўзорнымі. Паступова тэрмін «афарызм», як прасачыў яго эвалюцыю А. Аксамітаў, пачаў азначаць не толькі сентэнцыйныя выказванні пераважна з медыцынскай сферы, але і ў такіх напрамках чалавечай дзейнасці, як земляробства, мастацтва, юрыспрудэнцыя, палітыка, мараль і інш.

Трапнымі выразамі напоўнены і зборнік В. Рагаўцова *«На роскрыжы дарог»*. У ім значная колькасць вершаваных твораў цалкам складаецца з афарыстычных выслоўяў. Як вядома, арыгінальнасць такіх адзінак дасягаецца ўмелым выкарыстаннем у абмежаваным кантэксце самых розных тропаў і стылістычных фігур (параўнанні, каламбур, антытэза, аксюмаран, паралелізм, анафара, эпіфара, змоўчанне, зеўгма і інш.), калі словы і выразы ўжываюцца найчасцей з пераносным значэннем дзеля дасягнення найбольшай мастацкай выразнасці, лагічнасці і пераканальнасці. Праілюструем сказанае радкамі з вершаў: *«Хто не забыўся / на мінуўшчыну, / той беражэ і будучыню»*; *«Спыталіся ў заможніка: / «Што цяжэй: / нарадзіцца ці памерці?» / І той адказаў: / «Жыць»*; *«Нараджацца, / як і паміраць, / можна аднойчы, / а здраджваць — / усё жыццё»* ; *«Жыццё — / не вяроўка: / не падточыш. / А падкараціць яго — / проста»* ; *«Сумлення, як і зайздрасці, / не купіш і не пазычыш. / Яго можна толькі / размяняць»*; *«Многія і на волі — / нявольнікі. / Чужой Душы»*; *«Б'ецца посуд — / на шчасце. / А б'юць — / на разлад»*; *«Вялікія творцы / яшчэ большыя / сваёй адсутнасцю»* ; *«Быў бедны — / спачувалі, / Стаў заможны — / зайздросцяць. / І ўсё тыя ж»*; *«Грэшныя моляцца / рукою, / а святыя — / і душою»* ; *«Ці можна быць / тройчы святым? / А Героем — / можна»*; *«Радавацца — / яшчэ не значыць / быць шчаслівым. / Бо шчасце — / гэта радасць, / зведаная ў пакутах»*; *«Шчаслівыя, / каго чакаюць. / А яшчэ болей / шчаслівыя тыя, / каму ёсць каго / чакаць»*; *«Разумнымі нараджаюцца, / мудрымі становяцца, / а дурнем — / можна і прыкінуцца»*; *«Ніколі не стане / блізкім чужое, / калі счужнела / сваё»*; *«Спакутаваная душа / лечыцца дабрынёю, / а грэшная — / пакутамі»*; *«Выгнаннікі / чужой душы.../ А яшчэ жахлівей, / калі — сваёй»*.

У шэрагу выпадкаў паэт пашырае агульны сэнс вядомых выслоўяў: *«Кажуць, / перад Богам усе роўныя. / Як шкада — / не на гэтым свеце»; «Людзей слухай, / а свой розум май... / Бо без чужога розуму / пражывеш, / а без свайго — / гора нажывеш»*.

Некаторыя вядомыя прыказкі, афарызмы В. Рагаўцоў мэтанакіравана перайначвае, часам удакладняючы і ўкладваючы ў іх крыху іншы або новы сэнс: *«Жыццё пражыць — / і поле перайсці, / парослае хвашчом; / і лес, / напоўнены трывожным шчэбетам / птушыным; / і луг, / някошаны які ўжо год.../ Цяжэй за ўсё прайсці / цераз сябе самога. / І быць / шчаслівым»*; *«З песняй / лягчэй жыць. / Толькі не заўсёды / яе лёгка / спяваць»*; *«І багатыя / плачуць. / Нярэдка — / слязьмі бедных»*; *«Нельга ўвайсці / ў адну раку двойчы. / А мне — удалося. / У раку маленства. / У мроях»*; *«Пакутуюць / і ад вялікага розуму, / і ад малога. / А яшчэ горай — / калі яго няма»* . Параўнайце ў гэтай сувязі, напрыклад, вядомы загаловак з класічнага твора А. Грыбаедава *«Гора ад розуму»*.

Паэт калі-нікалі арыгінальна супастаўляе прэцэдэнтныя выказванні з класічных твораў беларускай літаратуры і дадае сваё разуменне пастаўленай класікамі праблемы: *«Беларусь, твой народ дачакаецца / Залацістага, яснага дня...»/ Згадваюцца словы / яшчэ аднаго класіка: / «Товарищ, верь: взойдет она, / Заря пленительного счастья...» / І чакаем, і верым...»*; *«Лятуць апантаныя коні... / І іх не суняць, і не скуць. / Ад цокату стукае ў скронях.../ Куды ж яны зноўку лятуць?!»* Пытанне, пастаўленае ў канцы гэтых радкоў, насычаных інтэртэкстуальным

зместам, хутчэй за ўсё рытарычнае не толькі для Максіма Багдановіча, што напісаў і абессмяроціў сябе знакамітай «Пагоняй», а і для ўсіх нас, бо ўжо некалькі стагоддзяў, як прывід *«Усё лятуць і лятуць тыя коні, / Срэбнай збруяй далёка грымяць…»* Адказу няма! Не можа адказаць на гэтае пытанне і Васіль Рагаўцоў *(«Куды ж яны зноўку лятуць?!»)*, паэзія якога надзвычай заглыблена ў філасофію, а таму і мы ўсё *«І чакаем, і верым»*, бо, гаворачы словамі паэта: *«Мы з пакутаю / цягнемся зноў / да вытокаў сваіх, / каранёў. / Як вандроўнік / з нялёгкай дарогі — / дамоў»*.

Такімі паэтычнымі абагульненнямі, насычанымі глыбокім інтэлектуальным і інтэртэкстуальным зместам, частка якіх заснавана на прэцэдэнтных выказваннях, пачынаючы з часоў антычнасці, В. Рагаўцоў творча ўзбагаціў і прадоўжыў беларускую афарыстычную традыцыю ў паэзіі, праілюстраваўшы ў сваіх зборніках глыбіню абагульняючых думак, аздобленых ідэйна-эмацыянальным разуменнем і асэнсаваннем рэалій нашай сучаснасці.

Загалоўкі паэтычных твораў Галіны Дашкевіч таксама выяўляюць онімную гульню. Так, у яе ёсць зборнік «*Верасніца*» і аднайменны верш *«На Палессі сярод безлічы дзівосаў / Ёсць чаруючыя назвы нашых вёсак: Верасніца, Любавічы, Азяраны… / Так ласкава, нібы сонейка ўранні, Зіхацяць, пераліваюцца, струменяць / Словы родныя пяшчотна, задуменна. / Любавічы — золакклічуць, Азяраны — дзень жаданы, / Верасніца — верас сніцца / Ўсім, хто ў край свой закаханы. / Верасніца, Любавічы, Азяраны, / Усявышнім вы самім, відаць, названы, / Бо з якою быць душою трэба чыстай, палымянай, / Каб прыдумаць: Верасніца, Любавічы, Азяраны*. Тут і выразнае выяўленне этымалагічнай празрыстасці мясцовых уласных найменняў (возера → *Азяраны;* любы (прыгожы, любімы) → *Любавічы;* верас → *Верасніца)*. Паэтэса ўмела выкарыстоўвае каламбур, абыгрываючы мілагучную для яе слыху назву: «*Верасніца — верас сніцца»*. Ствараюць напеўнасць, меладызм вершаваных радкоў і іншыя мастацкія сродкі. Гэта традыцыйныя народныя параўнанні: *нібы сонейка ўранні, як кветкі на абрусе саматканым, як дыяменты роднай мовы беларускай,* памяншальна-ласкальныя формы назоўнікаў: *сонейка, зямелька,* архаізаваныя інфінітывы: *дараваці,* парадак слоў, што пераважна ўласцівы творам фальклору. Родная *Тураўшчына — Верасніца, Азяраны, Любавічы* — часта сняцца паэтэсе. У гэтых асацыятыўных назвах уся гама ўражанняў і эмоцый ад дзяцінства, юначай пары. Гэта і песні вясковых красунь, і ягады чарніцы, суніцы ў тураўскіх пушчах і на сонечных палянах, і птушкі-перапёлачкі, пчолкі на лугавінах і паплавах, міфалагічныя русалкі ў прыбярэжных прыпяцкіх старыцах і азярынах: «*Верасніца, Верасніца / Мне начамі часта сніцца. / Вераснічанкі-красуні — / Яснавокія пявунні, / Вышывальшчыцы і чарнічніцы. / Вераснічанкі-вераснічніцы / Чараўніцы, працаўніцы / У той вёсцы маладзіцы. / А дзяўчаты ў Верасніцы / Нібы ягадкі- суніцы…»* Кароткімі сказамі, аздобленымі народнымі параўнаннямі і трапнымі эпітэтамі, анамастычнымі адзінкамі паэтэса стварае тыповы рэтрамалюнак палескіх сёл, у якіх традыцыйныя заняткі дзяцей, асабліва дзяўчат, маладых жанчын, — збор ягад чарніц, суніц, вышыванне ручнікоў, посцілак, спеў яснавокіх пявунняў над Прыпяццю, — было самай кідкай і запамінальнай з'явай не толькі на Тураўшчыне, а і ўсім Палессі ў гады маладосці паэтэсы. Асацыятыўна праз онімную гульню ў назвах *Верасніца, Азяраны* і інш. перадаецца і водар лугавых кветак з шырокіх даляглядаў поймы Прыпяці, а таксама духмянага верасовага мёду з суседніх бароў. Параўн.: *верас* — тыповая, вельмі распаўсюджаная ў лясах Палесся меданосная расліна, якая звычайна цвіце ў верасні месяцы.

Гульню слоў-онімаў можна выявіць і ў яе творах для дзяцей, у якіх Г. Дашкевіч знаходзіць спосаб даходлівасці растлумачыць маленькім жыхарам празрыстыя назвы беларускіх месяцаў: *«Заспявала восень зычна, / Запаліў кастры кастрычнік, / Падарыў ім лістапад / Лісця ціхі зарапад. / Грудзень стукае ў грудзі: / — Дакапайце ж бульбу, людзі»*.

Асноўным аргументам, падставай для такой «гульні слоў», цікавай і зразумелай дзецям, з'яўляецца сутыкненне сугучных (часам зусім няродных слоў — *В. Ш.*), якія ствараюць каламбуры, прыцягваючы на сябе павышаную ўвагу і надаючы зарыфмаваным радкам дасціпнасць, своеасаблівую нечаканасць і навізну, што, безумоўна, узмацняе пазнавальныя і мастацка-эстэтычныя вартасці такога верша. Назвы месяцаў персаніфікуюцца, малююцца як жывыя істоты, адухаўляюцца: — *Грай на дудцы, Сакавік, / На цымбалах — Красавік, / Сын малодшы — Травень-Май, — / нам вясняначкі спявай!* Размаўляюць у вершах, думаюць, разважаюць таксама персаніфікаваныя *коцік Кузя, яснавокая Вясна, прыгажун-Баравічок, Яблынька, Рабіна-чараўніца, Верабейка,* якому «*разбойніца-кошка Пакалечыла правую ножку»* і інш. Назвы месяцаў, раслін і птушак выкарыстоўваюцца не як апелятывы, а як уласныя імёны. Гэта фальклорная традыцыя, характэрная для беларускай і рускай моў, калі назоўнік у казках, прыказках (заяц, мядзведзь, кот, ліса і інш.) выконвае ролю оніма «не толькі ў плане выяўленча-ідэнтыфікуючым, а і ў гісторыка-культурным» (А. Рогалеў). Параўн., напрыклад, у рускіх і беларускіх казках *Кот-Катафеіч, Ясны Сокал, Воран Воранавіч* і інш. Вершы насычаны мноствам складаных, але празрыстых на семантыку слоў, якія лёгка ўспрымаюцца маленькімі дапытлівымі чытачамі: *лістапад, зарапад, самакаты, самалёт, дабрадзейка, Чарадзей, Завіруха, саснячок, баравічок, грыбна, хлебна* і інш. Такія словы сугучныя з іншымі, зразумелымі ўжо дзецям, лёгкія на ўспрыманне, асацыятыўныя і разам з іншымі адзінкамі ствараюць выразна-пазнавальны малюнак, неабходны ў мастацкім тэксце.

Такім чынам, яе паэтычным дыскурсам уласцівы ў значнай меры выразны палескі каларыт і аўтабіяграфізм, якія выяўляюцца паслядоўным выкарыстаннем рэальных тураўскіх, мазырскіх, хойніцкіх айконімаў, гідронімаў, мікратапонімаў: *Малешаў, Верасніца, Хільчыцы, Азяраны, Любавічы, Прыстань, Красны Бор, Заверб'е, Вінішчы, Замкавая Гара, Гара, Крываніва, Хойнікі (Хвойнікі), Зарэчча і інш.;* насычэннем тэкстаў рэальнымі імёнамі, прозвішчамі жыхароў з розных куткоў Усходняга Палесся: дзядзька *Рыгор, Клімовічаў род, Міхалка Лагвінец, Даніла, Сідар, Мікола,* бабуля *Макрэня,* дзядуля *Павел* па мянушцы *Бог* і інш., ужываннем дыялектызмаў і дыялектных формаў: *кажýшак* — у тураўскіх гаворках шчупак; *граюць у палёх; харашуха; Галько; утрывацi*; спецыфічных для Палесся фразеалагізаваных выразаў: *плыву за вадою, жыві здарова! спяваў нібы салоўка, адысці ў вечнасць*; спецыфічных таўталагічных спалучэнняў: *век векаваць, гора гараваць* і інш., што напаўняе паэтычныя радкі Г. Дашкевіч выразна адметным, запамінальным каларытам.

Аналіз паэтычных твораў Г. Дашкевіч сведчыць, што яе паэтычным дыскурсам уласціва выключная натуральнасць апісання канкрэтных мясцін Усходняга Палесся. У яе вершах светла і паэтызавана гучаць сапраўдныя назвы рэк, азёр і вёсак Тураўшчыны, Мазыршчыны, рэальныя імёны яе блізкіх — дзядоў, бацькоў, дзяцей, унукаў, тых асоб, з якімі яна працавала, вучылася, выконвала ролі на сцэне тэатра, сябравала. Паэтонімы ў яе валодаюць самымі рознымі канатацыйнымі асаблівасцямі — узмацняюць, напрыклад, паўторамі, рыфмай эмацыйны змест пачуццяў і думак мастака і яго літаратурных персанажаў, разам з іншымі сродкамі ўдзельнічаюць у фарміраванні вобразаў, ствараючы ў чытача нагляднa-вобразнае ўяўленне аб мясцовасці, асаблівасцях яе флоры і фаўны, укладзе жыцця палешукоў, іх занятках, марах і спадзяваннях, з'яўляюцца вызначальнымі тэкстаўтваральнымі адзінкамі з высокім асацыятыўным патэнцыялам і інш. Такія вобразна-апісальныя асаблівасці онімаў Тураўшчыны і Мазыршчыны ў вершах Г. Дашкевіч, безумоўна, уплываюць на агульны тон мастацкага адлюстравання падзей і краявідаў Усходняга Палесся, якімі была зачаравана паэтэса, што спрыяла паглыбленай меладычнасці і лірызму, уласцівых яе паэзіі.

Такім чынам, у творах беларускай мастацкай літаратуры і фальклоры моўная гульня выступае як выразны кампанент вобразнай сістэмы ўласных імёнаў, якая

арыентавана на дасягненне пэўнага нестандартнага эфекту і ўздзеяння на чытача з пэўным эмацыйным праяўленнем. Яна ў тэкстах набывае выразна акрэсленную мастацка-эстэтычную напоўненасць. Звычайна ўспрымаецца як пэўнае адхіленне ад усталяванай нормы, як «анамалія», як пэўны спосаб самавыражэння, пры якім праяўляецца моўная асоба-пісьменнік, яе ўяўленні пра рэчаіснасць, пэўныя схільнасці і творчы патэнцыял. Звычайна такая моватворчасць арыентавана на дасягненне нейкага нестандартнага эфекту і ўздзеянне на адрасата з пэўным эмацыйным праяўленнем.

## Літаратура:

1. Мудрова, Н. В. Поэтика онимной игры: монография Н. В. Мудрова — К: Издательский дом Дмитрия Бураго, 2012. — 144 с.

2. Лужанін, Максім. Колас расказвае пра сябе / М. Лужанін. — Мн.: Маст. літ. 1997 — 462 с.

3. Лепешаў, І. Я. Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора: Вучэб. дапам.: У 2 ч. Ч. 2 / Гродз. дзярж. ун-т імя Я. Купалы. — Гродна, 2000. — 122 с.

4. Тычына, Зося. Карнавальна «свет наадварот» у паэме «Тарас на Парнасе» Канстанціна Вераніцына: Паэтыка сну // Роднае слова — 2007 — № 4. — С. 9 — 11.

5. Малажай, Г. М. Сучасная беларуская мова. Перыфраза: [Вучэб. дапам. для філал. фак. пед ін-таў] / Пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. — Мінск: Выш. шк., 1980. — 96 с.

6. Бельскі, А. І. Функцыі пейзажу ў прозе Івана Навуменкі / А. І. Бельскі // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: зб. навук. арт. / рэдкал.: Т. І. Шамякіна (гал. рэд.). — Мінск: РІВШ, 2006. — 336 с.

7. Норман, Б. Ю. Язык: знакомый незнакомец / Б. Ю. Норман. — Мн.: Выш. шк., 1987. — 222 с.

8. Лойка, А. А. Займальная літаратура: эсэ / А. А. Лойка — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. 176 с.

9. Гируцкий, А. А. Белорусско-русский художественный билингвизм: типология и история, языковые процессы / А. А. Гируцкий; под ред. П. П. Шубы. — Минск: Университетское, 1990. — 175 с.

10. Успаміны пра Івана Мележа [Склад. Л. Я. Пятрова-Мележ]. — Мн.: Маст. літ., 1982. — 415 с.



Зоя МАТУСЕВІЧ

# СУМНАЯ КАМЕДЫЯ Ў АНТЫКВАРНЫХ ДЭКАРАЦЫЯХ

*Эксперыментальная тэатральная майстэрня ў Музычным тэатры*

Адметнасцю Беларускага музычнага тэатра ўжо даўно стала яго шматгранная дзейнасць у памежных тэатральных жанрах. Яна яскрава праяўляецца, напрыклад, у актыўным супрацоўніцтве калектыву з мноствам драматычных тэатраў бліжняга замежжа і рэгулярным правядзенні абменных гастроляў. Пры гэтым, зразумела, адбываецца нязмушаны працэс узаемаўзбагачэння і ўзаемапранікнення творчых стасункаў з адной тэатральнай сферы ў другую: драматычныя тэатры ўсё смялей выкарыстоўваюць прыёмы музычнага, выпускаючы часам нават паўнавартасныя мюзіклы, а музычны тэатр звяртаецца да чыста драматычных твораў, узбагачаючы іх выразнымі сродкамі свайго жанру.

Адкрываючы апошнія гастролі Стаўрапольскага акадэмічнага тэатра драмы імя М. Ю. Лермантава, якія праходзілі ў Мінску на пачатку бягучага сезона, дырэктар Беларускага музычнага тэатра Аляксандр Пятровіч адзначыў, што вопыт стварэння спектакляў калег з Расіі, у прыватнасці — на малой сцэне, нягледзячы на рознасць жанраў, падаўся цікавым і нават прымальным для пастаноўкі ў нашым тэатры. Больш за тое, ён назваў тэрмін з'яўлення ў Беларускім музычным такой пастаноўкі — першы месяц новага года (трэба зазначыць, акурат у студзені гэта і адбылося).

Зразумела, многія мінскія тэатры актыўна працуюць на камерных сцэнах, і наш Музычны пры неабходнасці мог звярнуцца да іх вопыту. Але ў дадзеным выпадку ўсё ішло не проста ад ідэі паспрабаваць свае сілы менавіта ў такой сцэнічнай прасторы, а ад рэальных творчых кантактаў са Стаўрапольскім тэатрам і пазнаннем яго творчай кухні знутры (галоўны рэжысёр Беларускага музычнага Міхаіл Кавальчык паставіў там ужо не адзін спектакль).

Нярэдка драматычныя тэатры маюць асобнае памяшканне з невялікай глядзельнай залай і падмосткамі з партальнай рамай (своеасаблівы міні-тэатр), дзе паміж гледачамі і акцёрамі, як і ў вялікай зале, усё ж ствараецца эфект «чацвёртай сцяны». Гэта — так званы закрыты тып малой сцэны. Аднак часта выкарыстоўваецца і адкрыты тып малой сцэны, калі акцёры, і гледачы, не раздзеленыя рампай, размяшчаюцца на адным узроўні, інакш кажучы, калі ігравая пляцоўка і глядзельная зала злучаюцца ў адзіную прастору. Менавіта такі тып малой сцэны, які даволі лёгка абсталёўваецца на стацыянарнай сцэне тэатра, і разлічаны прыкладна на 60—70 гледачоў, быў запазычаны ў стаўрапольскіх калег. Так у пачатку бягучага года ў Беларускім музычным узнікла эксперыментальная тэатральная майстэрня «Сцэна».

Тэатралы са стажам, якія ў 1980—1990 гадах захапляліся студыйным рухам, памятаюць, што ў той час паняцце малой сцэны было непарыўна звязана з рознымі напрамкамі эксперыментальнай работы, накіраванай на пошук і засваенне новых форм і сродкаў тэатральнай выразнасці. Сёння малая сцэна актыўна ўдзельнічае ў развіцці айчыннага тэатральнага мастацтва, паказваючы новыя падыходы да



*«Вяселле ў стылі рэтра».*

ўвасаблення сучаснай драматургіі і новыя спосабы камунікацыі з гледачом. Але пры гэтым яна можа з поспехам выкарыстоўвацца і для культывацыі традыцыйных прынцыпаў рускага псіхалагічнага тэатра ў сучасных пастаноўках, што ўжо набывае прыкметы элітарнасці. Менавіта такі спектакль у рамках новага праекта і паставіў галоўны рэжысёр Музычнага тэатра Міхаіл Кавальчык.

У аснове гэтай пастаноўкі ляжыць п’еса «Рэтра» папулярнага савецкага і расійскага драматурга Аляксандра Галіна, якая прынесла яму шырокую вядомасць не толькі ў сваёй краіне, але і далёка за яе межамі. Напісаная ў 1979 годзе, яна вельмі хутка стала адной з самых рэпертуарных сярод драматычных тэатраў былога Саюза, неўзабаве была перакладзена на многія замежныя мовы і актыўна ставілася ў розных краінах свету. У 1980 годзе «Рэтра» было пастаўлена ў Мінску — на сцэне Рускага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага рэжысёрам Барысам Глаголіным з музыкай Сяргея Картэса. І, забягаючы наперад, з асаблівай цеплынёй хочацца адзначыць: сённяшняя пастаноўка Міхаіла Кавальчыка прабудзіла самыя лепшыя ўспаміны пра той даўні спектакль і адрадзіла самыя шчымлівыя глядацкія ўражанні. Там самы яркі жаночы вобраз увасобіла зорка Рускага тэатра Аляксандра Клімава, тут — зорка Музычнага Наталія Гайда…

Але перш чым павесці гаворку непасрэдна пра эксклюзіўную пастаноўку ў Беларускім музычным тэатры, не лішнім будзе зрабіць яшчэ адзін невялічкі экскурс у сцэнічную гісторыю гэтага твора. Папулярнасць п’есы Аляксандра Галіна была настолькі вялікай, што ў 1984 годзе вядомы кампазітар Аляксандр Журбін у садружнасці з паэтам і сцэнарыстам Георгіем Ферэ стварыў паводле яе музычную камедыю «Вяселле на старасці гадоў». Пад гэтай і іншымі назвамі музычная версія «Рэтра» ставілася ў розных расійскіх тэатрах. У 2007 годзе да яе звяртаўся і Міхаіл Кавальчык, будучы ў той час мастацкім кіраўніком Валгаградскага музычнага тэатра — тады ён выпусціў паўнаметражны музычны спектакль у дзвюх дзеях пад назвай «Вяселле ў стылі рэтра». Але яго цяперашнюю камерную

пастаноўку ў Беларускім музычным тэатры ні ў якім разе нельга ні звязваць, ні параўноўваць з валгаградскай — яны розныя не толькі па прынцыпе пастаноўкі, але і па жанравых характарыстыках, аб'ядноўвае іх толькі назва.

«Вяселле ў стылі рэтра». стала пятай пастаноўкай на музыку Журбіна ў нашым тэатры. Яшчэ ў 1982 годзе тут быў пастаўлены яго мюзікл «Пенелопа» паводле п'есы Барыса Рацэра і Уладзіміра Канстанцінава, потым — мюзікл «Прынц і жабрак» паводле аднайменнай аповесці Марка Твэна (які ў нас ішоў пад назвай «Гуляем у прынца і жабрака»), мюзікл «Біндзюжнік і кароль» паводле Ісака Бабеля, а таксама яго самы знакаміты твор — рок-опера «Арфей і Эўрыдыка» на лібрэта Юрыя Дзімітрына. Апошняя з названых пастановак, ажыццёўленая ў 2004 годзе, вартая таго, каб яшчэ раз сказаць аб ёй некалькі слоў. У той час наш тэатр пайшоў на смелы эксперымент, упершыню злучыўшы ў адным спектаклі жывы аркестр, вакальныя і балетныя партыі, у выніку чаго жанр пастаноўкі вызначылі як рок-опера — балет. (Да таго часу «Арфея і Эўрыдыку» ставілі ці як рок-оперу, ці як балет.) Пазнаёміцца з такой незвычайнай версіяй свайго твора тады прыехаў сам Журбін і ў гутарцы з журналістамі адзначыў літаральна наступнае: «Ваш театр предпринял очень серьезный и даже рискованный эксперимент. Ни в одном театре мне ещё ни разу не доводилось видеть постановку, где от начала и до конца спектакля вокальная строчка дублируется хореографической. Это неожиданно и необычно, и вместе с тем можно сказать, что в постановке достигнуто какое-то новое, совершенно удивительное качество. Образ этого непростого спектакля, построенного на новых жанровых основах, многоплановый, как двойное зеркало, все ракурсы которого сразу трудно уловить».

І нарэшце — апошняя, таксама эксперыментальная пастаноўка тэатра на музыку Журбіна — «Вяселле ў стылі рэтра», якая і дала штуршок да гэтай размовы. Але ў праграмцы спектакля ўказаны не музычны, а літаратурны жанр: лірычная камедыя. Гэта сапраўды так — спектакль пабудаваны на драматургіі п'есы, а не на музычнай драматургіі. Музыка адыгрывае ў ім істотную, але ўсё ж дапаможную ролю. Па сутнасці, гэта драматычны спектакль з музычнымі нумарамі, якія ўзбагачаюць і вельмі ўпрыгожваюць яго. Зрэшты, пры пастаноўцы спектакля акцэнт рабіўся менавіта на драматычным складніку, што для артыстаў музычнага тэатра было нязвыклым.

Аўтар лібрэта — Аляксандр Зотаў, які ў апошні час даволі актыўна супрацоўнічае з Музычным тэатрам. І толькі ў анатацыі да спектакля можна прачытаць, што ён пастаўлены па матывах п'есы Аляксандра Галіна «Рэтра» ў літаратурнай рэдакцыі Аляксандра Зотава з музыкай Аляксандра Журбіна. І вось гэта азначэнне — самае дакладнае. Аляксандр Зотаў ажыццявіў менавіта літаратурную рэдакцыю п'есы, адаптаваўшы яе да камернай пастаноўкі з лёгкімі музычнымі нумарамі, зрабіўшы «падводкі» да гэтых нумароў і напісаўшы іх тэкст. У гэтым, канешне, прасочваюцца элементы лібрэта, але і пасля рэдагавання п'еса Галіна па-ранейшаму засталася паўнавартасным літаратурна-драматургічным творам: поўнасцю захавалася яе фабула з усімі калізіямі, не змяніліся ўчынкі і паводзіны персанажаў і самае галоўнае — іх характары. Таму і рэжысёрскае вырашэнне спектакля аказалася такім драматычна насычаным і псіхалагічна пранікнёным. А атмасфера малой сцэны гэтаму толькі спрыяла.

Што датычыцца музычнай часткі спектакля, то тут цяжка правесці нейкую паралель з творам Журбіна, які быў напісаны больш за трыццаць гадоў таму і сцэнічнае ўвасабленне якога мы не бачылі. Але з улікам таго, што гэта была музычная камедыя, можна меркаваць, што і музычны матэрыял у ёй адпавядаў законам жанру. Па словах Міхаіла Кавальчыка, у цяперашняй камернай пастаноўцы выкарыстаны асобныя нумары з таго твора, які рэжысёр ставіў у Валгаградзе, а таксама з іншых твораў Журбіна, у тым ліку і яго вядомыя песні. Сапраўды, у час прагляду спектакля ўгадваюцца многія знаёмыя мелодыі, напрыклад, з мюзікла «Біндзюжнік і кароль» або такіх папулярных песень

кампазітара, як «Пасляваеннае танга», «Усё да лепшага» ды інш. (але ўжо са змененым тэкстам).

У цэлым музычныя нумары ў гэтай пастаноўцы вызначаюцца сваёй разнастайнасцю і нават стракатасцю: тут ёсць шлягеры і рамансы, частушкі і гарадскі фальклор і нават бугі-вугі з рок-н-ролам. Але ў рамках спектакля ўвесь гэты музычны калейдаскоп складваецца ў выразную цэласную карціну, дзе кожны фрагмент знаходзіцца на сваім месцы і дадае ў агульную палітру свой уласны колер. Кожны з персанажаў, у залежнасці ад яго характару, мае свой музычны нумар (а то і некалькі), ёсць дуэты і ансамблі, а некаторыя сцэны завяршаюцца заліхвацкімі вакальна-танцавальнымі нумарамі.

Музычную стыхію спектакля падтрымлівае своеасаблівы сцэнічны аркестрык — інструментальны ансамбль у складзе сінтэзатара, фартэпіяна і ўдарных. Адаптацыю і аранжыроўку музычнага матэрыялу ажыццявіў артыст аркестра піяніст Іван Кучарэнка. Уся музычная фактура ў яго апрацоўцы вызначаецца своеасаблівай празрыстасцю, тонкасцю і адначасова — стылявой выразнасцю. У цэлым музычная культура пастаноўкі забяспечваецца тым, што ў яе ёсць музычны кіраўнік — дырыжор Марына Траццякова. Сваю лепту ў пастановачную культуру ўнёс і балетмайстар Сяргей Мікель. Нягледзячы на тое, што асобных харэаграфічных нумароў у спектаклі няма, ён правёў адпаведную работу з выканаўцамі па агульным пластычным малюнку іх роляў і што асабліва заўважна — па кампазіцыйнай пабудове музычных нумароў з танцавальнымі элементамі.

Перш чым перайсці да разважанняў аб драматычнай частцы спектакля, варта коратка нагадаць змест п’есы. Яе галоўным героем з’яўляецца адзінокі чалавек у гадах з глыбінкі, якога забрала да сябе ў Маскву дачка, што жыве там у поўным дастатку. Але ў старога не складваюцца адносіны з мужам дачкі, пасляховым і самаўпэўненым дзялком, ды і з ёй самой ён не знаходзіць узаемапаразумення. Выйсце са становішча зяць з дачкой бачаць у тым, каб ажаніць бацьку і выправіць жыць да наваяўленай жонкі. З гэтай мэтай яны запрашаюць да сябе на кватэру трох патэнцыяльных нявест-пенсіянерак. Але замест таго, каб прыйсці на «агледзіны» ў дакладна прызначаны час, усе трое з’яўляюцца амаль адначасова. Як кожны з персанажаў паводзіць сябе ў такой неардынарнай сітуацыі, праз якія смешныя і сумныя калізіі яны праходзяць і чым справа вырашаецца — за гэтым і назіраюць гледачы на працягу спектакля. Дзея адбываецца ў адным з пакояў вялікай кватэры на працягу вечара.

Адзіным выканаўцам ролі Рыгора Міхайлавіча (так завуць галоўнага героя) з’яўляецца заслужаны артыст Расіі Аляксей Кузьмін, які служыць у нашым тэатры з 1984 года. За гэты час глядач часцей за ўсё бачыў яго ў амплуа коміка-прастака і яркіх характарных ролях, што ўжо само па сабе сведчыць аб наяўнасці ў артыста драматычнага дару. І гэта заўсёды яскрава праяўлялася нават у невялікіх размоўных сцэнах музычных спектакляў — ад аперэты да мюзікла, дзе ён знаходзіў самыя яскравыя штрыхі да вобраза і патрэбную, надзвычай выразную інтанацыю. Гэты артыст вызначаецца таксама вытанчанай танцавальнай пластыкай і нейкай небывалай лёгкасцю рухаў, нягледзячы на яго паважаны ўзрост. «Пры тым, што ўсё маё творчае жыццё звязана з музычным тэатрам, я вельмі люблю і цаню драматычны тэатр і заўсёды душою да яго гарнуся, — адзначае Аляксей Аляксеевіч. — Так што я вельмі рады гэтай нечаканай магчымасці сыграць па-сапраўднаму драматычную ролю, прытым у камернай пастаноўцы, дзе можна перадаць самыя тонкія нюансы душэўнага стану свайго персанажа».

У п’есе Галіна галоўны герой, седзячы ў адзіноце ў шыкоўнай кватэры дачкі, сам з сабой гуляе ў шашкі, а яшчэ размаўляе з галубамі, якія заўсёды чакаюць яго на падаконніку. У спектаклі ж, таксама ў адзіноце, ён іграе на старэнькім гармоніку нязменны вясковы хіт *«Когда б имел златые горы...»* (відаць, «музычны



*«Вяселле ў стылі рэтра».*

ўхіл» гэты персанаж атрымаў разам з пераходам твора ў музычны жанр). Аляксею Кузьміну давялося самастойна навучыцца іграць на гармоніку, падбіраючы знаёмыя мелодыі на слых. У спектаклі ён выглядае з гэтым інструментам вельмі арганічна — як сапраўдны вясковы музыка. І пад яго няхітры акампанемент усе тры гарадскія «нявесты» з непадробным імпэтам спяваюць частушкі, прытанцоўваючы на вясковы манер. Але гэта адбываецца пазней, ужо ў час імправізаванага калектыўнага *«вяселля».* Напачатку ж патэнцыяльны «жаніх» паводзіць сябе замкнута і нават дзікавата. А калі да яго канчаткова даходзіць, дзеля чаго дзеткі запрасілі гэтых жанчын, ён ладзіць своеасаблівы пратэст: разыгрывае сапраўдную клаунаду, прыкідваючыся *«нервным психом».* У дачкі пачынаецца істэрыка, шакіраваныя «нявесты» ўжо збіраюцца разбягацца, і адзін толькі зяць, застаючыся абсалютна спакойным, знаходзіць важкія аргументы, каб утрымаць жанчын і прапануе па-добраму дамовіцца паміж сабой, хто з іх рызыкне ашчаслівіць старога. Пакуль «нявесты» разбіраюцца паміж сабой, у каго больш вопыту па доглядзе за псіхамі, стары зусім нечакана звяртаецца да іх з жаласлівай просьбай пазычыць грошай на білет, каб з'ехаць адсюль у вёску, дзе пасля смерці яго сястры застаўся дом. Тут ужо зяць скідвае з сябе пакроў інтэлігентнай стрыманасці і заяўляе аб сваёй рашучасці здаць цесця ў вар'яцкі дом. І больш ужо не затрымлівае жанчын, якія цішком сыходзяць. Услед за імі выходзіць з дому і дачка, каб купіць бацьку білет на цягнік, а ўслед за ёй і зяць. Стары, застаўшыся адзін, з яшчэ большай роспаччу перажывае сваю беспрытульнасць.

Відавочна, наколькі драматычна насычанай з'яўляецца гэтая роля. Але прадстаўленыя ў першай палове спектакля характарныя рысы Рыгора Міхайлавіча толькі часткова абмалёўваюць яго псіхалагічны партрэт. Па-сапраўднаму і з зусім нечаканага боку натура старога раскрыецца пазней, калі для таго ўзнікнуць адпаведныя абставіны, у якіх ключавую ролю адыграюць яго «нявесты». Таму настала чарга прадставіць кожную з іх.

Па графіку, складзенаму зяцем, на кожную прэтэндэнтку адводзілася па гадзіне, і першай павінна была прыйсці Роза Аляксандраўна — былая актрыса, самая яркая і прывабная з гэтых жанчын, разняволеная ў манерах і паводзінах.

Праўда, яна спазнілася і прыйшла другой, ажывіўшы пры гэтым атмасферу псіхалагічнай нацягнутасці, якая на той момант ужо ўсталявалася у доме. *«Ну-с, где же мой старичок?»* — адразу жартаўліва-змоўніцкім тонам прамовіла яна, папярэдне спытаўшы: *«Как я выгляжу?»* Пакуль «жаніх» хаваўся на кухні, Роза Аляксандраўна, лёгкая і непаседлівая, як матылёк, кружыла па пакоі, прыхарошваючыся перад антыкварным трумо, потым запатрабавала сабе бакал шампанскага — напітак сваёй маладосці і з ўзвышанымі эмоцыямі пачала ўспамінаць гады, што так хутка праімчалі. Адпаведна настрою гэтай гераіні прагучала і яе настальгічнае «Танго воспоминаний»: *«О, южное море! О страстные танцы!..»*, якое закончылася ўжо ў мінорнай танальнасці: *«Вино в Сухуми, коньяк в Батуми, // О, горькая курортная любовь!..»* Але падобныя праявы — гэта толькі знешнія характарыстыкі былой актрысы. На самай справе яе артыстычная натура, таксама як і тонкая душэўная арганізацыя, толькі садзейнічаюць яе ўразлівасці і бездапаможнасці перад жыццёвымі абставінамі. Меўшы безліч паклоннікаў, яна так і не ашчаслівіла ні аднаго з іх і сама засталася адзінокай. І Рыгор Міхайлавіч інтуітыўна адчуў яе амаль дзіцячую непасрэднасць і шчырасць адкрытай душы. Сваімі паводзінамі яна яго ніколькі не шакіравала, а яе знешні выгляд настолькі яго ўразіў, што ён спачатку застыў, як зачараваны. Пазней ён скажа Розе Аляксандраўне, што такіх жанчын ніколі ў жыцці не бачыў, толькі — па тэлевізары… Няцяжка было здагадацца, што на гэту яркую і неадназначную ролю будзе прызначана легенда тэатра, народная артыстка Беларусі Наталія Гайда, якую гледачы заўсёды рады ўбачыць у чарговай пастаноўцы, прытым у такой незвычайнай, калі можна так блізка судакрануцца з яе артыстычнай аўрай.

Цікава, а для кагосьці, магчыма, і нечакана было ўбачыць у ролі Розы Аляксандраўны яшчэ адну выканаўцу — Лесю Лют. У гэтай артысткі вялікі і ў сілу розных прычын не да канца рэалізаваны акцёрскі патэнцыял. Яе можна аднесці да рэдкага амплуа актрысы-травесці, і не толькі з-за мініяцюрнага целаскладу ды выключнай пластыкі. Сапраўды, яна здольна сыграць і прынцэсу, і пажа, ды каго заўгодна, нават самую нечаканую характарную ролю, прытым узроставую. Што мы і ўбачылі ў гэтым спектаклі.

Абедзве выканаўцы па-рознаму акцэнтуюць характарныя рысы сваёй гераіні. Наталія Гайда больш падкрэслівае яе ўнутраны стан і кранальнасць душы, а Леся Лют — знешні імпэт і эксцэнтрычнасць натуры. І сапраўдныя тэатралы, а сярод прысутных на малой сцэне, думаецца, такія ўсе, не прамінуць паглядзець гэты спектакль з удзелам абедзвюх артыстак.

Другой у адпаведнасці з графікам зяця павінна была прыйсці былая медсястра з *«дома скорби»* Ніна Іванаўна. Але ад хвалявання яна ўсё пераблытала і прыйшла нават раней таго тэрміну, які быў прызначаны для першай прэтэндэнткі. Так што Роза Аляксандраўна прыняла сядзеўшую за сталом жанчыну за сваячку, якую запрасілі ацаніць яе як нявесту. *«Вас пригласили на меня посмотреть? Смотрите! Только — без замечаний!»* — парыравала яна заўвагу саперніцы, што трэба паводзіць сябе больш сціпла. Не ведала Роза Аляксандраўна і аб тым, што яе «жаніх» ужо прайшоў першы этап агледзін, а таму ціха сядзеў на кухні, каб не удзельнічаць у другім.

Сапраўды, вымушанае знаёмства з медсястрой было для Рыгора Міхайлавіча ломкай яго ўнутранага «я». Напачатку ён проста закрыўся ад яе газетай (зрабіў выгляд, што чытае), а потым, выціснуўшы з сябе колькі слоў у адказ на яе пытанні, проста выйшаў з пакоя, спаслаўшыся на тое, што трэба тэрмінова заклеіць бок гармоніка. І справа тут не ў тым, што сціпла апранутая Ніна Іванаўна з гаспадарчай сумкай у руках сваім выглядам яго расчаравала, а экстравагантная Роза Аляксандраўна з кітайскім парасончыкам падалася яму вельмі прывабнай (седзячы на кухні, ён яе нават і не бачыў). Стары ў гэты час абдумваў план уцёкаў, і знаёмства з другой жанчынай, таксама як і з першай, яму было зусім не патрэбна. Пры гэтым ён не ведаў, што хутка з’явіцца яшчэ і трэцяя.

Вобразы дзвюх першых «нявест» пабудаваны на прынцыпе кантрасту. Яны рэзка адрозніваюцца адна ад адной не толькі сваім выглядам і манерай паводзін, але і ўнутраным складам. Ніна Іванаўна — сціплая, спакойная і разважлівая, прапагандуе здаровы лад жыцця (каб не шкодзіць арганізму, нават адмаўляецца ад шампанскага і другім не раіць яго ўжываць). Свае перажыванні і эмоцыі на паказ не выстаўляе, але праніклівы музычны нумар поўнасцю выдае стан яе душы: *«С каждым годом всё больше морщинок, // С каждым годом всё меньше надежд…»* І што здаецца не зусім уласцівым для жанчыны яе асяроддзя, яна раз-пораз праяўляе ці то залішнюю ўжо прастакаватасць, ці то дзіўную вузкасць кругагляду… На пытанне Розы Аляксандраўны *«А вы, милочка, из какой области?»* яна прастадушна адказвае: *«Из Рязанской. Но давно живу в городе».* Разам з тым Ніна Іванаўна лічыць, што ў яе ёсць нейкая маральная перавага над саперніцай, і таму яна дазваляе сабе раз-пораз рабіць ёй заўвагі. Карацей кажучы, таксама — характар! І пазней ён праявіцца яшчэ і з іншага боку: Ніна Іванаўна нават за кампанію вып’е (прытым не шампанскага) і побач з Розай Аляксандраўнай паспрабуе сябе ў танцах. Гэту характарную ролю выконвае Людміла Станевіч, якая раней выступала ў амплуа гераіні. Але вобраз Сільвы ці Марыцы — гэта пэўны тыпаж, засвоіўшы які, салістка будзе ўпэўнена адчуваць сябе ва ўсіх аперэтах, тым больш з падтрымкай аркестра, хору і балета. На камернай сцэне падобнай падтрымкі зусім няма, артыстка застаецца адзін на адзін з гледачом, і ў яе распараджэнні толькі адзіны сродак — акцёрская ігра. І ў Людмілы Станевіч усё так пераканаўча атрымалася! У гэтым спектаклі яна паказала сябе з таго боку, з якога раней глядач проста не меў магчымасці яе ўбачыць.

І нарэшце, трэцяя «нявеста» — вахцёрка Тамара Васільеўна, якая таксама прыйшла раней прызначанага тэрміну, бо баялася спазніцца на дзяжурства. Але замест знаёмства з «жаніхом» ёй давялося пазнаёміцца са сваімі саперніцамі, якіх яна таксама спачатку прыняла за гасцей. У адрозненне ад іх, Тамара Васільеўна мела і сына, і ўнукаў. Але ж вядомая справа: той, хто мае ўнукаў, павінен мець і грошы, таму і працуе яна да гэтага часу, спадзеючыся, што калі-небудзь яе ўнукі змогуць здзейсніць кругасветнае падарожжа, аб якім яна сама марыла ўсё жыццё. У гэтай гераіні ёсць нават адпаведны музычны маналог: *«Белый пароход выплывет однажды из тумана. // Не было — и вот: здравствуй, пароход, // Странствующий рыцарь океана...»* Гэтую амаль што лірычную ролю выконвае Ірына Заянчкоўская, якую гледачы звычайна бачаць у характарных і нават гратэскавых вобразах. У сувязі з гэтым узнікае крамольная думка: магчыма, Заянчкоўская была б больш пераканаўчай у ролі былой медсястры, якая надзелена шэрагам характарных рыс. Але ў такім выпадку мы не ўбачылі б выдатнай акцёрскай работы Людмілы Станевіч… Відаць, рэжысёр невыпадкова пайшоў на такі крок і ў рамках гэтай эксперыментальнай пастаноўкі правёў яшчэ адзін творчы эксперымент, спрабуючы выканаўцаў у нязвыклых для іх амплуа.

…З усіх траіх жанчын самае вялікае нецярпенне праяўляла Роза Аляксандраўна, раз-пораз пытаючыся, калі ж нарэшце выйдзе гэты загадкавы «жаніх». — *«Может, его под молодого гримируют?»* — не сунімалася яна. І вось нечакана ён з’явіўся ў дзвярах — у валёнках і шапцы-вушанцы, з чамаданам у руках. Але зяць, не разгубіўшыся, выкарыстаў гэты момант, каб нарэшце прадставіць цесця дзвюм новым жанчынам. У старога адабралі чамадан, яго самога ўсадзілі ў раскошнае крэсла, далі ў рукі бакал і прапанавалі прамовіць тост. — *«А чего говорить, коли я свихнутый… Видения у меня начались… Зачем вам, гражданки милые, ненормальный старик?»* І тут пачалася тая самая клаўнада, аб якой ужо згадвалася вышэй. Рыгор Міхайлавіч усё жыццё працаваў страхаром — крыў і рамантаваў дахі (хоць зяць гаварыў, што ён знайшоў сябе ў тэхнічнай эстэтыцы і займаецца вырабамі з металу). — *«Столько лет просидел на крышах, а когда спустился, всё, всё кругом изменилось! Так я обратно туда полезу! Подымется кровля — и я на ней по-ле-чу!..»* У такім жа духу гучаў і яго музычны дыялог…

Пасля смерці жонкі ў Рыгора Міхайлавіча засталася толькі адна родная душа — дачка Людміла, якая і забрала яго да сябе ў Маскву. І нельга сказаць, што адносілася яна да бацькі дрэнна — клапацілася аб ім, зыходзячы са свайго разумення. Дом у дачкі — не проста поўная, а перапоўненая чаша. Яе муж Леанід займаецца антыкварыятам, і ўся іх кватэра застаўлена дарагой антыкварнай мэбляй і прадметамі раскошы мінулых стагоддзяў. Рыгор Міхайлавіч імкнецца быць карысным у гаспадарцы: то пыл сатрэ з антыкварных рэчаў, то што-небудзь пачысціць… — *«Я просил не мыть в тазике фарфор династии Сун. Так вы вспомнили всю мою династию»,* — у такім духу звычайна праходзілі дыялогі паміж зяцем і тесцем… Але часцей яны не размаўлялі паміж сабой наогул. Леанід — удачлівы і самазадаволены дзялок, у якога *«всё схвачено и всё будет тип-топ»*. Людміла як быццам задаволена сваім жыццём з ім. Але бацька адчувае, што пры такім дастатку ў доме не хапае самага галоўнага — шчасця. І гэта выразна чуваць у музычным маналогу Людмілы: *«Да разве мы семья, в которой роль моя — // Не спутница тебе, а лишь попутчица…»* Ролі жонкі і мужа выконваюць заслужаныя артысты Беларусі Маргарыта Александровіч і Антон Заянчкоўскі — вядучыя салісты тэатра, даўні і зладжаны дуэт. Але ў гэтым спектаклі яны (як і астатнія выканаўцы) сканцэнтраваны на драматычным аспекце пастаноўкі, і гледачам гэта надзвычай цікава. Чаго варта адна толькі сцэнічная мова Заянчкоўскага — як у сапраўднага драматычнага акцёра. З такім жа поспехам працуе і Маргарыта Александровіч. У музычных спектаклях, якія ідуць на вялікай сцэне, салісты таксама выконваюць акцёрскія задачы, але ў камернай пастаноўцы над камунікацыяй усё ж прэваліруе дыялог, а над тэхнічнымі кампанентамі — псіхалагічныя. І гэта так проста не даецца.

…У апусцелай кватэры стары з яшчэ большай роспаччу перажываў сваю беспрытульнасць і марыў аб тым моманце, калі зноў акажацца на волі: *«Я вроде птицы жизнь на крышах провёл… Лестницу в руки, гвоздь в зубы, и пошёл в небо»*. І вось ён пачуў, быццам у кватэру нехта зайшоў — дзверы ж засталіся не зачыненымі. Гэта ціхенька вярнулася Роза Аляксандраўна. Яна сядзела ў двары і абдумвала ўсё, што здарылася. Вінаватым голасам прамовіла, што сапраўды не можа пазычыць яму грошай на білет — пенсію атрымае толькі праз два тыдні. І памалу-паціху паміж імі завязалася размова, якая станавілася ўсё больш даверальнай… А потым яны запалілі свечкі, селі за стол і ўжо з задавальненнем пілі шампанскае ды елі розныя прысмакі, тым больш што Роза Аляксандраўна сапраўды была галоднай. А потым зусім неўпрыкмет размова зайшла аб тым, што яны паедуць у вёску разам: яна нарэшце навучыцца гатаваць, а ён будзе аддаваць ёй сваю пенсію.

Праз некаторы час у кватэру зайшла Тамара Васільеўна — яна з'ездзіла дамоў і прывезла Рыгору Міхайлавічу грошы на білет. А неўзабаве з'явілася і Ніна Іванаўна, якая ў той нервовай абстаноўцы забыла пад сталом сваю сумку, і таксама прапанавала яму грошы… І тут ужо «Вяселле ў стылі рэтра» пачало хутка набіраць абароты. Усе чацвёра адчулі шчырую зацікаўленасць у зносінах і нават духоўную роднасць паміж сабой — іх лёсы ў многім перапляталіся. І ўсім чацвярым было па-сапраўднаму цікава і весела разам. Іх застолле, як на сапраўдным вяселлі, чаргавалася з песнямі і танцамі (і музычныя сцэны тут былі пастаўлены адмыслова).

Але ж праз пэўны час у кватэры з'явіліся яе гаспадары. Людміла прынесла білет на цягнік. А Леанід, жыва ацаніўшы абстаноўку, выкінуў з'едлівы жарт: можа, бацька ўжо перадумаў ад'язджаць і сапраўды надумаў жаніцца?! Цікава — на каторай з іх? — *«На всех!.. В последний раз женимся!»* Рыгор Міхайлавіч адмовіўся ад прапановы дачкі і зяця адвезці яго на вакзал на сваёй машыне. Па начным горадзе ён пайшоў туды на сваіх дваіх у суправаджэнні ўсіх трох жанчын. А дачка з зяцем з акна разгублена назіралі за гэтай амаль рытуальнай працэсіяй… Фінал спектакля застаўся адкрытым.

Гэтую п’есу не варта разглядаць толькі як спрадвечны канфлікт пакаленняў. Тут канфлікт іншага кшталту — жыццёвых каштоўнасцей і светапоглядных установак. Для Леаніда самае галоўнае ў жыцці — матэрыяльныя даброты і «прэстыж», і гэтага яму дастаткова для шчасця. Для Людмілы, відаць, гэтага ўсё ж недастаткова, бо шчаслівай сябе яна не адчувае. А вось для яе бацькі шчасце заключаецца ў тым, каб знаходзіцца на сваім месцы, займацца сваёй справай і жыць у суладдзі з самім сабой і навакольным асяроддзем.

Адметнасць малой сцэны датычыць усіх удзельнікаў тэатральнага працэсу: і пастаноўшчыкаў, і выканаўцаў, і гледачоў. Майстэрства рэжысёра заключаецца ў тым, што на такой сцэне ён павінен паставіць паўнавартасны спектакль малымі сродкамі. І работа Міхаіла Кавальчыка гэта яскрава засведчыла. Вядома, у яго велізарны вопыт, прытым як музычных, так і драматычных пастановак, і яго веданне законаў псіхалагічнага тэатра ў рабоце над гэтым спектаклем стала вызначальным. У дачыненні да работы акцёраў, занятых у пастаноўцы, галоўнае ўжо было сказана. Але тут важна адзначыць, што малая сцэна з’яўляецца вельмі добрай школай для шліфавання акцёрскіх навыкаў наогул. А для артыстаў старэйшага пакалення, не так многа занятых у пастаноўках бягучага рэпертуару, гэта вельмі спрыяльны шанец зноў аказацца запатрабаванымі. Што ж датычыць гледачоў, то на малой сцэне яны атрымліваюць магчымасць адчуць так званы эфект прысутнасці, які дазваляе больш дакладна і тонка рэагаваць на ўсе нюансы акцёрскай ігры. А гэта робіць акцёраў і гледачоў як бы партнёрамі агульнага тэатральнага дзейства.

Спектакль «Вяселле ў стылі рэтра» стаіць у рэпертуарным плане тэатра, і яго першыя паказы засведчылі, што такі фармат пастановак нашых гледачоў адразу зацікавіў. Рэальны факт: ведаючы, што ніводнага свабоднага месца няма, самыя адданыя прыхільнікі тэатра ўсё роўна стаялі каля ўвахода і ў кожнага пыталіся пра лішні квіток…

***Фота Марыі КАЛЯДЫ і Сяргея ЧЫГІРА.***



Алег СЛУКА

# ДЫЯЛОГ З ДУШОЙ ПАЭТА

Больш за паўстагоддзе жыве ў маёй душы вельмі пачувальная думка — напісаць шчыры паэтычны паланэз пра маіх таленавітых сяброў. Сваім творчым жыццём яны склалі незвычайную паэму, у якой праз высокія пачуцці прарасла наша супярэчлівая, іншы раз жорсткая і нават трагічная, але захапляльная і непаўторная эпоха. Непаўторная — гэта не для прыквечанага слова, а для сапраўднай велічы часу, які мы пакажам праз разуменне яго нашымі суайчыннікамі.

У душы маёй нешта віравала, прызыўна ўзмацняла жаданне напісаць хвалюючую музыку, каб не толькі ўспомніць сваё незвычайнае юнацтва, але і стварыць у свядомасці сучаснікаў яркае ўяўленне пра нашае захапляльнае жыццё.

Няма сумнення ў тым, што на шматколернай жыццёвай арэне мае таварышы кожны дзень праходзілі праз чысцілішча гонару і чэсці, заўсёды былі, як кажуць, на вачах у людзей, і такі пастаянны, складаны, бескампрамісны і строгі кантроль пазбаўляў іх усіх заразных сацыяльных хвароб, якія сталі непераадольнай спакусай для часткі нашага сучаснага грамадства.

Я не заўважыў, як прайшло паўвека! Пяцьдзясят гадоў мінула з той чароўнай эпохі, калі ўзляцела рамантычным поспехам наша юнацкае жыццё. Нават неяк дзіўна пісаць аб гэтым у сённяшні складаны і супярэчлівы час, калі мы ўсе разам, шукаем, і, на жаль, не заўсёды знаходзім архімедаву кропку духоўнай апоры, каб не перавярнуць, а ўсталяваць сваё жыццё па божай ласцы ў прасторы і часе, і ўжо не толькі па жаданні «людзьмі звацца» (даруй нам, вялікі Янка Купала), а стаць упоравень з загадкавым касмічным прышэльцам з будучыні «homo creatos».

Маё пакаленне, можа, і са спазненнем, але ўсё ж перайшло ў новую цывілізацыю XXI стагоддзя. Мы радуемся яе неспадзеўнымі фантастычнымі здабыткамі і да свайго здзіўлення ніяк не можам пазбавіцца знішчальнай пачварнасці сусветнай, фактычна перманентнай вайны, усеагульнага планетарнага азлаблення людзей і ў дадатак да нашых сусветных бед, моцна прапагандуемай, глабальнай экалагічнай катастрофы.

А ў наш залаты час, іменна так, залаты, без усякага перабольшання, яшчэ да Чарнобыля, напрыклад, было далёка і ніхто не задумваўся, што недзе выспявае смяротная выпадковасць. Гэта цяперашняя рэальнасць, якая зусім нядаўна для нас была страшней за пачвараны сон.

Наша жыццё было ўзнёслым. Гарачыя ўспаміны, незвычайны душэўны палёт па-сапраўдаму слепіць вочы да сяго часу. Мне падаецца, што сілы нябесныя і працэсы зямнога ўладкавання чалавека сышліся ў спрыяльнай для нас сферы. Грамадствам былі створаны фундаментальныя стартавыя магчымасці для ўзлёту маладых людзей, у душы якіх кіпела жаданне разведаць жыццё на ўзроўні самых высокіх дасягненняў і нават зазірнуць за далёкі зманлівы і непазнаны небасхіл.

Можа, гэтыя ўмовы і нельга назваць цяплічнымі, бо сучасныя чытачы ўспрымуць гэта як жарт, а яшчэ горш, як неспадзеўную здзёўку, але мы яго такім лічылі і бачылі. І не беспадстаўна. Усе мы, дваццаць пяць чалавек, студэнцкая група ўніверсітэта — вярнуліся з арміі. Адна гэта ўніверсітэцкая святочная дэталь, як

пажыццёвая ганаровая ўзнагарода. Не толькі для салдата, але і ўсіх яго блізкіх і сяброў.

Што такое звальненне ў запас для салдата? Гэта своеасаблівы трыумф вяртання маладога чалавека са спецыфічнай ваеннай сферы, дзе жыццё рэгламентавана жорсткімі ваеннымі статутамі і, як кажуць, жалезнай дысцыплінай, дзе прадметам першай неабходнасці з'яўляецца зброя. І пранясі Божа, каб не давялося выкарыстоўваць яе ў баявых аперацыях! А цяпер ты студэнт універсітэта, студэнт БДУ, што гучыць як музыка ў душы.

Мы прыйшлі з арміі і ўсёй істотай акунуліся ў чароўны свет неспадзявана таямнічага студэнцкага жыцця. Але вянцом нашага задавальнення і грамадзянскага сталення было тое, што мы свой пачэсны воінскі доўг Радзіме аддалі, а цяпер, о, бясконцая радасць! — сталі студэнтамі!

Падумайце толькі: пасля салдацкай казармы, штодзённых пад'ёмаў, трывог, шматкіламетровых маршаў з поўнай выкладкай, кірзовых ботаў з мазалямі на нагах і палявой формы-хакі з фарсістай пілоткай на галаве, — на табе ледзь не фрак з белай манішкай. Ад салдата засталіся ў студэнцкую спадчыну шырокія плечы, сяржанцкая выпраўка і мужны твар маладога хлапца-малайца, адкрыты для пазнання навукі і жыцця.

Замена салдацкай кніжкі на студэнцкі білет далася складаней, чым вучэбная атака на лінію абароны ўяўнага праціўніка. Атаку можна было паспяхова паўтарыць, а адказ на экзамене не паўторыш. Во дзе маглі атрымаць поўнае і непажаданае паражэнне! Вучылі матэрыялы дзень і ноч. Конкурс на аддзяленне журналістыкі быў высокі. І ўсе знаходзіліся пад строгім і недаступным Богам выкладчыкаў прыёмнай камісіі.

Прыёмная аперацыя была падобна на нейкі трагічны ваенны рытуал, што выходзіў далёка за палажэнні ўсіх статутаў узброеных сіл. Пасля кожнага экзамена салдаты-абітурыенты выстройваліся ў двары ваеннага камісарыята і пачыналася незвычайная пераклічка. Камендант называў прозвішчы тых, хто атрымаў нездавальняючыя адзнакі на ўчарашніх экзаменах. У гэтую хвіліну, здавалася, на вуліцы спыніліся машыны і галубы на таполях у двары сцішылі сваё гулюканне, а мы ад страху проста не дыхалі і чакалі. Раздавалася каманда: «Названыя салдаты, два крокі наперад! Па сваіх воінскіх часцях: «Шагам марш!»

І ўсё! Канец светлай жыццёвай надзеі. Зноў трэба вяртацца ў сваю казарму. Такі круты быў лёс салдата.

— Сэрца маё трапятала і рвалася з грудзей, — расказваў мой сусед-салдат у шэрагу з правай рукі. — Не дай бог, я не здам экзамены. У армію вярнуцца не баюся. Я там у сваёй стыхіі. Але ж яна часовая і восенню закончыцца. А куды я потым вярнуся? У свой родны калгас? Дык там я адпрацаваў два гады пасля заканчэння школы. Спецыяльнасці ў мяне няма. Што тады «гаснуць» там, у калгасе, не загарэўшыся? А я хачу і адчуваю ў сабе сілы зрабіць нешта цікавае і значнае, не параўнальнае з тым, што я ў калгасе вазіў трасту на льнозавод.

Экзамены мой таварыш здаў паспяхова, выдатна закончыў універсітэт, стаў таленавітым журналістам. Былы стралок-радыст Леанід Бохан, пасля вучобы ва ўніверсітэце разам са сваім сябрам Рыгорам Кадзетам працаваў па накіраванні ў газеце «Хімік» у горадзе маладых рамантыкаў Наваполацку, потым яго прызвалі ў армію і накіравалі ў газету Забайкальскай ваеннай акругі. На канец свету, як казаў ён сам. Там, у далёкім горадзе Чыта, прафесійна развіваўся публіцыстычны талент маладога ваеннага журналіста.

У ваеннай сферы далёкага ад Беларусі халоднага краю ўзышла новая цёплая зорка, якая душэўным зваротам, пранікнёным эмацыянальным словам і спагадай у складаным салдацкім жыцці захоўвала ў маладых людзей надзею, умацоўвала сілы ў пераадоленні турбот вайсковага жыцця. Журналіст Бохан ствараў рэальны вобраз ваеннага чалавека ў мірных умовах. Вобразнае слова аб баявой салдацкай службе мацавала свядомасць маладых вайскоўцаў, раскрывала заканамернасці

пераадолення любых турбот дзеля паспяховага выканання свайго абавязку перад Бацькаўшчынай, дапамагала знайсці сілу і моц духу, каб не проста адбыць воінскую павіннасць, а свой абавязак выканаць з гонарам і чэсцю.

Такі незвычайны зварот ваеннага карэспандэнта да спецыфічнай баявой аўдыторыі быў заўважаны чытачамі, каму і адрасаваліся публіцыстычныя вопыты, і адзначаны калегамі-журналістамі. Капітану Бохану прапанавалі пасаду спецыяльнага карэспандэнта газеты Міністэрства абароны СССР «Красная звезда» па паўднёвай групоўцы паветранных сіл савецкай краіны з штаб-кватэрай у Алма-Аце.

Незвычайна цікавы лёс ваеннага журналіста паўстае ў вершы Віктара Поляка:

Он ходил с улыбкой тихой
И доверчивой такой,
Бесподобен был и лих он
В своей форме войсковой.
Руку жал почтенно-строго,
Точно взведенный курок,
И, довольный, часто трогал,
По привычке козырек.
Не продаст и не обманет —
Не объятья, а тиски!
Он не прятал по карманам,
Когда драка, кулаки…
Цену знал себе он твердо,
Оттого со всеми был
Неуступчивым и гордым,
Да не долгим у судьбы…

Калі таварыш знікае ў космасе неспадзявана рана, то з сэрца выпадаюць не слёзы, а зоркі, каб трагедыя не стала чорнай завесай на ўсё жыццё. Але нашы страты прыйдуць яшчэ не скора...

Я ведаю, адкуль у нас прарасла незвычайная грамадская моц, на чым сфарміраваўся стрыжань прафесійнага творчага гарту. Да нашага грамадскага сталення пачварная мінулая вайна, як злачынца, знікла. Зіхацелі на радасным сонцы адноўленага жыцця бясконцыя цудоўныя родныя вёскі, адкуль у большасці і выйшла маё таленавітае пакаленне.

Аднак хоць і знікла вайна перад націскам вялікага савецкага народа, але яе пагрозлівае дыханне людзі пержывалі і адчуваюць да гэтага часу. Трагічнае пачуццё і вельмі балючае.

У маёй памяці таксама мрояцца гаротныя малюнкі пасляваеннага жыцця: на вуліцах дзе-нідзе «маршыравалі» салдаты: медалёў звон і ордэнаў пачэсны бляск, але з… пустым рукавом ці з мыліцай замест нагі. Гаротнае гэта відовішча, аднак яно ішло ў мінулае, у тую чорную пустэчу, дзе знікла, па волі гэтых герояў, і праклятая вайна. Мы на вайне не былі, але яна нам вельмі балела.

Для нашага задавальнення, ці лепш сказаць для гартавання лёсу і моцы юнай душы, вайна пакінула не толькі незагойныя раны, але і бессмяротных Герояў. Нашых любых бацькоў, якія ў асноўным прайшлі дзве вайны — так званую фінскую і Вялікую Айчынную. Яны, нашы бацькі, былі былиннымі Волатамі — таму што пераможна закончыць такую страшэнную вайну маглі толькі незвычайныя багатыры. Хто вярнуўся дадому пасля чатырохгадовай атакі, а хто і застаўся на вечным полі бою. Радасць і гора былі падзелены на ўсіх, бо вайна кожнага чалавека накрыла чорнай хмарай. У тым ліку і я аказаўся на ўскрайку гэтага пякельнага вогнішча, прыйшоўшы ў гэты свет у 1941 г. Такое вось баявое хрышчэнне!

Мы дыхалі пажарам вайны, яе дымам, развеяным не толькі па гарадах і сёлах, але і па нашых душах, таму і ваенныя вершы пасляваенных паэтаў былі лірычна ўзнёслыя і па-філасофску глыбокія. Напрыклад, верш «Салдат» нашага паэта-таварыша Валерыя Татарцава.

Яшчэ адзін наш таварыш Пятро Пабока стаў адным з самых вопытных беларускіх журналістаў-раёншчыкаў, у творчасці якога занатавана наша вялікая і складаная сучаснасць. З'яўляўся праніклівым арганізатарам, чулым кіраўніком калектыву. Самая пачэсная творчая ўдача — стварыць рэальны партрэт народнага жыцця. Журналісту і рэдактару Пятру Пабока з божым натхненнем гэта ўдалося.

Большасць маіх таварышаў, як я казаў, былі з вёскі. Складанасць вясковага сялянскага жыцця выкавала ў нас нейкі загартаваны ген настойлівасці, што адбіўся асаблівай мэтанакіраванасцю, выкрышталізаваў творчую мару.

Але гэтага несумненнага багацця было недастаткова для праяўлення індывідуальнасці асобы, фарміравання паэтычнага голасу і выўлення каштоўнасцей чалавека, ідучага ў жыццё. Магутная ідэя пульсавала ў свядомасці кожнага мастака — свой талент і жыццёвыя сілы ўкласці ў росквіт Айчыны і дабрабыт людзей. Гэта была наша святая мэта жыцця, запісаная ў лозунгу «Усё для чалавека, усё ў імя чалавека».

Чаму мае таварышы-паэты сталі вядомымі публіцыстамі і рэдактарамі ў інфармацыйнай прасторы Беларусі? Думаю, што яны добра бачылі перспектывы развіцця грамадства, глыбока асэнсоўвалі нашу складаную рэчаіснасць і вобразна адлюстроўвалі яе. Анатоль Гарбачоў шчыраваў у «Вячэрнім Мінску», Уладзімір Гулевіч у «Советской Белоруссии», Віктар Поляк у «Літаратуры і мастацтве», Віктар Захарчук у «Знамени юности», Анатоль Ярохін у выдавецтве «Полымя», Аляксандр Дземідовіч узначальваў «Бабруйскае жыццё», Фёдар Калеснікові́ч — «Драгічынскі веснік», Пятро Грынькоў — «Свабоднае слова» ў Рагачове, Канстанцін Мохар — «Ганцавіцкі час», Пятро Пабока — «Родную ніву» ў Клімавічах, Уладзімір Вялічка заснаваў і многа гадоў паспяхова кіраваў часопісам «Беларуская думка».

Між іншым, успамінаецца і сапраўднае наша прычашчэнне і блаславенне, якое мы атрымалі ад геніяльнага мастака, класіка савецкай і сусветнай літатратуры, нашага сучасніка Міхаіла Шолахава.

Я добра помню той дзень 12 ліпеня 1966 г. Студэнцкі атрад журналістаў БДУ імя Леніна працаваў у саўгасе «Усход» Чапаеўскага раёна Уральскай вобласці ў Казахстане. Там і пашчасціла сустрэцца з сусветна вядомым пісьменнікам, адным з самых аўтарытэтных духоўных лідараў савецкага гарамадства.

Пра незвычайную сустрэчу-падзею ў глухім, пыльным і пустэчным казахскім стэпе гаворана і напісана многа. Аднак колькі б ні вярталася памяць да таго эмацыянальнага агню гутаркі М. Шолахава са студэнтамі ў зямлянкавага тыпу клубе казахскага аула, упэўнены, што і ва ўсіх тых, хто яго слухаў у той вечар, яскрава ўзнікае творчы запавет геніяльнага чалавека.

Міхаіл Шолахаў пасля ўзнёслай гаворкі «на роўных» з беларускімі студэнтамі, «вкалывающими на целине», як напісаў ён у аўтографе, уздымаў наш лёс да пераможных творчых вышынь, якія чакалі нас у супярэчлівай савецкай рэчаіснасці і маглі нам пакарыцца.

Эмацыянальны напал «на ўсё жыццё» ад памятлівай сустрэчы, думаецца, быў падмацаваны яшчэ і тым, што Шолахаў вёў гутарку са студэнтамі не ў паркетнай універсітэцкай аўдыторыі, не «прарочыў» заштампаваныя ісціны з высокай кафедры, а дэсантаваўся там, на месцы «будаўнічых цалінных баёў». Мы ж з гонарам тады насілі званне «баец студэнцкага будаўнічага атрада». «Адарвацца па поўнай» у тундры, стэпе, пустыні, за сёмым морам на шостай частцы сушы «рваліся» ўсе студэнты. У маім архіве камандзіра атрада захаваліся заявы. Студэнт Іван Белы пісаў: «Прашу ўзяць мяне, вясковага хлопца, цяпер студэнта БДУ, на працоўны фронт цалінных зямель. Абяцаю працаваць з мужчынскай стараннасцю. Касцьмі лягу за гонар і доблесць атрада».

Уладзімір Шарпіла нібыта даваў урачыстую клятву: «Абязуюся, валодаючы жалезнымі мышцамі, пераўтварыць імі механічную энергію ў адваротна-паступовы рух лапаты і тапара».

Леанід Бохан пісаў канкрэтна і коратка: «Спецыяльнасці не маю, але вельмі хачу стаць будаўніком». І яны станавіліся будаўнікамі той агромністай студэнцкай арміі, якая паспяхова асвойвала бясконцую планету і закаляла свой жыццёвы лёс.

Не мёдам была прыцягальная цаліна. Студэнты цураліся і маміных аладак са смятанай, і летняй лянівай дрымоты на беразе рэчкі на санцапёку. Яны не гналіся за рамантыкай, а ўпляталі рамантыку ў свой малады лёс, маральную і фізічную моц, у сваю душу і цела. Студэнт станавіўся грамадзянінам, інтэлектуальнай асобай, моцным чалавекам. Пятро Пабока, камісар царіннага будаўнічага атрада, пісаў:

Калі цябе паклічуць далі,
Спяшайся, дружа, не марудзь,
Туды, дзе коннікі скакалі,
На шаблях несучы зару.
Туды, дзе пыльныя дарогі
У невядомае бягуць,
Туды, дзе першыя трывогі
На кожным кроку сцерагуць.
Спяшай хутчэй туды, дзе сонца
Уранку промнямі звініць…
Дарогі цягнуцца бясконца,
Ды не бясконца можна жыць…

Мае таварышы разумелі гэтую філасофскую формулу звычайнага жыцця. Таму будавалі свой лёс не на пристаўной лесвіцы, а на моцным і ўстойлівым культурным і навуковым фундаменце. Не, яны не схаваліся за аблокамі і не сталі небажыцелямі. Аграніўшы свой талент у супярэчлівым жыцці XX стагоддзя, выконвалі чарнавую паўсядзенную працу па ўладкаванні дэмакратычнага грамадства і незалежнай беларускай дзяржавы ўжо ў XXI. Да жорсткіх павеваў рэвалюцыйнага ветру перамен жыццёвы і творчы вопыт дазволіў нам стаць на варту грамадзянскага супольніцтва.

Надарыліся заканамерныя кардынальныя перамены ў нашым грамадстве і неабходнасць праяўлення той нацыянальнай сілы, якая зможа пераадолець жыццёвыя і сацыяльна-эканамічныя катаклізмы. А тут мае таварышы, як кажуць, «паспелі да часу» і трымалі ў руках ключ ледзь ці не ад глабальнай камунікацыі.

Маё пакаленне «падставіла плячо» пад пахіснуўшуюся дзяржаўную сістэму, своечасова ўключылася ў складаны грамадска-палітычны працэс, каб выраўняць гістарычны курс у новым часе свабоднага і назалежнага развіцця нашай Радзімы. Ёсць чым ганарыцца перад нашымі паслядоўнікамі і гісторыя будзе ўдзячна нам за ўстойлівую грамадзянскую пазіцыю і моцны мілагучны паэтычны акорд у сімфоніі развіцця беларускага народа.

Віктар Поляк, паэт-«лімавец», пісаў пра нас у адным з вершаў у зборніку «Сокровенное»:

Я, справедливость соблюдая,
Хочу, чтоб верою крепка,
С биеньем сердца совпадала
Во мне рожденная строка…
Невольник рифмы, будь здоров!
Ты не слагай стихи в угоду.
Пиши про зло и про добро,
Себе будь верен. И народу.

Слава богу, што гэтае перакананне стала нашай жыццёвай малітвай...

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# МІНІ-ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Аксіёматычным з'яўляецца тэзіс пра тое, што адной з галоўных інтэнцый класічнай беларускай літаратуры выступае сцвярджэнне нацыянальнай ідэнтычнасці, самабытнасці беларускай нацыі. Аднак парадаксальна: работ, прысвечаных выяўленню сутнасці нацыянальнага, у нашым літаратуразнаўстве, на жаль, не шмат. Сучасныя катаклізмы, працэсы глабалізацыі, геапалітычныя зрухі патрабуюць паглыбленага вывучэння нацыянальна-гістарычных культурных кодаў. У гэтым кантэксце кожны новы зварот да праблемы нацыянальнага ўяўляе бясспрэчную навуковую вартасць, актуальнасць і запатрабаванасць. Асабліва, калі аўтарамі даследавання з'яўляюцца такія глыбокія і аўтарытэтныя вучоныя, як акадэмік У. Гніламёдаў і кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела ўзаемасувязей літаратур Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі М. Мікуліч.

Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ
Мікола МІКУЛІЧ
ЛІТАРАТУРА
ГІСТОРЫЯ
СВЯДОМАСЦЬ
ГІСТОРЫКА-ЛІТАРАТУРНЫ НАРЫС

Сваю работу «Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» (Мінск: Беларус. навука, 2017) аўтары пазначылі як гісторыка-літаратурны нарыс. У цэнтры даследавання, як сказана ў анатацыі, — «аналіз вызначальных праблем айчыннай літаратуры ў цеснай сувязі з вядучымі парадыгмамі сацыяльна-гістарычнага развіцця і працэсам фарміравання нацыянальнай свядомасці беларускага народа». Нарыс адпавядае прыярытэтнаму напрамку сучаснага літаратуразнаўства — асэнсаванню нацыянальнай спецыфікі мастацтва слова ў міждысцыплінарным аспекце. Таксама неабходна падкрэсліць важкасць менавіта гістарычнага ракурсу даследавання. Зварот да мінулага, да аналізу палітычнай, сацыяльнай, культурнай сітуацыі дазваляе больш дакладна і пераканаўча акрэсліць гісторыка-культурны кантэкст напісання мастацкіх твораў, іх праблемны змест, спецыфіку фарміравання мастацкай літаратуры як нацыянальнай з'явы.

У. Гніламёдаў і М. Мікуліч імкнуцца адказаць на пытанні «Што ўяўляе з сябе наш народ — беларусы? Які яго духоўны патэнцыял? Які ўзровень нацыянальнай свядомасці?» (с. 6). Такім чынам, ключавое ў рабоце — пытанне фарміравання нацыянальнай свядомасці беларусаў і адлюстраванне гэтага працэсу мастацкай літаратурай. Нацыянальная самабытнасць, нацыянальныя культурна-гістарычныя коды

выступаюць прыярытэтным напрамкам даследавання. Таму на старонках нарыса пастаянна гучаць развагі пра нацыянальнае, яго сутнасць, спецыфіку, шляхі фарміравання. Так, ужо ва ўводзінах сказана: «Нацыянальны тып свядомасці — гэта вызначальная духоўна-генетычная асаблівасць этнасу, яго ўласцівасць прадуцыраваць і фарміраваць пэўную сацыякультурную карціну свету, аснову якой складаюць уяўленні чалавека пра з'явы і працэсы грамадскай рэчаіснасці. У дадзенай карціне цесна пераплецена прыродна-біялагічнае і культурна-цывілізацыйнае, ландшафтна-геаграфічнае і сацыяльнае, рацыянальнае і эмацыянальнае, псіхалагічнае і метафізічнае, свядомае і падсвядомае» (с. 3).

Нацыянальнае ў рабоце У. Гніламёдава і М. Мікуліча выступае як важнейшая характарыстыка культурна-гістарычнай сутнасці пэўнай супольнасці, што адпавядае высновам вядомага англійскага вучонага Э. Сміта.

Кніга «Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» — гэта своеасаблівы разгляд гісторыі беларускай літаратуры як дыскурсу нацыянальнай самабытнасці, як гісторыі ідэй, праблем і сэнсаў беларускага мастацтва слова. Аўтарамі даследавання праведзена значная работа як па асэнсаванні канкрэтных літаратурных з'яў, так і літаратурнага працэсу ў цэлым.

Матэрыялам для аналізу выступае прадстаўнічы корпус знакавых, парадыгматычных мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў беларускай літаратуры. Беларускае мастацтва слова XI—XXI стагоддзяў разглядаецца як сістэмная цэласнасць. Аўтары даследавання асэнсоўваюць сутнасць ідэйна-эстэтычных пошукаў нацыянальнай літаратуры, яе «ідэйна-мастацкіх канстант і стылявых ліній», сістэму маральна-этычных каардынат. У цэнтры ўвагі — найбольш паказальныя, рэпрэзентатыўныя творы беларускай літаратуры, якія ілюструюць вызначальныя вектары развіцця айчыннай літаратуры, асабісты ўклад таго ці іншага пісьменніка.

Вывучэнне нацыянальнай свядомасці прадугледжвае, як адзначаюць аўтары нарыса, асэнсаванне «характэрнай нацыянальна-этнічнай сістэмы поглядаў, ацэнак, настрояў і паводзін герояў», «ідэйна-мастацкіх канстант» літаратуры. Такі ракурс даследавання дазваляе акрэсліць сутнасць нацыянальнай аксіялогіі, праблемны змест нацыянальнай літаратуры, яе маральна-этычны аспект. І не толькі літаратуры, але і культуры ў цэлым, паколькі мастацтва слова ўбірае ў сябе базавыя каштоўнасці нацыянальнай культуры ўвогуле. Літаратура — адна з галоўных форм духоўнага самавыяўлення нацыі, пэўная сістэма нацыяпазнання. Яна не толькі выступае ў якасці ключавога рэсурсу нацыянальнага, але і спрыяе распаўсюджванню, папулярызацыі галоўных канстант ідэнтычнасці.

Маштабнасць аб'екта вывучэння абумовіла структуру работы У. Гніламёдава і М. Мікуліча. Аўтары нарыса пачынаюць сваё даследаванне ад разгляду спецыфікі этнагенезу беларусаў (раздзел «Этнічны ўзровень»), адзначаючы, што ў яго аснове — балцкі субстрат: «Аснова беларускага этнасу — балты, з якімі ў другой палове I тыс. н. э. змяшаліся славяне» (с. 28). У наступных раздзелах вучоныя спыняюцца на тых «асноватворных фактарах, якія заклалі грунт этнічнай і нацыянальнай свядомасці беларусаў» — прыродныя ўмовы фарміравання беларускага этнасу («Прырода. Ландшафт. Клімат»), уплыў паганства («Язычніцтва. Мова»), гістарычны фактар, уплыў хрысціянства («Гісторыя. Дзяржаўнасць. Хрысціянства»). Пры гэтым падкрэсліваецца, што «на беларускія землі хрысціянства прыйшло ў канцы IX ст., на сто гадоў раней, чым у Кіеў, і прыйшло з Вялікамараўскай дзяржавы…» (с. 31). А само прынящце хрысціянства «дало магутны стымул развіццю беларускай культуры. Прыняцце хрысціянства Беларуссю паклала пачатак новай культурна-гістарычнай эпохі, новаму разуменню чалавека не толькі як істоты прыродна-арганічнай, але і духоўна-маральнай» (с. 32—33). Менавіта з прыняццем хрысціянства з'ўляюцца першыя пісьмовыя творы на беларускіх землях.

У раздзеле «Тыпы і характары» ацэньваецца дзейнасць беларускіх асветнікаў Ефрасінні Полацкай, Рагнеды, князя Усяслава Чарадзея, Аўрамія Смаленскага, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча. Нельга не адзначыць досыць арыгінальнае ўспрыманне аўтарамі нарыса вобраза Рагнеды, якая стала гераіняй шматлікіх твораў беларускай літаратуры: «Этнічны, ментальны кантэкст паводзін Рагнеды, яе гераізм і бескампраміснасць сталі ў будучым, можна сцвярджаць, мадэллю “крывіцкага характару”, своеасаблівым нацыянальным, кажучы сучаснай мовай, маральна-этычным “брэндам”, які знайшоў свой адбітак і рэфлексіі ў літаратуры — у характарах герояў і саміх яе стваральнікаў» (с. 37).

Своеасаблівым патрыятычным даведнікам выглядае раздзел «Вялікае Княства Літоўскае», дзе паслядоўна праводзіцца думка пра беларускі этнас як дзяржавастваральны ў ВКЛ: «У сярэдзіне XIII стагоддзя беларускі этнас заяўляе пра сябе як народнасць. Культура і мова гэтай народнасці склалі духоўную аснову ўтварэння і існавання Вялікага Княства Літоўскага» (с. 45); «Вялікае Княства Літоўскае — гэта сярэднявечная Беларусь, пара творчага станаўлення і высокага развіцця яе грамадскай свядомасці і культуры, залаты век яе гісторыі» (с. 46). Важным у гэтым раздзеле падаецца акцэнт менавіта на гістарычным аспекце. Бо якраз гістарычнае вымярэнне, гістарычны ракурс фарміруе нацыю. Згодна з вядомым даследчыкам нацыянальнага Б. Андэрсанам, нацыя — гэта супольнасць са сваім мінулым, сучасным і будучыняй. Адчуванне нацыянальнай прыналежнасці мае як прасторавае, так і часавае вымярэнне. Спецыфіка нацыянальнага абумоўлена як прыродна-геаграфічнымі асаблівасцямі бытавання этнасу, так і гістарычнымі акалічнасцямі. Адпаведна, этнакультурны код выступае «акумуляцыяй сацыяльна-гістарычнага досведу» (с. 3).

Вядомы даследчык этнічнасцей і нацыянальнага Э. Сміт пісаў: «Кожная нацыя абумоўлівае самавызначэнне сваіх членаў, таму што яе спецыфічная культура фармуе асобу. Ключом да гэтай культуры з’яўляецца гісторыя, пачуццё гістарычных архетыпаў, якія перадаюцца да новых і новых пакаленняў. <…> Чалавек вызначае сябе, у адпаведнасці з нацыянальнай ідэяй, праз сваю сувязь з продкамі і папярэднікамі, а таксама з падзеямі, якія сфармавалі іх светаўспрыняцце».

Э. Хабсбаўм у сваю чаргу адзначаў: «Нацыі без мінулага — гэта свайго роду супярэчлівасць у тэрмінах. Мінулае і ёсць тое, што стварае нацыю; менавіта мінулае нацыі апраўдвае яе ў вачах іншых». Інтэнцыі беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў былі накіраваны на далучэнне народа да вопыту нацыянальнай гісторыі, абуджэнне гістарычнай памяці, да нацыянальнай кансалідацыі. Таму У. Гніламёдавым і М. Мікулічам пастаянна робіцца акцэнт на важнасці гістарычнага самаўсведамлення: «Для Купалы і Коласа гісторыя была духоўнай каштоўнасцю, апраўданнем сэнсу быцця» (с. 157); «Караткевіч намагаўся зрабіць гісторыю духоўным набыткам сваіх сучаснікаў, уключыць яе ў свет думак і пачуццяў, фарміраваць гэткім чынам маральнае аблічча чытачоў, патрыётаў сваёй Радзімы» (с. 309).

Аўтары кнігі засяроджваюць увагу на такім важным складніку нацыянальнай свядомасці, як дзяржаўнасць: «Крытэрый сталасці і спеласці нацыянальнай свядомасці — узнікненне імкнення яе носьбітаў заняць, як сказаў Я. Купала, свой пачэсны пасад між народамі» (с. 175). Ізноў спашлёмся на аўтарытэт Б. Андэрсана, які пісаў пра тое, што вызначальнае ў нацыянальнай ідэнтычнасці — менавіта ўсведамленне сваёй адметнасці і натуральнасці сваёй дзяржаўнасці. Па словах жа ўкраінскага даследчыка Л. Сеніка, дзяржаўнасць — «адзіна магчымая форма нармальнага існавання нацыянальнай супольнасці дзеля яе самасцвярджэння, жыццядзейнасці і развіцця».

Важнымі, каштоўнымі ўяўляюцца наступныя высновы У. Гніламёдава і М. Мікуліча: «У фарміраванні беларускай нацыянальнай свядомасці і духоўнай культуры бралі ўдзел усе сацыяльныя групы беларускага народа: баяр-

ства, шляхта, гандлёва-рамесніцкае саслоўе, святарства» (с. 59), «не варта “народны характар” звужаць пераважна да паняцця “характар селяніна”, бо ў складванні гэтага характару прымала ўдзел не толькі сялянства, але і ўвесь народ, усё грамадства» (с. 325). Сведчаннем гэтага выступае багатая духоўная і матэрыяльная культура беларускага народа, стваральнікамі якой былі прадстаўнікі розных слаёў.

Такім чынам, аўтары аспрэчваюць захады пра непаўнавартаснасць беларускай культуры, яе сялянскае паходжанне і напаўфальклорны характар. На старонках нарыса пастаянна падкрэсліваецца выключная роля шляхецкага саслоўя ў станаўленні беларускай культуры і нацыянальнай свядомасці: «Шляхта з’яўлялася… пасіянарнай часткай нацыі, якая на яе ў асноўным і абапіралася. Менавіта яна была болей, чым хто, носьбітам нацыянальнага» (с. 306); «калі паглядзець аб’ектыўна, дык шляхта — гэта саслоўе з найбольш развітай гістарычнай свядомасцю» (с. 307).

Разам з тым слушна адзначаецца, што «аўтахтонным ядром» новай беларускай літаратуры быў менавіта народны кампанент, што было абумоўлена дыскрэтным характарам развіцця беларускай культуры і літаратуры, выкліканага палітыкай паланізацыі і русіфікацыі.

На старонках нарыса «Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» пастаянна засяроджваецца ўвага на такім прынцыповым моманце, як геапалітычнае становішча Беларусі, якое вызначыла парадыгму нашай нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці. Палажэнне пра геапалітычнае становішча Беларусі паміж Захадам і Усходам — цэнтральнае ў беларускай культуралогіі ўвогуле: І. Канчэўскі, У. Самойла, В. Ластоўскі, М. Гарэцкі, Я. Купала і іншыя. У. Гніламёдаў і М. Мікуліч фармулююць названы тэзіс наступным чынам: «Беларусь на працягу XIV—XVII стст. з’яўлялася мостам паміж Захадам і Усходам, рэтранслятарам культурных уплываў з захаду ў Расію. Палітычнай практыкай і грамадска-філасофскай думкай Беларусі былі выпрацаваны наступныя фундаментальныя ідэі: свабоды як волі, самастойнасці, годнасці, уласнасці чалавека, якія абараняюцца законам і ўладай; верхавенства закона (“кароль можа карыстацца ўсёй уладай толькі ў межах закона”, “каб жыць ва ўмовах свабоды, мы павіны быць рабамі законаў” (Л. Сапега); верацярпімасці (талерантнасці); дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага суверэнітэту» (с. 78).

Каштоўнасць работы У. Гніламёдава і М. Мікуліча заключаецца і ў тым, што ў ёй пададзена цэласная панарама развіцця беларускай літаратуры ад старажытнасці да сучаснасці, яе найбольш важных этапаў, творчасці знакавых пісьменнікаў, асэнсоўваецца значны абсяг мастацкіх тэкстаў. Аўтары нарыса паслядоўна прасочваюць эстэтычную эвалюцыю мастацкага самаўсведамлення нацыянальнай самабытнасці, улічваючы той факт, што само паняцце нацыі з’яўляецца толькі ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Асэнсоўваецца спецыфіка гістарычнага развіцця айчыннага прыгожага пісьменства, яго праблемныя, тэматычныя аспекты.

«Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» — гэта своеасаблівая мініэнцыклапедыя нацыянальнага прыгожага пісьменства. Сказанае пацвярджае і надзвычай прадстаўнічы аб’ём персаналій, і багаты і змястоўны пералік навуковых і публіцыстычных крыніц, на якія спасылаюцца аўтары даследавання: работы не толькі літаратуразнаўцаў, але і гісторыкаў, псіхолагаў, філосафаў, матэрыялы з асабістых архіваў аўтараў нарыса — перапіска, інтэрв’ю з пісьменнікамі і навукоўцамі самых розных галін ведаў.

У. Гніламёдаў і М. Мікуліч падаюць гісторыю станаўлення нацыянальнай самабытнасці беларускай літаратуры, праз прызму мастацкай літаратуры выяўляюць асноўныя элементы дыскурсу нацыянальнай самабытнасці. Нацыянальная праблематыка — прыярытэтная ў творчасці тых пісьменнікаў, якія атрымалі статус класікаў. Аўтары акцэнтуюць увагу на тым спецыфіч-

ным, што кожны з пісьменнікаў уносіў у разуменне нацыянальна беларускага.

Важнымі ў плане ўсведамлення сутнасці нацыянальнага менталітэту выступаюць наступныя сцвярджэнні: «Мысленне беларусаў акцэнтавана на рацыянальна-лагічнае асваенне свету, аднак не чужая для іх і інтуіцыя» (с. 6); «беларус любіць жыццё, умее ладзіць з навакольнай прыродай, з яе з'явамі і працэсамі» (с. 16); «верацярпімасць, талерантнасць, разумнасць паводзін і выбару» (с. 78); «рэчыўнасць, прадметнасць, вобмацнасць, якія ўтрымліваюць у сабе пэўны змястоўны патэнцыял, — традыцыйныя рысы і ўласцівасці нацыянальнай мастацкай свядомасці і маўлення» (с. 26); «беларускі нацыянальны лад душы — гэта, як сведчыць "Баркулабаўская хроніка", міласэрнасць і спачуванне, дабрыня і зычлівасць, стойкасць і цярплівасць у жыццёвых выпрабаваннях» (с. 95); «многія быкаўскія героі нясуць у сабе адзнакі характару свайго народа — мяккасць, зычлівасць і разам з тым жыццёвую трываласць, маральную чысціню і прынцыповасць» (с. 337).

Аўтарамі нарыса пастаянна падкрэсліваецца, што менавіта нацыяахоўны модус вызначае асноўны пафас развіцця беларускай літаратуры: «Гэта сапраўдны цуд, што не знікла Беларусь — як народ, як краіна — паміж Захадам і Усходам, паміж молатам і кавалдам. Гэты цуд у многім забяспечыла — трэба аддаць ёй належнае — беларуская літаратура, якая адыграла ролю носьбіта нацыянальнага генетычнага кода, нацыянальнай генетычнай памяці» (с. 131). Таму героем беларускай літаратуры часта выступала не проста асоба, чалавек, а супольнасць — народ, нацыя.

У кнізе даводзіцца, што літаратура ўвасабляла пасіянарную энергію беларускай нацыі, захоўвала нацыянальную этыку, актуалізавала гістарычную памяць. А адна з галоўных інтэнцый нашай літаратуры, як пераканаўча паказалі У. Гніламёдаў і М. Мікуліч, — ідэя свабоды: «Цэнтральнай ідэяй новай беларускай літаратуры заставалася ідэя свабоды як найвялікшай чалавечай каштоўнасці, без якой чалавек спыняецца ў сваім развіцці» (с.138); «літаратура сцвярджала сябе як адна з форм барацьбы за незалежнасць» (с.153).

Аўтары нарыса акцэнтуюць увагу на нацыяахоўнай функцыі літаратуры, выяўляюць нацыяахоўныя тэндэнцыі ў творчасці пісьменнікаў розных эпох, якія выявіліся як імпліцытна, так і эксплiцытна. Даследчыкі абараняюць фальклорна-этнаграфічны напрамак у беларускай літаратуры, паколькі ва ўмовах палітыкі дэнацыяналізацыі зварот да этнаграфічнага азначаў сцвярджэнне і захаванне сваёй нацыянальнай самабытнасці: «Літаратура, адрасаваная народу, не магла абмінуць яго эстэтычны вопыт. Яна пераймала ад фальклору метад — уласцівы яму такі спосаб тыпізацыі, калі абагульненне пераважае над індывідуалізацыяй. <…> Гаворка ішла пра захаванне духоўнага "насення", генетычных паданняў і душэўных "строяў", без якіх немагчыма было нацыянальнае адраджэнне Беларусі ў будучым, новымі пакаленнямі і на новай аснове» (с. 129).

У нарысе выяўляецца агульная ідэйна-эстэтычная аксіялогія нацыянальнага прыгожага пісьменства, паказваецца генетычная пераемнасць у развіцці беларускага мастацтва слова. У. Гніламёдаву і М. Мікулічу ўдалося правесці прадуктыўнае даследаванне нацыянальнай самабытнасці беларускай літаратуры, канкрэтызаваць спецыфіку станаўлення і развіцця беларускай літаратуры, зрабіць важкія і абгрунтаваныя высновы. Кніга спрыяе сістэматызацыі ведаў адносна спецыфікі літаратурнага працэсу ў Беларусі.

Нарыс У. Гніламёдава і М. Мікуліча сведчыць пра эфектыўнасць гісторыка-літаратурнага разгляду нацыялагічнай праблематыкі беларускага мастацтва слова. Работа «Літаратура. Гісторыя. Свядомасць» дазволіла стварыць больш дакладнае ўяўленне пра спецыфіку развіцця беларускай літаратуры і спецыфіку нацыянальнай ідэнтычнасці.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# РЭЦЭПТЫ ШЧАСЦЯ

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*

**ПАНТОФЛЯ МНЕМАЗІНЫ**

*Мн., Выдавец А. М. Янушкевіч, 2018.*




Жывучы ў нашай «напаўвіртуальнай» рэальнасці, можна часам паверыць у немагчымае, вярнуць незваротнае… Але як жа быць з пачуццямі, памяццю, болем? Як не страціць аблічча ў гульнях лёсу? На старонках новага дэтэктыўнага, рамантычнага, псіхалагічнага рамана Людмілы Рублеўскай такіх «рэбусаў» — безліч. Як і планаў: часавых, прасторавых, ментальных…

«Пантофля Мнемазіны» — кніга пра кожнага з нас. Пра ўнутраную свабоду, выбар шляху самапазнання. Які проста немагчыма прайсці без усведамлення сваіх каранёў, глыбокага аналізу нашай складанай эпохі… Таму і балюча адгукаюцца, дзіўна пераплятаюцца з сучаснасцю рэпрэсіі 30-х гадоў, «справа ўрачоў»… Генная памяць — мацнейшая за час. Як мацнейшае і каханне, што жыло нават у сталінскіх засценках. Што застаецца і пасля фізічнай страты аб'екта кахання… «Багіня памяці Мнемазіна носіць пантофлі са свінцовымі абцасамі. Ступае мякка, на дыбачках, а націсне пяткай — і струшчыць усё», — прамаўляе лірычная гераіня рамана, маладая дызайнерка Вірынея. Бо разрывае яе сэрца памяць пра нібыта загінулага пры дзіўных абставінах мужа. Вельмі кароткае сямейнае шчасце, прыкрае паніжэнне на працы, пошук сябе ў прасторы фэнтэзі, у сеціве… Жыццё Вірынеі змяняецца цалкам пасля таго, як яна бачыць у метро чалавека, дзіўна падобнага да каханага Корвуса…

«Сюжэтаў, як закаханая дзяўчына ідзе па слядах свайго зніклага прынца, хапае. Старажытныя немцы верылі, што віхура — няшчасная жонка, якая шукае мужа, нават і цяпер называюць тую з'яву Windsbraut, «нявеста ветру». Пяшчотная прыгажуна Псіхея, каб вярнуць свайго Амура, аж у царства мёртвых датупала па ваду са Стыкса. Наша Вужыная каралева, дарэчы, таксама мужа страціла і жаласна клікала яго з дрыгвы», — Людміла Рублеўская традыцыйна ўводзіць чытача ў шырокі культурны, міфалагічны падтэкст падзеі… Дэтэктыўны сюжэт пошукаў Вірынеяй мужа — толькі своеасаблівая «падсветка» падзей глабальных… Сакрэтная лячэбніца, рэдкія архівы, «авантуры збеглых нябожчыкаў» — колькі таямніц, часам і агідных, і пачварных чакае яе на гэтым складаным шляху. Натуралістычнае, пачуццёвае, падсвядомае ўтвараюць сабой сумесь вельмі моцную па сіле ўздзеяння на чытача. Чаго вартая толькі сцэна сустрэчы з сіямскімі блізнючкамі, што ва ўяўленні Вірынеі ператвараюцца ў істоту, вартую сярэднявечных жахаў…

«Творчасць — гэта вынік генератыўнага патэнцыялу таемных — мужчынскіх ці жаночых — сіл прыроды, працы душы творцы, яго інтэлекту, плюралізму нацыянальнага, індывідуальна-псіхічнага і сацыяльна-грамадскага вопыту», — адзначыла яшчэ некалькі гадоў таму Таццяна Кабржыцкая, аналізуючы

асаблівасці гістарычнай прозы Людмілы Рублеўскай. І сапраўды, паліфанізм меркаванняў, выдатна акрэсленыя гендэрныя тыпы персанажаў, нязменнае глыбока інтэлектуальнае напаўненне твораў і шырокі гістарычны кантэкст заўсёды былі вызначальнымі рысамі творчай манеры пісьменніцы. І па-заліхвацку закручаны сюжэт яе новага рамана — таму самае яскравае пацверджанне. Як пераплятаюцца ўсе апавядальныя планы, вы здагадаецеся толькі ў самым канцы…

*Станіслава УМЕЦ*

**СЭРЦА САКРЫ**

**Серыя «Час XXI»**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*




Стварэнне асобнай выдавецкай серыі (а не, прыкладам, альманаха, хоць і рэгулярнага) для маладых пісьменнікаў — вельмі прагрэсіўны і важны крок. Гэта выдатная магчымасць выдання першай (ці чарговай) паўнавартаснай кнігі, атрымання доказных водгукаў і рэцэнзій. Першае выданне серыі «Час XXI» добра ілюструе пануючыя ў сучаснай літаратуры тэндэнцыі — актыўнае стварэнне фантастычных саг, а таксама незгасаючую цікавасць і да малых празаічных форм: кніга Станіславы Умец утрымлівае і раман-фэнтэзі, і цікавую нізку апавяданняў.

«Доўгі час зямляне не траплялі на чарадзейную планету талентаў — Сакру. І трэба ж было такому здарыцца, што якраз падчас абрання новай правіцелькі ў магічным свеце апынулася дзевяцікласніца Кася Заранка», — абмалёўвае сітуацыю кароткая анатацыя, падкрэсліваючы магчымасць цудаў у жыцці самых, здавалася б, звычайных людзей. Але хто такія тыя «звычайныя»? Для кожнага з нас характэрны абаяльныя бытавыя дробязі, што робяць нас самімі сабой… Вялікая заслуга Станіславы Умец у магчымасці пабачыць і лаканічна абмаляваць падобныя дэталі: «З самага ранку ў Касі ўсё пайшло наперакос. Яна стукнулася аб шафу, у яе скончыўся ласьён для твару, і ў дадатак да ўсяго маці прыгатавала амлет, які, быццам на зло сястры, так любіў Янік. Калі маці выйшла з кухні, дзяўчынка хуценька адчыніла фортку, паклікала спадарыню Алісу і выкінула ёй сняданак. Сухарлявая аблезлая дваровая котка наўрад ці заслугоўвае такой шляхетнай мянушкі, аднак Кася прызвычаілася да ўсіх і ўся звяртацца ветліва: спадар Пыласос, спадарыня Муха, паважанае Сонейка». Здаецца, усяго некалькі фраз — і маем ужо акрэслены партрэт галоўнай гераіні. Хапае тых дэталяў і ў партрэтах Яніка, Уладзя, Юрася ды іншых. З веданнем справы, даволі дэталёва паказаны ў рамане перыпетыі школьнага жыцця сучасных падлеткаў, канфлікты, першае каханне.

«Зараз патраплю ў казку», — думка, якая з'яўляецца пускавым механізмам пераходу Касі ў іншае вымярэнне, на планету Сакру. Змена планаў дзеяння ў рамане, імклівы пошук выйсця галоўнымі героямі — усё гэта дазваляе пісьменніцы «зачапіць» чытача, прымусіць чакаць развязкі. Магчыма, у нечым і схематычны, сюжэт рамана Станіславы Умец развіваецца досыць дынамічна. Цешыць і галоўны пасыл — развіццё ўласных здольнасцей і талентаў праз няспынную працу па самаўдасканаленні, пераадоленне цяжкасцей.

Абаяльныя, станоўчыя і героі апавяданняў кнігі, якія часцяком жывуць у чароўных дэкарацыях: «Кветкавая фея ўспырхнула з пялёсткаў петуніі, што расла ў гліняным вазоне ля дзвярэй дамка, лёгкім дотыкам ажывіла ветраныя званочкі, засмяялася і панеслася прэч, уцякаючы ад рудога ката» («Прысмакі ад сёстраў Гаўрон»). Захапляе і своеасаблівая «імпрэсіянісцкая» манера пісьменніцы, што выяўляецца ў вялікай увазе да колераў, пахаў, смакаў: «машына колеру ночы», «пернікавыя дамкі», «густы мёд ранішняга сонца». Удаецца аўтарцы і перадача мімалётнага пачуцця. Лірычная гераіня апавядання «Я люблю цябе, Паўлін» радуецца дробязям шчыра, па-дзіця-

чы: «Я даўно заўважыла, што, калі ў мяне добры настрой, усё атрымліваецца так, як пажадаю. Святлафор пераключаецца на зялёнае, варта мне толькі падысці да “зебры”, у касе метрапалітэна няма чаргі па жэтоны, цягнік не прымушае чакаць сябе, і мне нават шанцуе сесці, хоць пасажыраў даволі шмат». Захапляючыся такімі трапнымі карцінамі настрояў, усё ж хочацца пажадаць пісьменніцы крыху больш глыбокага псіхалагічнага аналізу характараў герояў, тлумачэння матываў іх паводзін. Аднак і чароўныя выпадковасці ніхто не адмяняў!

Свет прозы Станіславы Умец прыцягальны, арыгінальны, праўдзівы ў сваёй шчырасці. Нам так не хапае простых радасцей і «не дзяжурных» усмешак. «Сэрца Сакры» поўніцца рэцэптамі шчасця… Чаму б і не паспрабаваць?




*Маша ЧАРАКОВА,*
*Марта ЧАРНОВА*

**ГЭТА БЕЛАРУСЬ, ДЗЕТКА!**

**Пад рэд. Эндзі Браўна і Алёны Ліс**

*Мн., Харвест, 2016.*

У эпоху глабалізацыі і актыўных інтэграцыйных працэсаў парадаксальна (ці заканамерна, лагічна?) падвышаецца цікавасць да нацыяльнай адметнасці, ідэнтычнасці народаў свету. Пра гэта яскрава сведчаць рэйтынгі перадач пра падарожжы, папулярнасць адпаведных блогаў, абмеркаванняў у інтэрнэце. Аднак нельга, на жаль, сказаць, што маем досыць вычарпальных крыніц, якія б займальна, папулярна знаёмілі замежнікаў з беларускай культурай, ментальнасцю, разбуралі б стэрэатыпы… Вялікім дасягненнем у гэтым кірунку можна лічыць праект www.etobelarusdetka.com і адпаведную, ужо некалькі разоў перавыдадзеную, кнігу.

«Мы (Марта і Маша) нарадзіліся ў Беларусі, але гадавалі нас ў Галандыі і Злучаных Штатах. Гэта дазваляе нам убачыць Беларусь такой, якой паўстае яна перад вачыма іншаземцаў, але ў той час зразумець і патлумачыць, чаму ўсё так, як яно ёсць. <…> З гэтай кнігай, пра часам дзікаватыя, незвычайныя і мілыя сэрцу рэчы, якія мы сустрэлі ў Беларусі, мы накіруем вас у падарожжа, каб дапамагчы зразумець, чым адметная краіна, якую мы так любім. “Гэта Беларусь, Дзетка!” ілюструе, даследуе, святкуе ды трошкі жартуе з нацыі бульбаманаў, кубічнай нацыянальнай бібліятэкі, супержанчын ды шчодрасці людзей — усё дзеля забавы ды з вялікай пяшчотай», — прадстаўляюцца і тлумачаць свае мэты аўтаркі кнігі. Сама жартаўлівая назва выдання — устойлівы выраз-адказ на безліч распаўсюджаных пытанняў: «Чаму людзі за касай выглядаюць быццам злыя?», «Чаму ўлетку гарачую адключаюць на два дні?», «Чаму беларускія жанчыны выглядаюць як зоркі кіно?» і шэраг іншых.

Двухмоўнае выданне (тэкст паралельна падаецца на беларускай і англійскай з дадаткам цікавых агламоўных коміксаў) расстаўляе цалкам правільныя акцэнты ў разуменні Беларусі і беларусаў. Іранізаваць з праблемы, але канструктыўна падыходзіць да яе вырашэння — даволі дзейсны метад. Узгадваючы прыкрыя назвы-азначэнні тыпу «беласкурая Расія», «еўрапейская Куба», «газатранзітная краіна» і нават «Terra Incognita», Маша і Марта пераканаўча тлумачаць семантыку састаўных частак «Бела» (Bela), «рус» (rus), а таксама найменне Рутэнія (Ruthenia). А прыводзячы не заўсёды радасную моўную статыстыку, заўважаюць: «Размаўляць на роднай мове вельмі істотна для развіцця беларускай ідэнтычнасці, і многія прызнаюць гэты факт. Аднак гэта патрабуе немалых высілкаў, бо руская мова глыбока ўкаранілася ў культуру і менталітэт многіх беларусаў. Тым не менш, захаванне мовы — вельмі важны момант, і хто, калі не беларусы, за гэта адказныя? Гэта Беларусь, дзетка!»

З гумарам апісваюцца ў кнізе і сумныя рэчы накшталт інфляцыі. А таксама —

паводзіны беларусаў у грамадскім транспарце («Цяснота — не крывота», размежаванне гендэрных роляў («Баба ў хаце тры вуглы трымае, а мужчына адзін»), традыцыі стварэння сям'і («Не кайся, рана ўстаўшы і рана ажаніўшыся») і інш. Даюцца і трапныя планы-алгарытмы на выпадак, калі нехта завяз у ліфце, сутыкнуўся з «летняй неспадзяванкай» (адключэннем вады) ці проста хоча выжыць у метро ці аўтобусе. З вялікай пяшчотай і замілаваннем распавядаецца і пра беларускую Бульбу (менавіта з вялікай літары!), і пра вядомую беларускую гасціннасць, пра традыцыі наведвання лецішча і лазні, пра чысціню і парадак… Не маглі, аўтаркі, відавочна, абысці і беларускую памяркоўнасць (змірэнне), зноў-такі жартоўна і ўсур'ёз назваўшы яе галоўным спосабам спраўляцца са складанымі жыццёвымі сітуацыямі ды кепскімі навінамі.

Выданне «Гэта Беларусь, Дзетка!» як быццам бы і распавядае пра самыя простыя, жыццёвыя рэчы. Але ў кожнай «збітай» тэме раскрывае нешта прынцыпова новае, арыгінальнае. Яно вучыць смяяцца з сябе і з суседзяў, перамагаць цяжкасці і з гонарам прамаўляць: «Я — з Беларусі!»

*Таццяна МУШЫНСКАЯ*

## МАК ТАЎКЛІ КАМАРЫ

**Серыя «Нашым дзеткам»**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2017.*




Безумоўна, заўсёдную радасць выклікае з'яўленне метадычных, гульнявых, забаўляльных матэрыялаў як у інтэрнэт-прасторы, так і ў папяровым варыянце. Выдатнай крыніцай заняткаў з дзецьмі, загадак, крыжаванак, казак, лічылак з'яўляецца партал «Нашыя дзеткі». Асобным раздзелам літаратура для дзяцей вынесена на сайтах Knihi.by, Ay.by і інш. Годнае месца займаюць у рэкамендаваных спісах кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Серыя «Нашым дзеткам» ужо прапаноўвала маленькім чытачам і іх бацькам творы Уладзіміра Марука, Віктара Гардзея, Раісы Баравіковай, Анатоля Зэкава…

Новае выданне — вершы Таццяны Мушынскай з выдатнымі ілюстрацыямі Крысціны Баранавай. Вельмі ўдалым падаецца менавіта такі дызайн кнігі — у выглядзе ілюстраванага альбома, куды ўпісваюцца вершы. У многіх, відаць, у дзяцінстве былі такія. Куды занатоўвалі цікавосткі самі ці прасілі гэта рабіць сяброў…

Вершыкі кнігі — лёгкія для завучвання, цікавыя сваёй моўнай гульнёй:

Сом прысніў аднойчы сон,
Што згубіў свой парасон.

Як дарэшты вымак сом,
Дык на сушу выйшаў ён.

Зачапіўся сом вусамі
І гуляць не можа з намі.

Нязмушана, у жартаўлівай форме тлумачыць аўтарка з'явы прыроды («Хмара з хмарай неба дзеляць, / Хмара ў хмару громам цэляць»), паводзіны звяроў. Атрымаюць малыя «чамучкі» і адказы на свае бясконцыя пытанні. Чаму лось любіць соль? Каго называюць лясным доктарам? Як гэта мак таўкуць камары? Чаму выпадае снег узімку?

Але часам трэба і падурэць, прыдумаць нешта абаяльна-неверагоднае:

У бярлозе мішкі — тэлевізар,
Доўгаю зімой таму не спіць.
Ад бяссоння мішка не капрызіць,
А мультфільмы дзень і ноч глядзіць.

Свет дзіцячай фантазіі — каляровы, невычарпальны. І трэба кожны дзень запаўняць яго новымі фарбамі і вобразамі. А галоўнае — трапнымі словамі на роднай мове.

16+

АДРАС РЭДАКЦЫІ

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 13.04.2018 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,40. Ул.-выд. арк. 15,64. Тыраж 1287 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*